# Янка Купала

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*



# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

6

**ПАЭМЫ. ПЕРАКЛАДЫ**

**Рэдактар тома**
**МУШЫНСКІ М. І.**

**Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі**
**СТРОЕВАЙ Т. Р.**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1999



## ЗІМОЮ

Калядная ночка ўвесь свет пакрывае,
Па белай ад снегу зямельцы снуе;
Мяцеліца ў полі сапе, завывае,
Свіст віхраў спакойна заснуць не дае.

У коміне вецер заціхнуць не хоча,—
Заносіцца песняй магільнай, дзікой;
То стогне, то плача, то дзіка рагоча,
Як быццам смяецца з нядолі людской.

Дарожкі і сцежкі занесла віхура,
Не знаць, дзе балота, дзе лог, дзе папар;
Воўк, выйшаўшы з лесу, скаголіць панура,—
Каб чым пажывіцца — пакінуў гушчар.

І сіняе неба ад зор не рунее,
І месяц дзесь згінуў, не ходзіць па ім,
Штохвіля цямней ноч, мароз не вальнее,
Снег сыпле і сыпле, як прыскам якім.

Бяда падарожнаму гэткай парою
Дарогу вялікую перабываць,—
Як стой загавеціся можна душою.
Сняжніца — засыпаць, звяр'ё — разарваць!

Але вось у гэту рабінаву ночку,
Бач, нехта не вытрываў, полем ідзе,
Руку апірае на тонкім кіёчку,
На плечах і спераду ношку нясе.

Хто гэткі шалёны ў такую завею
Пакінуў хацінку, ў дарогу пайшоў?
Аж жудка на сэрцы, душа ажно млее:
Там з дзіцем кабета пляцецца дамоў!

Гістор'я старая: убогая дзеўка
Пайшла ў двор на службу для хлеба куска,
Пайшла, паганяная гора прыпеўкай,
Ад хаты радзімай, святога кутка.

Семнаццаты год шоў прыгожай Ганулі,
Век самы, што толькі жыві, прыпявай!
Сам век, што ахвоціць да працы, да гуляў,
А што ўжо любіцца — на ўсё забывай!

На звадку для хлопцаў, на зайздрасць дзяўчатам
Слыла паваблівай дзяўчынай яна,
І гэта ж павабнасць яе стала катам:
Скасіла і радасць, і песні спрытна.

О, моладасць, моладасць! Сколькі з табою
Прыгод падчас горкіх ідзе для людзей!
Ты сэрца узбурыш, гульнеш ты з душою,
Ты, ломячы думкі, кроў смокчаш з грудзей.

Я так жа, змагаючы долі завею,
Надзеі вялікія сніў, будаваў,—
Ты ж, моладасць, мачыхай стала маею...
Эй, што гаварыці! Цябе я не знаў!

Прыхільна дзяўчына на свет гэты боскі
Глядзела і верыла зменным людзям;
От, знама, прастачка, дзіцё нашай вёскі,
Што з беднасці, з невуцтва знанае нам.

Нямала ў двары слуг, шмат хлопцаў ўсялякіх,—
Сумленных, праўдзівых і шэльмаў благіх.
Цімох жа найлепшы: няма ў ім ніякіх
Паступкаў нягодных, як ёсць у другіх.

Дзяўчына прыгожая, хлопец прыгожы,—
Вось пара ўжо сэрцаў, вось пара людзей,
Што могуць забыцца на ўсё, на свет божы,
Як кроў маладая заходзіць жывей.

Хто з нас не любіўся, хто ўцехай кахання
Хоць міг сваіх лет маладых не правёў?
Сам-насам дзяўчыны з малойцам шаптання,
Двух сэрцаў хто слухаў вясёлых размоў?

Цімох і Ганулія — вось роўная пара:
Яна бедна дзеўка, ён бедны дзяцюк;
Любілісь і мелісь пабраціся зара,
Дый здрадзіла шчасце, мінула іх рук.

Гаротнага хлопца пагналі далёка,
Пагналі ў салдаты на здзекі, на плач;
Засталася Ганна адна-адзінокай,
А з доляй — хоць сонца, хоць свету не бач!

Сягоння, во ў гэткую сцюжу пляцецца,
Пляцецца з няшчасцем, з пацехай сваёй,
Хоць вые віхура, хаўтурна смяецца,
Як людзі, так дзіка рагоча над ёй.

Ідзе і ідзе, а снягамі дзьме неба,
Дзіцё ў руках плача. Ноч, жудка... бяда.
Ў катомцы на плечах нясе булку хлеба
І сала фунт — служкі за труд — каляда.

Па гурбах, па наспах ідучы сняжаных,
Змаглася, халодны пот цела заліў,
А рукі і ногі мароз неспыняны
Даўно замарозіў, даўно знечуліў.

Чуць дух пераводзіць, зліпаюцца вочы,
Яшчэ дабыла сіл, ды дзе больш дабыць?
Скасіліся ногі, ямчэй вецер скочыў,
Схіснулася й з дзіцем, і з хлебам ляжыць!

Ляжыць сярод поля шырокага
Ў пасцелі пуховай са снегу.
Спачні з дзіцянём, адзінокая,—
Вам лепшых не знаці начлегаў!

Не бойцеся!.. Ўтуліць ад холаду,
Спаўе, як пялёнкай, снег белы,
Зацягне вам песню мяцеліца,
Воўк жальбай завые скалелы.

Але віхраў свісты магільныя
І воўчыя выцці пад борам
Няхай не пужаюць вас, бедныя,
Сваім нелюбым загаворам.

І неба хай гэта вас хмарнае
Не страшыць сваёй цемнатою,
І доля вам гэта ляпераіння
Хай вельмі не здасца благою.

Ці ж хаты для вас былі лепшымі,
Як гэтая снежная ніва?
Скажы ты мне, маці бязмужняя,
Была ж ты дагэтуль шчаслівая?

Жыла ж з табой моладасць ясная,
Вясёлыя песні ці пела?
Былі ж для цябе людзі добрымі,
Іх злосць над табой не шалела?

Падумай, падумай, гаротная!
Я ў песню пралью твае думы,
І разам спяём гулкім голасам
Пад дзікай мяцеліцы шумы.

*

Бядак жыве толькі сягоння,
Дзён лепшых яму не чакаць;
Цар-голад няшчаснага гоне
Крывавага хлеба шукаць.

Пакінуўшы родную хатку,
Калі йшчэ такая дзе ё,
Замучан бядой даастатку,
Ідзе, каб здабыць на жыццё.

Ідзе, а пражорнікаў вочы
Цікуюць з усіх са старон;
Ідзе, а ці днём, ці уночы,
З дарогі збіваецца ён.

Так, блудзячы, валіцца ў сеткі,
Расстаўленыя спатайка,

І сілаў не раз апаследкі
Ссуць п'яўкі, вужы з бедака.

Заплацяць пагардаю дзікай
За кроў, за мазолі, за труд,
Дадуць медзяка для прыліку,
Што ліў пот не толькі за кнут.

Як выціснуць дух увесь чыста,
Прызнаюць няздатным к труду,—
Прагоняць на шляхі цярністы,
Прагоняць на слёзы, бяду.

І пойдзе бядак нешчаслівы,
Здароўя упякаўшы цвет,
Праз цёмныя боры, праз нівы
З жабрацкаю торбаю ў свет.

*

Што? — дрэмлеш ужо ты, дзяўчына?
Не спі, яшчэ штосьць прапяём!
Эй, што там, каліна-маліна!..
Запейма — пець лёгка ўдваём!

А будзе цікавая песня,
Бо выкажа думы твае.
Ну, слухай, хоць сэрцу балесне —
З тваёй мая доля пяе!

Ты помніш, як маці цябе твая родная
Дзень першы у лапці абула,
Як ты, падрастаючы, цвёрдую, зрэбную
Кашулю на целе пачула.

Галела, калела у полі ты з пугаю,
Куску жадна будучы хлеба,
Па лесе, па пасецы з стадам цягалася,
Патолі не знала ад неба.

Пякло лета спёкай, ты, ўся зацяганая,
Злівалася потам крывавым,
А восень студзіла слатою бязлітасна,
Трос вецер адзеткам дзіравым.

Ці йшла ты на поле шырокае, вольнае,
Ці з стадам вярталася з поля,
Ніхто не вітаў цябе шчыра, прыветліва,
Ні свой, ні чужы і ні доля.

Вось вырасла, стала дзяўчынай прыгожаю,
Ды горкім жыццё было далей:
Бацькі твае бедна і трудна жыць мусілі —
У людзі чужыя паслалі.

Паслалі па цвёрды па хлеб на пакідзішча,
На здзек, на бадзянне няміла,
І ты без апекі прытульнай, без бацькаўскай
Навекі сябе загубіла.

З насмешкай благой на цябе, заблудзіўшую,
Цяперака ўсе паглядаюць;
І сэрца крывёю тваё абліваецца,
І вочы у слёзах плываюць.

У губу не лезе яда гаспадарская —
Кусок іх палічаны кажны;
Ў калысцы ад крыку дзіцё захліпаецца,—
Патомак твой плача сярмяжны.

Бацькоў гэтым грэхам сваім не пацешыла —
Ўжо з дзіцем ты лішняя ў хаце;
На службе цябе разлічылі, адправілі —
Не стала там хлеба дзіцяці.

І што ж цябе, маці, чакае, бязмужняя?
Не бачыш ты свету, ў свет глядзя,
Не ўзложыш вянка ты ўжо болей дзявочага,
Не сядзеш ужо на пасадзе.

Навекі твая ўжо зламаная моладасць,
Асуджана мучыцца вечна,
І ў гэтай дарозе, у гэту мяцеліцу
Ты, спраўды, шчаслівa, бяспечна.

Снег так адусюль спавівае плёнкаю
Сваёй прыліпаючай, белай,
І сыспаду мякка, і зверху накрытая,
Начлегаў такіх ты не мела.

Не мела папраўдзе, бо гэтак во соладка
З дзіцём — бачу я — ты заснула.
Спі!.. Пэўна, і песні маёй, табе выснутай,
Усёй ты, бядачка, не чула.

Спі, спі! покі сонца на небе нячулае
Узойдзе гуляці над светам;
А можа, засні лепш навекі, няшчасная,
Як маеш з жыццём біцца гэтым.

Вечна не можа мучыць мяцеліца,
Вечна не можа ноч панаваць;
Зімняе неба сонейкам беліцца,
Вецер нямее, хмар не відаць.

Іскрыцца поле снежнае, белае,
Бор гутарлівы ціха стаіць,
Воўчая песня, дзікая, смелая,
Жудасна ў полі ужо не гудзіць.

Радасна ўсходзіць раніца стройная,
Свеціць для снегам засланай зямлі;
Вакол абшары, ўсе дзіўна-спакойныя,
Шалы віхураў як не былі.

Гоманы, скрыпы з вёскі даносяцца,
І там ужо сонца робіць сваё;
Па саламяных стрэхах дым коціцца —
Знак, што пад імі госціць жыццё.

Будзяцца людзі, з хат выбіраюцца
Яркі калядны дзень прывітаць;
Цёплая пара з губ выбіваецца,
Шэрань на бровах, шчокі гараць.

Бабы заняты важнай заняткаю,—
Вілкі, чапёлы ў дзела ідуць,—
З нейкай паважнай ходзяць аглядкаю,
Свята сягоння — бліны пякуць.

Рана і жонка ўстала Рыгорава,—
Мужа з дарогі жджэ і дачкі;
Носіць ваду, змарылася здорава,
Печ падтапіла, ставіць гаршкі.

Можа, яна ужо разы і сотнія
Глянула ў шыбы з хаткі на двор;
Мучаць старую думкі маркотныя:
Штосьці не едзе з Ганнай Рыгор.

Выехаў ўчора цёмнаю раніцай,
Меўся вярнуцца нанач дамоў;
Праўда, кабылка худа, чуць цягнецца,
Але вялікі ужо час прайшоў.

Што за прычына, што так задлякаўся,—
Трудна згадаць, хоць як варажы,
Ці мо дзе ў гурбу снежную ўпякаўся,
Ці мо начуе у Рубяжы?

...Скрыпнулі сані... У вокны марозныя
Хутка, пакуль там бегчы на двор,
Вочы свае Рыгорыха слёзныя
Ўставіла й бачыць: уз'ехаў Рыгор.

— Дзе ж ты дзеў Ганну? — у мужа пытаецца.
— Няўжо,— ён кажа,— Ганны няма?
І абаім ім сэрца сціскаецца,
Дум усялякіх хлынула цьма.

Ганна з двара ужо іншай дарогаю
Йшла, як ехаў Рыгор па яе;
Думаў, што дома. Бачыць з трывогаю:
Дома няма. Дык дзе ж яна, дзе?

Дарма шукаці рвуцца ў аколіцы,
Ў вёсцы пытаці, на мшы даваць;
Дарма ён стогне, а яна моліцца:
Ганны нідзе няма, не чуваць.

Толькі ад часу, як гэта сталася,
Гутарка ходзіць так па сяле: —
Ў снег як зямелька ўся адзявалася,
Неба мяцеліцу грозну пашле,—

Ночнай парою з бара недалёкага
Нейкае зданне — глянуці страх —
Чуць лезе з гурбаў, з снегу глыбокага,
Йдзе на дарогу з ношкай ў руках.

Хто йдзе ці едзе, страх гаму гэтае
Дзіва сустрэці, голас пачуць,—
Страшная мара, напаўадзетая,
Зблытаны косы, вочы пякуць.

Грудзь да касцей дзявоцкая вырвана,
Ранай адною свеціцца ўся,
Стане... кроў люне чырвана-чырвана;
Рукі калышуць мару-дзіця.

Тулаў дзіцяці толькі хістаецца,
Ручак, галоўкі, ножак няма;
Да падарожных з ім падбліжаецца,
Жальбу заводзіць жудка сама.

Жаліцца ўперад, после жалобную
Страшную песню слёзна пяе;
Гэткую песню чуем падобную,
Як смерць запусціць джгалы свае.

Аб тых, што з светам гэтым разлучаны,
Аб затрутым без часу жыцці,
Аб маці з дзіцем плача замучанай,
Моліць крыху сагрэць, падвязці.

Хрысцяцца людзі, чуючы гэтае,
Месца мінаюць тое барзджэй,
Зданне зноў у лесе з песняй няспетаю,
З дзіцем, з катомкай нікне сваей.

Памяць аб гэтым людзі вясковыя
Шчыра гадуюць, вера жыве:
Яміну тамка ў гушчы сасновае
«Ганніным Ярам» вёска заве.

*1-II-1906 г.*

*

Скажаш, напэўна, добры чытальніку:
Смутная песня твая, брат пясняр!
Ці ты не мог бы, рыфмаў складальніку,
З дум сваіх лепшы зрабіць для нас дар?

Каб замест снегаў над нашаю нівaю
Бачылі мы ўсе прыгожасць вясны.
Ганну — не ў гурбах. Ганну — шчаслівую,
Каб замест слёзаў — вясёлыя сны.

Так скажаш, дружа, праўду во гэткую
На гора поўную песню маю,
Я ж тваю долю беручы сведкаю,
Смутную думку пацверджу сваю.

Дайце мне лета, каб роднай зямлёю
Бура не трэсла, не біла людзей,
Дайце мне хатку, хатку прыгодную,
Вечная радасць жыла каб у ей!

Сцелецца ноч тут ценьмі магільнымі,
Гіне з няшчасця малы і стары,
Слабыя гінуць, крыўджаны сільнымі,
Стогнуць, гаруюць з зары да зары.

Путы няволі, кары звярыныя
Хто не жыў толькі — іх не цярпеў.
Над чалавекам, як над скацінаю,
Ніхто спагады не мае й не меў.

Ніхто не бача, з горам век злучаны,
Свайго цярпення, бяды, цемнаты;
А калі плача надта ўжо змучаны,
Мей жа, чытач мой, жаласць над тым!

*1906*

## НІКОМУ

*(З часоў прыгону)*

I

Скончыўся дзень працы,
Сонейка зайшло,
Вечарок асенні
Сходзіць на сяло.

Станавяцца ў хатах
Дзяды па кутох,
Час агонь паліці,
Ночкі цень залёг.

Пук лучынак ёмкі,
Дзяўчынка, нясі,
Пры святле іх будзем
Гутарку вясці.

Раскажу вам тутка
Здарэнне адно,—
За часоў прыгону
Здарылась яно.

Слухаць толькі ўважна,
Не перабіваць.
Сціхлі. Ладна! Толькі
З чаго б тут пачаць?

II

Гэй, думка ўдалая,
Ты мяне нясі
Па роднай старонцы —
Па Белай Русі!

Нясі ў час мінулы,
Як горасна тут
Год таму з паўсотні
Жыў наш бедны люд.

Смерць ішла не ў часе,
Дый не к аднаму,
Жаліцца ў няшчасці
Не было каму.

На бяду і гора,
На слёзы і жаль
Паншчына спраўляла
Свой прадсмертны баль.

Хоць мінуў даўно ўжо
Час той — ліхадзей,
Але не мінула
Памяць у людзей.

## III

Сярод гор пясчаных
Ды панскіх лясоў
Расселася вёска
З якіх хат са сто.

Жыве ў гэтай вёсцы
Душ якіх з пяцьсот,—
Працуе на пана
Ўвесь гэты народ.

Пан што хоча робіць.
Грозен яго кнут,
Лье пот, кроў і слёзы
Зацяганы люд.

За віну малую
Розгамі сякуць,
За праступак большы
Ў рэкруты здадуць.

Бацька робіць «дзела»,
Ў салдатах сынок,
Бярэ за каханак
Пан жонак, дачок.

## IV

Вось у гэтай вёсцы,
У сям'і аднэй,
Вырасла дзяўчына,
А ўсіх прыгажэй!

Звалася Аленай
Дзяўчынка-душа,
Ну... і пакахала
Шчыра Тамаша.

І Тамаш Алену,
Ой, не ад таго;
Сказаць пра іх любасць
Можна шмат чаго.

Любіліся шчыра
Пара галубкоў,
Дый не мелі шчасця
Для сваіх галоў.

Бор над іх бы доляй
Плакаў і шумеў...
Аленку-красуню
Пан на воку меў.

V

Раз, пекна прыбраўшысь,
Быццам на кірмаш,
Пайшлі ў двор да пана
Алена й Тамаш.

Прыйшлі. Пан к ім выйшаў,
А яны да ног:
«Пазволь пажаніцца
Нам, ясны панок!»

«Жаніцеся! — што ж там...—
Кажа пан з двара.—
Калі ж будзе шлюб ваш?» —
«Панок, на Пятра».

Як прыйшлі, йдуць нашы
Дамоў жаніхі.
Весела варкочуць...
Пан добры такі.

І няўцям ім, бедным,
Што за імі ўслед
Ліха злое пхнецца
І натворыць бед.

## VI

Грыміць палац белы —
Ў пана йдзе банкет,
Гуляе магнацтва
Гулка, на чым свет.

Сталы паўнютэнькі
Яды дарагой,
Дарагія віны
Ліюцца ракой.

Без сораму жарты
У п'яных пайшлі,
Аж іх жонкі, дочкі
Са стыду ўцяклі.

І гэтага толькі
Хацеў зброд п'яны.
— Дзевак сюды! Дзевак! —
Крыкнулі паны.

Гаспадар гасцінны
Ўгадзіць рад гасцям.—
Тут Алену ўспомніў,
К якой лас быў сам.

## VII

А Тамаш з Аленай —
Муж і жонка ўжо —
І ад шлюбу едуць
Роднаю мяжой.

Дамоў едуць хутка,
Ён штось шэпча ей,
Яна вочкі спусціць,
Стане ружавей.

Але не пашэнціць,
Мабыць, маладым:
Кепскія варожбы
Пападаюць ім.

Перабег дарогу
Заяц разы два,
Груган закружыўся,
Гукнула сава.

З трывогай друг к дружцы
Маладыя льнуць...
Каб хаця ім, бедным,
Злых прыгод мінуць!

## VIII

Вечар. Ціха ў вёсцы,
Раптам грук такі!
Гоман. Коней ржанне,
Бразгаюць званкі.

Ўехала дружына —
Той цвяроз, той п'ян,—
Сходзяць маладыя
На белы дыван.

Выслана да хаты
Сцежка палатном,
Ідуць маладыя
За ручку ўдваём.

Бацька з маткай века
Ад дзяжы дзяржыць,
А на ім — гарэлка
І хлеб-соль ляжыць.

Музыка марш грае,
Аж трасецца пол.
Пад векам дружына
Йдзе ў хату за стол.

## IX

Малады на куце
Ўсеўся з маладой,
Побач — асістэнты
Падрад чарадой.

П'юць, ядуць, гамоняць,
Смутку ані-ні,
Скрыпачка заводзіць,
Кліча да гульні.

Мілая пацеха
Ў вочах маладых
Свеціцца, як сонца,
Аж б'е жар ад іх.

Раптам — дзіва! з дзесяць
Панскіх гайдукоў
Улятае ў хату,
Як дзікіх звяроў.

«Дзе,— крычаць,— Алена?
Маладая дзе?
Да сябе на гулі
Пан яе заве!»

## X

Знямела дружына,
Знямеў малады,
Трэба ж, не ставала
Гэтакай бяды.

Зналі, на якія
Гулі клікаў пан,
Што ўчыніць з Аленай
Распусны тыран.

Здрыгнуў Тамаш страшна,
Пабялеў, як труп,
Слупам вочы сталі,
І сам стаў, як слуп,

На тое ж Аленку
Ўзяў жонкай цяпер,
Каб над ёй глуміўся
Распасвены звер?!

І схапіў няшчасны
Точаны тапор,
Ажна ўсіх затрэсла
Жудасць, як віхор.

## XI

«Гэй, вы, служкі пана! —
Крыкне так Тамаш.—
Подлыя вы самі,
Падлейшы пан ваш!

Гэй, скажыце, шэльмы,
Кату свайму там:
Не дам яму жонкі,
На ганьбу не дам.

Хоць згнію ў астрозе
Ці ў віры на дне,—
Няхай жа не будзе
Ні пану, ні мне!»

І сякерай гахнуў,
Як вокам міргнуць,
Па абух ўпілася
Ў Аленіну грудзь.

Рухнула Алена
На дол без жыцця,
Крывёй цёплай, свежай
Залітая ўся.

## XII

Так сышло вяселле
Нашай маладой,—
Засыпалі грудзі
Зямелькай сырой.

Над яе магілкай
Праз доўгія дні
Вырас клён і ліпа
Роўнай вышыні.

Зімой клён і ліпку
Засцілае снег,
А мароз знаходзіць
Там сабе начлег.

Летам клён і ліпку
Зелень адзяе,
Сонца й вецер гулі
Заводзяць свае.

Людзі й тут па-свойму
Нейкі знак знайшлі:
Людскія назовы
Дзераўцам далі.

## XIII

Ад гэтай прыгоды
Шмат гадоў прайшло,
Няпамяці зеллем
Шмат што зарасло.

Засталіся толькі
У думках з году ў год
Крыўды, што ў час гэты
Выцерпеў народ.

З дзедаў на унукаў,
З бацькоў на дзяцей
Ланцугом пляцецца,
Што было даўней.

І гэта здарэнне,
Спісанае вам,
Расказаў мне так жа
Стары дзед Адам.

Вам яшчэ цікава,
Як век дажылі
Той Тамаш і пан той
На гэтай зямлі.

## XIV

Тамаша ў кайданы
Закулі ў той час
І ў Сібір саслалі;
Там ён, бедны, згас.

Доўга цягаў тачку
Пад звон ланцугоў
І памёр далёка
Ад родных куткоў.

Пан жа, от, вядома,
Як і кожны пан,
Панаваў час нейкі,
Цёнгле сыт і п'ян.

Пасля ўсё ж са злосці
Павесіўся ён,
Як на зямлі нашай
Мінуўся прыгон.

Палац стаіць пусткай,
Жыць няма ў ім як,—
Здані ў ім здаюцца,
Быццам помсты знак.

*1906*

## КАЛЕКА

*(Гутарка з мінулага часу)*

### I

— Што з табою, браце мілы?
Чаму хмуран ты не ў меру?
Дзяцюк гэткі повен сілы!
Як тут даць, здаецца, веру?

Адной радасці, вяселля
Быць павінны поўны грудзі,
Ты ж, як збіты, як з пахмелля...
Ну, і людзі, што за людзі?

А мо ёсць на то прычына —
Усё сваю прычыну мае:
Ты дзяцюк, а вунь дзяўчына,
Во адно ўжо і ўздыхае.

Ну, ўздыхайце сабе самі,
Рад і я вам падцінаці;
Можа, траплю дзе часамі
І па сэрцу табе, браце.

### II

— Пачну думу ад пачатку:
Жыў я змалку ў вёсцы з краю;
Мала помню родну хатку,
А ўсё ж міла ўспамінаю.

Быўшы дзіцем, быў рахманым,
Бацькі, маці быў пацехай,
Плач нядолі не быў знаным,
Колькі гуляў, колькі смеху!

Не заводзіў нічым думак,—
Трэба ў школу — ў чым тут стала?
Сып, узяўшы кніжак клумак,
Адно жаль — знаў іх замала.

Першы год ганяў я ў поле:
Умірае бацька, маці,—
Вось і стала свету болей
Сіратою адной, браце.

### III

— Ці вы знаеце, што знача
Сіратою быць на свеце?
Хмарка плача, вецер плача,
Як такога дзе прымеціць.

Можа, скажаце таксама:
Людзі літасць над ім маюць;
Не такая, людзі, крама,
Ў якой людскасць аглядаюць.

Адным цягам год за годам
Шлі цярніста, шлі крывава,
З імі моладасць з нягодай,
Як асенняя няслава.

Не раз труд было заснуці;
Свет хацеў бы ў жменю ўзяці
І, як вецьвем, страсануці...
Так было мне цяжка, браце.

### IV

— Як памерлі бацька, маці,
З хаты выгналі за браму,
Жыць прыйшлось доляй бадзяцкай,
Няма што, пайшоў да пана.

Далі там агрызак хлеба,
Далі колькі марных грошы;
Што, здаецца, болей трэба?
Будзь слухмяны, будзь харошым!

Здасца можа — добра гэтак,
А дзе ж кут свой, а дзе воля?
Панскі дом, страва, адзетак
Душы, сэрца не здаволіць.

Не быць выгнаным надзея
Не загосце ў чужой хаце;
Месяц свеціць, ды не грэе,
Служба службаю, мой браце.

## V

Скокам-бокам, напаў з горам
Наспеў годзік і дваццаты.
Быў хлапцом — сказаць не сорам!
Бач, пазвалі у салдаты.

І пайшоў я — няма дуру —
Паспытаць ваеннай кашы;
І што скажаш? — прыйшоў з скурай,
І там людзі, і там нашы.

На муштроўку шоў у зміру,
Вайну ўзнялі — туды глянуў;
Праслужыў гадкоў чатыры
І вярнуўся... куды? — к пану.

Прынёс крыжык — памяць з бою,
Ды яго ж я, о праклящце!
Аплаціў адной рукою...
Эх, каб ім... Падумай, браце!..

## VI

— Аднарукі, аднарукі!
Гэтак дома ўсе казалі,
Многа меў нуды, дакукі,
Яшчэ горай стала далей.

Што рабіці, трэба жыці,—
Стаў у двор за лесніка я,
А служыці, дык служыці,
Мабыць, доля ўжо такая.

Вось з наказу раз пайшоў я
Вартаваць у лес павалы,
Ноч была, на безгалоўе
Бура выла, лес ламала.

І вось хвойка грук! І сукам
Нагу крыша, не паўстаці,
Бура глушыць енк мой гукам...
А там далей, эх, мой браце!..

## VII

Што было, і сам не помню,
Год пралежаў у бальніцы,
На свет выйшаў, хто ж уломню
Дасць і хлеба, і вадзіцы.

І паплёўся я з пакорай
Туды, дзе такім дарога,
Дзе адно сабрана гора,—
Ў жабракі пайшоў з трывогай.

Дзіўна вам, што часам з нудаў
Заглядаю у карчомку...
Людзі, людзі! Іншым буду —
Адчапіце мне хатомку.

Вы — шчаслівы, [illegible] доляй яснай —
І то рады пагуляці.
А [illegible] ж, я — жабрак няшчасны...
Эх, не крыўдзь насмешкай, браце.

## VIII

— Глянь во з жалем — я калека,
Аднарукі, аднаногі,
Беспрытульнасці апека
Ацямніла ўсе дарогі.

Дум гаротных колькі, колькі!
Хто злічыць, апець іх можа?
Каму ўцям чужыя болькі,
Хто бядзе чужой паможа?

Быў здароў, быў дуж і молад,
Ніпачым саха, сякера,
Што там значыў холад, голад,
Крэпка сіла, крэпка вера!

Дзе ж ты, вера, дзе ты, сіла?
На каго мне наракаці?
Эй, падмігівай, магіла!
Ты ж не злуйся, мілы браце.

## IX

— Кастыль, торба, кій жабрачы
Маім пашпартам, адзнакай,
Было кепска, ўсё ж іначай
Над сваёй нядоляй плакаў.

Як і ўсе, і я меў сэрца,
Быў час — дзеўчынку нагледзеў;
Пасля ж, пасля ў паняверцы
І дзяўчынка знікла недзе.

Як апаленае дрэва
Пастухамі ў полі роўным,
Адзінока хмар паневаў
Жду век з сэрцам неспакойным.

Памру. Хіба крук над трупам
Хаўтуры будзе спраўляці,
Дый ноч гляне вокам рупным...
Эх, хоць ты успомні, браце.

## X

Глянь душой, дзе, ў чым няшчасце,
З твайго ж смех мне наракання,—
З віхраў зімніх не прапасці,—
Рухне стужа, вясна ўстане.

Ў свет глядзі з надзеяй, дружа,—
Вера ў шчасце не зашкодзіць;
Не ўсім доля роўна служа,
Не ўсіх колкай сцежкай водзіць.

Хоць нож крыўды ўесца ў грудзі,
Хоць нуды сляпое жала
Кроў смактаці з цябе будзе,—
Стой за праўду, стой як скала.

Людзі... Што ж? хто не калекам,
Аб іх можна і не дбаці,
Будзь сам толькі чалавекам,
Будзь... Ей, будзь здароў, мой браце!

## XI

Мне пара ужо збірацца...
Ох, сказаць хацеў дадому...
Мне пара ўжо з хаткі к хатцы
Хлеб ісці збіраць па-свойму.

Гаварыці перад кажнай
Псалмы, пацеры, літанні,
Абрыдаціся адважна,
Як сабака дзе прыстане.

Мо так выжабрую недзе
Куток ціхі дажыць веку,
Мукі хтось калекі ўгледзе,
Не дасць згінуць чалавеку.

Прыйдзе змена мо на свеце,
Не дасць бедным бедаваці,
Будзем жыць, і жыць хацеці,
І пець весела, мой браце.

## XII

Гэтак правіў у карчомцы
Раз убогі, Куксай званы,
Мала меў чаго ў хатомцы
І быў так не зусім п'яны.

Яго слухалі цікава,
Праўды шмат ад яго чулі.
Кожны бачыў, як крывава
Можа доля справіць гулі.

З дзесяць год таму па дровы
Ехаў неяк [illegible] зімою,
Мала грэў і кажух новы,
Трос, як лістам, сівер мною.

Еду... Дзе крыж ля дарогі,
Штось відаць, як хто лёг спаці,
Глянуў... Мёртвы Кукса ўбогі...
Так жыццё ён скончыў, браце.

*1907*

## АДПЛАТА КАХАННЯ

*(З праўдзівага здарэння)*

Вы хочаце казкі? — ну, добра, ну, ладна!
Садзіцеся во дзе, і слухаць прыкладна!
Я ж збаю, пакуль дзень загляне ў аконца,
Ды толькі не казку, а праўду, як сонца.

На свеце на белым, пад Гайнай убогай,
Жыў шляхціц багаты; меў поля ён многа,
І конікаў сытых, і ўсякай скаціны,
І грошы, што чуць іх не мерыў асьмінай.
Не знаў ён, што голад, што холад, што праца,
Еў смачна, спаў доўга,— пан істы з палаца!
Шмат слуг на яго працавала у полі,
Што праўда — галодных, абдзёртых найболей,
А ён жа, ім плацячы марныя злоты,
Стаяў, як над быдлам, ганяў да работы.

Во гэты то шляхціц, во гэты багаты,
Пан новай і гонтамі выкрытай хаты,
Меў некалькі сёстраў, а стройных і мілых,
Прыгожых у твары, здаровых на сілах;
Кроў, проста, здаецца, змяшаная з млекам,—
Спаткаўся дзе з імі — бяда з чалавекам:
Загіне напэўна з душою прастачай,
І сонца не ўгледзіць, і хаткі не ўбача!
Аж так шчараваці патрапяць галубкі
І іхнія грудзі, і вочы, і губкі!
А надта ж адна з іх, што звалася Зосяй,
І зграбненька ходзіць, галоўку лепш носе,
І лепей смяецца, і лепей міргае,
А ўся, як малінка, як кветка жывая!
Ці дзе загаворыць, ці песню зацягне,
То слухаў бы вечна,— так кожны прысягне.
Ой, гэтакай песні, ой, гэткай гаворкі
Аж слухаюць птушкі, ўсміхаюцца зоркі.
Цяпер вам цікавасць, ці гэта паненка
У грудках у пышных, пад крамнай сукенкай,
Ці мела там сэрца, што шчырым каханнем
Магло адазвацца хоць раз прад скананнем?
Ой, мела напэўна, ой, моцна кахала!
Цяпер так сардэчна кахаюцца мала.

Пад горкай пад крутай, пры ціхай далінцы,
Над вузенькай рэчкай, абапал гасцінца,
Расселіся хаты апушчанай вёскі,
Ў якое то садзік, то дзве-тры бярозкі
Яснейшым прыветам здаюцца для хатак,
А далей — вясковы адзін недастатак.
Пахілыя хаты глядзяць на староны,—
На стрэхах камамі парос мох зялёны,
Струхлеўшыя сцены ў зямлю паўязджалі,
А шыбы у вокнах не больш па дзве цалі.
Цікавасць, ці праз так малое аконца
Загляне у хатку калі-небудзь сонца?

У нізкай хацінцы, ў адной з найбяднейшых
Ў адной з найкрывейшых, ў адной з найцямнейшых
Рос Янка Лявончык, па бацьку — Прывада;
Прыгожы быў хлопец, дзяўчатак прынада;
Што возьме, то зробіць, зух першы ў забаве,
Не мае плям чорных на сэрцы, на славе.
У вёсцы у роднай ён добрым суседам,
Не крыўдзіць дзяцей, не смяецца над дзедам,
Прыветліва з кожным спаткаўся, расстаўся.
Ой, добры быў Янка, хоць з горам то знаўся.
У двор на работу хадзіў ён штодзенна,
Там з працай усякай спраўляўся сумленна;
Дзе толькі ні стане, працуе ў ахвоту,
І славы дакажа, рваць будзе да поту.
Сталетнюю хвойку паваліць у боры,
Корч выдзерці ў пасецы Янка не хворы;
Загончык як выараў — глянуці міла,
Пракосік прагоніць — то значна, дзе сіла.
За рукі, за працу — і чэсць, і пахвала!
Быў Янка работнік, якіх цяпер мала!
А хоць грашмі бедзен, другім чым багаты:
Зайздросцілі хлопцы, любілі дзяўчаты;
Любіла і Зося, шляхецкая дочка,
А гэтаму сведкай і садзік, і ночка,

Хто пройме, прагледзіць спатканні, гулянкі,
Мірганкі і шэпты каханка, каханкі?
Хто злічыць, па колькі друг дружку цалуе,
Галубіць і туліць, пяшчотна мілуе?
Ой, трудна пазнаці, ой, трудна збадаці.
Здаецца, штось бачыш, ды рэшты не знаці!
Бо ночка каханню спрыяе заўсёды,

Збаўляе каханкаў ад кепскай прыгоды.
А шчыра ж, а міла і Зося, і Янка,—
Янук, сын мужыцкі, а Зоф'я, шляхцянка,—
Што ночку без сведак адны караталі,
Аб шчасці кахання салодка шаптталі.
А часам і смутныя думкі зазвоняць
Да сэрц закаханых,— яны іх разгоняць,
Абняўшыся шчыра, сваім цалаваннем.
Эх, добра хоць трохі пажыці каханнем!
Так смутна, так горка таму жыць на свеце,
Каму лёс кахання ў душы не расквеце,
Хто братняй душы у жыцці не спаткае,
З якой бы і любасць сплывала святая,
З якой бы і горам сваім падзяліўся,
І ў жалі паплакаў, к грудзям прыхіліўся.
«Эй, Зося! — так Янка гаворыць, бывала. —
За што мяне шчасце такое спаткала?
А можа, няшчасце, а можа, і слёзы?
І сам я не знаю, ці п'ян, ці цвярозы.
Ты — панна, і любіш мужыцкага сына,
Убогага хлопца — пасажна дзяўчына;
Што людзі, што брат твой на гэта нам скажа,
Як праўду пазнае, загадку развяжа?
Ты ж паняй і будзеш, і выйдзеш за пана,
А я буду плакаць ад рана да рана,
Аж высахне сэрца, кроў ў жылах застыне,
І ўсё з таго жалю па пекнай дзяўчыне».
А Зося за шыю да сэрца прыцісне:
«Ой, Янка, ой, лгун, ты пляцеш так сумысне,
Ці ж Зосі не верыш, што шчыра так любіць,
Што Янку праз любасць напэўна не згубіць?
Як любіць сягоння — любіць будзе вечна.
І Янка мой добры спаць можа бяспечна».—
Так Зося гаворыць, і Янка забыўся,
Што з паннай з багатай так шчыра злюбіўся,—
Цалуе, мілуе, і ночкі ім гэтак
Мінутай праходзяць; аж летнія ўсе так
К канцу ўжо зблізжаліся; поле пусцела,
І восень падходзіла сціха, нясмела.
І вось хоць нарэшце лёс чорны іх здрадзіў:
Падгледзеў брат Зосін іх сходкі у садзе.
Ноч цёмнай пасцілкай зямлю абхінула,
Жыццё ўсё замёрла, прырода заснула.
На небе дзе-недзе заблісказі зоры,
Наехалі хмараў дажджлівыя горы,

І зоркі пагаслі, і ўсё спіць у згодзе,
Адзін чалавек толькі сну не знаходзе.
Не спіць пан Лаўчынскі, той шляхціц багаты,
Агонь яшчэ свеціцца з панавай хаты.
Страшэннаю помстай палае блюзнерца,
Як ноч на Пакровы,— сам чорны і сэрца;
Не бачыць ён свету, ні праўды, ні Бога,
Не хоча ўжо знаці нікога, нічога,
Ўсё ходзіць па хаце, шалее са злосці.
«Як можна? шляхцянка — род панскі, косць з косці,—
З мужыцкай крывёю змяшаціся хоча!
На свет паказаці не будзе як вочаў.
Той Янка, хамула, паненку абыме...
О! Смерць яго ўперад з зямлі гэтай прыме!»
Так чорныя думы адна за адною
Снуюцца ў тырана, як стада зімою
Ваўкоў згаладалых, не сытых ніколі,
Шукаючы жыру, валочацца ў полі,
Валочацца, аж дзе ахвяру спаткаюць,
І выдзеруць сэрца, і вочы зглытаюць.
Эй, страшна, эй, жудка спаткацца з ваўкамі,
Страшней жа з тым зверам, што ходзіць між намі,
Як мы, чалавекам, а сэрцам — пантэра;
О, гэткі звер горшы за ўсякага звера!
Снуецца Лаўчынскі па хаце, як мара.
Чорт цешыцца: будзе для пекла ахвяра;
Штохвіля крываўшую помсту знаходзіць,
Штохвіля чарнейшыя думкі наводзіць,
І шэпча: «Забі йдзі, як спіць у адрыне,
Ці ў садзе, як зловіш яго пры дзяўчыне,
Ці ў лесе, як пойдзе табе сеч бярвенні,
Але забі толькі, не бойся сумлення!»
Яшчэ не здаецца, яшчэ азірнуўся
На кут, дзе абраз быў, душой страхануўся;
Схапіў тапор востры рукой подлай, смелай
І выскачыў з хаты, глухі, азвярэлы.
А хмары па небе ішлі і стагналі
І як бы бязбожніку грозна крычалі:
«Апомніся, грэшны, вярніся дадому!
Аб гэтым ноч-маці не скажа нікому».

У вёсцы, так кажуць, жыве люд шчасліва,
Зжываецца з горам, і з працай, і з нівай;
У вёсцы у ціхай люд, кажуць, менш грэшыць,
Пакусаў менш мае, малым сябе цешыць,

І сцэнаў крывавых менш нойдзеш у вёсцы.
Ну, праўда ж, як грушы растуць на бярозцы!
І ў местах, і ў вёсках шальмоўства вядзецца,
А толькі у месце бардзей хто уп'еціца,
Бардзей і сагрэшыць, другога закрыўдзе.
У местах няўмысне сабаку забіў дзе,
А ўжо на свет цэлы разбрэшуць газеты,—
Як бы генералам сабака быў гэты!
А ў вёсцы прыгледзься ж на крыўды, на слёзы,
Што выльюць дарэмна у спекі, ў марозы,
Што за сабак згіне людзей нешчаслівых
У лесе пад дрэвам, з натугі на нівах;
А колькі на цёмных «святлейшых» сягае,
І больш дзе хто з працы другіх карыстае?!
Не скажаце ў местах, бо знаеце самі,
Што вёска больш зліта людскімі слязамі.
У вёсцы, хоць горка пакрыўджаны плача,
Маўчаць кожны будзе так, як і не бача...
Занадта сляпы люд, занадта баіцца,
Каб мог ён за крыўду сваю заступіцца.
Праз тое і вёску так хваляць паэты,
Найболей такія, што, з'еўшы катлетаў,
Віном якім смачным катлет той закусяць;
О, гэткія, пэўна, аб шчасці пець мусяць!

У пуні у панскай, як мёртвы, спіць Янка,
Не выйшаў да саду спаткацца з каханкай
(Таго дня да Мінску паехала Зося).
Ой, дзіўныя часам сны ночка прыносе!
Вось Янка шчаслівы, ўжо гора не знае,
За жонку ўжо Зосю прыгожую мае,
Ўжо ў новай хацінцы яна гаспадара,
А ў стайні ржэ конікаў сыценькіх пара;
Саха валоў рослых, чатыры каровы
Скубецца на лузе; лясок жа сасновы
Ту ж блізка пры хатцы сячэ Янка смела,
Да пана не мае ніякага дзела,—
Не трэба ўжо ўсякаму рук цалаваці.
Шмат мае ён поля і шмат сенажаці;
А ўсё гэта працай дабыў ён пачцівай,
Як жыць пачалі яны з Зосяй шчасліва;
Ды трохі прынесла яна і ў пасазе,
А важнае — любасць, што лепш багацтв князя.
Ва ўсім памагае рукамі і радай,
Прад ім не азвецца ні плачам, ні звадай.

І робіцца радасна Янку на сэрцы,
Што гэтак шчаслівы, што ў горы не б'ецца.
Не мучыцца так, як уперад бывала...
Аж раптам вось гэтага шчасця не стала.
Жудосны звер-прывід падходзіць, здаецца,
Зубамі скрыгоча і дзіка смяецца.
Збудзіўся, глядзіць ён на зданне благое
І крыкнуў: «Паночак! За што? За якое?»
Спіць вёска сном моцным па працы па цяжкай,
Начлежнікі ў лузе — пад буркай, сярмяжкай,
А ў хатах — дзяўчаты, і дзеці, і бабы
На ложках, на лавах, на печы — дзед слабы;
Нідзе ані шуму, ні плачу, ні крыку,
Не чуць і кляцьбы той, якой днём без ліку.
Адзін толькі вецер шамоча бярозкай,
Ды недзе сава загукала за вёскай,
А далей — ноч-пані, і пуста, і глуха...
Аж вось даляцеў гук да чуткага вуха:
Што гэта?.. Збудзіліся людзі з пасцелі,
У цэркаўцы блізкай званы загудзелі...
Што гэта? Што гэта? Хоць поўнач на свеце,
А відна, як сонца на небе ўжо свеціць.
«Пажар, гэй, пажар!» — так вакол загудзела.
Крычаць: «Уставайце гасіць дружна, смела!
Гарыць у двары у Лаўчынскага нешта;
Гасіце! Згарыць там будынкаў і рэшта!..»
Сабраліся людзі, ды толькі па часе:
Ніхто ўжо агню не залье, не загасе.
Гарыць пуня панская, полымя мкнецца
І знамем крывавым на небе здаецца.
Бяссільны тут людзі, бяссільны іх рукі...
Хто ў полымя ўлезе на болі, на мукі?
І... пуня згарэла. Тарчыць куча сена,
Дымяць галавешкі, астаткі ад сценаў;
Цягаюць іх людзі з агню на стараны.
Аж... Божа! Што гэта? Корч нейкі звуглёны...
Хто толькі ні гляне — ўцякае з трывогі;
Корч мае людскія і рукі, і ногі!
Пры тулаве, знаць, галава чалавека —
Косць толькі, няма ні вачэй, ні павекаў.
Пазнаў народ, што хтось згарэў з пуняй разам,
Пакленчыў над трупам, як бы над абразам:
Пазнаці люд хоча, хто марна так згінуў,
Свет гэты пакінуў, радню ўсю пакінуў?
Глядзяць... аж тут раптам енк страшны разнёсся,

Аж кожны смуціўся, аж кожны затросся,—
Енк гэткага жалю, енк гэткай балесці,
Што можа душой і тырана затрэсці!
Так крыкне па страчаным любым дзяўчына
І маці так енкне, хаваючы сына.
І маці тут родная труп той пазнала,
Пазнала таго ў ім, каго ўзгадавала,
Хто хлеба ёй, беднай, насіў яшчэ ўчора,
Хто быў бы ёй, беднай, на старасць падпорай...
Эх, сын яе родны, эх, Янка прыгожы
Ляжыць нежывым на пасцелі на Божай!
Не ўстане навекі і свету не ўбача...
І плача так маці і горка так плача,
А з ёю, здаецца, і ночка галосіць,
І слёзы збірае і к Богу заносіць.

Ці ж добра, ці ж лёгка? Эй, пане, эй, мсцівы!
Што Янка у пуні згарэў нешчаслівы?
Твая ж гэта, пане, рука учыніла,
Што будзе на свеце адной больш магілай,
Адной больш магілай, а слёзаў без меры.
Прыгледзься, што зробіў ты ўзмахам сякеры?
Вось Янка забіты, вось Янкава маці
Убогая мусіць ісці жабраваці,
Бо ўжо працаваці застара, заслаба,
Не то што мужчына, ат, ведама,— баба!
А што скажа Зося, як з места прыедзе?
Што скажа, як спаленым Янку угледзе?
Ну, цешся, ну, цешся пацехаю ката!
Ужо дамавіна гатова на брата.
Ці ж добра, ці ж лёгка? Эй, пане, эй, мсцівы!
Што Янка у пуні згарэў нешчаслівы,—
Так голас таемны пытаецца ў пана;
Але грызць сумленне ці ж можа тырана?
Раз толькі надумаўся зводню ўчыніці,
Ахвяру праз помсту са свету згубіці,
То пэўна, што плакаць па збродні не будзе:
Не будзе йсці роўна, хто раз ужо зблудзе.

Світае. Вот Зося ужо з Мінску едзе,
Вясёлая, цешыцца — Янку угледзе;
Усё ёй так мілым, як лепей не трэба:
І гэтыя людзі, і гэтае неба;
І рада смяяцца, і рада спяваці,
І з хлопцам прыгожым пайсці пагуляці...

Прыехала ж панна на плач, не на йгрышча,
Убачыла з пуні адно папялішча.
Што ўбачыла далей, сказаці не можа;
Два выбеглі слоўцы: «О, Езу! О, Божа!»
І рукі заломіць, і крыкам шалёным
Азвалася з жалю над Янкам звуглёным.
На брата узгляне: маўчыць той панура,
Зубамі заляскае, вочы зажмура.
Дарэмна дзяўчына адкрыць праўду хоча;
Зжымаецца сэрца, цякуць слёзы з вочаў...
Га! чымся так жыці, лепш легчы у гробе.
У слёзах, у муках, у цяжкай жалобе
Праходзе дзень гэтак; ноч сціха ўжо пхнецца,
А Зося ні мёртва ні жыва снуецца.
Прайшла ноч, і раніцу сонца прыгнала.
Дзе ж панна? А панны з пасцелі не стала.
Збудзіліся слугі, і пан прабудзіўся;
Сястры няма дома. Спачатку здзівіўся,
А потым і чорныя думы абселі:
Ці ж Зосі праз тое не стала з пасцелі,
Што спалены Янка?.. Тут болей затросся,
Заныла на сэрцы, страх нейкі пранёсся,
І выскачыць з хаты, і крыкне на слугаў,—
Заве ад работы, заве як бы другаў:
«Эй, людзі! Дзе Зося, дзе ваша паненка?
Шукайце! Няма яе ў гэтых тут сценках.
Была тут у хаце, няўжо яна ў полі?
А можа, і можа... не ўбачу ніколі!
Шукайце, шукайце! Бярыце багацце,
А толькі каб Зосю я відзеў у хаце!»
Крычыць так Лаўчынскі на ўсе на староны,
А дзіка, а страшна, як звер той шалёны.
І збегліся людзі, шукаюць, гукаюць;
Дарэмна! Дзе Зося, дзе панна — не знаюць.
Аж глянуў брат родны у сад на сасонку —
Вісіць сястра пана, вісіць на пастронку.

У тры дні дзве ямы на труны капалі:
На могілках Янку-хамулу схавалі,
А далей, за могілкі,— гожу паненку,
Народ жа над імі маліўся і кленкаў,
Нябожчыкаў неслі хаваць неяк зрана,
Пад вечар жа везлі ў вар'яцкі дом пана.

Эй, кончана казка! Ну, як вам здаецца:
Ці праўды ў ёй многа, ці лжэ, ці смяецца?
Мне ж верце, што гэта ёсць праўдай звычайнай,—
Спытайцеся толькі старэйшых пад Гайнай,
Там кожны з ахвотай раскажа вам гэта;
Хоць там яшчэ гора людзей не апета,
Але у паданнях жыве і жыць будзе
І сведчыць сабою багатых а блудзе.
Закінеце, можа, што ў казцы на пана
Замнога ўсялякіх шальмоўств наўскладана?
Няхай жа багаты пан кепска не чыне,
Напэўна і казка ні ў чым не абвіне.
Бо што зробіць бедны, з бяды што натвора,
Такога і казка не так абгавора;
А створа ж багаты дзе подласць якую
І з роскашы праўду патопча святую,—
Ні ў чым не дазнае ад прышласці ласкі:
Такім не даруюць ні песні, ні казкі.

*[1905—1907]*

## У ПІЛІПАЎКУ

...Помню, ў Піліпаўку гэта было.
Ой, спаганяў снег ахвоту!
Долы, дарогі як ёсць занясло;
Гурбы, як горы, ля плоту.

Страшную людзі цярпелі зіму:
Дзіка мяцеліцы вылі,
З трэскам марозы гасілі ў сцяну,
Птушак у лёце глушылі...

Ночка над вёскай. Во ў хаце аднэй
Курыцца дымна лучына.
Месціць хацінка са жменю людзей:
Бацьку, матулю і сына.

Бацька, сагнуўшысь, сядзіць за сталом;
Блудны прытухлыя вочы...
Печку падпёршы схудалым плячом,
Маці пaціху хліпоча.

Далей, ля сценкі, палочак стаіць.
Думкі бацькоў там аж млелі:
Сын іх, Сымонка, тры дні ўжо ляжыць,
Тры дні на Божай пасцелі...

З самых дзён малку Сымона свайго
Так гадавалі, пясцілі!
Меці на старасць падпору з яго
Думкі супольна раілі.

Малец — як лялька, крапячы, як дуб,
Прызыў падходзіў налета,—
Высах, як шчэпка, стаў ціхі, як слуп,—
Песня няпетая спета!

Тры дні назад яшчэ з бацькам яны
Шуркі у лесе стаўлялі:
Гулка гудзелі там іх тапары,
Елкі, асіны стагналі.

Вечарам — дзіва! ні стуль і ні ссюль,
Злёг і ляжыць, як павала;
Раілась маці ўжо ў многа бабуль,
Зёлак усякіх давала.

Дарма яна яму гэтак і сяк
Піць-есць нясе адначасне:
Дні свае лічыць збалелы бядак,
Вось-вось часіна — загасне.

Ўжо не чакае сямейка дабра,
Аж тут, як воляю боскай,
Доктар адзін па дарозе з двара
Ехаў, заехаў і ў вёску.

Выслухаў, выстукаў хлопца кругом,
Даў карталюшку на лекі;
Ехаць да гораду кажа бацьком,
Ехаць хутчэй да аптэкі!

«Сын здароў будзе, як рыба ў вадзе,
Толькі лякарства прывозьце!» —
Кінуў старым так і з хаты ідзе,
Дый толькі бачылі ў вёсцы...

Мілі ж тры ў горад; тры мілі — не смех!
Конік худы — прыстаць можа;
Тут яшчэ гэты нязмераны снег,
Ды ночка пусткай трывожа...

Трудная рада: да рання чакаць
Хвораму лекаў прыйшлося.
Бацька во сеў над сталом — не йдзе спаць,
Маці над сынам галосе.

Ноч на аддых — адзін міг мужыку,
Годам сыходзе — ў няшчасці.
Шмат іх, даўжэнькіх, ой, шмат на вяку,
Як жа к святлу тут папасці?..

Час бег... Апошняя стухла зара.
Неба бялее на ўсходзе.
Ну, Сцёпка! Ехаць і час, і пара,
Годзе маркоціцца, годзе!

З горада лекаў ты шмат навязеш,
Сын твой як бачыш устане!
Сільнай рукой пакіруе лямеш,
Свісне касой на світанні!

. . . . . . . . . . . . . . . . .

...Выехаў Сцёпка. Чуць-чуць стала днець.
Конік малы, зацяганы.
Сыпка дарога, след значан ледзь-ледзь,
Дзень хмураваты, вятраны...

Ехаў, даехаў Сцяпан наканец,
Грош апаследні пакінуў,
Лекаў набраў — і гайда маладзец!
Валіць дамоў, бедачына.

Валіць... Піліпаўкай, ведама ўсім,
Дню лік — гадзіна, не болей.
Выехаў з горада — цёмна зусім,
З конікам сам ён у полі.

З поўначы сівер наскочыў сухі,
Снегам стаў кідаць зласліва;
Шум ад завеі панёсся глухі,
Пеклам і неба, і ніва...

Конік Сцяпанаў нага за нагой
Пхнецца ў снягу па калені;
Пройдзе і стане, трасе галавой;
Пугу штораз чуе меней.

Пхнуўся, цягнуўся,— нарэшце, як стаў,
Далей ні кроку — трасецца.
Як яго Сцёпка ні гнаў-паганяў,
Хоць ты забі — ані з месца!

Шорах па целе Сцяпана пайшоў.
Страшныя родзяцца думы.
Шмат яшчэ вёрстаў дабрацца дамоў.
Грозяць сняжаныя шумы.

Што тут рабіць? Конь не хоча вязці,
Дома сын лекаў чакае...
Кінуць каня? Пехатою ісці?
Жаль, ды і ночка ж такая!

Ўсё ж сын мілей! — Лезе з санак Сцяпан.
Крыжам дарогу зазначыў;
Цяжка на сэрцы, у вочах туман,
Боскага свету не ўбачыш...

«Будзь здароў, косю! Хоць жаль мне цябе,—
Хворы Сымонка чакае!» —
Так шапнуў Сцёпка — і ў поле брыдзе,
Ў гурбах чуць ногі змяняе...

Шоў ён, шоў дружна, а дзе і куды
Збіўся, і сам тут не ведаў;
Сілы слабелі ад хуткай хады;
Думкі аб сыне йшлі следам.

Сціснe лякарства за пазухай ён,
Шэпча малітву да Бога,
І, хоць не першы раз гэткі нагон,
Крадзецца ў сэрцы трывога:

Што, калі зняў абрыдны яго блуд?
Як тады выйсці у вёску?
«Сядзь, адпачні,— штось яму шэпча тут,—
Вось дзе, пад гэту бярозку!»

«Праўда,— падумаў,— пара аддыхнуць,
Многа прайшоў ты, нябожа!»
Сеў і мацуецца, каб не заснуць,—
Ведаў, што стацца тут можа...

Звіўся клубочкам і ціха сядзіць;
Лёгкасць на сэрцы такая...
Толькі мяцеліца вые, шуміць,
Песні яму напявае:

«Спі, мой Сцяпанка, дзіцятка маё,
Я тут тваёю ўжо паняй!
Гэткай пасцелі не меў за жыццё,
Ў гэткай — і конь твой, і сані.

Сына спяшыш ты, сляпы, ратаваць?
Ну, і нашто ж гэтак рвацца?!
Лёгка ж табе было век гараваць,
З мачыхай-доляй змагацца?

Я ашчасліўлю, мой братка, цябе,
Ўбачышся быццам у небе;
Гора, бяда не падойдзе к табе,
Думаць не трэба аб хлебе.

Спі! Знаю, крыўды не раз зазнаў ты,
Братам не быў між братамі.
Я пашкадую цябе, сіраты,
Буду галубіць снягамі...

Меў жа прыпынак ты зносны калі,
Гонячы быт свой цыганскі?
Я з гулкай песняй: «Ай, люлі-люлі!»
Спраўлю начлег табе панскі.

Скончу я песеньку-байку сваю,
Зоры пачнуць усміхацца,
Будуць глядзець на спакойнасць тваю,
Будуць табой уцяшацца!..»

Гэтак над сонным завея пяе,
Гэтак яго калыхала;
І, што ж вы скажаце, людзі мае? —
Сцёпку навекі прыспала.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Збегла па гэтым дзён нешта са тры,
Тры дні — а шмат даказалі:
Ў Сцёпкавай хаце удвух сталяры
Дзве дамавіны збівалі.

З іх адну збілі для костак старых,
Сына ў другую злажылі —
І пахавалі па-божаму іх,
Родных, навекі ў магіле.

Сходзіўся ўдоўку пацешыць народ,
Братнім слаўцом адзываўся:
«Маеш адзін хоць расход і заход,
Крыжам адным абышлася!»

*1908*

## ЗА ШТО?

### I

Ой, мае вы песні,
Песні-весялушкі!
Будзьце мне слухмяны
Вы, мае пяюшкі.

Ці я сам у полі,
Ці я дзе з людзямі:
Цяжка мне, нялёгка,
Калі я не з вамі.

Мусіць, я памёр бы,
Каб мне вас не стала;
Мусіць, паваліўся б,
Як бярно-павала.

Дык жа будзем жыці
Разам днём ці ночай,
Пакуль сэрца б'ецца,
Пакуль плачуць вочы!

Гаварыце, думкі,
Пакуль сонца ходзе,
Аб маёй старонцы,
Аб маім народзе.

Хай нясецца жальба
Там, гэй, на прыволле
Аб той нашай крыўдзе,
Аб той горкай долі!

Можа, хто пачуе
Розгалас прастачы,
Ўстане і прагляне,
Ўсю няпраўду ўбача.

### II

У адным куточку
Беларусі нашай
Пры узгорку лесу,
Пры лагчынцы пашы,

Між кустоў, спрадлетаў
На пустым дзірване,
Пасяліўся Юрка,
Дзягель па празванню.

Туга йдзе спачатку
На такім загоне:
Ані тых будынкаў,
Ні ўзараных гоняў.

І наш Дзягель часта
Са сваёй сям'ёю
Зліўся, як за грошы,
Потам ды слязою.

Год за годам сходзіць.
Бачаць гаспадары:
Юрка арэ, сее,
Цярэбіць гушчары;

Чынш двару заплаціць
Талакой, грашыма
І жыве так, як бы
Ў Бога за плячыма.

Зацвілі загоны
Усялякім збожжам;
Як палацам, хатай
Пахваліцца можа.

Эй, бо што мужыцка
Праца не падоле?
Дзірваны ў сад зменіць,
А горы — на поле!

III

Сорак год так Дзягель
Жыў не ў кепскім стане,
Пакуль пан стары жыў
І старая пані.

Але, як той кажа,
Ўсё у нас не вечна:

Годзе Юрку жыці
З хлебам ды бяспечна!

Новы пан прыехаў
І змяніў парадкі:
Прыказалі Юрку
Выбірацца з хаткі.

А ці ж лёгка гэта?
Дый хто з вас не знае,
Як наш брат к зямельцы
Быццам прырастае.

З дзеда і на ўнука
Гэта пераходзіць,
Хаця тое поле
Родзіць ці не родзіць.

Бедны Юрка, бедны!
Звяў, як бы націна.
Шкода столькі працы,
Страшна цяганіна!

І пайшоў ён рады
Па судах шукаці;
І прапаў спакой з ёй,
Прапала багацце.

## IV

Год, другі праходзіць,
Суд ідзе па судзе;
Юрка ўсё бяднее,
Багацеюць людзі.

Дзе той спрыт падзеўся,
Дзе тое здароўе?
Ў хаце непарадкі,
Проста безгалоўе.

Тут жа суд апошні
І пастанаўленне:
Заплаціць расходы —
І на высяленне!

А было ўжо лета
На зямлі шырокай;
Сёмуха мінула,
Пётра недалёка;

Дабрыцо красуе,
Траўка зелянее.
Юрка кіне вокам —
Так і абамлее:

Ўся яго работа
Каля маткі-нівы
Пойдзе, як у процьму,
Марна, нешчасліва.

Дарма ён і к пану,
І к усякім членам —
Б'е паклон нізенькі
І гэтым, і гэным.

Станавы прыехаў
Выкідаць астаткі
З яго роднай ніўкі,
З яго роднай хаткі...

V

Спета Юркі песня,
Ўсё пайшло па свеце.
Жонка у пясочку,
Людзям служаць дзеці.

Сам ужо да працы
Стар і слабаваты,
З торбамі папхнуўся
Ад хаты да хаты.

Пусткаю зірнула
У яго прыселлі:
Ні плужок, ні збожжа
Вока не вяселяць.

Зноў зрастаюць гоні
Лазіною дзікай,

Зайцаў там ды соваў
Толькі чутны клікі.

Так звярцелась прахам
Доля чалавека,
Так усё ідзе ў нас
Ад века да века.

Можа, хто не верыць
Гэтай песні слёзаў?
Дык паслухай толькі
Гоману бярозаў;

Што крыжы гавораць
Пры пуціне кажнай,
Ды званы на вежы,
Што гудзяць так важна;

А яны раскажуць
Аб маёй старонцы,
На якую глянуць
Страшна нават сонцу...

*1908*

## УСТУП ДА ПАЭМЫ

I

Скінь, мой дружа, пыху з сэрца,
Скінь, вазьмі паслухай,
Што хачу тут расказаці
Думкай-маладухай.

Так, па-простаму, па-свойску —
Не магу іначай —
Стану баіць, гаманіці
Аб жыцці лядачым.

Сэрца сэрцам закалыша,
У душу загляне,—
Клок жыцця людскога возьме
І варочаць стане.

Хоць жа высмееш мо слова,
Злосці кінеш грудай,—
Хай па-твойму будзе, дружа,—
Жалю мець не буду.

Вось, калісьці, як узваліш
Лет на плечы многа,
Ўспомніш гэту казку-праўду
І ўздыхнеш з трывогай.

Курганоў-магіл без ліку
Накапаюць людзі,—
Ўсё схаваюць — шчасце, волю,—
Праўда жыці будзе.

II

Там, дзе Нёман віці гоне,
Дзе Вілля лялее,
Там, дзе песня аб Дунаю
Век плыве, як вея,—

Ў гэтым краі, ў Беларусі
Чаго ты не ўбачыш!

Ажна сэрца затрасецца
І душа заплача.

Ці то пушча, ці то поле,
Ці гасцінец біты,—
Ўсё аплакана людзямі,
Ўсё слязьмі абмыта.

На свет вывесці ўсё чыста,
Свету апісаці,—
З сэрца мусіш мець паперу,
Ў кроў пяро мачаці.

Сумаваці мусіш гэтак,
Як сумуюць хмары,
І зіхцець, як зіхацяцца
Сонцавы пажары.

Як твой воблік запануе
Зорна і крывава,—
Мо тады калі што выйдзе,
Мо дакажам славы.

*1909*

## КУРГАН

### I

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
    На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
    Ўдзірванелы курган векавечны.

Дуб галлё распусціў каранасты над ім,
    Сухазелле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім,—
    Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

На Купалле там птушка садзіцца, пяе,
    У Піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
    Ночкай зоры глядзяць залатыя.

Хмары неба ўсцілалі мо тысячу раз,
    Перуны білі з краю да краю,—
Ён стаіць — гэта памяць людская, паказ...
    Толькі гутарка ходзіць такая.

### II

На гары на крутой, на абвітай ракой,
    Лет назад таму сотня ці болей,
Белы хорам стаяў, недаступнай сцяной
    Грозна, думна глядзеў на прыволле.

У нагах у яго рассцілаўся абшар
    Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар,
    Хат з сям'ёй душ падданых, пакорных.

Князь у хораме жыў, слаўны свету ўсяму,
    Недаступны і грозны, як хорам;
Хто хацеў, не хацеў — біў паклоны яму,
    Спуску, ласкі не знаў непакорам.

Зневажаў, катаваў ён з дружынай сваей;
    Стражы князевы — ў полі і дома,
Толькі модлы раслі небу ў сэрцах людзей,
    І праклянцце расло пакрыёма.

## III

Раз бяседа вялікая ў князя была:
    На пасад дачку княжну садзілі;
За сталом він заморскіх крыніца цякла,
    Бегла музыка ўкруг на паўмілі.

На вяселле-разгул наплыло, як на сход,
    Госці знатных зусюль, за паўсвету,
Гэткай гучнай бяседы не помніў народ,
    Гэткіх скарбаў, брыльянтаў, саетаў!..

Дзень, другі ўжо грымела у князя гульня,
    І музыкі, і чаркі звінелі;
Выдумлялі забаў новых кожнага дня;
    Што хацелі — ўсяго госці мелі.

Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну
    Для дружыны пацеху-забаву:
Загадаў ён пазваць гусляра-старыну,
    Гусляра з яго ведамай славай.

## IV

Акалічны народ гуслі знаў гусляра;
    Песня-дума за сэрца хапала;
Вакол гэтай думы дудара-званара
    Казак дзіўных зложылась нямала.

Кажуць, толькі як выйдзе і ўдарыць як ён
    Па струнах з неадступнаю песняй,—
Сон злятае з павек, болю цішыцца стогн,
    Не шумяць ясакары, чарэсні;

Пушча-лес не шуміць, белка, лось не бяжыць,
    Салавей-птушка ў той час сціхае;
Паміж вольхаў рака, як штодзень, не бурліць,
    Паплаўкі рыба-плотка хавае.

Прытаіцца да моху русалка, лясун,
    Каня вечнага «піць» не заводзіць;
Пад звон-песню жывучых гуслявых струн
    Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць.

V

Прывяла гусляра з яго ніўных сяліб
Дворня князева ў хорам багаты;
Пасадзіла на ганку, між клёнаў і ліп,
На цагляным парозе магната.

Невыдумная світка — убор на плячах,
Барада, як снег белы — такая,
Незвычайны агонь у задумных вачах,
На каленях ляглі гуслі-баі.

Водзіць пальцам худым па сталёвых струнах,
К песні-музыцы ладзіцца, строе;
Водклік б'ецца ад струн па сцюдзёных сцянах,
Заміраючы ў сховах пакояў.

Вось настроіў, навёў тон у струнах як след,
Не зірнуўшы на гулі ні разу,
І сядзіць гэты сумны, як лунь, белы дзед
І чакае ад князя прыказу.

VI

— Што ж маўчыш ты, гусляр, ніў, лясоў песнябай,
Славай хат маіх подданых слаўны?!
Нам сягоння зайграй, нам сваіх песень дай,—
Князь умее плаціць незвычайна!

Запяеш па душы, дасі ўцехі гасцям —
Поўны гуслі насыплю дукатаў;
Не пад мысль песня будзе каму-небудзь нам —
Канапляную возьмеш заплату;

Знаеш славу маю, знаеш сілу маю...
— Многа знаю і чуў аб табе я,—
І я сам, як і ты, так табе запяю...
— Ну, пара пачынаць, дабрадзею! —

Гэтак слухае, выслухаў князя гусляр,
Заіскрыліся вочы сівыя,
Патануў у скляпеннях адзін, другі ўдар,
І заплакалі струны жывыя.

## VII

«Гэй ты, князь! Гэй, праслаўны на цэлы бел-свет!
Не такую задумаў ты думу,—
Не дае гуслярам сказу золата цвет,
Белых хорамаў п'яныя шумы.

Скурганіў бы душу чырванцом тваім я;
Гуслям, княжа, не пішуць законаў:
Небу справу здае сэрца, думка мая,
Сонцу, зорам, арлам толькі роўна.

Бачыш, княжа, загоны, лясы, сенажаць,—
Ім пакорны ■ толькі з гуслямі,
Сілен, княжа, караць, галаву сілен зняць,—
Не скуеш толькі дум ланцугамі.

Слаўен, грозен і ты, і твой хорам-астрог,
Б'е ад сцен-цэгел лёдам зімовым;
Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,
І душу — як скляпоў гэтых сховы.

## VIII

Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
Сарачні там сох бачыш, як блудзе;
А ці чуў ты, аб чым там араты пяе,
Дзе і як жывуць гэтыя людзі?

Глянь у лёхі свае, ў падзямеллі глянь, князь,
Што настроіў пад хорамам гэтым:
Брацці корчацца там, табой кінуты ў гразь,
Чэрві точаць жывых іх, раздзетых.

Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
Ці ж прыгледзеўся, хорамны княжа?
Кроў на золаце гэтым людская бліщчыць,
Кроў, якой і твая моц не змажа.

Ты брыльянтамі ўсыпаў атласы і шоўк —
Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
Гэта вісельні петляў развіты шнурок,
Гэта, княжа, твае саматканы.

## IX

Стол ты ўставіў ядой, косцей шмат пад сталом,—
Гэта косці бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным вінам,—
Гэта слёзы нядолі сірочай.

Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл,
Адшліфованы цэгла і камень,—
Гэта — памяткі-пліты з няўчасных магіл,
Гэта — сэрцаў скамененых пламень.

Люба чуці табе скочнай музыкі звон:
Ты, дружына п'яцё асалоду,—
А ці ўслухаўся ты, як плыве і яе стогн,
Стогн праклянцця табе, твайму роду?!

Ты збялеў, ты дрыжыш, слаўны княжа-ўладар!
Госці хмурны, і дворня знямела...
Ну, што, княжа? пара даць за песню мне дар!
Выбачай, калі спеў мо няўмела».

## X

Князь стаіць, князь маўчыць, жуда, помста б'е з воч;
Гулі зглухлі: ні жартаў, ні смехаў...
Думаў князь, выдумляў, грымнуў шабляй наўзбоч,
Толькі з лёскатам выбегла рэха.

— Гэй ты, сонцу раўня, не на тое пазваў
На вяселле цябе сваёй княжны!..
Ты — шалёны старык, хто цябе дзе хаваў?
Ты, знаць, вырадак цемры сярмяжнай.

Ты адважыўся мне на сляпы перакор
Вызваняці сусветныя трэлі;
Платы маю шмат я для такіх непакор,
Хто сябе проці мне стаць асмеліў.

Я па-князеўску ўсім і плачу, і люблю!
Ты не хочаш дукатаў — не трэба!..
Ўзяці старца і гуслі жыўцом у зямлю!
Знае хай, хто тут пан: я — ці неба!

## XI

Падхапілі, ўзялі гусляра-старыка,
    Гуслі разам яго самагуды;
Па-над бераг круты, дзе шумела рака,
    Павялі, паняслі на загубу.

Месца выбралі здатнае, вырылі дол,
    Дол тры сажні шырокі, глыбокі;
Закапалі, убілі асінавы кол,
    Далі насып тры сажні высокі.

Не часалі дамоўкі яму сталяры,
    Не заплакалі бліжнія вочы;
Змоўклі гуслі і ён з той пары — да пары;
    Сум і сціша залеглі, як ночай.

Толькі князеўскі хорам гудзеў, не маўчаў:
    Шалы, музыка ў тахт рагаталі;
Не адну віна бочку князь кончыў, пачаў:
    Шлюб-вяселле ўсё княжны гулялі.

## XII

Пацяклі, паплылі за гадамі гады...
    На гусляравым наспе жвіровым
Палыны узышлі, вырас дуб малады,
    Зашумеў непанятлівым словам.

Лет за сотню звёў час, ці і болей мо лет,
    Зацвілі пераказы ў народзе;
Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гуслямі дзед
    З кургана, як снег, белы выходзе.

Гуслі строіць свае, струны звонка звіняць.
    Жменяй водзіць па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
    І на месяц глядзіць, як сам, белы.

Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той,
    Не зазнаў бы ніколі ўжо гора...
Можна тут веру даць, толькі слухаць душой...
    Курганы шмат чаго нам гавораць.

*1910*

## УРЫВАК З ПАЭМЫ

Дзе хмары чэзлі, то зноў віслі,
З-пад зор, з-пад блудных светачоў
Ні вокам людскім, ані мысляй
Нязгадны цень ка мне зыйшоў.

І за руку маю узяўшы,
На высь узвёўшы хат вышэй,
Сказаў: — Глядзі — во ўсё тут наша,—
Глядзі, цярпі і разумей!

Ляглі нязгледжаныя далі
(Як сокал, бачыць мог я ўсё),
Пустыні вецвем замахалі,
Паляны множылі жыццё.

Між гор шапталіся крыніцы,
Ляпіўся мох да стрэх з драніц,
Тырчэлі хвойныя капліцы,
Цвілі магілкі ля капліц.

Было, знаць, неякае свята
Няшлюбных з новізнай людзей,—
Шарсцелі світачныя шаты,
Лаза ўхмылялася з лапцей.

Гудзеў, каціўся звон вячовы,
Пужліва бор-лес падцінаў,
Ля цёмнай вецвістай дубровы
Народ збіраўся і чакаў.

Адны ў руках трымалі дары
Сваім прыбліжаным багам,
Другія ўспаміналі чары,
Шоў гоман сцішны сям і там.

Жалейкі, дуды красавалі —
Прылады свойскія музык,
Цапы і вілы ўвысь сягалі,
Як быў абшар далёк, вялік.

Народ чагосьці знебываўся,
Гуд недавольства плыў і плыў,—
Прызванне чулася не ў часе,
Няспелы колас рваўся з ніў.

Так хваляваўся гмін народны,
Пад высяй той, дзе я стаяў,
Дзень варажыўся быць лагодным,
Вей-вецер воблакі зганяў.

Чагось чакалі грамадзяне,
Ў вачах палаў надзеі жар,—
Пад смерць, здаецца, кожны стане,
Адвагай мітусіўся твар.

І вось у гэтую часіну
Да іх там·дыбаў цудадзей,
Слуга патайнасці прадзіўнай,
Надчалавек, хоць і з людзей.

Яму слухмяны былі хмары,
Народу сказ даваў свайму:
Якія мільшыя ахвяры
Багам, панятлівым яму.

Зрабіць, раскідаць мог ён дзівы,
Накінуць чары сяк і так;
Быў гэты верны і праўдзівы
Паганскіх мольбішчаў стражак.

Як толькі стаў паміж народам,
Заціх вячовы пераклік,
І ўзбегла песня карагодам,
Ёй пакарыўся мал, вялік.

Здаецца, сонца яе чула,
І просты звер, і ваўкалак,
Усіх, здаецца, ўскалынула...
А песня пела, пела так:

### ПЕСНЯ-МАЛІТВА

О, богі рэк, лясоў і ніваў!
Дажбог, багамі свету дан,
Пярун блыскотны і грымлівы,
І ты, Купала, светач тайн,—

Зірніце міласцяй сваею,
Ўсе моцы вышліце на бой,

Хай распапеляць зла навею
Над упадаўшай старaной.

Цярэбіць стальнаю сякерай
Прыблуднік нашыя лясы,
Ў свае цянёты вабіць звера,
Святыя топча верасы.

Князі, наклікaныя намі,
Разлікі між сабой вядуць,
Лукі з атрутнымі страламі
Проць нас спяшацца нацягнуць.

Адлогам лягуць скора нівы,
Узняты нашаю рукой,
Крыніц жывыя пералівы
Закалатушацца крывёй.

Адна на вас надзея, богі,
Нясем належную вам дань,
Зірніце ў нашыя парогі,
Паўстанем — клікніце: паўстань!

---

Натхнёна гэтак пеў, заводзіў
Рой чалавечы на свой лад,—
Рака шуміць так у разводдзе,
Так стогне ў буру сосен рад.

Замерла песня. Грозна рэхі
Пайшлі па пушчах, па лясох,
Аж сціхлі птушчыныя смехі,
Аж вецер сцішыцца не мог.

З пакорай звесіўшы галовы,
Стаіць народ, маўчыць народ,
Сказаць аўтарнік мусіць слова,
Недарма з неба вядзе род.

Тады ізноў пачуўся голас
Дажбога вернага слугі,—
Шуміць наспелы гэтак колас,
Па ніве коцяцца кругі:

— Нам трэба к бою рыхтавацца,—
Не спіць над намі вораг наш,—

Нам трэба сілаю трымацца
Сваіх святынь, духоўных паш!

Вось я, пастаўлены над вамі
Вышэйшай моцай небных сіл,
Старэйшы думкай і гадамі,
Змятаю ашуканства пыл.

Пара, пара ўжо агарнуцца
І гартам высталіць свой дух,
Пакуль здрадліва пранясуцца
Званы заломных злыбядух!

Сваёй рукой я прызначаю
Дванаццаць выбраных між вас,—
Жалейку кожны атрымае
І перайме такі наказ:

«З жалейкай кожны хай сваею
Не расстаецца ўвесь свой век,
Заве і верай і надзеяй
Слязу і ўцеху з-пад павек.

Радзімым словам у цярпенні
Звініць пагудкаю братам
І з пакалення ў пакаленне
Перадавае сваякам.

Дакуль свайго не здрадзіць слова
Свая народная рука,
Датуль з галін святой дубровы
Чужняк не сцягне і лістка.

Дык вось, жалейкі вы бярыце,
Ў дванаццаць месц кладзіце след:
Дванаццаць ветраў сустракніце,
Дванаццаць выправіце ў свет!

Дзе толькі ступіце, знямее
Нямая чорная напасць.
Ніхто чапіць вас не пасмее,
Усякі вам дарогу дасць.

Трутнёў не будзеце забавай,
Краіны вольнае сыны,

Прамчыцца бурна ваша слава
На ўсе чатыры стараны.

А нашы хаты, нашы сёлы
Хай з думкай носяцца аднэй:
Як гэты обшар невясёлы
Абхарашыці багацей.

Хай ставяць цвёрдыя запоры
Перад навалаю чужой,
Глядзяць і моляцца на зоры
Усёй раднёй, усёй сям'ёй.

Цяпер прашу вас адабрацца
Ў вянок адборных галасоў:
Дзяўчат дванаццаць па дванаццаць
І столькі сама дзецюкоў.

Агонь аўтарны разлажыце,
Ахвяру небу аддадзім,
Няпраўды толькі не будзіце,
Хай спіць пад полагам сваім.

І песню спейце на пращчанне,—
Мы, старцы, будзем слухаць вас,—
Дзядам хай нашым лёгка стане,
Што вера, песня госце ў нас».

І стала так, як старац гэты
Сказаў пакорнай грамадзе,—
Аўтар заняўся перасветам,
Ад песні розгалас ідзе.

На небе змены загасцілі,
Вясёлак выплылі кругі.
Патайна хмары гаманілі,
Лучыўся з песняй шум глухі.

Але вось з захаду з-за бору,
На від не мал і не вялік,
У чужаземецкім уборы
Брыдзе-йдзе нейкі чараўнік.

З-пад світкі чорнай даўгаполай
Блішчэла бляха наўскасяк,

Пры боку меч матаўся голы,
На світцы — нейкі страшны знак.

Народ здзівіўся, як загледзеў,
Заварушыўся, зашумеў:
«Вы так не рушыцесь, мядзведзі,
Ты так не страшны, сільны леў!»

Аўтарнік тайную малітву
Паціху над людзьмі тварыў,—
Ён бачыў будучыя бітвы,
Ён новых ворагаў адкрыў.

— Скажы: скуль ты? якому сонцу
Твая паклон б'е старана? —
Звярнуўся так да незнаёмца
Прыбочнік верны Перуна.—

Чаго прыйшоў, чаго ты хочаш
Ад гэтых жыхароў пустынь?
Чым нашы душы замарочыш?
Пакінь ты лепей нас, пакінь!

З цябе нядобры вецер вее,
Па трупах ты, відаць, ішоў.
Скажы нам, хто цябе асмеліў
Да нашых зближыцца каўшоў?

— Чакай, чакай, так не расходзься!
Не трэба слова мне твайго:
Я з далі дальняй к вам прыплёўся,—
Пасланец бога я свайго.

Я вам нясу другую веру,
Я вам нясу багоў другіх,
Вам толькі адчыняці дзверы
І гнаць багоў старых сваіх.

Хлеб свой ад'елі богі вашы,
Мой бог — зямлі ўсёй чыста бог!
Багоў я вашых ім адстрашу
І кіну вас да яго ног.

Так гаварыў прыблуднік ночы,
Народ і слухаў, і маўчаў,

Але як скончыў, люд не змоўчыў:
Разгаманіўся, закрычаў:

— Як смееш здзекавацца гэтак
Ад свайго бога-павука!
Цямрук ілжывы, прайдзісвета,
Пасол ты ліса ці ваўка!

Прэч, прэч! З сваёй святой павагай
Прыйшоў нас толькі зневажаць!
Заплоціш смерцю за знявагу,—
Багоў не нашых табе гнаць!

Як шум асенняга вятрыска,
Лунаўся розгалас сляпы,
Тапор завостраны заблыскаў,
Грымнулі вілы і цапы.

Людское помсты дух узняўся,
Ста віхраў свісты ніпачым,
Суд і расправа пачалася
Над тым прарокам прыблудным.

Крыві расіны заблішчэлі
На чорнай стоптанай зямлі;
Лёг незнаёмы на пасцелі,
На той, дзе ўсе на той свет шлі.

Дубовай кованай лапатай
Глыбокі выкапалі дол,
Злажылі брата ці не брата
Сыны крывіцкіх ціхіх сёл.

Уняўся гоман надхаўтурны,
Запанавала цішына,
Пагляд паважны і пахмурны
На час адзела старана.
. . . . . . . . . . . . . . .

*1910*

## НА КУЦЦЮ

### I

На небе зоры ўжо мігцяць,
На полі срэбны снег іскрыцца;
На бел-свет дзівы выпраўляць
Пляцецца ночка-чараўніца.

Глуш абнялася з цішынёй
І спавівае ўсё у чары,
Паўзуць і сеюць шорах свой
Старым парадкам цені-мары.

Вылазіць з цемры бледны звод,
Глядзіць сліўнём на долы, горы
І тут і там пускае ў ход
Свае нямыя загаворы.

І тут і тамка свой прыгон
Распасцірае царства ночы;
Салодкі сон, магільны сон
Смяецца свету ўсяму ў вочы.

### II

Заныла ўсё, замёрла ўсё,—
Не спіць адвечнае замчышча:
Там пачынаецца жыццё
Ў агнёх старога папялішча.

Іскрыстым, бліскатным святлом
Заліты княжскія святліцы,
Дружына вольная кругом
Сталоў дубовых варушыцца.

Залататканы абрусы
З сталоў звісаюць дыванамі,
На абрусох чысцей расы
Віно красуецца каўшамі.

Духі мінуўшчыны Куццю
На старасвецкі лад спраўляюць.
Даўно бываламу жыццю
Дары належныя складаюць.

### III

На беласнежны на пасад
Усходзіць князь, усходзіць княжна;
За імі слуг пачэсны рад
Стаіць задумліва, суважна.

Агні брыльянтаў, як зарніц,
Зіяюць з княжацкай кароны,—
Краса б'е з князеўных зраніц,
Як бліск маланак развуглёны.

Звярнулі вочы ўсе ў іх бок,
Прымоўклі гоманы дружыны;
Усіх званых зблізку і здалёк
Саколім вокам князь акінуў.

Бярэ коўш соладка віна,
П'е за дружыну маладую,
І княжна з князем п'е да дна;
Князь гутарку павёў такую.

### IV

«Адзін, адзін раз толькі ў год
Збірацца можна з ласкі рока,
Каб год іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай.

Нас не кранулі косы змен:
Царым мы ў дум жывых гэйнале,
Хоць на падмурах гэтых сцен
Другія наш пасад занялі.

Багі другія верх бяруць,
Суды вядуць над нашым краем,
Свяцільні ж нашы не замруць,
Што ў сэрцах вольных рассвятляем.

Прашу паклікаці ганцоў
І месца даці ім па чэсці:
Ад нашых стоптаных капцоў
Якія нам прыносяць весці?..»

## V

Закончыў князь, махнуў рукой;
Уходзяць тры ганцы ў святліцу,
Ідуць суважнаю ступой
І князю й княжне пакланіцца.

А першы гэткі светлы быў,
Як небам сланыя прамені:
Ў руцэ меў светач, што на здзіў
Усе усюды зводзіў цені.

А быў другі і з ног і з рук,
Як гром з жывымі перунамі:
Ў руцэ меў стрэл жалезных пук,
І лук стальны меў за плячамі.

А трэці быў і раб і цар,
І слаб і дуж ва ўсякім дзеле,
Як вечнасць, молад быў і стар;
Меў гуслі — на грудзёх віселі.

## VI

І першы князю гэткі сказ
І княжне скажа міласцівай:
«Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яшчэ ўсе жывы.

А толькі ўсё той самы лад:
З вачэй не зняты йшчэ павязкі,
Ці йдуць уперад ці назад,
Відны сляды цямрычнай ласкі.

А як ішоў між іх з святлом,
Яны пачулі, ах, пачулі:
Сляпым замораныя сном,
Худыя рукі ўвысь цягнулі.

За мною ўсцяж, і тут і там,
Іх вусны бледныя шапталі:
«Аддайце сонца наша нам!
Нашто схавалі-расхапалі?»

VII

Другі за першым князю сказ
І княжне скажа міласцівай:
«Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яны ўсе жывы?»

А топчуць толькі ўсё той след,
Валочаць ёрмы за сабою;
Ці ўбачаць корч, ці ўбачаць свет,
Аднэю жаляцца слязою.

А як чапнуў стралой аб лук,
Яны скрануліся ў прасонні,
І столькі, столькі крэпкіх рук
К маёй пацíснулася броні.

За мною ўсцяж, і тут і там,
Іх вусны бедныя шапталі:
«Аддайце славу нашу нам!
Нашто схавалі-расхапалі?»

VIII

І трэці князю гэткі сказ
І княжне скажа міласцівай:
«Я абышоў іх тройчы раз
І відзеў, што яны ўсе жывы.

А толькі торг усё ідзе
Над іх душою пантаптанай;
Яны, як цені, ў грамадзе
Маўчаць і йдуць на пір паганы.

А як я ўдарыў па струне,
Замітусіліся, як пчолы,
І на гарэ і нізіне
Мне падавалі голас кволы.

За мною ўсцяж, і тут і там,
Іх вусны бедныя шапталі:
«Аддайце песню нашу нам!
Нашто схавалі-расхапалі?»

## IX

Сказаўшы так, маўчаць ганцы,
Маўчыць і князь крыху часіны
І дасць адказ такі ў канцы
Ганцом на іхнія навіны:

«Не ўмруць, не ўмруць ужо яны,
Раз хочуць сонца, славы, песні;
Заб'юць ім зычныя званы
Прабудным звонам напрадвесні.

Сваёй забранай старане,
Скаванай мучальніцы-княжне,
Ўзнясуць пасад на кургане
На панаванне недасяжне.

На дзеле — кожны йшчэ слугой,
У думках — вольныя ўжо людзі;
Над сэрцам іх, над іх душой
Наш дух лунаці вечна будзе.

## X

Вы, другі верныя, ганцы,
Як летась, сёлета, налета
Ўсе пагранічныя капцы
Абходзьце зноў з маім прыветам.

Гуслямі, лукам і святлом
Будзіце, клічце і свяціце
І так спануйце іхнім сном,
Каб сон іх шчэз і ўсталі жыці.

А покуль поўнач не прыйшла,
Вясці бяседу будзем далей;
Засядзьце ўсе кругом стала,
Хай звініць віно ў крышталі.

А чарку першую ўзнясём
За цень мінуўшчыны у сеці,
Другой к цяпершчыне прап'ём,
Праславім будучыню трэцяй».

## XI

Садзіцца княжна, князь, кругом
Садзіцца вольная дружына;
Шуміць бяседа за сталом,
Плыве часіна за часінай.

І разгараецца ясней
Паходня радасці забытай
І светазарнасці сваей
Вясёлкі сее самавіты.

Ямчэй нацягваецца лук,
Цэль рассякаюць агнястрэлы,
Дрыжыць паўчына і павук,
Дрыжыць прыблудак ачарнелы.

Ракочуць гуслі звон у звон,
На бел-свет розгалас нясецца,
Як бел-свет, коціцца разгон
І ў думцы казкай раздаецца.

## XII

Плыве шумліва, як рака,
Бяседа вольная такая,
А ўжо нявідзіма рука
На небе поўнач адзначае.

Залопаў крыллямі пятух,—
І ціхне-ціхне ўсё ў замчышчы;
Замоўк разгул, агонь патух,
Старое згасла папялішча.

На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў,
Пуціну заяц перамерыў...
А быў тут хто або не быў,—
І так і гэтак мала веры.

І так і гэтак свой прыгон
Распасцірае царства ночы:
Салодкі сон, магільны сон
Смяецца свету ўсяму ў вочы.

*1911*

## ГАРЫСЛАВА

«Не хочу разути рабынича, а за Ярополка иду!»

*(З адказу Рагнеды — княжны полацкай, Уладзіміру — князю ноўгарадскаму)*

### ПРАДМОВА

Гэй, павейце, разгуляйцеся,
Ветры вольны, лёгкакрылыя,
Над старонкай над крывіцкаю
Зашуміце, неўгамонныя.
Паміж небам і зямліцаю
Віхрам-птахам пранясіцеся,
Леты даўна прамінуўшыя
Уздымайце з чорна попелу.
Ўскалыхніце сэрцам каменным,
Звонам-вечам ды ўсё полацкім —
Хай звон звонка разгамоніцца
Дый раскажа быль бывалую.
Быль бывалую пра доч князеву,
Ту красавіцу ненаглядную,
Пра ту княжну пра свабодную,
Што Рагнедай называлася,
А пасля, што з гора горкага
Стала звацісь Гарыславаю,
А гардыняй недаступнаю
Кругом-вокала праславілась.
Пра яе вы, звоны вечавы,
Ветры буйныя, свабодныя,
Раскажыце свету цэламу
Быль бывалу ў землях Полацкіх.

### I

Даўно-даўно было ўжо гэта,
Як там у запісах стаіць,
Дзе пішуць: вось такога лета
Было, павінна тое быць.
Шмат хмары вылілі вадзіцы,
Навек заснуў бор не адзін
І шмат павысахла крыніцаў

За гэты час. Патомак-сын
Бацькоў, застыўшых у магіле,
Забыўся ўжо аб іх жыцці —
Аб тым, як дома лад вадзілі,
Як на вайну умелі йсці
І як у славе уміралі
За чэсць і волюшку сваю.
Забыўся сын аб быўшай хвале,
Ў прыгон прадаў сябе, сям'ю.
Расою здоблючы чырвонай
Свае загоны і лугі,
Прыблуднай чэрні б'е паклоны,
Куе сабе сам ланцугі.
На батракоў здаліся ўнукі
На вольнай прадзедаў зямлі,
Пайшлі ў няволю без прынукі,
Як па вяровачцы пайшлі.
І праслаўляюць мазалямі
Парабаціцеляў сваіх,
Сябе згубіўшы між людзямі,
Паміж мучыцеляў глухіх.
Няма нікому заступіцца,
Збудзіць заснуўшыя званы,
Прызваць к жыццю жывой расіцай
Нямыя сведкі-курганы.
Так растачыла зніштажэнне
Сваё ўладарства ў старане,
Што воляй рдзела неадменне,
Як тое сонца ў вышыне.
Адно падчас у сумнай песні
Або у казцы дзе якой
Край праўды выгляне з-пад плесні
І ўскалыхне жывой душой.
Нямыя вербы над ракою
Зашалясцяць сухім лістом,
А далей дрэме ўсё ў спакою,
Ўсё спіць магільным рабскім сном.
Калі ж, калі ты, родна маці,
Старонка бедная мая,
Пачнеш ізноў выводзіць раці,
Да нова збудзішся жыцця?..

*1912*

## НА ДЗЯДЫ

Хто там стогне так на ўзмежку,
На капцы у полі?
Як згубіўшы к долі сцежку,
Як не знаўшы долі.

Ці там вецер водзіць гулі
Так па самагубе,—
Бы сваё дзіцё матуля
Песціць ды галубе?

Ці над бацькаўскай магілай
Жаліцца сіротка,
Ці сваёй шукае мілай
Хлопец-адзінотка?

Ой, не плача брат над братам
На мяжы кургана,
А бядуе так душа там —
Звязана, скавана.

Хто умее слухаць, можа
Шмат пачуць чаго там;
Як прычытвае, нябожа,
Бы Лазар пад плотам.

Не жылося мне даўней так
(Льецца гэткі голас),
Не такі мой быў палетак,
Іншы меў ён колас.

Шла мая ў даль дзіва-сіла,
Як бы хвалі Нёмну;
На касе сваёй насіла
Княжацку карону.

Ніў маіх ніхто б не змерыў,
Не злічыў сялібаў;
Мела ў пушчах многа звера,
Многа ў водах рыбы.

Засядала, расцвітала
За гадамі годы;
Залатыя думкі ткала
З шчасця і свабоды.

Мелі страж гранічны вехі;
Гадавала дзетак
І чакала з іх пацехі,
Як вясною з кветак.

Трох сыноў дала судзьбіна
Да майго парога,
А такія — сын у сына,
Як нідзе, ні ў кога!

Іх пясціла, як умела,
Ласкаю вясёлай;
Красак, сонца не жалела
Я для іх, саколаў.

І раслі яны, раслі так,
Мае княжаняты,
На багацце, на прыбытак,
На весь тое свята.

Як са мною будуць разам
Жыці, панаваці,
Славы быць жывым абразам
У людзей і ў хаце...

Бегам беглі дні і ночкі,
Леты за лятамі...
І павыраслі сыночкі
Самі, як не самі,

Як дубы у полі чыстым,
Як сасонкі ў боры,
Як у небе абадзістым
Тыя свечкі-зоры,—

Так магутны, яснасветны
На пагляд былі ўсе,
Хоць да бою з апраметнай...
Ажна свет дзівіўся!

Ды ўдаліся, ой, сынкі мне
Не аднэй натуры,
Як бы тыя ноткі ў гімне
Цішы і віхуры.

Працавітага быў першы
Складу і нагібу,
Так, здаецца, што й памершы
Ўсё араў, касіў бы.

За другім была ахвота
Ķ лежні, к панаванню;
За чужой бы жыў работай,
Спаў бы да змяркання.

Трэці ўсіх бы толькі мучыў —
Склад меў быці катам,
З паганякаю на ўзруччы
Ķ здзекам быў заўзятым.

Вось такой натуры, складу
Ў іх я дачакала;
На дарма, як мёд-прынаду,
Думка ў думку ткала.

Не прышлось мне жыць на свеце
Ў славе і дастатку:
Загубілі родны дзеці,
Загубілі матку.

І сярэдні, і малодшы,
Родныя дзяціны,
Як мая — пайшлі к салодшай
Ласцы без прычыны.

Ў свет збрылі чужы дзівіцца,
Гнуць у ёрмы шыі...
І ўтапілі ў чужаніцы
Душы маладыя.

Заставаўся толькі старшы
Гаспадарыць дома,
Бо ад тых быў гаспадаршы,
Хоць быў ў іх за лома.

Заставалася адна я,
Сын адзін са мною,
Як той путнік на расстаі,
Летам і зімою.

Сяк ці так, жылось паволі
Ў палавіне з горам —
Тым у хаце, тым на полі,
А другім за морам.

Аж дакучыла, знаць, далей
Недзе так бадзяцца,
І сынкі збірацца сталі,
Ззадалёк вяртацца.

Як прыйшоў дамоў сярэдні,
Выглядаў багата,
Й не пазнаў, як звер паследні,
Ні мяне, ні брата.

Ў плуг запрог свайго браточка
Навек, да скanання,
А мяне асенняй ночкай
Выгнаў на бадзянне.

Як дамоў вярнуўся меншы,
Свету як увідзеў,—
Аказаўся дасціпнейшы,
Чым сярэдні, ў крыўдзе.

Над старэйшым братам ставіў
Стражы і запоры,
Цела ранамі крывавіў,
Здзекаваўся ў горы.

Здзекі далей строіць дай жа,
Ласку з сэрца выжыў:
Суд судзіў, што я — не я ўжо,
І распяў на крыжы.

Так мая краса завяла
І маёй сялібы!
Ліхата апанавала
І капцы, і скібы.

Адплацілі роднай матцы
Княжаняты-дзеці:
Відмай кінулі бадзяцца,
Сіратой гібеці.

Ходзяць, гоняць сухавеі
Праўданьку святую;
Брата брат не разумее,
Брата брат катуе.

Я на гэтым на кургане
Ўсё сяджу і плачу,
Ўсё чакаю змілавання,
Дый ніскуль не бачу.

Ці апомняцца сыночкі
У сваёй правіне?
Ці загінуць сярод ночкі,
Што і след загіне?..

. . . . . . . . . . . . . . .

Стогнуць ветрам калыханы
Ліпы ды бярозы,
А ноч сее скрозь туманы
Золь, слату, як слёзы.

Лапацяць крыламі жудка
Кажаны, начніцы,
Як бы суд спраўлялі тутка
Ведзьмы-чараўніцы.

А душа сама — без хаты,
Знаць, з вялікай мукі
То зрывае з сябе шаты,
То ў крыж зложыць рукі,

То паказвае на плечы,
То капец абойме...
Бог яго усё дарэчы
Зразумее, пойме!

Можа, з іншага хто краю
Скеміў бы сумленне,
Што яна там вычварае
З жалю і цярпення.

Што нам кажа ночкай цёмнай
На мяжы ў пракляцці,
Як Дзяды ў нас векапомны
Стануць адпраўляці.

*1912*

## БАНДАРОЎНА

*(З народнай песні)*

I

Не віхор калыша лесам,
Не ваўкі заводзяць,
Не разбойнікі талпою
За дабычай ходзяць.

На Ўкраіне пан Патоцкі,
Пан з Канёва родам,
З сваёй хеўрай гаспадарыць
Над бедным народам.

Дзе заедзе, банкятуе
Сам ён, яго варта;
Ні старому, ні малому
Не спускае жартаў.

Калі ж дзе ўпадзе у вока
Хараство дзявоча,—
Абняславіць, абнячэсціць,
Бацьку плюне ў вочы.

Стогне змучана Ўкраіна,
К небу шле пракляцце,
Ды Патоцкага збаўляе
Хеўра і багацце.

Да сягоння жыве памяць
Аб злым гэтым дусе
На ўсёй чыста Украіне
І на Беларусі.

Ў сёлах, як клялі дагэтуль,
Так і праклінаюць,
У палацах яго толькі
Міла ўспамінаюць.

Аб прыгожай Бандароўне
І аб справах пана
Засталася у народзе
Песня здавен-даўна.

II

Ў слаўным месце Берастэчку —
Слаўны Бандарэнка,
Ў яго дочка — Бандароўна,
Пашукаць — паненка.

Хараства такога ў свеце
Не было, не будзе;
Аб ёй людзі гаварылі,
Як аб нейкім цудзе.

Як маліны, яе губкі,
А твар, як лілея,
Як дзве зоркі, яе вочы,
Гляне — свет яснее.

З плеч сплываюць яе косы,
Як бы сонца косы,
І іскрацца, як на сонцы
Брыльянцісты росы.

Рост высокі, стан павабны,
Ўся, як цень, павеўна,
Як ідзе яна, бывала,—
Набок каралеўна!

А сягоння ж выглядае
Лепей, як заўсёды,—
У карчомцы з казакамі
Цешыцца з свабоды.

У гульні сама рэй водзіць,
Весела міргае,
Задзіўляе усіх чыста,
Як зара якая.

Ой, гуляй жа, Бандароўна,
З вечара да ранку!
Цябе вораг ужо сочыць,
Сочыць на каханку.

III

К таму часу ў Берастэчка
К дружыне казачай
Прыблукаўся пан Патоцкі
З хеўраю лядачай.

Як пачуў ён у карчомцы
Зычную забаву,
Туды йдзе сваю бясчэсну
Паказаці славу.

Банкятуе з казакамі,
Мёд, віно п'е квартай,
К маладзіцам і дзяўчатам
Лезе смоллю ў жарты.

А найгорай к Бандароўне
Ён прыстаў абрыдна;
Цалаваць, абняці хоча,
Ажно глянуць стыдна.

Асцярожна, пан Канеўскі!
Будзе ліха, будзе,
Не забудзься, што сумленне
Ёсць і ў простым людзе!

Не папусціць ў крыўду славу,
Славу ды свабоду,
Хоць і дуж ты, і багаты,
Ды панскага роду.

Ох, патрапіць народ часам
За сябе ўступіцца,—
Зруйнаваць палацы вашы,
Вашай кроўю ўпіцца...

Лезе пан да Бандароўны,
Ўвесь гарыць, бы ў жары;
Тая, жартаў не пазнаўшы,
З'ехала па твары.

## IV

Жудка, жудка дым пажарны
Бухае уночы,
А жудчэй яшчэ у пана
Задымелі вочы.

Выгражае кулакамі
Ўсёй казачай брацці:
— Ўсе адказ дасцё мне зараз —
Дочка, бацька, маці!

— Асцярожна, ясны пане,
З грозьбамі сваімі! —
Забурчала старшына ўся,
А моладзь — за імі.

Выбег з хаты пан Патоцкі
Звацъ сваю дружыну,
А старэйшы людзі вучаць
Бедную дзяўчыну:

— Уцякай жа за пагодай,
Донька маладая,
Покі дзень засвеціць ясны,
Покі сіл хапае!

Пан з Канёва не даруе
Хараству тваёму,
Як не ўмее дараваці
Ён нідзе нікому.

Уцякала Бандароўна
Ў поле з цёплай хаты,
Абымала яе ночка,
А вецер крылаты

Расплятаў ёй косы буйны,
Песціў белы грудзі;
Болей жалю меў над ёю,
Як якія людзі.

V

Уцякала Бандароўна
Ды паміж платамі,
А за ёю тры гайдукі
З голымі шаблямі.

Бегла поле і другое,
Ўзбегла і на трэцце,
Ды ўжо сілы не хапае
Далей так ляцеці.

Ой, няшчасна Бандароўна,
Адпачні часіну,
Памаліся за сябе ты,
За сваю Ўкраіну!

На сырой прыляж зямельцы,
Атулісь касою,
Няхай сэрцайка дзявоча
Прыйдзе да спакою.

Думай думкі, што чыніці
У бядзе паганай,
Калі панскія служакі
Прывядуць да пана!

Не прыйшлося спачываці
Доўга Бандароўне,—
Наляцела, адшукала
Дзікая пагоня.

З дзікім смехам учапілісь
За косы і рукі,
Пацягнулі нешчасліву
На вялікі мукі.

Ночка цёмная глядзела
Ды цямнейша стала,
Адна зорка мігацела —
І тая прапала.

## VI

Хто галубку убароніць,
Ўсцеражэ ад згубы,
Як няўбачна пападзецца
Ў каршуновы дзюбы.

Вырве сэрцайка няшчаснай,
Вып'е кроў чырвону,
Застануцца толькі косці
На зямліцы соннай.

Застанецца памяць толькі
Ў стадзе галубіным,
Што ім выдзер хтось галубку
Крыважадным чынам...

Прыцягнулі Бандароўну
К пану у святліцу,
Як праступніцу якую
Ці як чараўніцу.

Ўбор дзявочы абарваны,
Зблытаныя косы,
Ў вочках толькі рдзяцца слёзы,
Як улетку росы.

Ці то слёзы з крыўды страшнай,
Ці з бяссільнай злосці,
Што к чужынцу без пытання
Прывялі у госці.

І стаіць яна прад панам,
Як калінка тая,
Што у лузе, над ракою
Вецер пахіляе.

Сабірае у галоўцы
Думанькі дзявочы,
Глядзіць смела, ані моргне,
Ворагу у вочы.

## VII

Пасадзіў пан Бандароўну
У куце на лаве,
Як бы тую маладую
У вясельнай славе.

Застаўляе стол дубовы
Сытаю ядою,
Мёд, віно ў жбанах б'е пенай,
Як бы мора тое.

Яшчэ мала: пан вяльможны
Клікае музыкаў,
Знаць, заход вялікі робіць
Ён к гульні вялікай.

Не чакае Бандароўна
Тут сабе пацехі
І не верыць панскай ласцы
І ў панскія ўсмехі.

Ручкі белы заламала,
Звесіла галоўку,
А тым часам пан Патоцкі
Выйшаў у бакоўку.

І прыносіць ён стуль стрэльбу,
Куляй набівае,
Ў рукі ўзяў і Бандароўну
Голасна пытае:

— Ну, што воліш сабе выбраць,
Пышная паненка:
Ці ў бяседзе засядаці
Вось пад гэтай сценкай

І са мною піць, гуляці,
Ночкі каратаці?
Ці навекі косці парыць
У зямельцы-маці?

## VIII

Затраслося помстай сэрца
У грудзі дзявочай,
Спахмурнелі чорны бровы,
Заіскрылісь вочы.

— Не такую, ясны пане,
Бачыш прад сабою,
Што захоча чэсць і славу
Прадаваць з табою.

Сваё золата, палацы
Застаўляй сабе ты,
Сам заморскае віно пі
І насі саеты.

Пі, гуляй з сваёй раўнёю,
Покі ваша сіла,—
Бандароўне больш да твару —
Чымся ты — магіла.

Не прадасць яна дзявоцтва,
Як ты, пан, сумленне;
Твае ўгрозы ёй не страшны,
Не страшна цярпенне.

Перад панам тым з Канева
Смела дзеўка стала,
Смела гледзячы у вочы,
Смела адказала:

— Дужы ты з сваім багаццем,
А я сілы большай,—
За мной праўда і народ мой,
За табой жа — грошы!

Чым з табою піць, гуляці,
Ночкі каратаці,—
Лепш навекі косці парыць
У зямельцы-маці!

## IX

Тут як стрэліў пан Канеўскі
У лева яе вуха,—
Стала наша Бандароўна
І нема, і глуха.

Палілася кроў чырвона,
Сэрца абамлела,
Павалілась на зямельку,
Як бярозка бела.

Парасплеценыя косы,
Як тыя галінкі,
Леглі пасмамі хваліста
Тут жа ля дзяўчынкі.

Толькі з крыўдай аднальковай
Вочы пазіралі,
Як бы ўсіх пытаць хацелі:
За што пакаралі?

Дый заглянулі, знаць, крэпка
У ворагава сэрца:
Пан Патоцкі ўжо не рад стаў
Сам сабе і дзеўцы.

Праклінае сам самога
І такую ночку;
Кліча бацьку, кліча матку,
Каб забралі дочку.

Як прыходзіў Бандарэнка,
А з ім — Бандарыха,
Галасілі над дачушкай,
Галасілі сціха.

Ой, ламалі свае рукі
Стары са старою:
— Налажылась донька наша
За ўсіх галавою!

## X

Забіралі бацька, маці
Родную дачушку,
Неслі ціха, асцярожна
Сваю мёртву служку.

Дзе йшлі з ёю, кроў чырвона
Капала паволі
І блішчэла па ўсёй сцежцы,
Як раса на полі.

Як прынеслі Бандароўну
Да святліцы новай,
Палажылі памаленьку
На лаве дубовай.

Прыбіралі, як да шлюбу,
Ў белю і вэлёны,
Заплятали буйны косы
Ў каснікі чырвоны.

Пазлацістыя на пальцы
Персцяні ўздзявалі,
У замшовы чаравічкі
Ножкі абувалі.

З руты-мяты ёй вяночак
Вілі у дамоўку,
Як карону каралеўне,
Клалі на галоўку.

Збілі з дошак габляваных
Белу дамавіну
І складалі ў ёй няшчасну
Забіту дзяўчыну.

Спіць сном вечным Бандароўна
І болей не ўстане,
А над ёй пяюць старыя
«Вечна спачыванне».

## XI

Неспакоен пан Патоцкі
У сваёй правіне,
Што ўчыніў такую крыўду
Ні пра што дзяўчыне;

Хоча грэх свой чым загладзіць
І віны убавіць;
Бандароўну хоць па смерці
Думае праславіць.

Ён спяшыць на баль хаўтурны,
Пыхай паганяны,
Шоўкам кажа абівацi
Гроб той дзераўляны;

Шоўку, золата, атласу
Браці, колькі хваце,
Кутасамі залатымі
Труну абчапаці.

Загадаў капаці яму,
Мураваці з мура,
Каб магілкі не размыла
Ні вада, ні бура.

Загадаў слаць да магілак
Сцежку дыванамі
І пасыпаць дываночкі
Белымі цвятамі.

Як панеслі Бандароўну
На вечна хаванне —
Загадаў іграць музыкам
Сумнае іграние.

Як спушчалі Бандароўну
На той свет вялікі,
То яшчэ сумней зайгралі
Панскія музыкі.

## XII

Пахавалі Бандароўну
У вянку і ў белі,
Толькі думак украінцам
Пахаваць не ўмелі.

Шмат цярпець народ умее,
Ўмее ж і памсціцца,
Як дадзене вельмі крыўда,
Як зло разгасціцца.

Весць аб смерці Бандароўны
Скрозь пайшла, як мора,
Зашумела Украіна —
Гора панам, гора!

Бандарэнка сходы кліча,
Ўсім аб крыўдзе кажа;
Войска сільнае збірае,
Роўна сіле ўражай.

Задымелі у пажарах
Панскія сялібы,
Палілася кроў ракою
На лугі, на скібы.

Дарма рэзь стрымаць казаччу
Войска шле Варшава,—
Шмат казацтва нацярпелась —
Бітва йдзе крывава.

Колькі выцекла крыві йшчэ,
Не будзем казаці,
Бо крывёй сваёю роднай
Трэ было б пісаці.

З долі ж горкай Бандароўны
І з таей часіны
Засталіся толькі казкі,
Песні ды ўспаміны.

*1913*

## МАГІЛА ЛЬВА

*(З народнага падання)*

I

Нам продкаў кемкасць захавала
Шмат весцяў дзіўных з быўшых год,
Хоць гэтых весці ўжо нямала
Ў няпамяць кінуў сам народ.

Усё ж яшчэ штось засталося
Унукам з прадзедаў жыцця...
Няхай жа гэтыя калоссі
Мінуць скаранне небыцця!

Няхай той час, што згінуць мусіў
У беспрасветнай векаў мгле,
Для беспрыпыннай Беларусі
Хоць толькі ў песні ажыве.

Збіраць пачнем зярно к зярняці,
Былое ў думках ускрашаць,
Каб быт на новы лад пачаці
І сеўбу новую пачаць.

Пачнём дакапывацца самі
Разгадкі нашых крыўд і бед,
Што леглі цёмнымі лясамі
На нашай долі з даўных лет.

Пачнём някратаны паданні
Сачыць пад бацькаўскай страхой,
Шукаць ад рання і да рання,
А толькі хай шукае свой.

II

Над быстрым Днепрам, дзе сягоння
Стаяць Магілева муры,
Драмала пушча ў сотні гоняў,
Змагала громы і віхры.

На дрэва дрэва нагінала,
Адно к другому прыгняла,

Сукі з сукамі пасплятала
І з ветрам гутарку вяла.

Ваўкоў, дзікоў, ласёў, мядзведзяў
Была там днёўка і начлег
У летні час, і ў галаледдзе,
І ў зімавы глыбокі снег.

Людзей не знаў лес гэты хмурны,
Зайздросна сцежкі свае крыў,
Адно сваім дном Днепра бурны
З вясны да восені ўдаль плыў.

А з пушчы вырваўшысь на поле,
Шумеў і грозны слаў праклён,
Што не даваў яму лес волі —
Давіў галлём з усіх старон.

У гэтай пушчы з перадвекаў —
Што так драмала ўдоўж і ўшыр,—
Сялібу меў сабе Машэка,
Разбойнік страшны на ўвесь мір.

III

Даўней не знялі так марнеці,
Як мы марнеем з году ў год,
Асілкаў шмат было на свеце,
Быў шмат дужэйшы наш народ.

Асілкам гэтакім ад роду
Машэка быў ў сваёй радні,—
Дзіцём нясці ўжо мог калоду,
Якой трох сталых — не маглі.

Але хоць сілу меў такую,—
Нікому крыўды не рабіў,—
Натуру меў ён залатую,
Як бы ягнём, патульны быў.

Чаму ён так змяніўся з часам,
Што да разбойства давяло,
І да крыві людской стаў ласым,
Сваё пакінуўшы сяло?

Ці дома хлеба меў замала,
Ці крыўду вызнаў ад каго,
Ці мо прастору не ставала,
І ў пушчы стаў шукаць яго?

Ўсё гэта не было прычынай,
Але, як вестка падае,
Была прычынаю дзяўчына,
Машэка згінуў праз яе.

## IV

У вёсцы той, дзе жыў ён змалку,
Дзе пасціў, дзе араў, касіў,
На воку дзеўку меў, Натальку,
Аб ёй адной ён толькі сніў.

Былі з сабою аднaлеткі,
На прызбе рыліся ў зямлі,
На сенажаці рвалі кветкі,
Ўдагонкі разам часта йшлі.

Як толькі ён яе дагоніць,
Як пёрка носіць на руках,
Смяецца, весела гамоніць,
Хоць там дзяўчыну мучыць страх.

Калі ўжо сталі падрастаці,
К рабоце трэ было ісці,
Дык ці то ў полі, ці то ў хаце
Умелі той таго найсці.

Аб чым з сабой тады ўдваёчку
Снавалі думкі, сеўшы ў рад,—
Пытаць аб гэтым трэба ночку
І за акном вішнёвы сад.

Жылі... Дзянькі за днямі гналі
Так ад вясны і да вясны.
Пасля і самі не спазналі,
Як палюбіліся яны.

## V

Каханне — лёгкая прынада
Для сэрцаў чуткіх, маладых,
Хоць бы гняздзілася ў ім здрада,
Хоць гэта б яду быў кялiх.

Усе мы п'ём яго з дурноты,
Жывём ні явай і ні сном.
А прападзе к яму ахвота —
Тады — па часе ўжо — плюём.

На гэту вудачку кахання
Папаў Машэка, як не свой;
Ані спакою, ні прыстання
Не меў ён з гэтаю бядой.

Сябе сам кінуў у няволю
Дзявочых ласк і пустаты;
Пацех меў шмат, цярпення болей,
То весел быў, то — як струты.

Дзяўчына... ведама, дзяўчына —
Хто там згадаў, што ў ёй сядзіць;
Любіла ж, пэўна, хоць часінай,—
У лес па гэта не хадзіць.

Машэка гэтакі асілак,
Што рваў дзярэўе з каранём,
Ў руках яе стаў як апілак:
Яго забрала харaством.

## VI

О, шмат прыгожанькіх дзяўчатаў
Староны нашай Бог прыдбаў!
Царэвіч ехаць мог бы ў сваты
К ёй не адной, каб толькі знаў.

Душы і сэрцайка такога
І той бязмернай дабраты
Шукаці хіба толькі ў Бога,—
Ў другіх людзей не знойдзеш ты.

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не паважыцца кідаць.

Наталька ў вёсцы між сваімі
Найпрыгажэйшаю была,
Грудзямі, шчочкамі, вачыма,
Як мак, між макамі цвіла.

Павеўна, як даспелы колас,
Ішла наперад у танок,
З грудзей гарачых звонкі голас
Змяняла ў песню — як званок.

Прыхільна хлопцы аглядалі
Яе павабны гібкі стан,
Дый толькі сціха уздыхалі...
Адзін Машэка быў тут пан.

### VII

Той панства меў недаўгавечна,
Канаў пацехі час святы:
Па Днепру выпала канечна
На Украіну гнаць плыты;

Машэку йкраз чарга папала.
Спачатку слухаць не хацеў;
Быць можа, на яго бы стала,
Бо не на жарты сілу меў,

Але Наталька ўгаварыла:
«Едзь! штосьзаробіш к жаніцьбе».
Ну, як тут не паслухаць мілай!
І наш Машэка у жальбе

Па ненаглядненькай дзяўчыне,
Паплыў з плытамі ў край чужы
Таей Дняпровай гладдзю сіняй
Ад роднай прадзедаў мяжы.

Зямля сябе у зелень скрыла,
Лес цёмны з ветрам гаманіў,

Зязюля век людзям лічыла,
А сонца цешылася з ніў.

Машэка плыў, марнеў з нягоды,
Аддыху рэдка меў калі,
І думаў, каб хаця ўжо воды
Яго Дняпровы не змаглі.

## VIII

Ў дарозе шчасце паручыла,
Загнаў да Кіева плыты,
Дамоў вяртаўся з новай сілай
Пабачыць родныя куты,

Натальку любую сустрэці,
Аджыць агнём яе вачэй,
Бо гэткіх вочак на ўсім свеце
Ён не сустрэў ані ў аднэй.

Спяшыць няўпынна, крок за крокам,
Мінае поле і лясы.
Зямлі сваёй жаданым вокам
Шукае, як канюх расы.

Штось каля Ўзвіжання дабраўся
Дамоў з далёкай чужыны...
О, лепш бы першай не дачдаўся,
Як нарадзіўся ён, вясны!

Бядак дачуўся ад суседаў,
Што ўжо Натальці маладой
Не засталось даўно і следу,—
Як бы Дняпровай сплыў вадой.

Сплыла і ўся яго надзея
Дажыць у радасці жыццё.
Каханне ў сэрцы гэтак сеяў,
А жаць прыйшлося праклящцё.

## IX

Непадалёк, дзе жыў Машэка,
Быў двор вялікі, а ў двары
Стаялі харамы ад векаў
Над самым Днепрам, на гары.

Абвездзен быў высокім мурам
Палац, як той астрог, кругом,
Сталетні ліпы ўкруг панура
Стагналі ночаю і днём.

Баярын тамка жыў багаты,
Яшчэ лятамі малады,
Да сваявольства быў заўзяты,
Па-свойму час губляў з нуды.

Усюды броіў самазбродам,
Тварыў закон свой і свой суд
Над абнядоленым народам,
Што збыць не меў сіл сваіх пут.

Паціху толькі ў вёсках людзі
Маркотну гутарку вялі
Аб крыўдах тых, што ім на грудзі
Праз пана каменем ляглі.

О, як адзін хто праз другога
Цярпіць, то йшчэ тут паўбяды,
Але не скрыці ад нікога
Нам крыўды цэлай грамады!

## X

Праз вёску са сваёй дружынай
Баярын гэты ехаў раз,
І ля Натальчынай хаціны
Ён затрымаўся на папас.

Тут хараство яму дзявоча
Упала ў вочы, бо нідзе
Яго не бачылі йшчэ вочы
Штось прыгажэй у прастаце.

Як грозны быў, дык стаў лісліві,
Пачаў к дзяўчыне падсядаць,
Пускаць туман і, як бы дзівы,
Ёй брэдні ўсякія складаць.

Што гаварылі, чым ёй кадзіў —
Не варта паўтараці тут,

Але з тых пор, як па загадзе,
Ён спадабаў вясковы кут.

Тады-сяды стаў заглядаці
Ўсё да Натальчыных акон,
Хоць і глядзелі бацька, маці
На гэта коса з' першых дзён.

Пасля к сабе яе стаў клікаць.
Яна ішла за ім, як цень,
Аж пачала ўся вёска тыкаць
На дзеўку пальцамі штодзень.

## XI

Людская хітрасць даніманнем
Патрапіць шмат зла натварыць,
Калі прыкінецца святляным
Святлом, што праўдаю гарыць.

Душу вам лёстачкамі выйме
І павядзе на павадку
Яе пуцінамі крывымі,
І ўжо не ўскрэснуць бедаку.

З Наталькай выйшла гэтаксама,
Сама к бядзе пайшла сваей,
Звязаўшы дружбай сябе з ямай,
Не дбала свету і людзей.

Забыла ўсе Машэкі ласкі,
Каханне шчырае яго,—
Пад чарам варагавай казкі
Зраклася мілага свайго.

Не прачувала горкай долі,
Якую лёс людзям нашле;
Раз, як пайшла у двор, дык болей
Яе не ўбачылі ў сяле.

Сваю так сетку распускае
На мух услужлівы павук,
Пакуль не ўваліцца якая
І ўсіх не выведае мук.

## XII

Мінула восень, а за ёю
Прыйшла з марозамі зіма.
Машэка жыў з сваёй сям'ёю,—
Не жыў, а блукаўся, як цьма.

Як бы не чуў дакучных кпінак,
Адданы гору і жальбе;
Ўжо ведаў, дзе найшла прыпынак
Яго Наталька для сябе.

Падчас бліжэй к двару падходзіў,
Страшэнна кляў і выгражаў
І страх на стражу ўсю наводзіў,
Якую пан сабе дзяржаў.

Але не меў Машэка сілы
Такой, што сцены б разваліў
Туды, дзе вораг з яго мілай
Пасцель пуховую дзяліў.

Не мог на мак яму змяць косці,
Пракляцце толькі прызываў,
Ад сцен адходзіў з большай злосцю
І штосьці жудкае кнаваў.

З дня ў дзень хмурней ён станавіўся,
Расла ў ім помста, як змяя,—
І сам, як гадзіна, ў ёй віўся,
Ў жыцці не бачачы пуцця.

## XIII

Што ёсць на свеце горш ад помсты,
Што знойдзеш ад яе страшней,
Каго не згоніць з сцежкі простай,
Не ўкіне ў цьму, за ноч цямней?

Душу і думы атумане,
Ачэпіць зводным павуццём,
І распасцяжыць уладанне
Над целам, над усім жыццём.

Засела так яна ў Машэкі,
І суладаць з ёю не мог,
Крыві б пусціў, здаецца, рэкі,
І ў іх бы з крыўдай сваёй лёг.

Крывёй ці віннай, ці нявіннай
Насмерць упіўся бы з душой,
Другіх губіў бы і сам гінуў,
Абы цярпеў чужы і свой.

У муках страшных дачакаўся
Машэка першых дзён вясны
І з вёскай роднай папрашчаўся,
Уцёк з радзімай стараны.

У пушчу ўцёк, у ёй асеўся,
Змяніўся ўвесь, як ваўкалак,
У скуру воўчую адзеўся
І стаў на жыр выходзіць так.

## XIV

Так страшным стала яго імя
На ўсю аколіцу з тых дат
Паміж сваімі і чужымі,
Як страшны імем сваім кат.

З сваёй бярлогі на дарогу
Вылазіў грозны, з булавой,
Як пошасць, сеяў скрозь трывогу,
Загоны росячы крывёй.

Спачатку дань жыццём плацілі
Яму адны багатыры,
Пасля знаходзілі ў магіле
Спачын і вёсак жыхары.

Не памагалі мольбы, чары,—
Крывавы суд тварыў, караў;
Абезгалоўлены ахвяры
З сабою ў пушчы забіраў.

Дарма шукаюць яго схову
Бацькі забітых і сыны,

Адно збірае больш галоваў
Ён з непамернай той вайны.

Штодзень расце Машэка ў славу,
Расце з крывавага жніва,
Бароніць пушча яго справу,
А гімн пяе яму сава.

## XV

Ці доўга йшчэ бы гаспадарыў
Ён гаспадаркаю такой,
Крывёй палошчучы папары,
Крывёй гарачаю людской,

Каб не сустрэў сярод дарогі
Адно здарэнне, як той вір,
Калі раз, выбрыўшы з бярлогі,
Йшоў з булавой сваёй на жыр.

Ішоў і ўбачыў, як карэта
Напроць кацілася якраз;
Машэка рады знайдзе гэтай
І не марнуе дарма час.

Мінута. Ўжо стрымаў ён коні,
Як сноп, зваліўся ўжо фурман,
Ўжо булавой у дзверцы звоне,
З карэты скочыў к яму пан.

Але не ўспеў і азірнуцца,
Як на зямлі няжыў ляжыць;
Машэка доўбняй замахнуцца
Яшчэ на некага спяшыць...

І дзіва дзіў: рука самлела,
Слязамі вочы заліліся...
Наталька тут яго сядзела
І так глядзела, як калісь!

## XVI

Як чалавек ні азвярэе
З якіх там колечы прычын,—
Надойдзе час і азарэе
Яго душа хоць міг адзін.

Чуццё прабудзіцца людское,
Дабро у сэрцы ажыве,
І зацвітуць красой святою
Дзіцячы думкі ў галаве.

Чуць толькі ўгледзеў у калясцы
Машэка любую сваю,—
Ў яе ўтануў даўнейшай ласцы,
Ёй пакарыўся без баю.

Бы тую пёрынку птушыну,
Ў сваю бярлогу яе нёс,
З лісточкаў мяккую пярыну
Ёй слаў, і сам у радасць рос.

Быў рад сваёй так доўгай згубе,
Ў нагах з пакораю сядаў,
Як здаўна, песціў і галубіў,
І словы чулыя складаў.

А толькі бедную Натальку
Жыццё з ім цешыць не магло,
Як тую грэшную русалку —
Жывыя людзі і святло.

## XVII

Спазнаўшы панскія раскошы,
Дзіцё сяла і грамады,
Не мела сіл змагчы ў пустошы
І адзіноцтва, і жуды.

Хоць на Машэку спазірала
Прыхільным поглядам падчас,
А ўсё у думках штось кнавала,
Агонь благі ў вачах не гас.

У думках думала няўпынна,
Як ёй разбойніка згубіць,
Якога не магла нявінна
Ўжо так, як некалі, любіць.

Раз, калі спаў Машэка з ёю,
Зрабіць надумала сваё —

За кроў пралітую крывёю
Яму яго забраць жыццё.

Паціху ўстала, нож агромны
Ўзяла ў яго з-пад галавы
І утапіла ў шыі соннай,
Ды той застаўся йшчэ жывы.

Яна другі раз замахнула
І трэці раз перавяла,—
Яго і жылка не дрыгнула,—
Душа ад цела адышла.

XVIII

Так страшны той разбойнік згінуў,
Што ўмеў любіць і забіваць;
На грэх пусціўся праз дзяўчыну
І мусіў праз яе сканаць.

Яна, сваё зрабіўшы дзела,
Ўжо страхам гнаная нямым,
У вёску родную ляцела
І расказала аб усім.

Прынесла добрыя ўсім весці,
Што ўжо разбойніка няма;
Яе віталі добрай чэсцю,
З усімі цешылась сама.

Вяла з сабой сяло народу,
Дзе спаў Машэка вечным сном,
Куды йшчэ ўчора усе ходы
Былі закрытыя людзём.

Сышлася вёска над Машэкай
Нядаўну бачыці гразу,
І не было там чалавека,
Каб хоць адну пусціў слязу.

Йшлі ад яго к гары вялікай,
Ахвяры дзе яго ляглі,—
Касцей знаходзілі без ліку,
Галоў без ліку там знайшлі.

## XIX

Капалі ў пушчы дол глыбокі,
Дно высцілалі у кару,
І насып сыпалі высокі —
Машэку насып, як цару.

А на гары той недалёкай
Хавалі косці у зямлі
Ахвяр, што ад рукі нялёгкай
Без часу на той свет сышлі.

За днямі дні пабеглі шпарка,
Ў няпамяць шоў за годам год,
Мянялась свету гаспадарка,
Жыццё-быццё змяняў народ.

Той насып, дзе ляжаў Машэка,
У мох і дзерава аброс;
Пякла улетку яго спека,
Зімой трашчаў над ім мароз.

Машэкі імем сталі маткі
Пужаць, калышучы, дзяцей,
А кумкі, збегшысь на папрадкі,
Аб ім шаптаць адна аднэй.

Яго высокую магілу —
Дзе лес ды вецер панаваў —
Знаць, што вялікую меў сілу,
«Магілай Льва» народ назваў.

## XX

Над ёю з часам дрэвы палі,
І горад вырас, як з зямлі,
Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі.

Там, дзе пушчар быў і балота,—
Муры глядзяцца у раку,
Зіяюць вежы пазалотай,
Жыццё кіпіць, як у гаршку.

Пры самым месцы, дзе хаваці
Людцы нябожчыкаў нясуць,
Гару з магілкамі відаці —
Яе Машэкавай завуць.

І ціха, ціха на гары тэй
Чарнеюць пліты і крыжы,
То летнім сонейкам сагрэты,
То ззябшы ўзімку, ў маразы.

Падчас вясной заблудзіць птушка,
Зазвоніць песенькай сваей,
Павесялее спяча душка
Ды ўзноў засне яшчэ мацней.

А пад гарой Дняпровы хвалі
З вясны да восені шумяць
І штось гавораць цёмнай далі,
А што? — нам, грэшным, не паняць!

*1913*

## ЯНА І Я

### 1. Стрэча

На крыжавых пуцінах з ёй сустрэўся —
Куды ісці, не ведала яна,
І я не ведаў — ў полі я ці ў лесе,
І мне ляжала сцежка не адна.

Як путнікі, заблуканыя ўночы,
Стаялі мы пад груднай ношкай дум;
Адно другому пазіралі ў вочы
І слухам клікалі найменшы шум.

Стаялі мы. Нявіданыя дзівы
Нас абымалі крыллямі сваймі,
Шапталі мне: вазьмі яе, шчаслівы!
Шапталі ёй: сабе яго вазьмі!

І рукі злучывалі нам навекі,
Багаслаўленне далі нам сваё
Ісці у свет праз горы, долы, рэкі,
Ісці супольна праз усё жыццё.

Вясельны гімн, як плачкі, нам запелі
І заракалі крыллямі зарок —
Над ёй, заручанай, у шлюбнай белі,
І нада мной, ахутаным у мрок.

А каб вас злыя не змаглі заломы!
А каб не зналі душы вашы ран!
А каб вас не кранулі буры, громы!
А каб к сабе не звабіў вас курган!

Такія клалі дзівы нам зарокі
Мядовых асалод, квятчаных крас
І расплыліся, як сон ветру лёгкі,
Нас кінуўшы ў благі ці ў добры час.

І мы пайшлі, як тыя цені-мары,
Няспынна ад расы і да расы;
Запаланелі нам бліскучыя пажары,
Закуранелі чорныя лясы.

## 2. У хаце

У хаце ўжо маёй будзь гаспадыняй,—
Няма ў мяне нікога, проч цябе;
Сядзь на пачэсны кут, мая багіня,
І будзем думы думаць аб сабе.

Палац мой, бачыш, хоць і не багаты,
Але я сам яго узбудаваў,
Сам сцены вывеў, клаў на кроквы латы
І сам пад стрых саломай пакрываў.

Не выбіты атласам сцены, лавы,
Падлога не заслана дываном
Турэцкім, што сваёй красой іскравай
Гарыць, зіяе, як той жар, агнём.

Над печкай, што стаіць каля парога,
Не працавалі мудры разьбяры,
Сам з гліны збіў яе й з пяску сырога
Ды вапнай пабяліў разы са тры.

Вось ложак зроблены маёй рукою,
З смалістай сосны дошкі выслаў ў ім;
Пасцель пуховую пасцелем мы з табою,
Каб мякка спаць было нам абаім.

У ночнай цішы, ў любым упаенні,
У патаенні ад жыцця, людзей,
Агонь душу і сэрца распрамене,
Агонь гарачых, злучаных грудзей.

І мнагацветныя акружаць нас вясёлкі,
Маланкі залатыя замігцяць,
А думкі нашы, верныя саколкі,
Да неба з добрай весткай паляцяць.

Так мілаванне к шчасцю след адчыне,
А мілаванне — над царамі цар,—
І будзеш век маёй ты гаспадыняй,
А я твой вечна буду гаспадар.

## 3. Праталіны

Ўжо на зямлю ляглі праталіны,
Снягоў спаўзае зімавая бель,
Узгоркі свецяць — як апалены,
Вада ў лагчынах жаліцца, як чмель.

Дзе-нідзе глянула нясмелая
Пралеска вочкамі на божы двор,—
Людскіх слёз кветка сіне-белая
Шукае сонца днём, і ночкай — зор.

Крылатыя стварэнні з выраю
Па Млечнаму Пуці плывуць, як шнур,
І, творачы малітву шчырую,
Сваіх шукаюць кінутых пячур.

Спагаднае святло нябеснае
На колькі вёрст звялічыла свой шлях,
Па нівах промені пачэсныя,
Як лён той, сцелюцца ў жывых агнях.

І ў хатку заглядаюць промені,—
Дармо, што нізкія аконцы ў ёй,—
Гуляюць радасна па коміне
Бліскучай і вясёлаю сям'ёй.

Па ложку, па пасцелі ласяцца,
Цалуючы яе і мой гарачы твар,
Як тыя ветрыкі на пасецы,
Гуляючы ў пякучы летні сквар.

Устань, галубачка бяскрылая,
Заспаны зоры-вочанькі пратры,
Збяромся з думкамі і з сілаю
Жыцця парадак валачы стары!

Праталіна лягла на гонейках,
Збудзілася пралесачка ад сна...
Устань, устань, маё ты сонейка!
Залатаструнна йграе ўжо вясна

## 4. За кроснамі

За кросны ненаглядная сесці трэ было
Ядваб-кужэль сівенькі ткаць,
Але да гэтага прыладаў не было,—
Прылады стаў я майстраваць.

З бярозы вычасаў ставы ёй новыя,
Набіліцы кляновыя зрабіў,
А панажы выстругаваў кляновыя,
Навой, як трэба, зарубіў.

Узяўшы дзічку-яблыню крамнястую,
Стругаў чаўнок гладзей ад шкла.
Купіў на рынку берда густа-частае.
Ніты сама яна спляла.

Садзіцца мае сэрца-ткаля ў кросенькі,
Набіліцамі громка б'е,
Кладуцца ўтоку гусценька палосанькі,
Сучу я цэўкі для яе.

Так шчыра з ёю ўзяліся дарэчы мы;
Яна ўсё тчэ, а я сучу,
І ўкрадкаю любуюсь яе плечамі,
За белымі грудзьмі сачу.

Тчы, мая ткаля! Кроў твая ўзыгралася;
Маланкай гойсае чаўнок.
О, каб хаця аснова ўжо не рвалася!
Каб моцны й спорны быў уток!

Няхай ад берда часта ўток калоціцца,
Кладзе шырокі гладкі сцяг,
А доўгі — як рака, што ў мора коціцца,
Як між прысад гасцінец-шлях.

Каб сцежка, коцячыся, палатняная,
Дзе парастае дзівасіл,
Дайшла ў старонку знаную-нязнаную,
Туды, да бацькаўскіх магіл.

### 5. Выган у поле жывёлы

Спаўзлі з загонаў зімнія снягі
І ў мора паплылі ракой-вадзіцай,
Запелі жаўранкі. І чорныя лугі
Ўсміхацца сталі першаю травіцай.

У поле статак выганяць пара.
Кароўку маем мы — завецца Аўтарыняй,—
Багацце кожнага гаспадара,
Скарб і пацеха кожнай гаспадыні.

«Мая» не выгнала яе за край
Платоў, на пашу, дзе яна хадзіла,
Пакуль таго, што вучыць абычай,
Над ёй сваёй рукою не ўчыніла.

Свянцоным хлебам, соллю і вадой
Абнесла навакол яе тры разы,
Паставіла да сонца галавой
І загавор чыніла ад заразы.

Ў крыніцы тры разы кусочак шкла
Скупала і, перад вачмі кароўкі
Трымаючы, шаптала, як змала,
Такія мудры заклінання слоўкі:

«Ты, ясна сонца, месяц, ясен свет,
І вы, на небе часценькія зоры,
Вы ўсе, што кропіце расою цвет
І асвятляеце сушу і моры,—

Зямлю агрэйце, вырасцце траву,
Не пашкадуйце есць і піць жывінам,
Шаўковую сцяліце мураву,
Абгарадзіце жалязяным тынам.

Вартуйце, сцеражыце ад цара
Ляснога, палявога, вадзянога,
Ад царанят яго, ад упыра
І ад людскога вока нелюдскога!»

## 6. Агляд поля

Вялікі свет! Не згледзець тых абшараў,
Што прадзеды пакінулі і нам:
Дзе лес, дзе лозы, дзе ляжаць папары,
Дзе рунь абходзіць ўжо на хлеб людзям.

Сягоння, мілая, быць хочу я з табою,—
Дык ручку на плячо мне палажы,
Я стан твой атулю рукою,
І ў поле пойдзем, пойдзем пад крыжы.

Як дзеці, пазабытыя тым светам,
Свае палеткі будзем аглядаць
І, пад загонам седзячы сагрэтым,
Пачнем аб жніве будучым гадаць.

Багата мы з табою маем гоняў,
Ўпару абсеяць, зжаці толькі б іх
Ды ў добры час злажыць у застаронне
Сям'ю снапкоў паспелых, залатых.

Так станам песцячысь яе прыгожым,
Ідзём, ідзём з загона на загон,
Дзе перш араць, дзе сеяць перш — варожым —
З надзеяй дачакаць нядзельных дзён.

Абняўшыся, пад крыжам адным селі,
З бакоў стаяў другі і трэці крыж,
З крыжамі мы, як здані, ў свет глядзелі,
І душы нашы ўзносіліся ўзвыш.

Мы баславілі неба воблік сіні,
Што нашы думкі ўзносіў да сябе,
І ў думках кланяліся той часіне,
Што нас злучала ў шчасці і ў жальбе.

Жыццё, зямлю і сонца баславілі,
Старыя грушы, вербы на мяжы,
А праклінаді толькі скону хвілі
І тыя вечныя па нас крыжы.

### 7. Радаўніца

На Радаўніцу мы на могілкі пайшлі,
Свянцонага з сабой астаткі ўзяўшы,
Як гэта здавен-даўна на нашай зямлі
Дзяды і прадзеды рабілі нашы.

Маніліся нябожчыкаў адведаць мы.
На могілкі народу шмат сышлося,
І людзі сноўдаліся між крыжоў, як цьмы,
Хістаючысь, як ветрам гнутае калоссе.

На плітах каменных парос зялёны мох,
Бярозы, хвойкі плакалі над імі,
А пасярод капліца жудка, як астрог,
На свет глядзела вокнамі сляпымі.

Ля насыпу мы з мілай селі ў старане,—
Пад насыпам тым спала яе матка,—
І прашаптала мілая, схіліўшыся ка мне:
«Адзін, адзін цяпер ты ў мяне, братка!»

Як боб, буйныя слёзанькі з яе вачэй
Пасыпаліся на магілку градам,
Здалося мне — заплакала і неба з ёй
Над гэтым здушаным зямлёю садам.

Штось сэрца сціснула, зірнула ў дно,
І паплыла сляза ўслед за слязою,
А думаў, што ўжо ўсе іх выліў я даўно,
Што ў свет гляджу ўжо зрэнкаю сухою.

Ў магілках дрэмле бацька мой і два браты,
Сясцёр малых зямелька абымае.
А я жыву на свеце доляй сіраты,
Мяне зямля за нейкі грэх трымае.

Пусціўшы гэтак сумным думам павады,
Бязмежны жаль паплыў ў душу крыніцай.
І я таксама, як яна тады, шаптаў:
«Адна на свеце ты ў мяне, сястрыца!»

## 8. Ворка

Саха мая зусім ужо гатова,—
Зрабіў к ёй новенькую плаху,
Нарогі павывострываў нанова,
Даў на паліцу тоўсту бляху.

Вось толькі коніка ў яе упрэгчы,
Махнуці пугаю нягрозна,
Ў загоне на рагач крывы налегчы,—
Барозна пойдзе за бароздай.

Сняданне з'елі з ёю удваёчку,—
Каб сыта — трудна пахваліцца;
Хлеб падзялілі разам па кусочку,
Сцюдзёнай запілі вадзіцай.

Пайшоў з сахой, пусціў нарогі ў гоні.
Нагамі толькі конік мой цярэбе,
І сцелецца загончык пры загоне,
Аж сонца цешыцца на небе.

Вам, людзі, што сваёй рукою белай
Зямлі не кратаеце сэрца,
Не дагадацца цераз век свой цэлы,
Як сэрца чалавека б'ецца.

Таго, які увосень ці вясною
Зямлі сахой чапае грудзі
Або зярно хавае бараною,
Каб вырасла для вас жа, людзі.

У важны час заворкаў ці засеўкаў
Імша абходзіцца святая,
Душа сяўца лунаецца, як дрэўка,
Якому вецер ліст зрывае.

Арыце, сейце, людзі, хто што можа,
Старым ці новым абычаем!
А вашу працу доля упрыгожа
Шчаслівым, буйным ураджаем.

### 9. Беліць палатно

Чачоткавы зрабіў ёй пранік ёмкі,
З аздобамі і ручкай гладкай,
І палатно панёс з ёй да пагонкі,
Дзе сажалка была і кладка.

Усю трубу укінулі ў вадзіцу;
Яна, свой скінуўшы каптанік,
Кашулю падкасаўшы і спадніцу,
Ўзышла на кладку, ўзяўшы пранік.

І пярыць стала мокра палаценца,
Складаючы на кладцы ў складкі,
На ножкі пырснула і на каленцы
Вадзіца, як раса на градкі.

Распырсківаліся, як іскры, пырскі,
Мігцелі ўсюды мнагацветна.
На гладзі воднай рысавалі рыскі
І ніклі ў гладзі непрыметна.

Бліскучыя агністыя праменні,
Купаючыся ў сажалчыным версе,
К маёй галубцы ў мёдным уміленні
Туліліся і грэлі персі.

Так палаценца мілая бяліла
Вадзіцай, пранікам на кладцы,
Пасля сабе на плечы узваліла
І слаць нясла на сенажатцы.

Нясла. Вада па ёй цурком сцякала.
І на аселіцы ля плота
Тканіну мыту распускала.
Цяперка сонца ўжо работа!

Бяліся, наша палатно, бяліся,
Як дзень, як месяц бледны, бела,
Як бела малако ў глінянай місе,
Як та саломінка паспела!

## 10. Сяўба

Ралля падсохла, мяккай стала воўнай,
Ўжо час узяцца за сявалку,
Ў зямлю зярнят насыпаць жменяй поўнай,
Як ад бацькоў навучыўся змалку.

Ад той, што ад зімы засталась, часткі,
Штось кінуўшы на час нязбыты,
Адмерылі мы з ёй са дзве шаснасткі
У мех, рукой яе пашыты.

І выйшаў сеяць я. Яна стаяла
Непадалёк мяне, на ўзмежку;
У высях сонца золатам зіяла,
Ўнізу плыў вецер сваёй сцежкай.

Пасыпаліся дробныя зярняты
Ў раллю, як пацеркі янтарны,
На наш загон, сахою узараны,
На мой шнурок — палетак ярны.

Яна, як ніцая бярозка тая,
Стаяла, за сяўбой слядзіла,
І як бы Багародзіца святая —
Здавалася мне — блаславіла.

Лажыцеся ў раллю, зярняткі, спаткі,
Накрыйцеся пасцілкай-скібкай,
Пасля збудзіцесь, выгляньце з краваткі,
Як воўна — густа, як дзень — шыбка!

Расціце высака, расціце буйна,
Як гэта пушча за дарогай!
Маліцеся да бела бога чуйна
І чорнага не гнеўце бога!

Каб не паспалівалі вас спякоты,
Дажджы каб вас не пазмывалі,
Каб не пабілі грады і грымоты,
Каб вам заломаў не ламалі!

### 11. Поліць агародніну

Я выган плотам гарадзіў, яна палола грады;
Благое зелле вырывала, кідала у пасцілку,
Дзе каліў не было,— дасаджывала там расады,
Там прарывала, дзе ўзышло загуста праз памылку.

Чырыкалі над ёю верабейкі на чарэсні,
Нязгледна час ад часу вецер пралятаў крылаты.
І адазвалася мая палея сумнай песняй,
Такой, якую ў нас пяюць вясенні́м днём дзяўчаты.

#### ВЯСНЯНКА

Ой, брала вясна у сонца ключы,
Адчыняла сырую зямельку,
Пускала на свет траву-мураву,
Адзявала у лісце бярозы.

Дзе толькі ні йшла яна,— з прыпала
Густа сеяла, сеяла кветкі,
На край свету гнала рэчкі яна,
Птушкам волю і голас давала.

Ой, выйду я, выйду на сенажаць,
Буду віць, завіваць вяночак,
Пяяць з салавейкам буду у тахт,
Сэрцу песняй вясну выклікаці.

Прыйдзі ты ка мне, сагрэй ты мяне,
Абымі ты мяне, як друг мілы,
Пасей на душы мне долейкі мак,
А на сэрцы — пшанічку кахання!

Каб доля, як мак цвіце, зацвіла,
Каб каханне расло, як пшанічка,
Каб мілы мяне мой верна любіў
І галубіў ў святліцы, як шчасце.

Звінела песня і злівалась з музыкаю птушак,
Бярозавыя на гасцінцы плакалі прысады,
Заводзіў вецер, б'ючысь аб асінавы асушак...
Я выган плотам гарадзіў, яна палола грады.

## 12. Яблыні цвітуць

Яблыні цвітуць, так хораша цвітуць,
Як белым высыпаны пухам,
Пчолкі на цвяткі па мёд сабе лятуць,
З вулля ў вулей нясуцца духам.

Селі з ёю мы пад яблыню ўдваіх
На траўцы святачнай нядзеляй;
Сонца разлілося ў променях сваіх,
Лісткі на яблынях зардзелі.

Вецер плыў лісткамі, песціў, калыхаў,
Галінкамі трос, як крапілам,
Птушак жвавых шчэбет хвілі не сціхаў,
Кружыўся з белым кветак пылам.

Раем на зямлі выглядываў нам сад,
Я ў ім — Адам, яна ў ім — Ева;
У раі гэтым вецер быў нам бог і сват,
Вяцьвямі шлюб давала дрэва.

Птушкі ў мільён струн вяселле гралі нам,
Пасажнай маткай была пчолка,
Сонца несла ўцехі думкам і грудзям,
Пасцелю слала нам вясёлка.

Капаў нам на вочы яблыневы цвет,
На нас валіўся, як снег белы,
Мыслі нашы беглі сіняй далі ўслед
І свет сабой тулілі цэлы.

Мілая! О, колькі радасці даеш
Майму ты сэрцу маладому!
Нават ты сама таго не спазнаеш,
Які ты скарб у маім дому!

Мілая, сагрэй мяне сваймі грудзьмі!
К маім грудзям прыліпні шчыра;
Богамі хай станем мы паміж людзьмі,
Нябеснага князямі міру!

### 13. На сенажаці

Выйшлі з ёй, дзе сенажатная краса
Зіхцела, як вясёлкі мнагацветны ўзор,
Вострая яшчэ дзе не забразгала каса,
Дзе ў кветках луг ірдзеў, як неба ўноч ад зор.

Выйшлі, як душы дзве злучаны навек
Выходзяць, кінуўшы магільную жарству,
Светы аглядаць, які ўзводзіць чалавек...
Прыйшлі мы й дзівімся такому харастеу!

Краскамі ўсміхаецца ўся сенажаць,
Гараць урочнікі, румянкі і званкі,
Жоўтыя званцы зялёны луг жаўцяць,
На кветку з кветкі шыбка скачуць матылькі.

Рэчка бурбаліць па каменнях між вольх,
Вадзіца бліскатна лялее ў бегацьбе,
Сціха штосьці шэпча, шалясціць трыснёг,
А сонца сочыць у вадзе само сябе.

Кветкі з ёю рвём, вянок сабе пляце —
Карону ясна-цвет з нявысненай красы;
Хораша, да твару йдзе ён сіраце,
А з-пад вянка плывуць па плечах валасы.

Шчасна так, абняўшыся, ў траве плывём,
Купаюцца у кветках ногі да калень,
Шчокі, грудзі нам гараць, гараць агнём,
Іскрацца вочы, цела просіцца пад цень.

Сонца штораз больш у жылах кроў агніць,
Калені штораз больш ласкоча нам трава,
Блогасна аб сэрцы сэрца ў жары сніць,
Жаданнем забыцця п'янее галава.

Ногі падкасіліся і мне, і ей,
Зліліся вусны з вуснамі самі сабой,
Полымем прыпалі грудзі да грудзей,
Змяшаліся мы з сонцам, з кветкамі, з травой.

## 14. Краса свету

Вясна, вясна! О, колькі ў табе шчасця!
О, колькі радасці прыносіш ты з сабой!
Умееш ты ў душы агонь раскласці
І грудзі распаліць агністай барацьбой.

Святлом свет цэлы заліла гарачым,
Раскінула з зялёнасці жывы шацёр,
На ўсім зямлі абшары доўгаспячым
На сваіх кроснах выткала чароўны ўзор.

О, цешся з гэтага сама, вясна ты!
Ўжо славу бласлаўляць цяпер усе тваю —
Зямля і неба, і вецер крылаты,
І я красе тваёй сваю дань аддаю.

Гэй, ажыло зямлі старое папялішча!
Зайгралі рэчкі, плечы выраўнаваў бор,
Спраўляе птушак жвавы рой ігрышча
І падлятае з радасцю чуць не да зор.

І думка ўвысь ляціць на вольных крыллях,
Як бы самому Богу мела расказаць
Аб тых нягаданага свята хвілях,
Якім вясна яе умела счараваць.

Ляці, імчыся, думка, вышай, далей,
Як вокам стрэліць можна у блакітну даль!
Схапі стуль песню з перуновай сталі
І прынясі мне волю сільную, як сталь!

Я песняй мілую сваю праслаўлю
Паміж народамі сваіх, чужых зямель,
Каб не загінула, як кветка, у бяспраўю,—
Жыла й тады, як ляжа ў вечную пасцель.

А воля мне жалезная патрэбна
За крыўды маёй мілай помстай заплаціць,
Што гаравала так яна бясхлебна,
Што ланцугамі мусіла шмат лет званіць.

*1913*

## БЕЗНАЗОЎНАЕ

### 1

Спачатку яно шалясцела
Вельмі нясмела,
А потым лізнула аконца
Ціха, як сонца.

Назаўтра ўзняло галасочак,
Нібы званочак,
Ды ў час празвінела так далей
Збуджанай хваляй.

На трэці дзень чуцен быў гоман,
Хоць і надломан,
Але ўжо больш вольны, дасціпны,
К сэрцу прыліпны.

А далей яно зашумела
Надта ўжо смела,
Аж водгулле ў светы пабегла
Здольна, разлегла.

Па пушчах пайшло бураломам —
Дома, за домам.
Бунтарскае грымнула слова
Аж да аковаў.

Скаваная сіла паўстала
Бурай... навалай...
Надзелі чырвоныя кветкі
Нашы палеткі.

Во як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што нат беларускія межы
Ўсталі з залежы.

### 2

Масты старыя спалены —
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сцягі.

Узводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...
Вароты не зачынены:
Прыходзь і кум, і сват.

Ідуць, ідуць з аглядкаю,
Варожаць варажбу:
Ці доўга так пасвяткуе
Той лад сваю сяўбу.

Яшчэ не дрэме чорнае
Ў закутках груганнё
І душы непакорныя
Сачыць, як воўк ягнё.

Мяркуюць так і раюцца
Ідучы сват і кум...
Ніхто не дакапаецца
Да іхніх слоў і дум.

Ой, крыўда чалавечая,
Вякамі ты расла,
Пажарамі і мечамі
Паслася, як магла.

Калі ж ты забабонамі
Пакінеш нас карміць,
Над роднымі загонамі
Пятлю крутую віць?!

3

Ой, была ж бяседа, была
Вельмі гучная бяседа! —
Не адходзіла ад стала
Плойма-чарада суседаў.

Як на рынак ці на кірмаш,
Ад нядзелі да нядзелі;
На каравай пшанічны наш
Машкарой ляцелі, елі.

А маковае малако,
Засалоджанае мёдам,

Пілі смагла, ажна цякло
Па губах іх мімаходам.

А закусвалі мёд і яду
Гаспадыньскай ласкай удзячнай,
Тут жа дзьмуў дудар у дуду,
Каб было піць, есці смачна.

Дый прыйшлося плаціць чарадзе
Той за гэта баляванне,
Бо дарма такога нідзе
Не бывае частавання.

Ой, пайшла расплата за доўг —
За яду й пітво адразу...
Задымеў, зацьміўся разлог,
Зварухнуў усю заразу.

Хто у рукі папаў — заплаціў,
Іншы ўцёк за многа міляў.
А найболей — кожны скруціў...
Так не ўсе і заплацілі.

4

Было яно калісьці,
Калі, як жаўталісце,
Жылі мы — не жылі;
Ішлі дні без карысці,
І сорам было выйсці
У свет з сваёй зямлі.

Гнаў лісце злосны вецер
Па полі, па ўсім свеце,
За вёску, за сяло;
На нас ляцела смецце,
Бязладдзе, беспрасвецце,
Пятлю віло сіло.

І гэтакая слава,
Як пошасці праява,
Буяла па людзях,
Пакуль жыццё ласкавай
Усмешкай і забавай
Не асвяціла шлях.

Заблiскацелi лужы,
Бяда звiлася вужам...
— Iдзе,— крычаць,— вястун!..
I ўзняўся нехта дужы,
I кiнуў клiч дасужы —
Як помста, як пярун.

Ад воклiчу прарока
Схiснулася памрока,
Сцяг падняла вясна,
I па зямлi шырокай,
Як можа змерыць вока,
Пабегла навiна.

Сяляне i сялянкi!
Цацанкi-абяцанкi
Збываюцца для вас;
Выходзьце на палянкi,
Як зоры, як заранкi,
I сейце ў добры час.

5

Мы ўсталi песняй-казкаю
Пад жудаснай павязкаю
Мiнулых чорных дзён
I ўдаль iдзём, хоць ляскае
Звяр'ё ў кутах нямаскаю —
На дальшы клiча сон.

Але, але не выламе
Нi клыкамi, нi вiламi
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магiламi,
Над хатамi пахiлымi —
Мiнуламу назло.

Не ўзяць рукамi голымi
Таго жывога полымя,
Што, нiбы агняцвет,
Вясёлымi саколамi
Над горамi, над доламi
Разносiць iскры ў свет...

. . . . . . . . . . . . . . .

А гоні ўжо узораны,
І сілы распакораны
Ад паншчынных бядот.
Чакаюць стравы жораны —
Зярнятаў незамораных,
Чакаюць на ўмалот.

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны,
Нуда маўчыць ціхом;
Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Лявоніха... Мяцеліца...
Без памяці вяселяцца...
— Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!
Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сцелецца...
Збудзіўся гаспадар!..

6

...пайшла, і пайшла —
Як бы хто набаяў —
Ад сяла да сяла
Гутарка такая:

Беларусь на куце
Ў хаце сваёй села,—
Чарка мёду ў руцэ,
Пазірае смела.

Сядзіць важна, сама
Сабе гаспадыня,
І прыбрана яна —
Ніхто не закіне:

На галоўцы вянок
З сініх васілёчкаў,
А чырвон паясок
Стан абвіў дзявочы.

Так сядзіць і глядзіць,
Ці усё, як трэба,—

Трэба ўсім дагадзіць
І соляй, і хлебам.

А з тутэйшых музык
Гучная капэля,
Хто ў дуду, хто пад смык,
Граюць ёй вяселле.

Так бубняць і гудзяць
На гэтай бяседзе,
А суседзі глядзяць,
Дзівяцца суседзі:

— То ж яна з мужыкоў,
А як выйшла ў людзі!
Як міне больш гадкоў,
Што ж тады ўжо будзе?!

7

Зручна, гучна грай нам, грайка,
    Ад усіх рэж струн!
Не свісціць ужо нагайка,
    Не гудзіць бізун.

Селі макам усе тыя,
    Што нас, вольны люд,
Не шкадуючы памыяў,
    Аблівалі тут,

Барын веку дажывае,
    Выгнаны Масквой,
Пан Варшаву прапівае,
    Гонар панскі свой.

А мы самі, сабе самі
    Ўжо гаспадары,
Малатамі і сярпамі
    Звонім да зары.

Нібы пчолы ў соты з мёдам
    Да свайго вулля,
Мы вяртаемся дадому,
    Як адна сям'я.

На сход сходзімся і лічым,
Ці усе прыйшлі,
Хто спазніўся — прыйсці клічам
Да сваёй зямлі.

— Вы,— хтось кажа асцярожна,—
Не ўсе ў грамадзе...
— Гэй, дарогу, лях вяльможны!
Беларусь ідзе.

Грай жа, грай нам гулка, грайка,
Ад усіх рэж струн!
Не свісціць ужо нагайка,
Не гудзіць бізун.

8

Газ. «Сав. Беларусь»
у дзень выхаду яе 1000-га нумара

Трэба далей славу, што ўжо тысяч
Раз вы слаўна баранілі,
Светазарнымі агнямі вышыць,
Каб не шчэзла ў векаў пыле.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца не ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

*

Трэба біць, у молатаў біць тысяч,
Пакуль сталь яшчэ не ўстыла,
Каб не ўздумаў у гэты час лясны сыч
Засмяяцца з вольных сілаў.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца не ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.



Трэба многа, яшчэ многа тысяч
Рук завабіць, рук спагадных,
Каб да сонца з сонца сцежку высеч
І спачыць у снах прынадных.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца не ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

9

Яшчэ не ўся работа зроблена,
Не ўсё жніво у нас пажата,—
Яшчэ краіны стан пагорблены,
Як быў, застаўся ён гарбатым.

Яшчэ дзесь здрадна ласка панская
На беларускім едзе карку
І круціць з подласцю паганскаю
На свой лад нашу гаспадарку.

Яшчэ там сыты гонар ласуе
Дзявочу ўсмешку беларускі,
Далары лічачы за касаю,
Што з нашых здзёр палосак вузкіх.

Яшчэ там корна служаць мамкамі
Сястрыцы нашы і сягоння,
Ды стогнуць, мучацца пад клямкамі
Браты, як некалі ў прыгоне.

Яшчэ ўспалаюць там паднебныя
Чырвоным полымем пажары,
І будуць гінуць там патрэбныя
І непатрэбныя ахвяры.

10

Пакінем спадчыну мы для патомкаў
Інакшую ад той,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваёй.

З інакшай думкай пойдзе ў свет і людзі
Патомак гэны наш:
Згібацца ўжо не будзе і не будзе
Піць з недапітых чаш.

Дасталі сцежкі, ад якіх прапасці
Маглі мы ў бяспуцці,
А кінем бітыя шляхі да шчасця,
Абы умець ісці.

На продкаў плечах паўзрасталі вежы,
Дзе торг вялі за нас,
А мы патомкам нашым кінем межы
Без ашуканскіх крас.

Яшчэ пакінулі нам асляпленне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песню вызвалення
І вольны бацькаў кут.

*1924*

## З УГОДКАВЫХ НАСТРОЯЎ

*Да дзесяцігоддзя*
*Кастрычніцкай рэвалюцыі*

1

Як пабег тады той
Вокліч ды па хатах:
«Гэй, на сход сыходзься!
Дзень ідзе расплаты.

Выпала часіна
Падвясці злічэнне
Крыўды векавечнай,
Вечнага цярпення.

Помстай за знявагу
Ды за катаванне
Дзякаваць удзячна
З вечара да рання.

Кузні і палеткі
Чысціць днём і ночай
Ад крыві мужыцкай,
Ад крыві рабочай.

Хай дымяць пажары
Тут і там крывава,
Каб было скрозь відна,
Як ідзе расправа».

. . . . . . . . . .

І ўздрыгнуў сатрапа,
Задрыжэў багаты,
Як пабег тады той
Вокліч ды па хатах.

2

«Ад тайгі да брытанскіх марэй»
Ходзяць ходам бунты;
Ад магнацкіх, ад панскіх дзвярэй
Затрашчэлі шпунты.

Уцякай, хто пад пухам апух,
Падкасаўшы полы!
Бо ўзбудзіўся збунтараны дух,
Бо йдзе босы, голы.

Як увысі у вырай плылі,
Гагаталі гусі,
А унізе гнуўся лес да зямлі,
Нібы старац, гнуўся.

Дзе сякуць, там лятуць шчэпкі проч,
Соладка ці горка;
Дзе прапала кароўка за ноч,—
Прападай вяроўка.

Ірзуць коні, калёсы скрыпяць
Ад Дону да Бугу.
Калі гнаць, то ўжо гнаць аж у гаць,
Распінай папругу.

Не прыставіш да сценкі, цябе
Аж да двух прыставяць,
І ніхто ні ў мальбе, ні ў кляцьбе
Ад пятлі не збавіць.

Гэй, каваль, дзьмі ў мяхі, а сталь грэй
Да самага грунту!
«Ад тайгі да брытанскіх марэй»
Ходзяць ходам бунты.

3

Не елася, не спалася,
Куды там падвяселіцца,
Як гэта раскілзалася
Чырвоная мяцеліца.

Ідзе моц непакорная,
А следам — кпіны, гоманы,
Як тыя дымы чорныя
Над пушчаю паломаны.

Шушукалі, хіхікалі
Падсуседзі дасужыя,

Назад вярнуцца клікалі —
З натугі, бач, нядужае.

«Куды вам лезці з віламі? —
Так пальцам з боку тыцкалі,—
Як выйдуць процьз крапіламі
Ды з кулямі англіцкімі.

Не справіць вам уходзінаў
На новае паселішча,
А сцежка, вамі пройдзена,
Абернецца ў папелішча.

Супроць сусветных правілаў
Не вам ісці з паходняю...»—
Так сыкала, так правіла
Падсуседства прыгоднае.

4

Уцякала за ночкаю ночка
    За горы,
Паласкаліся ў росах чырвоных
    Разоры.

Запалялася сонца аб сонца
    Агніста,
Пасыпаліся косці пасыпкай
    Вячыстай.

Рассыпаліся прыскам палацы
    І вежы,
Гудам водгулле-рэха ляцела
    За межы.

А з-за межаў — чужынцы, як злыдні,
    На пашу,
Каб суняць вызваленне і помсту
    Паўстаўшых.

Тры-чатыры так восені шчэзлі
    Руінай,
Як змаганне ішло пераможна,
    Няспынна.

Уцякала за ночкаю ночка
За горы,
Паласкаліся ў росах чырвоных
Разоры.

5

Зацымбалілі цымбалы,
Забубнелі бубны,
Як вярталіся з паходу,
З бойкі вельмі труднай.

Сустрачалі маткі, сёстры
І зблізку, і здаля,
Адны плакалі ад шчасця,
Другія ад жалю.

Падлічалі, вылічалі,
Шмат не далічылі...
Ой, вяліку дань аддалі
Варожае сіле!

Ля гасцінца, ля дарогі
Курганок віднее,
А на ім — штогод вяночак
З беленькіх лілеяў.

Не забылі добры людзі
Ваяка за долю,
Што злажыў сваю галоўку,
Як травінку ў полі.

Не забылася дзяўчына
Курганка ля шляху:
Кожны год вянок прыносіць
І кладзе без жаху.

Зацымбалілі цымбалы,
Забубнелі бубны,
Як вярталіся з паходу,
З бойкі вельмі труднай.

6

На дзесятыя угодкі,
Хоць ноч доўга, дзень кароткі,
Разважае ўвесь народ,
Якi выйшаў умалот.

Дзе якое было жнiва,
Цi ўрадлiва, цi шчаслiва:
Суды судзяць так i сяк,
Хто прасцей, хто накасяк.

*

На дзесятыя угодкі,
Паламаўшы загародкі,
Меншы, большы гаспадар
З перамогі цягне дар.

Той — сноп жыта, той — аўчыну,
Той — шасцерню на машыну,
А кум — куму, свату — сват:
Хай жыве ўжо новы лад!

*

На дзесятыя угодкі
Варма вараць мёд салодкі,
А па мёдзе — рукі ў бок
Ды у скокі крок у крок!

Скача горад, скача вёска,
Адно іскры з-пад падноскаў...
Скачы, ўнуча, скачы, дзед,
Ад пабедаў да пабед!

*1927*

# НАД РАКОЙ АРЭСАЙ[1]

## Замест уступу

Шмат злажылі казак,
І легенд, і песень
Людзі пра балота,
Пра сваё Палессе.

А не чуў я песні
Пра жыццё камуны,
Слаўных камунараў,
З сваёй справы думных.

Як яны аддана
У глухое далі
Для ўсяго Саюза
Славы прыбаўлялі.

А не чуў я песні
І праўдзівых сказаў,
Што і камунаркі
Йшлі змагацца разам.

Як на топкім полі
Ў грамадзе рабочай
Сіл не шкадавалі
І красы дзявочай.

А не чуў я песні
Пра герояў працы,
Змусілі што багну
Сабе пакарацца.

---

[1] Арэса — балоцістая рэчка на заходне-паўднёвай ускраіне БССР. Паабапал яе цягнуліся вялікія балоты. Балоты зараз асушаны, і на месцы асушаных балот арганізаваны чырвонаармейская камуна і саўгас. Паэма «Над ракой Арэсай» прысвечана апісанню гэтай камуны і саўгаса.

Як, супроць ідучы
Цяжкасцей трывожных,
Выйшлі на шлях роўны,
Выйшлі пераможна.

І не чуў, не чуў я
Новых гулкіх песень,
Што пяе сягоння
Новае Палессе.

### Аб мінулым

Крумкач глюгу звесіў
Над згніўшай калодай...
Прысніла Палессе
Мінулыя годы.

Былі тут калісьці
Багнішчы-балоты,
Ў дрыгве прэла лісце,
Асокі, чароты...

Ідзе чалавек там,—
Засмокча смугою,
Са стогнам і крэктам
Загіне з душою.

Звер блукае дзікі
Ў пагоды, ў імжакі,
Гусей дзікіх клікі,
Гадзюкі, вужакі...

Мядзведзь смокча лапу
Ў бярлозе санліва,
Лось высунуў храпу —
Шукае спажывы.

Дзік ходзіць з дзічыхай,
За ім — табун воўчы.
Ўсялякае ліха —
Ў дзень белы і ўночы.

Там-сям човен вузкі,
Нібы дамавіна,

Прасунецца ў грузкіх
Катлінах-багнінах.

Адно з вясной яснай
Палессе ускрэсне,
Спаткае няшчасна
Вясну і прадвесне.

Свой спеў салавейка
Ў галлі адшчабеча,
Аб шчасці жалейка
Гаротна ад'енча.

Скукуе зязюля
Адвечнае ку-ку,
Паліча бабуля,
Ці шмат яшчэ мукаў.

А там зноў магілай
Палессе замоўкла,
Зноў спіць яго сіла
Пад багнай пажоўклай.

А людзі? а людзі? —
Іх мала-нямала,—
Упаўшыя грудзі,
Бяда ўслед навалай.

Між топкіх багнішчаў,
На выдмах пясчаных,
Як на папялішчы,
Рад хат, бы курганаў.

Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці,
Каб з торбай у латах
Пайсці жабраваці.

Пад шум бесканечны
Бярозаў і соснаў
Сахой недарэчнай
Аруць пясок млосна.

Іх розум балота
Трымае палонна,—

Красуе цямнота,
Растуць забабоны.

Легенды і казкі
Прыгонных законаў
Паўзуць мохам вязкім,
Багуннем зялёным.

Праз леты і зімы
Паданне йшло ў векі:
— Палешукі мы,
А не чалавекі!

### Зашумела, загуло...

#### 1

Зашумела, загуло,
Бы землетрасенне,
На палескае сяло
Найшло утрапенне.

Люду хмара наплыла,
Покліч птушы ўзвіўся,
Небам сіняя імгла...
Скуль яны ўзяліся?

Украінцаў тут гурма
Й старобінцаў нашых
Набрыло, як на кірмаш,
На багнаву пашу.

Безлік хлопцаў-звадыяк,
Дзядзькаў барадатых,—
Пілы вострыя ў руках,
Тапары, лапаты.

Што-та будзе тут цяпер?
«Нічога не будзе!» —
Хітра думалі ў чацвер
Палескія людзі.

А ў нядзелю, чуць зара,
Сякеры запелі,

Ад лапат балот кара
Рвецца ў топкім целе.

Шум і гоман навакол,
Як на тым ігрышчы,
А лапаты рэжуць дол,
А сякера свішча.

Рыюць людзі топкі торф
У вадзе па пахі,
А у жылах бурліць кроў,—
Багна ім не ў страхі!

Яны знаюць, што ўжо так
Не быць, як калісьці,
Што пакінуць яны знак
Вялікай карысці.

За канавай — як струна —
Новая канава,—
Ўсе падобны, як адна,
І злева, і справа.

Спанаваў звярыну страх,
Ад людзей страх гоніць —
Па тарфянні, па карчах,
За гонямі гоні...

На гектары абнялі
Канавамі нетры,
Далей мерацць пачалі
Ўжо на кіламетры.

Магістралі[1] прад табой —
Не змерыць і вокам,—
Тарфянішча прад сяўбой
Блізкай, недалёкай.

Магістралі, дрэнажы[2]
Шляхі ў багне значаць...

---

[1] Магістраль — канал для асушкі балот.

[2] Дрэнаж — штучны сток стаячай вады ў мэтах асушкі балот.

Ой, дарэмна варажыў
Паляшук няўдачу!

Недабачыў паляшук
З хаты безаконнай
Дзён надходзячых без мук,
Без трудоў прыгонных.

Раскаваў балота з пут,
З дрыгвы непраходнай
Гераічны вольны люд
Працаю свабоднай.

II

І ляжаць канавы,
Тыя магістралі,
Па іх воды рэчкай
Усё далей, далей...

Бягуць да Арэсы
Сярод яшчэ пустак,—
Цалiной балота
Залягае густа.

Магістралі складна
Шлях працерабілі,—
А йшчэ шмат работы
Чалавечай сіле,

Каб зрабіць прыгоднай
Глебу ў самым дзеле,
Каб на полі роўным
Трактары запелі,

Каб высокі, буйны
На тарфянні чыстым
Зашумеў чаротам
Колас залацісты.

Чакае Палессе
Людзей смелых, жвавых,
Каб прыйшлі і дружна
Ўзяліся за справу.

Рук яно чакае
Новых, гаспадарных,
Спаборнікаў стойкіх,
Брыгадаў ударных.

Яны хутка прыйдуць,
Вогнішчы разложаць,
Да канца балота
З багны адварожаць.

Бо йдуць чуткі сільна
Па цэлай краіне,
Што адкрыты скарбы
Ў балотнай пустыні.

### Камуна

#### 1

Вясной з'явілася іх сем
Свет новы будаваць,
А восенню прыйшло яшчэ
Іх семдзесят і пяць.

З Самарскае дывізіі
Было найбольш за ўсіх —
Балотных здольных піянераў,
Ахвочых, маладых.

Прыйшлі і фрунзеўцы варочаць
Супольна цаліну,
На дрэмлючых спрадвеку землях
Заводзіць навіну.

Таксама і з Чангарскай
Дывізіі ўдалой
Сюды з'явілася іх восем
Наступнаю вясной.

Жаданне ладзіць новы лад
Сюды ўсіх прывяло,
Надзея, вера ў лепшы час —
Багацце іх было.

Не страшны смелым ім былі
Спякота, халады,
Асенняя слата, імжа,
Снягі, марозы, льды.

А Забалоццем той бугор
Зваў паляшук здаўна,
Дзе першы раз нагу сваю
Паставіў камунар.

Балота, забалаць балот,
Як там ні называй,
Але ступіў тут бальшавік —
Ён зменіць гэты край.

Палаткі, пілы, тапары
Прывалаклі з сабой.
І згодна, як адной сям'ёй,
Пайшлі ў рашучы бой.

Адны ў дрыгве карчуюць гаць —
Паўзуць уверх карчы,
Другія вараць у катлах
Ім скромныя харчы.

А трэція цягаюць лес,
Каб збудаваць барак...
Ў палатцы добра ўлетку жыць,
Але зімой — не так.

Карчуюць нетру дзень у дзень
Удоўж, ушыр, углыб;
Палаткі з імі след у след,—
Другіх няма сяліб.

За крокам крок, за метрам метр,
За гектарам гектар —
Чысцее поле тарфянішч,
У сонцы ўжо абшар.

II

Кіпіць работа, як нідзе,
Гарыць ажно яна ў руках,
Што знача праца ў грамадзе,
Які палёт, які размах!

Здавалася б, чаго хацець,—
Працуй ды весела пяі,
Але павук расставіў сець
У камунарскае сям'і.

І пазіраюць спадылба,
Як бы тачыў на іх хто нож,
Там-сям прарвецца і кляцьба,
Скрабецца ў сэрцы нейкі смоўж.

Ў камуне быццам нелады,
Бы менш дабра, і болей зла...
А таго ліха, той бяды
Прычына простая была.

З васьмі чангарцаў пяцярых
Няўдалых выйшла змагароў:
Яшчэ нявольніцкіх, старых
Не пазбыліся ланцугоў.

Камуна ім была няўцям,
Трымаліся, як дзікуны;
Палатку й то асобна там
Сабе паставілі яны.

Імкнуцца быць не на віду,
Самі сабой гуляюць, спяць,
Ўсю неспакояць грамаду
Нягодных «камунараў» пяць.

Работа ў іх — курам на смех,
Работа ў іх ідзе за плот,
А як пасееш, так пажнеш,
Такі мець будзеш умалот.

Работа валіцца ім з рук,
Ды йшчэ давай круцель-муцель:
Каб, мабыць, менш было дакук,
Аддзельна ўзялі сабе дзель.

Ды на «дзялянцы» на «сваёй»
На месцы топчуцца, як цьмы;
З бязглуздай працаю такой
Не дачакацца вам вясны.

І камунарам іх цярпець
Не стала болей ужо сіл;
Няхай пустуе лепей клець,
Чымся заводзіць у ёй пыл.

Хвалюецца люд малады,
Склікае сход аднаго дня.
На сход прыйшоў, як заўсяды,
Таварыш Модзін — старшыня.

І слова ўзяў, і кажа так:
— Тут не прыстанішча у нас
Для гультаёў і для гуляк,
А месца для працоўных мас.

Мо й смачны хлеб вам дармавы,—
Малая ж гэтакім цана.
Камуне не патрэбны вы,
Без вас абойдзецца яна.

Адзін з пяцярых:
— Ды як жа так?
Працуй, працуй,
Адно багно,
Ў дрыгве начуй,

Ні табе сон,
Ні ў час яда,
Сячэ камар,
Смярдзіць вада.

Адзін з камунараў:
— А што ж, вы мо хацелі б
Пуховае пасцелі?
Гарэлкі пяць бутэлек,
Як бы дзе на вяселлі?

Каб на стале бліноў і сала
Гара высокая ляжала,
Ды не рабіць зусім нічога
Ні для сябе, ні для нікога?

Другі з пяцярых:
Ты контрафалдаў
Нам не мялі,—

Свабодных земляў
Шмат на зямлі.

Не трэба нам
Тваіх балот,
Дзе ногі сам
Паломіць чорт.

А д з і н з ч а н г а р ц а ў
*(да пяцярых):*

— Як вам не сорам, як не стыд
Сябе так весці між братвы!
Чангарцы вы дасюль былі
І не чангарцы ужо вы!

Як добрых тутка вас прыняў
Камуны вольнай калектыў,
Каб вольна, згодна, без прынук,
З балота йсці да яснаты.

І праўду кажа старшыня,
Да слоў яго і я дадам:
Вы нашай здрадзілі сям'і —
Не месца ўжо ў камуне вам!

Д р у г і з к а м у н а р а ў:

— Ды што з імі цацкацца,
Ды што валаводзіцца?
Без гэткіх камуншчыкаў
Камуна абойдзецца.

Не нам з адшчапенцамі
Такімі ўжо братацца,
З няўдалай «брыгадаю»
Пара нам рассватацца!

Т р э ц і з к а м у н а р а ў:

— Пад партыйным кіраўніцтвам
Працуем на якасць,
Нам урад ідзе насустрач
І наша грамадскасць.

За ўсім крэпка назіраем
Вокам гаспадарскім,

І мітрэнжыць[1] не дазволім
Лад наш камунарскі.

Ці то лодыр, ці прагульшчык —
Тут не жыць такому...
Забірай манаткі з хаткі,
Выбірайся з дому!

Старшыня Модзін:
— Таварышы, цішэй!
А то ўжо надта громка,
У нашай грамадзе
Яно як бы й няёмка.

З усіх вашых прамоў
Мне ясна тут адно:
З камуны трэ было
Іх выключыць даўно.

Але, як проста кажуць,
Лепш позна, як ніколі;
Я галасую справу,
Як быць тут — ваша воля!

Хто «за», за выключэнне,—
Прашу падняць тых рукі.
Хто проць, хто устрымаўся? —
Няма. Без лішняй мукі.

Прайшло аднагалосна,
Каб выключыць за барскасць
З камуны пяцярых тых
З дывізіі Чангарскай.

Чацвёрты з камунараў:
— Ды выдаць ім паперы
І прыпісаць за кару,
Каб у Саюзе знал,
Што з іх за камунары.

. . . . . . . . . . . . .

[1] Мітрэнжыць — у сэнсе баламуціць, падрываць, мяшаць.

А траіх чангарцаў
Працуе й сягоння
На тых раскаваных
Камунарскіх гонях.

III

Як з плеч гара звалілася
З нялёгкай гэнай з'явай.
З «пяцёркай» расквіталіся
І далей зноў за справу.

У думках прасвятлелася
У камунараў нашых,
Камуне новастворанай
Разлад ужо не страшан.

Кіпіць работа цяжкая
Ад рання і да ночы,
Ніхто не йдзе з дакорамі —
Такі ўжо люд рабочы.

Загон балотны шырыцца,
Ачышчаны з карэння,
Іграюць пілы пільшчыкаў —
На дошкі йдзе бярвенне.

Адны рыхтуюць торфішча
Для севу безупынку,
Другія — дрэва звонкае
Пад новыя будынкі.

Цягнулася так месяцы,
Ды выплыла такое,
Што не хапае нечага
Камуне маладое.

Яны ўсе агледзеліся,
Што ў іх няма жанчынаў,
Што так без гаспадыніных
Рук трудна жыць мужчынам.

*

Сход. На сходзе, як звычайна,
Старшынёй таварыш Модзін;
З нейкай думкаю патайнай
Сход вачыма ён абводзіць.

— Буду коратка мець слова,—
Кажа ён, як бы меў клопат: —
Для камуны нашай новай
Жанчын трэба, ну, і ўсё тут.

— Трэба! Трэба! — стогалосна
Загучэла гулка маса,
Ажно рэха пайшло ў соснах
Ад тэнораў і ад басаў.

— Галасую! — крычыць Модзін.
— Так прыняць? нашто час траціць!
І прынялі, і ніводзін
Проць не меў чаго сказаці.

— Дык вось,—Модзін далей кажа,—
Па чарзе дадому едзьце,
І хай кожны з вас разважа,
Як і што мець на прымеце.

Ліквідуйце гаспадаркі —
Парасят, авечак, коні,
І прывозьце у камуну
Камунаркі, хоць сягоння.

Хто жанаты — вязі жонку,—
Без падушкі ці з падушкай;
Хто не мае жонкі,— звонку
Пашукай сабе падружку.

Пасля гэтакай прамовы
Ідуць весела дахаты,
Ўсе давольны з пастановы —
Нежанаты і жанаты.

І жаніцца, дык жаніцца,—
Байцы рады пастарацца,—
Святлей будзе у святліцы,
Ямчэй пойдзе ў полі праца.

А ў рабоце на балоце
Немалая будзе помач,
Бо жанчына пры ахвоце
Не паддасца ўжо нікому.

*

Шум і гоман вакол,
А што за навала?
То камуна ужо
Ўдвойчы большай стала.

І работа пайшла
Там спарней удвое,
Камунарскі народ
Ходзіць буйным роем.

Ідзе ў свет новы год —
Дзевяцьсот трыццаты;
Які ж будзе, які:
Бедны ці багаты?

Бягуць дні, як вада,
Снег ужо сыходзіць —
Сваё права вясна
На зямлі заводзіць.

Лес зялёны шуміць,
Песнямі заліўся,
Над палянкай цвірчаць
Жаўрукі у высі.

А ў камуне, глядзі,
Вялікае свята:
Трыста гектар зярна
Засеяў ім трактар.

Пахаджаюць сабе
Зважна камунары
Каля першай сяўбы,
Як тут гаспадарaць.

Пахадзілі сабе
Ды зноў у балота —
Карчаваць ды араць
Ударнаю ротай.

## IV

Шмат чаго зрабілі
Камунары ўжо:
Выраслі будынкі
Над балот мяжой.

Хаты і аборы,
Хоць не ўсе яшчэ,
Сталі роўным радам,—
Стала жыць лягчэй.

Хутка збудавалі
І млын паравы,
Пры ім лесапілку
У два паставы.

Млын вурчыць ды меле
На муку зярно,
Рэжа лесапілка
За бярном бярно.

Пры той лесапілцы
Працаваў змагар,
Барысенкам зваўся
Гэны камунар.

Падкладаў калоды,
Дошкі аднімаў,
Але рукой моцнай
Долі не ўтрымаў.

Аднаго так разу,
Неўспадзеў зусім,
Адляцела дошка,
Гакнула па ім.

Гакнула без жалю,
Як тым абухом...
Народ збегся быстра,
Абступіў кругом.

На нарах панеслі,
Клалі ў ложак з нар;
Тры дні і тры ночы
Ўміраў камунар.

І сканаў ваяка
За быт камунарскі;
Ўжо яму не трэба
Ні трудоў, ні ласкі.

Над магілай свежай
Капнула сляза;
Чулую прамову
Старшыня сказаў:

«Спі, наш Барысенка,
Камунарскі сын!
У сям'і у нашай
Быў ты не адзін.

Арміі Чырвонай
Верны быў салдат,
Полк з цябе быў рады
І начальнік рад.

Ой, таварыш любы!
Рана, браце, згас,
Камуністам стойкім
Быў на варце ў нас.

Спі, наш Барысенка,
Лёгкім будзь пясок!..
Па табе застаўся
Твой малы сынок.

Ён цябе падменіць,
Не здрадзіць табе,—
Першым будзе ў нашай
Ворцы і сяўбе.

Будзе ён ударнік,
Будзе брыгадзір...
Спі, наш Барысенка,
Працы камандзір!» —

Сыпнулі зямлёю
На сасновы гроб;
Грабарок уважна
Курганок нагроб.

Камунаркі збоку
Плакалі няўзнак,—
Свайго камунара
Шкадавалі так.

Ды йшчэ галасілі
Бабулі на ўмор:
— На каго ж пакінуў?
— А нашто ж памёр?

V

Ідзе будаўніцтва,
Ідзе карчаванне
Усё далей, шырай,
Шчыра, безустання.

У камуне школа,
Электрычнасць, яслі,
Дымныя лучыны
Назаўсёды згаслі.

У камуне ў сотні
Кароў бродзяць стады,
Іржуць рэзва коні,
Растуць буйна грады.

А з прыселля глянуць,
Вокам кінуць вокал:
Разляглося поле
Далёка, далёка.

Трактары шнуруюць
Над Арэсай-рэчкай,
Сякуць плугам, дыскам
Торфішча на сечку.

Жыта, авёс, бульбу,
Каноплі, капусту
Засяваюць, садзяць
На той глебе тлустай.

І сёння зайздросціць
«Мінарал»[1] балоту:

---

[1] Новы тэрмін. Мінаралам завуць грунтовую глебу для адрознення ад балот.

Бо ўраджай на торфе,
А на ім пустота.

Так расце, расце ўсё
Небывалым ростам,
І, здаецца збоку,
Ўсё так ясна, проста.

Як бы тут спрадвеку
Ўсё так вырастала,
Бы сама сабою
Багна полем стала.

Але так здаецца...
Ўсё зрабілі рукі,
І іх не забудуць
Патомкі-унукі.

Што зрабілі людзі
З балотных палеткаў,
Сведкай верш мой гэты,
Вясна гэта сведкай.

Тысяча гектараў
Ды яшчэ са трыста
Засеяна збожжа
На балоце чыстым.

*

Я сяўбу сам бачыў,
Палеткі абходзіў,
На жыццё камуны
Наглядзеўся годзе.

Тут жа я прымеціў
З'явішча такое:
Як бы ўся ў іх праца
Шла сама сабою.

Бо як ні ўзіраўся
Гэтак ды іначай,
Я там прыганятых
Ніякіх не бачыў.

Таксама начальства
Не чуваць, не відна...
Як жа так без панства,
Без прынук агідных?

Ды такое нешта
Яшчэ я заўважыў,
Што для чужаземца
Здалося б міражам.

Гэта перад светам
Павінен адзначыць:
Мне людзей там смутных
Не прыйшлося бачыць.

І не чуў у камуне
Скрытных уздыханняў,
Лаянак і сварак,
Горкіх нараканняў.

VI

Да саўгаса «Сосны»[1]
Па балоце — рэйкі,—
Гэта ад камуны
Йдзе вузкакалейка.

Правялі ударна
Па доўгім абшары
Зімою мінулай
Яе камунары.

Не было ў іх спецаў,
Ані там прарабаў,
Самі ж яны знaлі
Інжынерства слаба.

Знaлі адно толькі,
Што чыгунка трэба,
Як дождж на пасевы,
Як да стравы хлеба.

---

[1] Саўгас імя дзесяцігоддзя БССР. Для скарачэння яго называюць па-старому проста — Сосны.— *Я. К.*

Гутарак нямала
Прыйшлося правесці,
А тут з мінскіх цэнтраў
Аніякай весці

Раяцца, мудруюць
Камунары чынна;
Думка аб чыгунцы
Ім загнала кліна.

Ўзяцца проста з моста
За гэтую справу,
Нарабіць так можна
Шкоды для дзяржавы.

За блытню ж такую
Дасціпных малойцаў
Ужо не пагладзяць
Гладка па галоўцы.

Раяцца з сабою
Весела, то хмурна,
Часам згодна, ціха,
Часам вельмі бурна.

Аж тут абазваўся
Громка Адзярыха:
— Будзем мець чыгунку,
Хай мне будзе ліха!

Служыў на заводзе
Калісь я ў майстэрні,
Склёпываў рэсоры,
Складываў шасцерні.

Вылажу й чыгунку,
Будзьце ўжо спакойны.
Усё, што належа,
Зробім самастойна.

Пад яго камандай
Пайшла справа гладка...
І палеглі шпалы,
Як за кладкай кладка.

Па іх рэйкі — шнурам,
Як на скрыпцы струны.
І ўжо ўсё гатова,—
Карыстай, камуна!

Строіў Адзярыха
Для працоўных масаў —
Чырвонаармеец,
Адстаўны да часу.

Не вучыўся ў ВТУЗах,
Не быў інжынерам,
Камунар быў толькі,
На аўто шлях мерыў.

З тым ці іншым стажам,
Але камуністы,
Пралажыў чыгунку
Па шляхах дрыгвістых.

*

Бягуць каляіны
У сем кіламетраў,
Цягнік — па калеях,—
Адно свішчуць ветры.

Камунары пішуць —
Стараюцца ўмела,—
Што ўжо іх чыгункай
Можна ездзіць смела.

— Прыедзьце, ўпішыце
Ў дзяржаўны прыбытак,
Правам узаконьце
Новы наш здабытак.

Прыехалі «спецы»,—
Як жа не прыехаць,—
Пачалі дарогу
Аглядаці нехаць.

— Як так? Дзе дазволы? —
Пачалі адразу:

— Хто форміў па форме
Падрады, заказы?

— Хто месца адводзіў?
Планаваў хто планы?
Чаму цыркуляры
Ў вас не захаваны?

I ўсё так бурчэлі,
А зласней, чым далей,
I не далі рады:
Каляю прынялі.

*

Свіснуў раз, свіснуў два
Шустры паравозік,
I павёз, і павёз
За возікам возік.

Ваганеткі бягуць
Па рэйках чыгунных
Туды ў «Сосны», ў саўгас
Ад самай камуны.

Ад саўгаса назад
У камуну едуць.
Колькі радасці той,
Трэба толькі ведаць!

То не жарт, то не смех,—
Маюць на падмогу
Ў гаспадарцы сваю
Жалезну дарогу.

Ты кукуй, не кукуй,
Зязюлечка-птушка...
Камунарцы цягнік
Празвалі «кукушкай».

А на рэчцы на Арэсе
Сталася прыгода:
Ідзе наступ на балота
З поўначы, з усходу.

Там красуе ўжо камуна
На тарфянні бурым...
Паляшук жа адзіночка
Ўсё йшчэ бровы хмура.

Не хмурыся, добры дзядзька,
Гэтак хмурна, сумна!
Для тваёй жа лепшай долі
Вырасла камуна.

*

А па рэчцы па Арэсе
Бегае «маторка»;
Стары човен, як карыта,
Пазірае горка.

Дажывае свайго веку
На яве ўжо новай,
Бо ўжо човен у Палессе
Ўрэзаўся сталёвы.

Новы човен сілы повен,
Гордасцю лялее...
Паланееццa Арэса
Чырвонай лілеяй.

*

А на рэчцы на Арэсе
Тэмп узяты шпаркі:
Камунары, камунаркі
Глядзяць гаспадаркі.

Тут спаборніцтва ў пашане,
Ударніцтва так жа,

Кожны месца сваё знае,
Бо інача — як жа?!

Не пагаснуць для іх зоркі,
Як дасюль не гаслі;
Пашыраецца камуна,
Пашырае яслі.

*

А на рэчцы на Арэсе
Растуць акцябраты,
Піянеры, камсамольцы —
З бальшавіцкім гартам.

Расце змена камунарам
Стойкім, гартаваным.
Служыць будуць камунарству,
Як бацькі, аддана.

Не папусцяць сябе ў крыўду
Ў буры, ў ліхалецці;
Для іх цэлы свет — край родны,
Для іх сонца свеціць.

*

А на рэчцы на Арэсе —
Будынкі, будынкі!
Пахнуць соснаю смалістай,
Пахнуць свежым тынкам.

Сцены гладка склютаваны,
Стрэхі з бляхі белай,
Столь, падлога габляваны,
Вокны ў сажань цэлы.

Днём іх сонца асвятляе,
Электрыка — ўночы...
Так сабе сам іх пастроіў
Камунар-рабочы.



А на рэчцы на Арэсе
Многа, многа дзіва;
Жывуць сабе камунары
Весела, шчасліва

Ды камуну сваю ладзяць,
Каб што дзе ды лепей,
Запяваюць гулка песні:
— Калі хто зачэпе,

Ды час прыйдзе, ды паклічуць
Да новай работы,—
Пойдзем асушаць з вінтоўкай
Пінскія балоты.

### Саўгас

#### I

Мар'іна балота,
Ніхто не ймець веры,
Колькі ты хаваеш
Багаццяў без меры!

Мар'іна балота,
Колькі ў табе красаў!
На сабе гадуеш
Камуну, саўгасы,

Мар'іна балота,
Буйнае прыволле!
Людзей сёння корміш,
Даеш корм жывёле.



Ідуць рэхі ў светы
Аб камуне цуднай,
Што так забуяла
Хутка, не марудна.

Ідуць рэхі ў светы...
А тым самым часам
Побач ля камуны
Паўсталі саўгасы.

На прыселлі Сосны
Адзін заснаваўся,
На гіганта вырас,
Адно дзіву дайся!

А другі — Загалле[1] —
Па той бок Арэсы
Зацвіў на балотах,
На тых пусталесах.

Сорак тысяч топча
Пад сабой гектараў.
Гэта вам не жарты.
Гэта вам не мара!

Але я Загалля
Не хачу узвышыць —
Крытыкі хай лепей
Пахвалу напішуць.

Лепш я сваё слова
Адлажу на потым,
Бо там непаднятым
Пахне йшчэ балотам.

*

Сосны, мае Сосны!
Спрадвеку раслі вы,
Бачылі нямала
Ў век свой нешчаслівы.

Паншчыну, лад царскі
Бачылі вы, Сосны,

---

[1] Загалле — вёска недалёка ад саўгаса.

Многа зімаў, летаў,
Восеняў і вёснаў.

Бачылі каранне
Убогага люду,
Ланцугі на шыі.
Голых трупаў груды.

*

Сосны, мае Сосны!
Сягнулі далёка,
Хоць расці над багнай
Было вам нялёгка.

Выраслі ж вы буйна
Ўсяго за тры годы,
Горда узняліся,
Забуялі горда.

Ці то сонца свеціць,
Ці то месяц ясны,
Вам смяецца неба
Весела і шчасна.

*

Сосны, мае Сосны!
Для вас яшчэ далей,
Як у той камуне,
Ляглі магістралі.

На вашых палетках
Калектараў[1] болей,
Болей і дрэнажаў
Перасекла поле.

Тарфяное поле,
На якое ўчора

---

[1] Калектараў — размеркавацеляў вады.

Чалавек баяўся
Выйсці з сваім горам.

А сягоння смела
Спяшыць за машынай
Па сухой раўніне...
Як гэта ўсё дзіўна!

II

Я не буду ўнутр залазіць
Падзеяў саўгасных,
Апішу толькі, што бачыў
Болей-меней ясна.

Аб брыгадах аб ударных
Ўспомніць добрым сказам,
Аб рабочых, трактарыстах —
Можа, іншым разам...

Тут пачну я апісанне,
Як пішацца ў казках,
Бо іначай не выходзіць,—
Слухайце, хто ласкаў!

За гарамі, за далямі,
Ў балотах пустынных
Паўставала, вырастала
Новая краіна.

Непраходныя былі дзе
Балотныя гаці —
Там красуюць, там буяюць
Нівы, сенажаці.

Поле роўнае такое,
Бы стол габляваны,
Толькі, дзе самая ферма,
Высіцца паляна.

Ад вясны вясёлай, ранняй
Да восені познай
Пяе поле трактарамі
Весела, пагрозна.

Дзве чыгункі на саўгаскім
Сходзяцца вакзале;
Свішчуць, граюць паравозы,
Аж чутно ў Загаллі!

То прывозяць, шмат прывозяць
Па жалезных шынах —
Угнаенне пад насенне,
Трактары, машыны.

То вывозяць, шмат вывозяць
Грузаў вельмі цэнных:
Пянькі многа, бульбы многа,
Найболей жа сена.

А ў ім колькі інвентару
Вартасці вялікай —
Нежывога і жывога,
Не знойдзеш і ліку!

Саўгас — горад, не мястэчка,
Не які там Любань!
Лад-парадак, люду поўна,
Толькі глянуць люба.

Гаспадарнаму саўгасу
Ёсць чым пахваліцца:
Ў ім будынкі ў два паверхі,
Клуб, як у сталіцы.

Ёсць бальніца, у бальніцы —
І доктар, і фельчар,
Хто прыходзіць ці прывозяць —
Хворых лечаць, лечаць.

Ёсць аптэка, акушэрка —
Служыць, ну, за бабку,
Бо ў саўгасе тэмпы, тэмпы,
Не спяць людзі ў шапку!

На рабфаку на вячэрнім
Вучацца студэнты,—
Сваю цемру, некультурнасць
Знішчаюць дашчэнту.

А рабфакаўцаў нямала —
З сем'яў больш бядачых;
А рабфакаўкі як глянуць,
Ажно сэрца скача!

Для рабочых, для работніц
Выгады, аж міла!
Яслі, лазня і прачкарня,
Колькі хочаш мыла.

Людзі там працуюць дружна,
Няма ўхілаў панскіх,
Бо народ усё савецкі,
Рабоча-сялянскі.

Ёсць, напэўна, недахопы,
Бо як жа іначай
Ў гаспадарстве, ў будаўніцтве?
Але іх не бачыў.

У саўгасе электрычнасць,
Віднаты без кошту,
Свая радыёўстаноўка,
Тэлефон і пошта.

Я закончу, бо апісваць
Прыйшлося б бясконца...
Наагул там ценей меней,
Болей кветак, сонца.

### Замест заключэння

І камуна гэта,
І гэты саўгас
Будуць з лета ў лета
Расці ў добры час.

Каб прысуд свой выдаць
Аб новых палёх,
Сюды людзі прыйдуць
Зблізку і здалёк.
Падзівяцца з новай,
Вольнай грамады,

Ўспомняць добрым словам
Герояў тады.

Сонца, месяц, зоры
Будуць аглядаць
Новыя прасторы —
Ніву, сенажаць.

Аб новым Палессі
Яснае зары
Складаць будуць песні
Складна песняры.

Апяюць у песнях
Працу, гераізм,
Як на край балотны
Йшоў сацыялізм.

Як пад пільнай вартай
Партыі пабед —
Бальшавіцкай партыі —
Вырас новы свет.

І хоць будзе шкодзіць
Вораг мо й не раз,—
Пройдуць у стагоддзі
Камуна й саўгас.

*Камуна БВА, Мінск.*
*Май 1933 г.*

## БАРЫСАЎ

Плыве у свет рака Бяроза,
Плыве сягоння, як і ўчора,
То паміж ніцых вербалозаў,
То між адвечных пушчаў-бораў.

Сваёй вадою поіць шчыра
Калгасы, фабрыкі, заводы
І на плячах нясе між віраў
Плыты, лайбы і параходы.

Плыве рака Бяроза плаўна,
Плыве, мінае горы, долы;
На берагах яе спрадвеку
Паўсталі гарады і сёлы.

Паўстаў Барысаў ў сотні гоняў,
Стаіць над рэчкай і сніць думы:
Якім ён быў, якія сёння
Яму пяюць Бярозы шумы.

*

Княжылі тут князі,
Крулі крулявалі,
І цары царылі
У крывавай хвалі.

Турмы будавалі,
Кавалі кайданы;
На народным целе
Сачыліся раны.

Былі войны, бітвы,—
Слёзы, кроў ліліся;
Шведа, Банапарта
Сляды засталіся.

Ў Бярэзінскіх водах
Немец паіў коні,—
Вільгельмава зграя
Ў памяці й сягоння.

Грабілі культурна,
Не знаючы жалю,
І армяк апошні
З бедняка знімалі.

Край абрабавалі
Хоць за час кароткі
Гэтыя блізкія
Гітлеравы продкі.

А паноў навалу,
Іх каранняў жудзі
Помніш ты, Барысаў,—
Павек не забудзеш.

То было нядаўна —
Помніць камсамолец,
Як была скавала
Жудкая няволя.

Паны прывіталі
Цябе, мой Барысаў,
Вісельняй, і куляй,
І пажарным прыскам.

Генерал Шаптыцкі,
Праклятае славы —
Выпраўляў жалезам
Свой банкет крывавы.

Але да скanання
Яму не ўдалося
Спапяліць ідэю,
Як наша калоссе.

Генерал Шаптыцкі,
Найяснейшы пане!
Ўжо твой бот жандарскі
Болей тут не стане.

Ўжо табе не бачыць
Вісельняў, пагромаў,
Што тварыў ты, пане,
Ад польскай кароны.

Моцная ўжо зброя
Ў вольных пралетараў,
І на тваю кару
Ўстануць грознай карай.

*

Панясла Бяроза
Кроў людскую ў мора,
А з крывёю разам
Вялікае гора.

Павешаных сем'яў,
Сірацінаў кволых,
Спаленых пажарам
Гарадоў і сёлаў.

Спалены Барысаў
Збыўся акупантаў,—
Рукой бальшавіцкай
Паўстае гігантам.

Паўстае з руінаў
Кветкаю ружовай,
Фабрыкі, заводы
Заводзіць нанова.

Коміны пад небам
Задымелі дымам,
Гудкі загудзелі
Над усёй радзімай.

Бярэзінскім буйным
Камбінатам смела
Ужо ганарыцца
Перад светам цэлым.

За нашых запалак
Аганёк цудоўны
Сыпяцца далары —
Гарні жменяй поўнай!

А народ рабочы
Гэткі маладзецкі!

Такі знойдзеш толькі
Ў Саюзе Савецкім.

Працуе ударна
З вясёлым прыветам,
Бо ён сын адданы
Краіны Саветаў.

Ён хадзіў паходам
На табун варожы,
Сягоння багацце
Для краіны множыць.

Горды сваёй сілай,
Уладай сваёй горды,
Пры станку стаіць ён
Непахісна, цвёрда.

*

Ў фабрыках, заводах
Гоман ля машынаў:
— Леніну мы помнік
Паставіць павінны.

Трэба таму помнік,
Які ўдзень і ўночы
Увесь свой век змагаўся
За справу рабочых.

Так пайшла па цэхах
Ды па ўсіх брыгадах
У рабочай масе
Важная нарада:

Колькі хто даць можа
З сваіх заработкаў
На такую справу,
А ў тэрмін кароткі...

*

Не ахвяры гэта
І гэта не грошы,

Што ўносіў рабочы
Старшы і малодшы,—

А крупінку сэрца
Хацеў кожны ўнесці,
Каб ленінскай славы
Шлі йшчэ далей весці.

*

І паўстаў гранітам
Правадыру помнік
Ў Барысаўскім парку
Для вякоў патомных.

*

І памёр стары Барысаў,
Ўстаў Барысаў новы,
Не дымяць агні пажараў,
Не браздждаць аковы.

Прамінула ліхалеццe
Бураў, завірухаў...
Аднак ты, Барысаў новы,
Не драмі, а слухай!

Не паддайся снам спакойным
Пад шчаслівым небам:
Хітры вораг за мяжою
Набівае стрэльбы.

*6/VII-34 г.*

## ТАРАСОВА ДОЛЯ

*Памяці Тараса Шаўчэнкі*

I

Ходзіць гоман па Ўкраіне
У святочных шатах...
Гаманіць Днябро са стэпам
Аб вялікім святу.

Тую долю, што калісьці
Тарас напрарочыў,—
Тую долю чуюць вушы,
Бачаць ясны вочы.

Тая воля, на якую
Тарас спадзяваўся,
Загуляла ў буйным стэпе,
Сонцам абвілася.

Тое шчасце, аб якім так
Тарас вечна марыў,
У народзе на свабодзе
З Крамля гаспадарыць.

Добрым словам памінае
Вялікага сына
Украіна маладая,
Вольная Ўкраіна.

II

Як раджала яго маці,—
Не свяцілі зоры,
Зубы скаліла няволя,
Хахатала гора.

Песень радасных, вясёлых
Над яго калыскай
Не спявалі маладухі
Ні здалёк, ні зблізку,

А як вырас, як падняўся,
На свае стаў ногі,

Следам — паншчына, батрацтва,
Панскія парогі.

Крукам гнуўся перад панам,
Уздыхаў нясмела,
Катавалі батагамі
Юнацкае цела.

Энгельгарты, Энгельгарты!
Ўжо вам не паўстаці,—
Адамсціла Украіна
За дзяцей і маці.

III

А было ў тыя часіны
Цёмна, бы ў магіле,
Людзі гінулі, як мухі,
Ці, як здань, блудзілі.

Ні святла таго, ні ўсмешкі
Хоць бы на хвіліну,—
Ночка хутала Ўкраіну,
Ці ж толькі Ўкраіну?!

І скрыпелі, і бразджэлі
Ланцугі наўкола,
Панства людам гандлявала,
Як нямой жывёлай.

Прадавала і мяняла,
Ў карты прайгравала,
Крыві, слёзам канца-меры
Бядняцтва не знала.

Гэткай катаргі і мукі
Пяром не апішаш.
Прамінула. Толькі думку
Успамін калыша.

IV

Нарадзіўся на свет белы
І Тарас у путах,
А нялёгка, ой, браточкі,
Змалку быць закутым!

Я таксама нарадзіўся
У ланцугах пад царам.
Спапяліў бы ту часіну,
Каб я мог, пажарам!

Прайшлі годы. Тарас вырас,
Як таполя ў полі.
Выкуплялі добры людзі
Тараса з няволі.

Як браў грошы пан вяльможны
Рукою паганай,
Кроў блішчэла на дукатах,
Кроў людзей скаваных.

Кроў скаваных бацькі, маці,
Скованага сына,
Кроў блішчэла на дукатах
Скутае Украіны.

V

Па гасцінцы беларускім,
У Пецярбург з Варшавы,
За карэтаю за панскай
Пхнецца хлопец жвавы.

Гэта йдзе Тарас-нявольнік,
Служка ясне-пана,
Пан у золаце. Ён бедны,
Босы, абарваны.

Беларускія бярозы
Абапал гасцінца
Калыхалі думкі шумам
Хлапчуку-ўкраінцу.

Бор шумеў яму над вухам,
Булькалі крыніцы,—
Маладому, дасціпному
Было чым дзівіцца.

Бачыў убогія хаціны,
Крытыя саломай,
Людзей бачыў паднявольных,
Што і ў сябе дома.

## VI

Чаму ў сэрцы беларускім
Песня Тарасова
Адгукнулася, запела
Зразумелым словам?

Чаму вецер з Украіны
З думкаю крылатай
Далятаў да Беларусі
І шумеў над хатай?

Бо йшла доля беларуса
З доляй украінца
Аднолькова — ў поце, ў слёзах,
Церневым гасцінцам.

Бо згіналі аднолькова,
Змалку да скanання,
Шыі ў ёрмах і чакалі
Яснага світання.

Як жылося, як вялося,
Як марнелі сілы,
Таму сведкай там і тутка
Курганы, магілы.

## VII

Пакахаў Тарас дзяўчынку
У дзяцінстве, рана,
І да самае да смерці
Не забыў Аксаны.

Разам пасвілі чужыя
Свінні ды авечкі,
Разам бегалі ўдагонку
Босыя да рэчкі.

Колькі выснілі абое,
Думак нагадалі,—
Гэта знае стэп шырокі
Ды Дняпровы хвалі.

Сэрца меў Тарас такое,
Што любіць умела,
Вочы меў, што ўмелі плакаць
Па мілай век цэлы.

Тараса пагнаў з сабой пан
З роднае краіны,
А Аксана шукаць хлеба
Пабрыла ў чужыну.

VIII

Хто б падумаў, здагадаўся,
Што ў такіх аковах
Быў Тарас багаты скарбам,
Скарбам адмысловым.

Ні цары, ні іхні слугі,
Ні паны, ні каты
Не маглі забраць, украсці
Гэты скарб багаты.

А была яго багаццем,
Скарбам небывалым,
Была песня, што з-пад сэрца
На свет вылятала.

Не танула песня ў моры,
Ў агні не гарэла,
Закаваць не мог у путы
Сатрап азвярэлы.

Маляваў ён і малюнкі,
Ды, як сіл ні траціў,
Не ўдалося у няволі
Шчасце змаляваці.

IX

І не спіцца, і не сніцца
Тарасу на свеце,
Дзе ні гляне,—скрозь няволя,
Плача маці, дзеці.

Украіна пад панамі,
Пад жандарам-царам
Сіратою стогне, гіне
Ў жудкіх думах, марах.

Вешаць ляхаў, з плеч скідаці
Царскія галовы! —
Зашумела па Ўкраіне
Песня Тарасова.

Усю крыўду, катаванне,
Што душыла грудзі,
Выліваў ён на паперы,
Каб ведалі людзі.

Заклікаў да лепшай долі,
Долі і свабоды,
Клікаў шчасце, клікаў сонца
Для свайго народа.

X

Пайшло слова Тарасова
Горда, непакорна,—
Знайшла водклік яго песня
У людзей прыгонных.

Людзі вочы праціралі,
Выглядалі волі.
— Тарас праўду нам спявае,—
Спявай жа, брат, болей!

А цара, яго прыдворню,
А паноў крывавых
Агарнуў страх ад такое
Бунтарскае з'явы.

Думу думалі, як лепей
Тараса караці,
Ці на полі, на кургане,
Ці ў бацькавай хаце.

І каралі яго карай,
Каб нямым зрабіўся,

Каб складаці свае песні
    Навек адвучыўся.

### XI

Ой, шлях катаржны, нялёгкі,
    Вытаптаны горам,
Косцьмі людскімі услaны,
    Вымыты слёз морам!

Павяла па ім, халодным,
    Тарасова доля
Цераз пушчы, цераз нетры,
    Праз пустое поле.

Адзінока. Гукнуць спробуй —
    Не пачуеш рэха,
Толькі звер падчас завые
    Ашалелым смехам.

Ой, загнаў цябе, Тарасе,
    Подлы цар-душыцель!
У труну злажыў жывога,
    Каб не думаў жыці.

Тарасовы гора, мукі
    Камень толькі бача,
Ды шумлівы вецер чуе,
    Як гаротны плача.

### XII

Крэпасць Орская — астрогам
    Ды з царскім указам,
За пяро каб і за пэндзаль
    Не браўся ні разу.

Каб не браўся і не думаў
    Дум сваіх крамольных.
Во якую панёс кару
    Пясняр паднявольны!

А сны сняцца аб радзіме,
    Аб стэпе мурожным,—

Маляваў бы хоць крывёю,—
I крывёй не можна.

Думкі лезуць, выліваў бы
Думкі на паперы,
I нявінную паперу
Адабралі зверы.

Чахне, сохне, адарваны
Ад роднае нівы,
Пад салдацкай царскай палкай,
Тарас нешчаслівы.

## XIII

Такой кары акаяннай
Не жадай нікому!
Павяртаў Тарас з няволі
Ў няволю дадому.

З'ела царскае каранне
Тарасову сілу,—
Менш глядзеў ужо на неба,
Болей на магілу.

Адно песень, песень гулкіх
Не забыў складаці,
Не забыў у песнях-думках
Украіну-маці.

Мо пісаў бы свае думы
Ён крывёй і далей,
Але з жылаў яго каты
Кроў павыпівалі.

Ласа высмакталі гады
Яго кроў з-пад сэрца.
Хай жа памяць гэтай крыўды
Навек застанецца!

## XIV

I памёр Тарас. Няволя
З горам даканалі.

Зашумелі сумна-сумна
Дняпровыя хвалі.

Паплылі дняпровы хвалі
Ажно ў сіне мора.
Хай гавораць хвалі свету
Аб вялікім горы.

І заплакала Ўкраіна,—
Плакала нямала,—
Як хавала свайго сына,
Песняра хавала.

Насып сыпалі высокі
Па-над Днепрам сінім,
Каб відаць было далёка
Па ўсёй Украіне.

Спіць Тарас, адпачывае
Ў вёсны і прадвесні,
Не спіць толькі між людзямі,
Не спіць яго песня.

XV

Гэй, Тарас, каб ты збудзіўся,
Каб устаў з магілы,
Ды зірнуў ты на Ўкраіну,
Песняру наш мілы!

Ой, пабачыў бы ты дзівы
На стэпу шырокім!
Новай песняй прывітаў бы
Дняпро сінявокі.

На тваёй зямлі квяцістай
Сонца ясна свеціць,
Не згібаюць плеч у ёрмах
Бацька, маці, дзеці.

Ройным роем гаспадараць
Сабе самі людзі.

Будаўніцтва йдзе такое,—
    Нібы цуд па цудзе!

Ані слёз тых, ані гора,
    Ні цара, ні пана!
Эх, Кабзар, каб ты збудзіўся,
    На Ўкраіну глянуў!..

*1939*



## НЯДЗЕЛЯ

*З польскай — Л. Кандратовіча*

Маеце з нядзелі
Песні тут чатыры —
Часам сніць не смеліў,
Што ліецца з ліры.

Як грымне нудою,
Уцякаў бы недзе! —
Пісне, як пілою,
Сэрца пераедзе.

Ліра адпявае:
Дзе ж душу схаваці?
Аб чым доля грае,—
Мушу падцінаці.

### І. Раніца

На поўнае гора
Людское прыселле
Спусцілася з гораў
Святая нядзеля.

З-за хмар плыве сонца,
Шуміць ніваў колас,—
Па ціхай старонцы
Разносіцца голас.

Далінам, дзе кветкі,
Іграе, вяселіць...
Гэй, цешцеся, дзеткі:
Сягоння нядзеля!

*

Расіста травінка
Чакае на стада,
Рыкае скацінка,
Насыціцца рада.

Вялік луг — ні слова! —
Траву з мохам родзіць;
Труба пастырова
На чым свет заводзіць.

За вёскай пад грушкай
Відаць крыж між зелля,
На ім пяе птушка:
«Сягоння нядзеля!»

*

Пры Янкавай хаце
Скрыпнулі калёсы,
Дзяцей крык чуваці,
Ён сам снуе босы.

Адпёр свой свіронак,
І на торг з усімі,
Што меў застаронак,
У мех усё вымеў.

Час блізкіх дажынак
Яго так асмеліў
Сабраццa на рынак
Вось гэтай нядзеляй.

*

Жыццё ў гаспадарцы,—
Гняце во патрэба,—
Не кінуў і гарца
На лусціну хлеба.

Няма ў жонкі солі,
Чытаць хочуць дзеці,
Яму ж трэба болей —
На ўсё трэба меці.

Гасцінцамі з крамы
Усіх ён надзеліць...
«Эх, дзеці, Бог з вамі!
Сягоння нядзеля!»

*

Сеў, выехаў Янка,
Махаючы пугай,
Ад самага ганка
Бяжыць дзятва кругам.

Вот з'ехаў між гоняў
Абсеяных ніваў,
Дзятва ўслед гамоніць:
«Едзь, бацька, шчасліва!»

Трушком чапурыцца
Кабылка да цэлі,
Ёй таксама сніцца
Сягоння нядзеля.

*

Як скінуці вокам,
Знаць, свята ў святліцах,
Звон гулам далёкім
Нясецца з бажніцаў.

Як звон грыміць свету
Нудлівым выразам,—
Сава ў хвілю гэту
Заводзіць з ім разам.

Хто ёй пазваляе
Так выць над прыселлем?
Вясёлка гуляе,
Сягоння нядзеля.

### II. Зварот Янкі з кірмашу

Я сягоння падпілы:
Адна чарка для сілы,
З рукі свата другая —
Ці ж не ўзяць выпадае?
Пайшло далей не жартам:
Не было ліку квартам,—
Аж свет замарачыла!
Гэй, імчыся, кабыла!

Набок, пан, бо [redacted] п'яны!
Табе стыд даматканай
Світкі беднага хама...
Эй, няма на ёй плямаў!
Во, ў сваёй ты саеце,
Глядзі, каб на тым свеце
Пекла брам не адкрыла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Тыц, карчма пры дарозе,—
Ці ж уседзіш на возе?
Пыкнуць люльку ўбягаю,
Жару ў копцы шукаю,
А чорт вабіць з-за печы:
Запі жаль, чалавеча!
Звяла чортава сіла...
Гэй, імчыся, кабыла!

Крычы, лайся, Марыся,
Есць без солі бярыся,
Ўтаргаваў небагата
А соль дорага надта.
Выязджаў, думаў гэтак
Купіць кніжку для дзетак...
Бяды кніжка не змыла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Грыміць. Блыснула ў далі,—
Пярун хвойку, знаць, паліць;
Чаму ж карчмаў не ўмора,
З якіх грэх наш і гора?
Эх, бо іх напладзілі
Чуць не дзесяць на мілі!
Кроў іх наша ўзрасціла.
Гэй, імчыся, кабыла!

Вось і вёска, знаць — наша,—
Рве кабыла за пашай,
Падцяла мне снасціну,
Глядзь, і ў роў нейкі рынуў,—
Не ўстаць за цемнатою,
А чорт стаў нада мною.
Зубы шчырыць няміла,
Адна мчыцца кабыла.

### III. Нараканне шынкара

Янка спіўся, як Бэля,
Спіць, як мёртвы, дый годзе!
Праўда, часам нядзеляй
Чарку выпіць не шкодзіць.
Ты будзь весел часінку,
Грош прыбудзе мне ў хаце...
А ты ж спіўся на рынку,
Мне не даў таргаваці,—
    Ты мне ўкраў, як з кішэні.
    Гвалт, ратуйце, згубленне!
Ці ж не злодзей — скажэце?
Як, з чаго пражыву я?
За шынк трэба ж, вашэці,
Плату выбраць такую:
Рублёў дзвесце гатоўкі,
На якіх пяць «прыпеўкаў»,
Расход хатні — кароўкі,
Жонка, дзеці і дзеўка...
    Ці ж прадам и сумленне?
    Гвалт, ратуйце, згубленне!
Чым і як прахаваю
Коні, козы, авечкі? —
Кантракт спісаны ж маю
Ясней полымя свечкі,
І ён піша без зносак,
Вузлавата, каротка:
«Мужыкі з маіх вёсак
Усе ўп'юцца тут водкай».
    Янка ж п'ян, вып'е меней.
    Гвалт, ратуйце, згубленне!
Піша далей так, строга:
«Хай усе знаюць хаты,
Не мінуўшы нікога —

Бабы, хлопцы, дзяўчаты —
Піць гарэлку, крый божа,
У чужой дзе карчомцы,—
Хай п'е кожны, хто можа,
У сваёй толькі вёсцы,
Бо плаціць будзе пені»...
Гвалт, ратуйце, згубленне!
Чытай, што піша гэта!
Ці ж мужык прачытае?
Хоць далёка йшчэ лета,
На торг рэшткі збірае;
Аўса, жыта па чвэрці —
Злотых з дваццаць мо варта...
Мог ты піць да паўсмерці,—
Што ж? Якая там кварта!
Іцка торбы не надзене,
Хоць тут гвалты, згубленне.
Ну, вось рэшты, мой браце,
Я табе не дарую,—
Памагу з рову ўстаці
І ў карчомку скірую.
Гэй, устань! да кішэнькі
Глянуць дай, мой харошы!
Што, лайдак? Ні капейкі?
Нехта выцягнуў грошы!
Я ж к ім меў так хаценне.
Гвалт, ратуйце, згубленне!
Што ж рабіць? ну, прыгода!
От, змірым гэту справу;
Мне цябе ўжо і шкода,—
Хадзі, дам на заставу.
Янка, Янка, ты слабы!
Выпі з кварту і квіта;
Не спяшыся да бабы —
Яна дужа сярдзіта.
А ты выйдзеш з цярпення —
Будуць гвалты, згубленне.

### IV. Вечар

Папіўшы расінкі,
Кветкі прыснулі,—
Вясёлай дзянінкі
Канчацца гулі.

Пакуль апынецца
За лесам сонца,
Як золатам льсніцца
Дзіўна ў ваконцах.

Агонь блыснуў з хатак,
Ўсплыў дым кудзеляй...
Такі во канчатак
Нашай нядзелі.

Жывёла пужліва
З поля пляцецца,
Пастыр жаласліва
Дзьме на жалейцы.

Канькоў у пракосе
Чутна пагудка,
Кабета галосе
Пад крыжам жудка.

На жаль не напрасны
Людзі глядзелі;
Балесны няшчаснай
Вечар нядзелі.

*

А ўцеха не сходзіць,
Граюць на скрыпцы;
Па некім заводзяць
Звон у капліцы.

Сягоння — мне, можа,
Заўтра — табе мо...
Гуляў ты, нябожа,
З рання з усема.—

Пад вечар жа людзі
«Вечны» запелі.
Згадай, хто жыць будзе
Ў тую нядзелю?..

*1906*

## З «КОНРАДА ВАЛЕНРОДА»

*З польскай — А. Міцкевіча*

### Выбар

*(Урывак)*

З Мальборскай вежы званы загудзелі,
Бубны, гарматы у тахт загрымелі:
Ў Крыжацкім брацтве дзень важны сягоння;
Зусюль камтуры ў сталіцу спяшацца,
Дзе, ў капітульным засеўшы законе
І ўзваўшы духа святога навукі,
Ўраюць, каму крыж вялікі аддасца,
І меч вялікі ў чые зложаць рукі.
Дзень і другі дзень нарада сплывае —
Шмат мужоў першым быць робіць заходу:
А кожны з іх роўна высокага роду,
Кожны заслугі высокія мае;
Толькі адна ўсё ж між браццяю ўгода:
За ўсіх стаўляе вышэй Валенрода.

Хоць сам не з прусаў, хоць ён чужаніца,—
Славай напоўніў сваёй заграніцу:
Ці вёў па горах за маўрам ганітву,
Ці біўся з туркай на водным прасторы,—
Першы на сушы і моры у бітвах,
Першы у крэпасці ломіць запоры.

Дзе ж сілай можна ў гульні паказацца,
Няхай ён толькі надлобнік падыме,—
Ніхто не важыцца з ім мацавацца,
Яму пяршынства даецца усімі.

Не толькі ў бітвах крыжацкія роты
Праслáвіў лет маладых сваіх славай:
Красяць яго хрысціянскія цноты —
Ціхасць, пакора, ўніканне забаваў.

Конрад не слынуў у хорамным блыску
З гутаркі гладкай, з ліслівых паклонаў,
А такжа меча для подлага зыску
Не запрадаў ён за ласкі баронаў;
Век малады пасвяціў манастыру,
За німашто меў чыны і пачоты,

Не гнаўся нават за ўцехаю шчырай,
Мінстрэляў гімны, дзявочы залёты
Не весялілі сцюдзёнага духу,—
Ён мімаходам пахвал усіх слухаў,
Здаля ад пекных паненак трымаўся
І з імі гутаркі як бы стыдаўся.
Ці ён нячулым такім урадзіўся,
Ці век змяніў так — бо хоць яшчэ молад,
А ўжо сівы быў, з вачэй веяў холад,
І цень цярпення па твары ўсім віўся —
Трудна згадаці. Ну, часам, бывала,
І ён дзяліў з маладзежай бяседу,
Нават дзяўчат не чураўся німала,
Спрыт меў за кпінкі адцяцца суседу,
І складна, з важнасцяй сыпаў няўзнакі
Пахлебствы паням, як дзецям забаўкі.
Але хвіль гэткіх бывала нямнога,
І чуць хай толькі слаўцо не такое —
Хоць для другіх і не значыць нічога —
Яму, знаць, многа хадзіла аб тое:
Памяць к айчызне... Кахана дзяўчынка,
Путы, вайна, аб Літве успамінка,
А ўжо Канрад паглядае іначай:
Перастае быць вясёлым, забаўным,
Зноў, як нічога не чуе, не бача
І аддаецца сваім думам тайным...
Мусіць, як стан свой законны успомніць,
Сам сабе ўцехі земскай бароніць.

*1908*

## З «КОНРАДА ВАЛЕНРОДА»

*З польскай — А. Міцкевіча*

Сто лет мінала крыжацкай навале,
Як кроў з паўночных смактала паганаў.
Прусы ўжо шыі ў аковы згіналі
Або ўцякалі з радзімых палянаў;
Немец за ўцёкшым пускаўся ўдагонкі,
Нішчыў да самай літоўскай старонкі.

Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
З аднаго боку льсняць стрэхі святыняў,
І лесу — схову багоў — чуваць гоман;
З другога — ўбіты на ўзгорку пустыні
Крыж, знак нямецкі, рад к небу сягнуці,
Грозна пільнуе літоўскіх загонаў,
Як бы ўсю чыста зямлю Палямона
Хацеў бы зверху здушыць, загарнуці.

Тутка літоўскай сям'я маладзежы
Ў шапках бабровых, у світках мядзвежых,
З лукам праз плечы, з страламі пры боку
Снуе і сочыць за немцам здалёку;
А там — няскратна, ў збраенні каваным
Немец сядзіць на кані асядланым,
К землям уставіў нязабраным вочы,
Стрэльбу набіў і ружанцам ляскоча.

Пільнуюць тыя і гэтыя броду.
Так Нёман, з даўнай гасціннасці рупны,
Дзяржавы лучачы братніх народаў,
Стаўся граніцай для ўсіх недаступнай,
І той мог толькі прайсці яе смела,
Каму на волі жыццё надаела.
Толькі галінка літоўскага хмелю,
Наджана топалю прускага красай,
Пнецца па вербах і цінавым зеллі,
К любаму пнецца, як з даўнага часу:
След кіне ў рэчцы вяночкам нявілым,
І на чужыне ўжо лучыцца з мілым.
Ды салавейкі пад Коўнай з дубровы
Са сваякамі гары Запушчанскай
Свае літоўскія баюць размовы,

Дзеляцца спольна і дружбай, і ласкай,
Як бы граніцы не знаючы новай.

А людзі?.. Людзі ўпіліся бітвою;
Даўная Прусаў з Літвою зажыласць
Пайшла ў няпамяць; падчас толькі міласць
І людзей годзіць... Я знаў людзей двое...

Гэй, Нёман! Хутка к тваім сумным водам
Рынуць навалы нясці зніштажэнне,
І ў бераг, з вечных галоцячы ценяў,
Тапор чужынца бязлітасна ўесца;
Стрэл салавейкаў разгоне ў гародах.
Што ў жыцці светлага неслі прадвесні,
Парве ўсё чыста нянавісць народаў,
Парве ўсё чыста... Каханкаў жа сэрцы
Зноў у Вайдэлётавых злучацца песнях.

*1910*

# ЛЕНІН

*(Паэма)*

*З украінскай — В. Палішчука*

Калі загудзе мілагучна гудок па-над местам
— Малая фабрыка,
Калі зараве летучы ўсё вышэй і вышэй
Аж да рыку атласнага, басам
— Ліцейны завод,
Калі завярэшчыць трыма галасамі
Медны боль паравоза, зарэзанага на вакзале,
І коміны па небе кучаравыя раскінуць хвасты,—
Тады работнікі масаю, гуртам
Ідуць на работу,—
Што яны думаюць? — хто іх разбярэ...

*

Але калі гудок гнеўна хапае паветра,
То захлынаецца хрыпам, як схоплены раптам за горла,
Калі перарыўчасты і заўзяты роў яго,
Маўляў, разрываюцца лёгкія ў грудзях,
То падымаецца, то апускаецца, як той крылаты
агромністы грыф,
А потым уніз адкідае хвасты
Цяжарністых зыкаў,
Што недзе губляюцца ў полі
Ці ў ночнае цемры,—
О, тады работнікі зрываюцца па сваіх каморках са сну,
Выбягаюць з баракаў, з пасёлкаў
І лятуць, як мага, у завод:
«Нешта сталася!..»
Тады іх не спыняць ні стрэлы гарматаў,
Ні зык болю зубнага куляў варожых.
Яны арганізавана ў адзін ўсе сціскаюцца жмут
Пад жалезнымі жэбрамі гмаху-завода,
Што налягае асветленай шкляна-бетоннай асновай
На ночную цьму,—
О, тады хрыпла крычаць аратары,
Падчас злавешча шэптамі асцерагаюць,
А часам выпускаюць галасы
Пад рыштаваную столь чайкамі,
Тэнаровымі чайкамі, чайкамі лятаць.
Клічуць работнікаў:

«Прыйшоў час»,
Час выступаці ўраз
Проці царату,
Проці ворагаў працоўнага люду,
Юнкераў, бандытаў і узурпатараў.

*

Гэй, дый павыганялі ж усіх,
Што павукамі былі зачаіліся
Пад апекаю згодніцкага ўраду,
А кастрычнікаўскае чырвонае лісце асін
Шапнула рабочым параду,
Аж само затраслося,
Спужалася,
Паляцела, як галовы з плеч.
Ой, пілі ж віно дый чырвоны сок!

*

Нічога, што заводы зялом зараслі,
Стаў аблог,
Але дух паўстанчы, дух перамог.
І вось
Патроху
Пачалі прачынацца гудкі,
Зноў склікаці да працы.
Там адзін,
Там праз тыдзень другі,
Трэці цераз месяц аж вунь дзе азваўся —
Усе прачнуліся...
А хлопцы надзею гадуюць:
— Ды яно як так пойдзе,
То хутка задыміць і домна.
Эге, кажуць, жывём:
Трубны падняўся...
Але ж, ды яно й Ганка таго...
А наш цераз месяц і без буржуяў пойдзе.
Так, пасуваецца гаспадарка Леніна.

*

Як места ў вострых комінах усё
Ў тумане варыцца халодным,

Як вежы на царквах галодных
Ў сабе хаваюць сонца адбіццё,
Калі ў дасветнай коміны пары,
Як шчупаковы зубы велізарны,
Хапаюць неба угары,
А паміж іх раздутыя веж пухіры
Блішчаць, наліты гніллю марнай;
Калі гудкі пераказалі
Свой ранічны ўжо «войча наш».
І йдуць работнікі ў жалезну залу
Да чыгуновых чаш,
Дзе варыва клякочыцца агнёвае,
Нам праракуючы ўсім жыццё новае,—
Тады скрозь бегаюць па месту хлапчаняты,
Разлепльваюць газеты й тэлеграмы.
На ўступе: супынілася адна вайна праклятая,
Але йшчэ соткі горшых перад намі:
Йшчэ Дон гартуе шаблю,
Йшчэ йдуць чэхаславакі,
Але гарачае работніцкае сэрца
Не стане больш драмаць...
Бібула рыжая на сценах,
А літары, як вераб'і,
Крычаць рабочаму у вочы,
Што сіла ўся ў яго руцэ.
Каля завода на дасках таксама —
Заклікі «Праўды», што патрэба йсці
Да новых светавых пажараў
Аж да камуны, як сусветнай людскай мэты.
А побач
На сівым замурзаным шматку
Крывулямі накручана зялёнымі,
Што сёння а гадзіне сёмай
У Аляксандраўскім народным доме
Даклад таварыша Леніна.
І йдуць работнікі праз дошкі ў вароты
Туды, дзе пасы і дзе трыбы шыпацяць.
Ляжыць на кожным з іх часцініна работы,
Як рэвалюцыі пячаць.
Зіркае кожны на табліцу,
Успамінае голад той і рэвалюцыю;
А як пасля работы выйдуць ланцугом на брук,
Дык кожны у Нардом захоплена спяшыць,
Каб яркімі навінамі упіцца.



Нядаўна разагналі Устаноўчы Збор
(Быў старшынёй эсэр Чарноў).
Як сала на агні, сквярчэліся пасля таго прамовы
Ў Цэка ПСР:
«Пакажам мы бальшавікам,
Як выдумляць паганую гульню ізноў.
А за народну кроў і за Устаноўчы Збор —
Кроў!»
І пастанова:
«Леніна забіць!»
Халодны пот на збеленых ад злосці тварах
І ліхаманка у руках.
Калі мігаюць вогнікамі вочы
І лыпаюць, як пасткі, зрэнкі,
Што, можа, вось-вось і накрыюць —
Не змогуць расплаціцца,
І усяму наступіць крах,
Народная загіне праўда,
Як гром далёкі у гарах.



— Дык Леніну за гэта што? —
Спытаўся правадыр баявікоў.
Усхамянулася тут Іванова —
І праняслося: смерць!
— Хто — за?
Нервова з цішыні
Ўверх падняліся рукі.
Раз, два, тры... Ўсе!
— Ітак, таварышы-баявікі:
Сягоння, першага чысла,
Забіта Леніна.
І далі дырэктывы:
— Найлепей хай заб'е рабочы,
Каб паказаць на цэлы свет,
Што важакоў фальшывых
Не хочуць самі пралетары —
І знішчаюць.
Такая думка Гоца і Цэка —
І я так раю:
Дык на Усова ці Казлова

Кладзецца, думаю, высокі гонар,
Набоі ёсць.
Хто забірае слова?

*

І злыя вочы, хмурыя крыху
Пад цёмнаю паветкай змкнутых броваў,
Спадлоб'я глянулі, як змеі,
Як быццам шэрай сталяй зварухнулісь.
То выйшаў Усоў,
Як сіла шэра-жоўтая рабочых мас.
На твары маладым
Асеў пясок жыцця —
І стаў зямлісты колер.
На безбародым і бязвусым твары
Мужчыны год мо з дваццаць сем
Упарта выступалі скуліцы,
Што звужваліся кнізу
На востры падбародак.
І вось на гэтым твары
Ад слоў правадыра баявікоў
Пабеглі кроплі поту.
Прайшоў яшчэ уперад.
— Згаджаюся! —
Сказаў.

*

А потым парасткі куль алавяных,
Што прарастаюць
З насення пораху і дынаміту,
Як маладыя дзе шпарагі,
Надрэзалі, каб атруціць.
Нацыркалі прыправы,
Якая у сабе глыбока затаіла
Смяротную хімічную формулу
На немінучую лютую смерць
Кіраўніку жывому
Саўнаркому.
Усоў прыйшоў ў Нардом.
Было йшчэ рана — ён зайшоўся у буфет,
А там работнікі — размовы, гоман.
І хоць і быў наказ

Ні з кім не гаварыць —
Не вытрываў.
Так цягнецца ўчуццё,
Як той да сонейка сланечнік,
Так колецца самотнасць,
Як калюкі чартапалоху.
Душу ўсю прасціраў да грамады,
Бо разгубіўся сам,
Як ў ночку цёмную на моры
Закінуты матрос.
Застаўся сам, як выстрал між агнямі,
Як зайздрасць да братоў,
Як зерне на асфальце,—
Адна чужая тут яго душа.
А калектыў заўсёды
Паіў душу сытой,
І сілы расцякаліся,
Як мыслі па палях.
Рабочы калектыў і ён вязаліся ў адно
І з думкамі супольнымі,
Як буйны сад, жылі.
А тут — ў вялікі гэты час —
Глухая адзінота,
Што вытрываць яе не змог.
Паварухнуўся камень —
І падышоў Усоў да іх.

*

Яны яго адразу прынялі
Ад слова аднаго;
Адчулі так,
Як зверы ворага ці друга:
Адным інстынктам,—
І глынулі.
(Салодкая так інтуіцыя
Раней ад нас гаворыць.)
Ён друг — рабочы,—
Дзеля таго і гутарка,
Гарцуючы крыніцай па каменні мысляў,
Пабегла, рвалася, драбнілася бясконца,
То зачаплялася павоем за галіны лозунгаў,
Каб рукі гнеўныя супрэчак
Зноў разрывалі іх на часткі.

А у кішэні браунінг ляжаў,
Як змерзнены лядзяк,
Што таяў ледзяной вадою,
Калі дакратвалась рука
Гарачая, як той праступак.

*

З работнікамі блізкімі яму
Вузламі логікі й супрэчак
Прыкручываў, як цела да слупа,
Ў сабе сярдзітую гатоўнасць на забойства.
Апошні раз пераканаць сябе хацеў,
Што Ленін — вораг ўсім работнікам,
Што ўсе бальшавікі — праціўнікі свабоды,
Што патакаці годзе
Грабаўшчыкам яго відзенняў
І міражоў зіячых.
Пераканаць сябе — пераканаць другіх:
Папробаваў яшчэ.
Прыдаўліваў абцасамі з'ядлівых слоў
Ён тактыку бальшавікоў
За тое, што Устаноўчы разагналі Збор,
Салонай граззю ў горла кідаў
Староннікам заўзятым
Дыктатуры пралетар'ята.
Работнікі спрачаціся не ўмелі добра,
Але сваё вялі...
А потым:
— Э, браток,
Ты штось не тое!
З табою кашы не зварыць.
Паслухай Леніна ты лепей.

*

Натоўпіліся, збіліся, панадстаўлялі вушы,
Галовы, вочы — быццам зала, поўная ікры.
Трыбуна і вадзіцы шклянка.
Таварыш Ленін гаварыў:
— У барацьбе крывавай
Вы захапілі ўладу.
За тысячы работніцкіх ахвяр,

Якіх напышненыя генералы
Ў сляпой нянавісці да «шэрае скацінкі»,
Як вераб'ёў,
Расстрэльвалі
На фронтах.
А пасля,
Калі вы узняліся —
Яны пайшлі на Петраград.
Сюды спяшылі з інгушамі
Красновы белыя,
Калі ў сярдзітым спачуцці да іх
Вось тут пасярод нас
Праклёнамі
Званы
Гудзелі
На слаўныя калюмны
Чырвонай гвардыі,
Карнілаў гуртаваў тут войска,
Каб вас прагнаць...

*

Усоў раптоўна схамянуўся,
Маўляў, штырхнула токам,—
Прыпомніў ён:
— І я тады ішоў, як металіст,
Краснова біць...
Імчыцца наш уночы браняпоезд,
Такі іржавы скрып...
А Ленін далей:
— Гнаілі па астрогах вольных духам,
Каб у ярме трымаці нас.
Нарэшце мы Кастрычнікам Чырвоным
Знялі іх, як віхор салому,
Перавярнулі вызыску палацы
І пакрышылі краты...
Няўжо цяпер вы будзеце прымаць
Свядома, дабравольна
Заўзятых ворагаў у хату да сябе,
Што будуць вас шпягоўствам гадаваць?
Атрутаю брахні накормяць,
Як пацукоў галодных?
Што здрадаю зайздроснай
Паіць вас будуць кожны час,

Пакуль агонь свядомасці
Да волі не пагас?
І покуль пэўныя вы ў тым,
Што й вы такія ж людзі,
Не уцячэ, як па́ра
На двор з жывога дому.

*

І вось цяпер
Вы возьмеце, маўляў, рабы,
Падставіце зноў самі свае плечы
Для ворага буржуя,
Які заўсёды ў сэрцы лютасць чуе
Да кожнага работніка,
Бо адабралі фабрыкі мы ад яго,
Каб вольна працаваць?
Мы возьмем і дапусцім
Памешчыка у двор?..
Вы ведаеце — парабак яму
Быў раб.
Жандары замест платы,—
І вы іх возьмеце ў сваю работніцкую хату,
Каб іх жа гадаваць?
Дапусціце ў рады?
Падзеліцеся сілаю сваёй і ўладай
На глум, на смех?
А хітрасцю,
Маўляў, змяіным звівам,
Яны паволі адбяруць і рэшту ўлады,
Бо іх тады навука, грошы і мараль.
А ваша кроў і спадзяванні,
Як кветка згінуць ранняя...

*

А Усоў, хаця і спрацiўляючысь,
Шоў думкамі за Леніным:
— Яно то так... Крывавая... так... барацьба...
То праўда... Нашы раны і бяда...
Але прычым тут Устаноўчы Збор?
Нашто бальшавікі яго
Зухвала разагналі?

Яны ж народныя паслы...
Какошкін, Шынгароў...
Што іх забіта, можа, так і трэба;
Яны папраўдзе ворагі для нас,
А можа, гэта для таго,
Каб крытыкі не мець?
Дарваліся да ўлады...
О тыраны!..

*

А Ленін далей:
— Калі ж адкрыта іх дурман
Свядомыя работнікі
Не стануць піць адразу,
То тысячы сацыял-здраднікаў
Вужамі падпаўзуць
Ў лакейскім поспеху буржуям дагадзіць
І дапамогуць вас падступна ашукаць
І на забой ізноў
Ў жывёлавых вагонах
На славу капіталу,
Як быдла, павязуць, пагоняць.
Куды? Нашто?
Каб меці мытніцу на Дарданелах,
А над Канстантынопалем выснёныя крыжы
На нашу згубу, на знявагу?

*

Усоў бліжэй шчэ падышоў,
Грудзьмі стаў проць грудзей.
Трасліся рукі і пачуцці.
Як мухі з ліпкае паперы —
Так вырываліся, ўспаўзалі думкі,
Хацелі выбрацца на волю.
Чаго бліжэй ён стаў —
Забіць ці слухаць?
Усоў так думаў і пытаў:
«Няўжо ніхто яго і не адважыцца забіць?
А я?
О, хоць бы злосці падкаціла!»
Каб праверыць сілу,
Сябе ён раззлашчаў:

«Тыран» —
А выйшла неяк
Недарэчна і смяшліва.
І ў той жа час
Ласкава людскі погляд
Дакрануўся Усова.
Ільіч як быццам падмаргнуў
Так цёпла, цёпла.
Казаў вачыма: «Думаш — не ведаю?
Работнік ты — і я, брат, для цябе».
А сам — шырокі твар і зморшчкі каля носу,
Вырэзбеныя разаком упартасці і часу,
У розныя бакі праменні сеюць.
А вочы чорныя і з агеньком,
Маленькія і цёплыя,
А іншы раз хітрэнькія
Пад мудрым шышкаватым лбом.
За цвёрдасцю вачэй
Глыбока прытаіўся смех —
Якісь і добры, і суровы.

*

Чагосьці у натоўпе перакінуліс славамі —
Увага, рэпліка, ці што...
Цікава Ленін трохі вока прыжмурыў,
Адной брывёю ўверх стральнуў:
Ён прыслухаецца.
Так проста і па-людску выявіў цікавасць.
Не адчуваў таго, што Ленін ён.
Здавалася, і не дагадываўся ён,
Што ён ёсць Ленін.
А голас поўны і наліты сілаю жыцця,
Як яблыка аліўнае,
У душу пэўнасць лье.
І словы ўсе звычайныя,
А раскусіць — арэшак у сярэдзіне.

*

І вось Усоў як быццам прабудзіўся —
Ударылі зноў словы:
— То хітрасці буржуазіі.

Яны не кідаюць надзеі
Перамагчы.
А як гавораць — мёд у вуснах.
І выбары агульныя для ўсіх,
І раўнапраўны голас для работнікаў.
(Падзякуйце панам:
Ваш голас мае сілу з іхняй нараўне!
Шануйце —
Нарэшце дапусцілі!).
А мы гаворым ім:
Не трэба Учрадзілкі,
Не трэба курава снатворнага для нас.
Прыйшоў апошні час
Падняць чырвоны сцяг.
Пралетаром на свеце сіла і улада
І органам іх дыктатуры,
Ўся ўлада — Радам.
І хай жа пасягнуць — гарматы і набоі
Наперад, гэй, таварышы, да усясветнай волі! —
І грохатам разбушаваных хваль
У зале прабурліла згода.
Як лівень, воплескі шугнулі:
«За ўладу Рад — ура!
Няхай жыве наш Ленін — наш жа правадыр,
Савецкая улада на ўвесь мір!
Прэч Учрадзілку!»

*

Усова сэрца білася,—
Так білася, як рыба ў сетцы.
Што ён казаў?
Дык значыць — здраднікі?
Хіба я здраднік?
Эсэры за народ!
Няўжо ж то мой пракляты рот
Не закрычыць:
«Няпраўда гэта!»
А ў галаве туман...
Вось Ленін ўжо з трыбуны
Паволі сходзіць...
Угаварыліся, што тут...
Рука слізнула і дрыжыць —
Дакратваецца ўжо да сталі...

А маса люду, як табун,
Гуртуецца, каб выйсці —
Шугнула й стала
Запынка
У дзвярах;
Цяпер пара!..
Але адразу цёплая імлявасць,
Як малако, па целе разлілася,
І мякка стала так —
Знядужаў
Цэлы,
Ўвесь.
А дзесь
Зашалясцела:
«Не трэба!»
І скрозь туман пранеслася,
Як вецер лёгкавейны:
«Я сам,
Сярод усяе масы — сам».
А Ленін пазірае,
Ступае звольна,
Работнікі здзіўлена развважаюць:
— Усё, што б ён ні гаварыў,
Яны і самі гэта знаюць,
Хоць часам і няясна,
Але не ўмеюць выказаць.
Дзеля таго на Леніна ўзіраюцца з любосцяй,
Як меншы брат на брата.
«Не, не магу, не смею!»
Яшчэ крапінку заяснеў
І стаў як бы у сне.

*

Як разышліся ўсе, ўцякаў за места,
А там пайшоў у лес.
Стаяў і меркаваў аб Леніне:
— Няўжо ён творыць новы свет
І вучыць дзеля сваёй славы?
Няўжо дзеля таго працуе ён,
Каб ззянне гоману і подзіву плыло
Ва ўсе куткі зямное кулі,
Як цёплае дыханне —
Адно аб ім,

Шукаючы бяссмерця?
Няўжо дзеля таго працуе ён і думае,
Каб у вяках танулі думкі
І павуцінаю пляліся легенды,
Што звязаны з іменнем Леніна?
А можа, ён для чалавецтва усяго,
Ў якім пагруз,
Як рот ці рупар для вякоў?
Выкідвае намовы,
Што сталі словам
Для ўсіх працаўнікоў?
Аж запыхаецца у сіле.
А можа, зноў гіганцкая будоўля тая,
Што крыецца пад чэрапам упарта-шышкаватым,
Паўстала тут, каб задаволенне сваё каваці
З асалоды ў працы?
А мо глухая тут энергія,
Якая у лянівасці паноў-бацькоў драмала,
Збудзілася да творчае работы,
Што раптам, выпадкова,
Прарвалася у прорвіну палітыкі і веды?
А можа, помстаю — за брата?
А можа, й так сабе?

*

Прыпамінаў, які жа ён?
Намаляваў, як Ленін,
Паклаўшы рукі у кішэні,
Спакойна выкладаў, падчыркваючы думку,
Што ўжо жыла няясна
У галавах мільёнаў,
А зараз праяўляецца, як здымак,
У тысячы адкрытых слухачоў.
— Тады ахвяра чалавецтва ён,—
Казаў Усоў атарапелы.
І гідасна было, калі тут выпадкова
Зноў дакранаўся
Абслізлы браунінг да пальцаў,
Як гадзіна абкормлена
Атручанаю стравай,
Што аж не лезе ў ляпу.
«Ах, так!? Ты йшчэ?»...
Паспешна выцягнуў з кішэні
І шпырганнуў ў карчы,

А далей думаў:
— Тады, выходзіць, Леніна нямаш ткі для сябе?
А ён ахвяра цэлых пралетарскіх пакаленняў,
Якім нясе і розум, і навуку,
Пачуцці й ясныя навекі дні,
Што дзесь хаваюцца і тлеюць
Ў нянавісці на дне.
І вось яна, ахвяра гэта, там,
Дзе блузы шэрыя з рукамі у мазуце.
Яны імкнуцца праглынуць ахвяру гэту,
І, сілаю яго упіўшыся,
Пайсці ў бітву за будучыну лепшую,
А Леніна самога,
Быць можа, і забыць.
О, значыць, ён не для сябе.
О, не!
Громакіпучыя распырсківае сілы
Ў агні прарочым,
Не думаючы аб сабе,
Бо толькі б захацеў —
І кінецца буржуазія
Яму грашыма й працаю служыць,
Каб закупіць яго запал,
І, подкупам уціхаміраўшы,
Заткнуці рот
Ядою смачнаю на фоне шкла і злата.
А потым усіх пралетараў,
Абдураных за дзікі гнеў
Да пана
Пад бойню сілы падвясці
І замарочыць дух,
Каб масамі павесці пад абух
На помсту войнаў...

*

Усоў прыпомніў,
Як дакрануўся Ленін да вачэй
Такімі добрымі, хітрэнькімі вачыма,
Што той заціхнуў, як дзіця,
І слухаці пачаў
Без межаў часу.
— Не, ён не думае аб касце камуністых,
Не спіць начамі, піша і сачыць
Для нас саміх.

Яшчэ і вечна на старожы,
Бо прытаілась смерць...
Не, не магу я
Развеяці свой грэх,
Не магу!..

*

Вялікі сорам, як віна,
Прыціснуў і шпырнуў набок Усова,
Як брудную і мокрую анучу.
Так на душы яго было.
— Не йсці да іх
(Эсэраў).
Чаго б туды ісці?
Наказу й слова не стрымаў,
Яшчэ і здрадзіў іх.
Звіхнулась думка.
Што ёсць між намі спольнага цяпер?
За мной грымнулі каменныя дзверы,
Калі ў карчах зашастаў браўнінг.
Я не адважыўся —
Не страх жа гэта,
А скажуць — трус.
Я не баюсь,—
А неяк непрыемна.
Ну, як цяпер?
І дзе схілюся?
А хочацца так расказаць...
Ды хто ўсё зразумее?
Да іх пайсці (бальшавікоў),
Што іх страляў нядаўна?
Хіба паверацъ?
А можа, я падасланы з эсэраў правакатар!
Тады ўцякаць...
Ад іх і ад сябе ўцякаць!..

*

Пачаў прыпамінаць ізноў:
— А можа, йшчэ хто ёсць...
Казлоў — ён просты, грубы,
Але работнік ён.
Яму сваю падстаўлю рану,

Хай длубяне са злосці
Або загоіць.
Яму скажу.
Бо да Цэка пайсці —
Не зразумеюць там,
Бо нашы душы розныя,
Яны асвечаны, інтэлігенты,
Закачанеўшыя ў змаганні,
Без ваганняў,
А я — работнік-самавучка,
Я йшчэ ўсяго не ведаю дакладна...

*

Як неабчэсаная каменная брыла,
Казлоў звычайны, так сабе работнік.
Душа яго нязменная й грубая
Дзесь урасла углыб,
Ўся мохам абрасла,
У мясенях заскарупела,
Шуміць, як вербалоза з дзікім ветрам,
І выдзерці яе,
Як чарапаху сплюшчаную, стуль —
Сіл не было,
Ён сам не змог ні разу,
Хоць дакладаў натугі.
І во ў каморцы затхлай,
Дзе на тапчан, як блін, лёг матарац,
Расказаваў Усоў
Сваё жыццё.
Здалёку ён зайшоў,
Як паляўнічы ў полі,
Каб падысці прызнацца.
Баяўся, ды хацеў
Пачуці суд душы няхітрай
Над сабой,
Як ссохшая зямля вады і буры.
А думкі так пякуць,
Як у халяве вугаль.
Баяўся, бо Казлоў быў такжа баявік,
Але той страх цягнуў к сабе, як смерць,
Калі на мосце стаў
І пазіраеш на ваду
Або ў бяздонне з вежы.



І асцярожна намякнуў Усоў:
— Быў ўчора у Народным доме...
Там Ленін мусіў быць...
— Дык што? Не выйшла?
— Ды не...
— Што не?
Маўчанне.
— Я не адважыўся...
І вочы ўпалі ўніз, як сэрца.
Напружаны да муці погляд.
Моцны Казлоў паціснуў чуць плячыма,
І хмурны палагоднеў твар.
Тады яшчэ далей Усоў:
— Я не адважыўся...
І расказаў усё.



— А ведаеш, Усоў,
Ў мінулым тыдні
Я на яго рукі таксама не падняў,
Не змог...
Як Ленін выступаў на біржы —
Помніш?
— Чаму? — задзіўлена спытаў таварыш.
— Бо не мая яшчэ праўда.
— Тады, выходзіць, Леніна —
Так кажаш?
— Не ведаю.
Яна дзесь блізка ўжо.
Вось так бы ўзяць яе...
Эх, праклятая!..
І сціснуў свой кулак.
А на ўсім твары, замест мукі,
Якісь няўдала-спазматычны смех
Без голасу прайшоўся —
То зноў
Бязмернага цярпення пачуццё
Прабіцца не змагло скрозь цела,
Як цяжар пасткі,
Упаў на душу гнёт
Вагой раджэння.

І заматаў ў цянёты цела
Глыбокі і бязмежны дух.
Прыбіў найтоншую часціну чалавека —
Пруткія ногі пачуцця
Дзвярыма чэрапа і мясеняў,
Як ласіцу бліскучую.
— Хай вырываецца — не вырвецца,
Ажно пакуль не акалее.
Але між душамі
Казлова і Усова
Ўжо хвалі забруялі.

*

Тады ўцякаць рашылі разам,
У поле йсці, на луг ісці,
Душэўных мук згубіць заразу,
Навалу грэху загубіць.
І вось пайшлі ў дзікія сёлы,
Дзе бруд, і пранцы, і вайна,
Дзе ходзіць праца невясёлай,
Маўляў, жахліва навіна.
Але ўжо кінулі пажэжы
Свядомасць сілы ў беднату —
Усе ў палях разрылі межы —
Кулак сагнуўся на слату.
А ўцекачам ад ўласных боляў
Ўжо новай радасці віно:
Ім і таго ужо даволі,
Што лес, і сонца, і цяпло.
Сінее неба, як вялізарны эксцэнтрык,
Дзе сонца вось заехала набок,
Бязмежна шпарка гоніць-кружыць,
Не паспявае ўгнацца галава за ім,
Калі, узроку пальцамі схапіўшыся за край,
Пад кругавідам бегаці пачаць,
І цёпла, як з машыннай топкі.

*

Жаданне працы мучыла Усова.
Перамяніці, як ваду, абставіны.
Патрэба моцная ісці і штось рабіць
Яму, як промень, зазвінела.

Турботнаю струною выцяглася думка,
Як лінья простая, да самай мэты.
У Армію Чырвоную адкрыта йсці —
У карны б хоць атрад.
О, ўсё адно!
Рашыў, як гром грымнуў.
Няхай ён — скажуць — кат!
Для пэўнага дасягу
Свядома трэба
Усім цярпець і гараваць.
І можа сілаю павесці несвядомых
Да ясных брам.
Ў пагрозе утапіць сляпы іх гнеў,
Як не спадзе з вачэй дурман.
І любіш іх — і нішчыць трэба іх:
Вось тут найвысшая любоў,
Як быццам забіваеш сам
Смяротна раненага брата.



Каб церабіць у будучыну шлях
Да светлага парогу
Праз поле з церняў і абману,
Умець у тактыцы жыцця
Супроць сваёй прыроды часта йсці,
Не верачы ні ў чорта, ані ў Бога —
Вось тут найвысшае зіянне мэты.
Калі дзе хвораму хірург
Спакойна чэрава жывое порыць —
То там нянавісці і не шукай,
Тут найвышэйшая любоў;
Маўляў, прасвецісты дыямант.
Людзям боль задаваць
І мучыцца духоўна —
Тут найвышэйшага кахання грань,
Грахоўная й святая.
І працу цяжкую,
І вочы братнія
У поглядах затрутых,
Як выстралы ў жывот,
Прыймаць ў сябе
Й не ўпасць.
Нясучы на душы
Цяжэсную кахання краму,—

Такой лютой напасці
І ворагам бы век не пажадаў! —
Усоў сябе нанова гэтак гартаваў,
Каб камуністым стаць.

*

Усоў прайшоў цераз змагання горан,
Заўзятым камуністым стаў, як мох,
Што урастае ў камень — у жыццё.
Яго не спыніць ані смерць, ні гром,
Што уздымае хмары пачуцця,
Як дзікая й сляпая бура,—
Бы толькі думка ў ім пахмура
Бліснула пад чалом, як шэрая крынічка,
І не зіяннем дыяменту, але сілай сталі.
І скажа проста ён:
«Выходзіць разрахунак, дык — гадзіцца!»
І на разбураны памост
Для новае будовы
Ён ляжа, быццам камень моцны, стопудовы.
Абы разрахунак паднёс,
Бо ён матэр'яліст.
Старая гэта рыса:
То ж нездарма, як быццам Юда,
Ў арганізацыі эсэраў
Ён тавараскую вёў гаспадарку.

*

У шосты год рэвалюцыйных бур (у 1921),
Калі ўжо громы адлуналі
І мірны дождж пайшоў,
Калі дзесь прытаілася вайна,
Як та пантэра у кустах,
Але не мела смеласці накінуцца адразу
На цела пруткае Рэвалюцыйных Рад,
Ужо гатовых на адпор,—
Тады бліжэйшай і яснейшай мары з'ява
Праменні пасмамі пусціла ў свет.
То на 9-ым з'ездзе Рад
У электрычную зірнулі будучыню.
І усміхнуліся нацыі,

Як бы да сонца дзеці.
Бо цемру жудаснай вайны,
Крыві, атрутных газаў і фугасаў,
Іржання й кашалю картавых танкаў
Да паразверненых нутроў
Набоямі,
Як жыватоў людскіх,
Будынкаў Перакопу,
Руін, як Геркуланума й Пампеі —
Ўсю тую цемру
Прарэзала святлом нязмерным веры,
Бліснула іскрамі, і пацяклі струмені,
Такія мкністыя, глыбокія такія,
Як думы собраных на з'ездзе нацый —
То была мара
Электрыфікацыі.

*

Спачатку Ленін дакладаў:
— Мы — цёмныя яшчэ,
Бо мы не ведаем святла.
Ўчадзелі нашыя мазгі,
Засыпаліся ў копаці лучын,
І гніль ў кутках заглохлых
Яшчэ пладзіцца й не пужаецца святла.
І вось, калі нам голасам грамохкім
Дынама забасуе ў нізкіх тонах,
Заные, як бы зуб, ад тысяч паваротаў
І камарамі загудуць
Маторы электрычныя у сёлах,
Каб ў рух пайшлі машыны й маслабойкі
Ў суперніцтве гартаваных камун,—
Тады для нас вясёлая пара надыдзе.
А як па медных нервах пацячэ
Ў бядацку хату электрычнае святло,—
Тады прыветная гарачая зайграе ўсмешка
На задуменных тварах.
Надходзіць дзень, знікае ноч.

*

Сядзеў і слухаў ўсё Усоў,
Як яго думкі у крыштальнае аправе
Спакойна выкладаў Ільіч.
Цяпер яго ўжо ён пачуццямі ўладае
І думкі праясняе, і вядзе наперад.
Але прыпомнілася — ён ажно прыўстаў —
Не так даўно
Ён перад Леніным вось так стаяў,
А вокал сэрца вілася змяя,
Як гліст або шпягоўства,
І гатавала смерць правадыроў.
Тады было — й цяпер...
— Ну, і за што хацеў цябе забіць я?
За праўду? Нашу? Пралетарскую?
Не зразумеў заслеплены, як блазан —
І шоў, і нёс заразу,
Каб пралетараў укусіць усіх.
Чаму зусім не звар'яцеў тады я
Ад аднаго пагляду,
Ад ненавісці лютай,
Ад гневу чорнага з нябес,
Калі яны дзе ёсць?
Ды іх няма...
І я на брата йшоў свайго...
О, не, то на сваё жыццё,
На сваю веру і любоў да чалавецтва.
Не, я цяпер ніколі
Не адплачуся,
Я ўжо не адплачу за той сярчаны яд
Сваім няўдачлівым каханнем,
Што ўжо халоднай зацягнулася развагай,
Як плесняю зялёнай медзь.
Але цяпер люблю яго
Я над ўсё на свеце.
Мая і кроў, і нервы, і жыццё
Ў яго руках!
Яго хацеў забіць...
Цяпер расколецца мой чэрап, як арэх,
Як сліва, разарвецца сэрца,
Калі ён не даруе.
Мая любоў, маўляў, вар'яцтва,
Павінна выліцца у чын...



Ужо закончыў Ленін,
І Кржыжаноўскі ля твораў сваіх,
Сістэм і планаў,
Яснеючых агнямі,
Як модны Саваоф,
Развеяў творчыя памыслы,
І рух, і словы.
(А сам з сівою доўгай барадой).
І карта Федэрацыі,
Як цвёрдая надзея,
Упёрлася ў сцяну
І марыла ў агнях.
А на яе палях,
Як гранкамі чырвоныя рубіны,
Яркія лампачкі электрыкаю адзначалі
Электрастанцыі у будучыне.
І белым ззяннем моц парогаў
З халоднае вады і рэву ад падзення,
Ператвароную у вольтах
Электрыку шалёна агнявую
Паказывалі цыфрамі
Святлістыя вялізарныя кулі.
А дзе заграюць струнамі антэны
І іскры вераскам ў прасторы заспяваюць,
Там, як шафіры маладыя,
Святлом вадзяна-сінім пазіралі аганькі,
Казалі: «Вось дзе, тут і там».



А Ленін думкаю далёка ўжо лятаў:
— Мы да атомавых віхур,
Як у калодзеж, зазірнулі,
Дзе ў чорным калідоры дно
Адно шарэе, як асенні ранак —
Не то яно, не то і не яно
(Магчыма, што здалося).
А віхры тыя, як у гутняй печы,
Віруюць, гагацяць і выюць, як сірэны,
І сіламі дрыжыць увесь сусвет,
Як велізарністая фабрыка —
Адно йшчэ іх не ловіць слухам

І не нясе ў мазгі душу
Нам зацвярдзелы эпітэлій,
Падобны да зямной кары.
Яго мы йшчэ, ой, разамнём,
Маўляў, ўдубеўшую падошву,
Прыладамі наточым з ведаў,
Ў нервовасць ўзброім апаратаў
І будзем выслухаць, як сэрца,
Як атамы гудуць.
І будзе так:
Не мясені цел чалавечых
Пацягнуць бруд мазуту,
А ў зрэнку шахтара
Не заляціць агонь.
Пыл ядавіты, востры пыл
Са скібаў антрацыту
Ў мільярдах тон
Засне.
І замест скрогату жалеза
Машыны волатавых сіл
З атомных выбухаў лагодна замуркочуць,
Разложацца па залах, як каты,
На супакой
Для працы.
З аздобамі з аканту і мімоз,
Заплеценымі творчымі агнямі,
Заззяюць фарбамі удзень і ўночы,
Каб вочы не гнявіць.
Электрыку забудуцца, як непатрэбны штольні,
Як старае начынне ці як казку нецікаву.
А млявы радый у музей здададуць
За то, што атамаў сваіх расколам вялым
Дзіцятка-чалавецтва навучыў
Ўзрываці вадарод.
І у сімфоніях не першы раз
Абноўлены вясняны свет
Ў машынах заспявае.
Пыліна солі з макавае зерне
Святло рассее матавым туманам,
І дробка цыны,
Маўляў, камфора ў жыле,
Цяпло лагоднае скрозь разнясе
Па мяккай абалоні атмасферы.
І не спужаюцца, што вырвецца тады
Энергія увольненых атомаў.

Яе ў камбінацыях надгеніяльных
Каморкі мозгу апануюць,
Каб радасная буйная зямля
Туманнасцяй не стала зноў.
І кругавіды для людзей
Аж да сузор'яў пойдуць
У вежавых прасторах.
Тады вось нас успомняць,—
Як даўнасць даўную, далёкую...

*1923*

# ПЕСНЯ АБ ВАЙНЕ ГРАМАДЗЯНСКАЙ

*З польскай — У. Бранеўскага*

## Уступ да паэмы

О, глянь! праз небны шлях панура
Цяжкім галопам прад віхурай
Ўцякае войска хмар разбіта,
Надходзіць дзень з развеўным світам,
А сонца — вой з злацістай каскай —
Стрэл першы выпускае бляску.

А долам, краем гарызонту,
З імглы ўсплывае цёмны контур.
Як прывід, з жудкімі вачыма,
Безуладны ў мгле, скаваны ў дыме,
Як човен сонных акіянаў,
Абліты пенай вадатканай,
Плыве, ўзрастае, нібы з цеста,
Ў каменны, просты вобраз места.

Не раз, не раз, о, плыў я гэтак
Вянкамі дымнымі адзеты.
Каменнай, нерухомай явай
Над спячай Прагай і Варшавай.
І мае словы выраслі,
Як карабель імглісты з сталі,
Як места простае з камення,
Як ноч бяссонная з цярпення,
Раслі ў паходзе гэты словы
Штодзень ясней, штодзень сталёвей.
Я іх у вулічным чуў груку,
Я чуў жывое сэрца бруку,
Той шум балесны і фатальны,
Той крык на пляцы Тэатральным,
І плюск крыві ля сцен цагляных,
І подых бітых, катаваных,
Чуў сэрца места зблізка — й сёння
Рву словы з бруку, хай гамоняць!

Я знаю, што бег колаў кажа,
Чым вуліца дрыжыць пад сажай,
Як з фабрык вострых сірэн свісты

У шыбы ўдарадь світам мглістым,
Як пойдуць людзі ў світ шарэгам
Праз места злых, чырвоных цэгел,
З праклятым лёсам, з цвёрдай доляй
У мглу, ў лянівы дым над Воляй...

Ў фабрычнай празвінеўшы нетры,
Завіснуць молаты ў паветры
І рынуць разам з дзікім рэзам,
Сплятуцца іскрамі з жалезам,
Пад гнётам сілы без палёгкі.
Націскам рук, уздымам лёгкіх;
Разгону трэба, ўдараў верных
Крутым трансмісьям і шасцерням,
Націску трэба цвёрдым шынам,
Хай блісннуць сталяй цёмна-сіняй,
Хай мкнуцца смела, проста ў светы,
Вязучы для мастоў шкілеты,
З агню хай вырве стальны розум
Стальныя сэрцы паравозам,
Махавікам, турбінам — спіцы,
Перуназводы — бліскавіцам,
Вуглі і дымы — печным грудзям,
А гордасць і магутнасць — людзям!

Ў фабрычным склепе жару поўна,
Ў фабрычным склепе труд бязмоўны,
Машыны, з гону ашалеўшы,
Глядзяцца ў сцены, дух запершы,
Б'юць лапамі навослеп, хутка,
Зубамі давяць, грозяць рухам,
Дрыжаць і пружацца ў варотнях,
І мусяць свой разгон усотніць,
І — сільныя — угнуцца прад сілай,
Бы ўсцяж грымела, бы ўсцяж біла
Грукотам молатаў распетых
Жалезнае права ўсясвету.
Штодня ў змаганні, ў незабаўцы
На машын горлах млеюць пальцы,
Штодня, з'яданы печаў пеклам,
Крывёй заліты вочы блекнуць,
Штодня ў змаганні трэба падаць,
Спеў заглушыць, забыцца радасць;
Высяцца комінаў чалесні
Над чалавечым шчасцем, песняй
І дымы сноўдаюць жалобай

Каменным местам — жывым гробам...
Ў машынным груку — ніжай, вышай,
Ці чуеш песню — громка, цішай,
Прыціхла... Зноў тут... цісне ціскам,
Для вуш — далёка, для сэрц — блізка...
Нічога... гэта сталь сыкоча,
А ў сыку сталі — шорах мрочны;
Чуваць яе ў такарнях, гутах...
Як полымя, паўзе раскута,
Плыве, як воды, ціха, глуха,
Як вецер, круціцца ў падмухах,—
Аж раптам з цемры рукі ўздойме,
Аж раптам дзверы ўсе паломе,
Над вуліцамі завагніцца,
Крывой, чырвонай бліскавіцай!

О песня гневу! Смела выплынь!
Рві грудзі подыхам ахрыплым,
І вейні, вейні па-над клумам
Шырокіх, вольных крылляў шумам,
Над гоманам машын і местаў
Ўздымай сваіх крылоў шалестам
Выдзёрты з цела сэрцы сонных;
Ты — стравай жыўнай слоў штодзённых,
Крывавым світам ў ночы дзеях,
О песня гневу — ты надзеяй
Вей, пралятай над маім краем
І расцвітай зялёным маем,
Віхром плыві над шляхам польным,
Дзе сэрцу — смела, вочам — вольна,
Збажовым шнурам, борам, Віслай,
Над ворным полем блісні іскрай,
Ідзі да фабрык, гут мазольных,
Як громы, крыкні: — Ўстаньце вольны!
Удар у молат: — Рвіце краты!
Удар сэрцамі: — Дзень расплаты!
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як цяжка сёння пець мне з вамі,
Як баляць грудзі пад славамі,
Але калісь з слёз, пакуль высхнуць,
Я песню радасную высню
І тое, што любіў там з болем,
На сэрцы вашы ляжа доляй,
Як кветкі першых дзён маёвых...

Але гнеў сёння ў маіх словах,
І калі йду да вас са спевам,
То каб уплесці сваім гневам
У адно сэрца сэрц мільёны
І ў лёс піргнуць — як гром натхнёны.

*1927*

## ПАРЫЖСКАЯ КАМУНА

*З польскай — У. Бранеўскага*

Чуючы, губы затні да крыві аж,
Голаў не звешвай ніжай.
Вось вам аповесць аб днях тых апошніх
Камуны места Парыжа.

I

Бубны, ўсё бубны ноччу вурчэлі,
Покуль не глянула раніца здрадай,
Грымнулі ў месце першыя стрэлы,
Сталі, як мур, барыкады.

Брамы здабыты, узяты і форты,
Смерць ужо блізка.
З вуліцы кожнай, нібы з аорты,
Кроў палілася парыжская.

Але Камуна так не паддасца,
Смяецца з смерці і кары!
Парыж гняўлівы, кінь вокліч грозны:
«Да зброі, камунары!

Да зброі, народзе рабочы,
Дзеці, кабеты і хлопцы!
Па вуліцах кроў цячэ рэчкай,
Сягоння крыві яшчэ хопіць!

Покуль іх бандаў рынецца плойма,
Покуль на трупах нашых хто стане,
На барыкады, Камуна,
Да зброі, грамадзяне!»

II

Чырвоных з прадмесцяў адпхнулі,
За імі ўслед, свецячы сталлю,
Па вуліцах цесных Манмартру
Зблізаецца войска з Версалю.



Янка Купала.
1935 г.



Янка Купала выступае на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 1000-годдзю армянскага народнага эпасу «Давід Сасунскі».
Ерэван, 1939 г.



Янка Купала і Якуб Колас з групай творчай інтэлігенцыі пасля выступлення на радыё.
Масква, 1935 г.



Янка Купала,
Міхась Лынькоў, Андрэй Александровіч
сярод калгаснікаў.
1935 г.



Янка Купала і Аляксей Талстой у прэзідыуме вечара,
прысвечанага беларускай літаратуры.
Масква, 1939 г.



Янка Купала і А. Новікаў-Прыбой. Цхалтуба, 1938 г.



Янка Купала і Уладзіслава Луцэвіч сярод артыстаў БДТ-2.
Бабруйск, 1936 г.



Янка Купала і Пятрусь Броўка
на адпачынку ў Кіславодску.
1934 г.



Якуб Колас, Янка Купала, Пятрусь Броўка
і Змітрок Бядуля.
1939 г.



І. Лупан, Я. Купала, Ф. Гладкоў, А. Серафімовіч і інш. у прэзідыуме Пленума Праўлення ССП, прысвечанага святкаванню 750-годдзя з дня напісання паэмы «Віцязь у тыгравай шкуры» Ш. Руставелі.
Масква, 1937 г.



Ілюстрацыя В. Шаранговіча да паэмы «Курган».



Ілюстрацыя Г. Паплаўскага да паэмы «Яна і я».



Янка Купала і Андрэй Александровіч у Драздах пад Мінскам.
1936 г.



Янка Купала выступае на вечары, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. Пушкіна.
Масква, 1937 г.

І там, дзе у марцы казнілі
Генералаў Томаса з Лякомтам,
Палкоўнік з паднятаю шабляй
Надскочыў і крыкнуў прад фронтам:

«Жаўнеры! Нам вынішчыць трэба
Скот гэты! Палонных тож рэзаць!»
Жаўнеры паслушныя слепа
Стаўляюць да муру па дзесяць.

Трашчаць глуха залпы за мурам
І кроў пад нагамі плюскоча;
Панурыя твары жаўнераў,
Іх кепі спаўзаюць на вочы.

III

На магілках Пэр-Ляшэз цвітуць каштаны,
Маем пахне трава здратаваная,
У траве ляжаць трупы расстрэляных
«У імя працы, парадку і права».

Генерал Галіфэ, аддавай загады,
Хай жаўнерам ад люф гараць рукі!
Ну, па сорак! Па дзвесце адразу!
Тысяч пяць! Дзесяць тысяч! На мукі!

Генерал Галіфэ, за расстрэлы
Ўдзячнасць Францыі будзе й медалі!
Генерал Галіфэ, у крыві твае боты!
Генерал Галіфэ, ты падлей ад шакаля!

На магілках Пэр-Ляшэз звечарэла,
Мур бялее у змроку агідай;
Не травы гэта пах — гэта кроў пахне свежа,
І не могілкі гэта, а крэпасць прывідаў.

## IV

Вогнішчам свеціцца ночка,
Гняце, як каменне,
Хмарамі па-над Камунай
Вісіць паражэнне.

Нямнога ўжо засталося
І барыкад, і надзеі.
«На смерць, грамадзяне,
Пойдзем па калеі!»

Дамброўскі згінуў ад кулі,
Паў Рауль Рыго пад сценкай,
На скрыжаваннях вуліц
Па сто расстрэльвалі цэльна.

Бярэ свалата верх над людам,
Крывёю кормяцца шчыра
Паны, ксяндзы, генералы,
Жандары, банкіры.

Па помсту над паўшым Парыжам
Ідзе ужо зграя злых катаў
Са штыхам, золатам, крыжам
Праз грудзі пралетар'яту.

Але Парыж ўмее згінуць,
Камуна не дасца прыгону!
Свабода, жыці ты будзеш,
Струмень твой чырвоны...

## V

«Грамадзянін Дэлеклюз, схавайцеся долу!
Барыкада мусіць пасць, а ўжо смерць там будзе!»
Абапёрты на палку стаяў над барыкадай
Сівы старац з істужкай чырвонай праз грудзі.

Пляц Шато-До здабыты. На беразе правым
Грамаздзяцца астаткі, паў левы, не дыша.
«Грамадзяне, наперад!» А побач нікога.
Старац сам. Валасы, як лён, вецер калыша.

Звольна, ўспёрты на палку пайшоў к барыкадзе,
На якой камунараў сто вораг уходаў,
Нібы той капітан на пакінутым судне,
Дэлегат ад Камуны на брук паў ля сходаў.

А за рогам шум, стрэлы. Йдзе версальская банда.
Шлях свабодны ўжо, труп толькі гэты ля рыны,
Безуладны, як сцяг з дрэўца здзёрты, стаптаны,
Пад ім сцяг бруку, вокал Парыж-дамавіна.

## VI

Пажары, пажары, пажары
І ў дыме пажарышчаў стрэлы.
Парыж не паддасца да скону,
Скрываўлены, жудасны, смелы.

А ўжо калі ўмерці ён мусіць,
Калі ўжо сябе сам не збавіць,
За смерць Дэлеклюза, Мільера
Заложнікаў к сценцы паставіць:

Банкіра, купца, архірэя,
Жандараў, шпікоў, езуітаў...
Няроўны рахунак у трупах:
Сорак васьмёх недабітых.

## VII

Слабей абарона,
Смерць не марудзіць:
Багнет салдацкі
Ў рабочыя грудзі...

Брук, як гразь, мокры
Ад людскай крыві,
Дваццаты вокруг
Даўжэй грыміць.

А стрэл апошні
Яшчэ не хутка,
А кулі свішчуць
Злавесна жудка.

Збудаваў... Бярэ сыноў ён,
Кладзе ў тую хату
І не гляне, нібы чуе:
«Мы не ляхі, тата!»
Абаіх злажыў; з кішэні
Кітайку вымае
І цалуе ў вочы мёртвых,
Хрысціць, накрывае
Той чырвонаю кітайкай
Голавы казачы.
Паглядзеў, раскрыўшы, йшчэ раз...
Цяжка-важка плача:
«Ой, сыны мае, сыночкі!
На тую Украіну
Паглядайце! за яе вы
І [redacted] з вамі гіну.
А хто мяне пахавае?
На чужацкім полі
Хто заплача нада мною?
Доля мая, доля!
Доля мая няшчасная!
Што ты нарабіла?
Нашто мне дзяцей дала ты?
Чаму не забіла?
Хай бы яны пахавалі,
А то я хаваю!»
Са слязьмі перахрысціўшы,
Накрыў, зарывае.
«Спачывайце, сыны мае,
Ў глыбокім прыселлі!
Сука-маці не прыдбала
Новае пасцелі.
Без васількоў і без руты
Спачывайце, дзеці!
Ды прасіце шчыра Бога,
Хай на гэтым свеце
За вас мяне пакарае,
За грэх мой без меры!
Мне даруйце. Я прашчаю,
Што вы польскай веры».
Зраўняў зямлю, накрыў дзёрнам,
Каб ніхто не бачыў,
Дзе палеглі Гонты дзеці,
Голавы казачы.
«Спачывайце і чакайце

Ўбачыцца са мною.
Скараціў жа й вам веку,
І мне будзе тое!
І мяне заб'юць... Хутчэй бы!
Ды хто пахавае?
Гайдамакі!.. Пайду йшчэ раз,
Пайду пагуляю!..»
Пайшоў згорблены ў свет Гонта;
Ідзе, спатыкнецца.
Пажар свеціць; Гонта гляне,
Гляне — усміхнецца.
Страшна, страшна усміхаўся,
На стэп азіраўся.
Абцёр вочы... Чуць мільгае
Ў дыме дый схаваўся.

### Эпілог

Даўно то мінула, як малой дзяцінай,
Сіратою ў зрэб'і я калісь блукаў
Без світкі, без хлеба па той Украіне,
Дзе Залязняк, Гонта з свянцоным гуляў.
Даўно то мінула, як тымі шляхамі,
Дзе йшлі гайдамакі,— малымі нагамі
Хадзіў я ды плакаў, ды людзей шукаў,
Што дабру навучылі б. Я цяпер пазнаў,
Пазнаў, дый жаль стала, што ліха мінула.
Маладое ліха!.. Як бы ты зірнула,
Прамяняў бы долю, што цяпер я маю,
Ліха тое ўспомню, бяскрайныя стэпы
І бацьку, і дзеда,— дзед яшчэ мой крэпак...
Бацька ж не жыве мой, дзед яшчэ гуляе.
Бывала, ў нядзелю, старадаўным следам,
Выпіўшы той горкай па чарцы з суседам,
Бацька дзеда просіць, каб той расказаў
Пра Каліеўшчыну ды як ваявалі,
Як Залязняк, Гонта ляхаў пакараў...
Сталетнія вочы, як зоры, зіялі,
А слова за словам крыніцай лілося:
Як ляхі канали, як Сміла гарэла...
Суседзі ад страху слухалі нясмела.
І мне, йшчэ малому, не раз давялося
Па ктытару плакаць. І ніхто не бачыў,

Што дзіцё малое ды ў куточку плача.
Дзякуй табе, дзеду, што ты захаваў
Ў галаве сталетняй славу нам казачу:
Я цяпер унукам яе расказаў.

Выбачайце, людцы, што вам
Казацкую славу
Так расказваю наўгадкі
Без кніжнае справы.
Так расказваў дзед калісьці —
Няхай здароў будзе! —
А за ім я. Не знаў стары,
Што пісьменныя людзі
Тыя рэчы прачытаюць.
Дзедка, не сумуйся!
Няхай лаюць! А я покуль
Да сваіх вярнуся,
Ды ўжо давяду да краю,
Давяду,— спачыну,
Ды хоць скрозь сон пагляджу я
На тую Ўкраіну,
Дзе хадзілі гайдамакі
З святымі нажамі,
На шляхі тыя, што мераў
Малымі нагамі.

Пагулялі гайдамакі,
Добра пагулялі:
Год шляхецкаю крывёю
Паілі, злівалі
Украіну. Дый замоўклі,—
Нажы пашчарбілі.
Няма Гонты; няма яму
Крыжа, ні магілы.
Развеялі буйны ветры
Попел гайдамака,
І некаму памаліцца,
Некаму заплакаць.
Адзін толькі братназваны
Застаўся на свеце;
Той, пачуўшы, што так страшна
Пякельныя дзеці
Замучылі яго брата,—
Залязняк заплакаў
Першы раз і слёз не выцер,

Памёр, небарака.
Нуда яго задавіла
На чужацкім полі,
Ў чужу землю палажыла:
Такая ўжо доля!
Сумна-сумна гайдамакі
Жалезную сілу
Пахавалі... Насыпалі,
Як гару, магілу;
Заплакалі, разышліся,
Адкуль узяліся.

Адзін толькі мой Ярэма
На кій пахіліўся,
Стаяў доўга. «Спачынь, бацька,
На чужацкім полі!
Бо на сваім няма месца,
Няма месца, волі!..
Спі, казача, з добрым сэрцам!
Хто-небудзь успомніць».

Пайшоў стэпам небарака,
Галаву ў дол клоніць.
Доўга-доўга азіраўся,
Дый не відна стала;
Адна толькі сярод стэпу
Магіла стаяла.

Пасеялі гайдамакі
На Ўкраіне жыта,
Ды не яны яго жалі,—
Нехта будзе сыты.
Няма праўды, не вырасла,—
Крыўда спавівае...
Разышліся гайдамакі,
Хто куды дзе знае:
Хто дадому, хто ў дуброву,
З нажом у халяве,
Жыдоў кончыць. І такая
Дасюль ходзіць слава.
А тым часам зруйнавалі
Сеч тую былую:
На Кубань хто, за Дунай хто;
Адно толькі чуеш,
Як парогі сярод стэпу

Равуць, завываюць:
«Пахавалі дзяцей нашых,
І нас разрываюць!»
Равуць сабе й раўсці будуць,—
Іх людзі мінулі;
А Украіна, яе дзеці
Навекі заснулі.

З таго часу на Ўкраіне
Жыта зелянее;
Не чуць плачу, ні гарматаў,
Толькі вецер вее,
Нагінае вербы ў гаі,
А кавыль на полі.
Усё замоўкла. Хай маўчыць жа:
На то Божжа воля.

Толькі вечарам часамі
Па-над Днепрам, гаем
Гайдамакі йдуць старыя,
Ідучы, спяваюць:
«А ў нашага Галайды хата на памосце.
Грай, мора! Добра, мора!
Добра будзе, Галайда!»

*1938*

## КАЦЯРЫНА

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

*В. А. Жукоўскаму на памяць*
*22 красавіка 1838 года*

### I

Кахайцеся, чарнабрыўкі,
Ды не з маскалямі,
Маскалі — чужыя людзі,
Чыняць ліха з вамі.
Жартуючы маскаль любіць,
Жартуючы кіне,
Ў Маскоўшчыну сваю пойдзе,
А дзяўчына гіне...
Каб сама, то йшчэ б нічога,
А то й стара маці,
Што на свет зрадзіла божы,
Мусіць прападаці.
Спяваючы сэрца вяне,
Калі за што знае;
Людзі сэрца не пабачаць,
Блудніцай аблаюць.
Кахайцеся ж, чарнабрыўкі,
Ды не з маскалямі,
Маскалі — чужыя людзі,
Здзекваюцца вамі.
Бацькі, маці Кацярына
Слухаці не стала,
Маскаліка палюбіла,
Як сэрцайка знала.
Палюбіла маладога,
Ў садочак хадзіла,
Пакуль сябе, сваю долю
Там не загубіла.
Вячэраці кліча маці,
А дачка не чуе;
Дзе з маскалікам жартуе,
Там і заначуе.
Не дзве ночы кары вочы
Люба цалавала,
Пакуль слава на сяло ўсё
Нядобрая стала.
Няхай сабе тыя людзі

Што хочуць гавораць:
Яна любіць, то й не чуе,
Што ўкралася гора.

Надышлі благія весткі —
Ў паход затрубілі,
Маскалі пайшлі на турка,
Катрусю забылі.
Не адчула, ды і што там,
Што дзявоча згуба,
За мілога, як спяваці,
Й патужыці люба.
Абяцаўся чарнабрывы,
Калі не загіне,
Абяцаўся ён вярнуцца,—
Тады Кацярына
Будзе сабе маскоўкаю,
Забудзецца гора;
А пакуль што няхай людзі
Што хочуць гавораць.
Не журыцца Кацярына —
Слёзачкі ўцірае,
Бо на вуліцы дзяўчаты
Без яе спяваюць.
Не журыцца Кацярына —
Памыецца слёзкай,
Возьме ў поўнач вёдры, пойдзе
Па ваду за вёску,
Каб ворагі не бачылі;
Прыйдзе да крыніцы,
Стане сабе пад каліну,
Заспявае Грыца.
Так спявае, вымаўляе,
Аж каліна плача.
Вярнулася — і радзенька,
Што ніхто не бачыў...
Не журыцца Кацярына
І ў думках не мае —
У новенькай хусціначчы
Ў акно пазірае.
Выглядае Кацярына...
Паўгода мінула;
Занудзіла каля сэрца,
У баку кальнула.
Заняпала Кацярына,

Ледзьве-ледзьве дыша...
Ачуняла ды ў запечку
Дзіцянё калыша.
А замужкі бубняць бубнам,
Матулю бічуюць,
Што маскалі вяртаюцца
Ды ў яе начуюць:
«Дочка ў цябе чарнабрыва,
Ды йшчэ не ядына,
А муштруе у запечку
Маскоўскага сына.
Чарнабрывага прыдбала...
Знаць, сама вучыла...»
Бадай жа вас, сакатухі,
Маланка пабіла,
Як і матку, што на смех вам
Сына спарадзіла.

Кацярына, маё сэрца!
Горанька з табою!
Дзе ты дзенешся на свеце
З малым сіратою?
Хто без мілага спаткае,
Як сваіх, хто прыме?
Бацькі ўжо — чужыя людзі,
Цяжка жыці з імі!

Ачуняла Кацярына;
Калыша дзіцятка
І на вуліцу ў аконца
Паглядае ўкрадкам;
Паглядае — а няма ўсё!..
Няўжо ж і не будзе?
У садок пайшла б паплакаць,
Дык пабачаць людзі.
Зайдзе сонца — Кацярына
Па садочку ходзіць,
На ручаньках носіць сына,
Вочкамі паводзіць:
«Вось тут з муштру выглядала,
Вось тут размаўляла,
А там... а там... ах, сыночак!» —
Дый не даказала...

Зеляннеюць у садочку
Чарэшні ды вішні;

Як выходзілі й калісьці,
Кацярына выйшла.
Выйшла, ды ўжо не спявае,
Як раней спявала,
Як маскаля маладога
Ў вішняку чакала.
Не спявае чарнабрыва,
Кляне сваю долю.
А тым часам варажбіткі
Чыняць сваю волю —
Паганую творацы справу.
Што ж мае рабіці?
Каб быў мілы-чарнабрывы,—
Умеў бы спыніці...
Так далёка чарнабрывы,
Не чуе, не бача,
Як з яе смяюцца злыдні,
Як Катруся плача.
Мо забіты чарнабрывы
За ціхім Дунаем;
Ці ў Маскоўшчыне ўжо, можа,—
Другую кахае!
Не, чарнявы не забіты,
Ён жывы-здаровы...
А дзе ж знойдзе ён такія
І вочы, і бровы?
Ў Маскоўшчыне, на край свету,
Па тым баку мора,
Няма нідзе Кацярыны;
Ды здалась на гора!..
Бровы, кары вачаняты
Даці ўмела маці,
Ды не ўмела ў гэтым свеце
Шчасця, долі даці.
А без долі твар бяленькі —
Як кветка на полі:
Пячэ сонца, трэпле вецер,
Рве ўсякі паволі.
Умывай жа тварык белы
Дробнымі слязамі,—
Маскалікі вярнуліся
Іншымі шляхамі.

II

Ў канцы стала сядзіць бацька,
На рукі схіліўся;
Не глядзіць ён на свет божы:
Цяжка зажурыўся.
Ля яго старая маці
Сядзіць на услоне,
Са слязамі адно толькі
На дачку гамоне:
«Што, вяселле, мая дочка?
А дзе ж твая пара?
Дзе сваточкі з ручнікамі,
Прыданкі, баяры?
Ў Маскоўшчыне, мая дочка!
Ідзі ж іх шукаці,
Ды не кажы добрым людзям,
Што ў цябе ёсць маці.
Ох, праклятаю часінай
Цябе спарадзіла!
Каб ды знала, да ўсход сонца
Была б утапіла...
Гадзюкавай была б стравай,
Цяпер — маскалёвай...
Ой, дачушка, ой, дачушка,
Цвеце мой ружовы!
Як ягадку ды як птушку,
Кахала, расціла
На нядолю... Эх, дачушка,
Што ты нарабіла?..
Адплаціла!.. Йдзі, шукай жа
У Маскве свякрухі.
Не слухала маіх радаў,
Дык яе паслухай!
Ідзі, знайдзі яе, дочка,
Знайдзі, прывітайся,
Будзь шчаслівa ў чужых людзях,
Да нас не вяртайся!
Не вяртайся, мая дзетка,
З далёкага краю...
А хто ж костачкі мае тут
Без цябе схавае?
Хто заплача нада мною,
Як родная дзетка?
Хто пасадзіць на магіле

Каліну ды кветкі?
Хто без цябе грэшну душу
Будзе памінаці?
Ой, дачушка, ой, дачушка,
Што болей казаці?
Ідзі ад нас!..»
Ледзьве, ледзьве
Паблагаславіла:
«Бог з табою!» — ды, як мёртва,
Галаву скланіла.

Абазваўся стары бацька:
«Чаго жджэш, нябога?»
Заплакала Кацярына
Ды бух яму ў ногі:
«Даруй ты мне, мой татулька,
Што я нарабіла!
Даруй ты мне, мой галубе,
Мой саколе мілы!»
«Няхай Бог табе даруе
Ды добрыя людзі;
Памаліся ды йдзі з Богам —
Мо лягчэй мне будзе».

Пакланілася устаўшы,
Выйшла моўчкі з хаткі;
Засталіся сіратамі
Стары бацька й матка.
У садок пайшла вішнёвы,
Малілася Богу,
Узяла зямлі з-пад вішні
Сабе на дарогу;
Прашаптала: «Не вярнуся!
У далёкім краі,
У чужой зямлі чужыя
Мяне пахаваюць;
А сваёй гэты драбочак
Нада мною ляжа
Ды пра долю, маё гора
Чужым людзям скажа...
Не расказывай, галубка!
Дзе б ні пахавалі,
Каб на гэтым свеце грэшнай
Людзі не чапалі!
Ты не скажаш... Вось хто скажа,

Што яго я маці!
Мой ты Божа! Маё гора!
Дзе ж мне захавацца?
Схаваюся, мая дзетка,
Сама пад вадою,
А за грэх мой адцярпіш ты
Ў людзях сіратою,
Бязбацькаўцам!..»

Пайшла вёскай
З плачам Кацярына,
Завязаўшыся хусцінай,
Галубячы сына.
Азірнулася, як выйшла,
Сэрцайка заныла,
Паківала галавою
Дый загаласіла.
Як таполя, стала ў полі
Пры бітай дарозе;
Як раса да ўсходу сонца,
Пакапалі слёзы.
За горкімі за слязамі
І свету не бача,
Толькі сына прыгартае,
Цалуе ды плача.
А яно, як ангелятка,
Нічога не знае,
Ручаняткамі малымі
Пазухі шукае.
Села сонца, чуць дзе-недзе
Зоркі зазіялі,
Слёзы ўцёрла, паплялася...
Нікне... знікла ў далі.
Доўга ў сяле гаманілі
Дасужыя сваццi,
Ды не чулі тых гамонак
Ні бацька, ні маці...

Вось жа як на гэтым свеце
Робяць людзям людзі!
Таго вяжуць, таго рэжуць,
Той сам сябе губіць...
А за што? Святы іх знае.
Свет, як глянь, шырокі,
Ды няма дзе прыхіліцца

Ў свеце адзінокім.
Таму доля дала месца
Ад краю да краю,
А другому тры аршыны,
Дзе і пахаваюць.
Дзе ж добрыя тыя людзі,
Што сэрца жадала
З імі жыці, іх любіці?
Прапалі, не стала!

Ёсць на свеце доля,
А хто яе знае?
Ёсць на свеце воля,
А хто яе мае?
Ёсць людзі на свеце —
Золатам зіяюць;
Здаецца, пануюць,
А долі не знаюць,—
Ні долі, ні волі!
З нудою ды з горам
Жупан надзяваюць,
А плакаці — сорам...
Забярыце скарбы,
Жывіце ў багацці,
А я вазьму слёзы —
Гора заліваці.
Затаплю нядолю
Дробнымі слязамі,
Затапчу няволю
Босымі нагамі!
Тады я вясёлы,
Тады ўсё — багаццем,
Як сэрцайка будзе
На волі гуляці.

III

Крычаць совы, спіць дуброва,
Зорачкі зіяюць;
Па-над шляхам чарадою
Начніцы гуляюць.
Людзі добрыя паснулі;
Што каго ўтаміла:
Каго — шчасце, каго — слёзы,

Ночка ўсіх пакрыла,
Ўсіх цямненькая пакрыла,
Як дзетачак маці;
Дзе ж Катрусю прыгарнула:
Ці ў лесе, ці ў хаце?
Ці на полі пад капою
Сына забаўляе,
Ці ў дуброве з-пад калоды
Ваўка выглядае?
Бадай жа вас, чорны бровы,
Нікому не меці,
Чым за вас бяду такую
Самахоць цярпеці!
А што йшчэ далей сустрэне?
Будзе ліха, будзе!
Сустрэнецца пясок жоўты
І чужыя людзі;
Сустрэнецца зіма, сцюжа...
А той — ці спаткае,
Ці пазнае Кацярыну,
Сына прывітае?
З ім забыла б чарнабрыва
Шляхі, пяскі, гора:
Ён, як маці, прывітае,
Як брат, загавора...

Будзем бачыць, а пакуль што —
Адпачыну троху
Ды тым часам распытаю
На Маскву дарогу.
Ой, далёкі шлях, браточкі!
Знаю яго, знаю!
Ажно сэрца ледзянее,
Як успамінаю.
І я калісь папамераў —
Каб яго не мерацы!..
Расказаў бы я пра гэта,
Але ці ж паверацы?
«Хлусіць,— скажуць,— такі-гэткі!
(Ведама, не ў вочы),
А так толькі псуе мову
Ды людзей мароча».
Праўда ваша, праўда, людзі!
Нашто ж тое знаці,
Што слязамі перад вамі

Буду выліваці?
Нашто яно? У кожнага
Ці ж свайго не хваце?..
Ану яго!.. А тым часам
Крэсіва лепш дайце
Ды табакі, каб, як кажуць,
З гора не журыцца.
А то гаварыць аб ліху —
Бяда йшчэ прысніцца!
Няхай яе ліха возьме!
Лепей памяркую,
Дзе мая ўжо Кацярына
З Іванкам вандруе.

За Кіевам ды за Днепрам,
Па-пад цёмным гаем,
Чумачэнькі ідуць шляхам,
Пугача спяваюць.
Ідзе шляхам маладзіца,
Не іначай з прошчы.
Чаго ж смутная такая,
Заплаканы вочы?
На плячах звісае клумак,
Латана апратка,
У руцэ кій, на другой жа —
Заснула дзіцятка.
Сустрэлася з чумакамі,
Дзіцё закрывае.
«Ці ў Маскоўшчыну шлях гэты?» —
Чумакоў пытае.
«У Маскоўшчыну? Гэты самы.
Далёка, нябога?»
«У Маскву аж! Майце літасць,
Дайце на дарогу!»
Бярэ грош і аж трасецца:
Цяжка яго браці!..
Дый нашто ёй?.. А дзіцятка?
Яна ж яго маці!..
Заплакала, пайшла шляхам,
Ў Броварах спачыла
Ды сыночку за мядзяк той
Перніка купіла.
Доўга, доўга сіраціна
Ўсё йшла ды пытала;

Было й гэтак, што пад тынам
З сынам начавала...

Бач, нашто здаліся кары вачаняты:
Каб пад чужым тынам слёзы выліваць!
Вось жа пазважайце й кайцеся, дзяўчаты,
Каб не давялося маскаля шукаць,
Каб не давялося, як Кася шукае...
Тады не пытайце, за што людзі лаюць,
За што не пускаюць ў хату начаваць.

Не пытайце, чарнабрыўкі,
Бо людзі не знаюць;
Каго Бог караць захоча,
То й яны караюць...
Людзі гнуцца, нібы лозы,
Куды вецер вее;
Сіраціне сонца свеціць
(Свеціць, ды не грэе),—
Людзі б сонца заступілі,
Калі б мелі сілу,
Сіраце каб не свяціла
І слёз не сушыла.
А завошта, Божа мілы?
За што светам нудзіць?
Што яна людзям зрабіла,
Чаго хочуць людзі?
Каб плакала!.. Маё сэрца!
Не плач, Кацярына,
Не паказвай людзям слёзы,
Цярпі да загіну!
А каб твар не марнаваўся
З чорнымі брывамі,—
Да ўсход сонца ў цёмным лесе
Умыйся слязамі.
Умыешся — не пабачаць
І не засмяюцца;
А сэрцайка адпачыне,
Пакуль слёзы льюцца.

Вось жа як пагана, бачыце, дзяўчаты!
Жартуючы кінуў Катрусю маскаль.
Нядоля не бачыць, з кім ёй строіць жарты,
А людзі хоць бачаць, ды людзям не жаль.
«Няхай,— кажуць,— гіне лядача дзяўчына,

Калі ўжо не ўмела сябе шанаваць!»
Шануйцеся ж, любкі! Ў благую часіну
Каб не давялося маскаля шукаць!

Дзе ж Катруся блудзіць?
Пад тынамі начавала,
Раненька ўставала,
Ў Маскоўшчыну паспяшала;
Аж бух — зіма стала.
Свішча полем завіруха;
Ідзе Кацярына
У лапцях — цяжкое гора! —
Вецер рве хусціну.
Кацярына йдзе, дыбае;
Глядзіць — штось віднее...
Маскалікі йдуць, здаецца...
Ой жа!.. Сэрца млее...
Паглядзела, іх сустрэла.
«Ці няма,— пытае,—
Чарнявага майго Йвана?»
Тыя ж: «Мы не знаем».
І, як маскалі звычайна,
Смяюцца, жартуюць:
«Ай да баба! Ай да наши!
Кого не надуют!»
Паглядзела Кацярына:
«І вы, бачу, людзі!
Не плач, сынку, маё гора!
Што будзе, то й будзе.
Пайду далей — больш хадзіла...
А можа, й спаткаю;
Аддам цябе, мой галубе,
А згіну сама я».

Раве, стогне завіруха,
Коціць, верне полем;
Стаіць Кася сярод поля,
Дала слёзам волю.
Утамілася завея,
Там-сям пазяхае;
Яшчэ б плакала Катруся,
Ды слёз больш не мае.
Паўзіралася на дзіця:
Ўмытае слязою,
Чырванее, нібы кветка

Ўранку пад расою.
Ўсміхнулася Кацярына,
Ўсміхнулася жудка:
Каля сэрца скрабянула
Чорная гадзюка.
Вокал моўчкі паглядзела;
Бачыць — лес чарнее,
А пад лесам, край дарогі,
Як бы дом віднее.
«Хадзем, сыне! Змяркаецца...
Ў хату пусцяць, можа,
А не пусцяць, то і ў полі
Начаваці зможам.
Пад хатаю заначуем,
Сыне мой Іване!
Дзе ж ты будзеш начаваці,
Як мяне не стане?
З сабакамі, мой сыночку,
Дзялі сваё гора!
Сабакі хоць пакусаюць,
Ды не загаворац,
Не раскажуць, смеючыся...
З сабакамі жыці...
Бедна ж мая галовачка!
Ой, што мне рабіці?»

Сірата-сабака мае сваю долю,
І добрае слова ў свеце сірата;
Яго б'юць і лаюць, куюць у няволю,
І ніхто пра матку не стане пытаць.
А Янку спытаюць, зарання пацешаць,
Не дадуць да мовы дзіцяці дажыць.
На каго сабакі на вуліцы брэшуць?
Хто голы, галодны пад тынам сядзіць?
Абібок, гультай хто, як не байстручаты?!
Адна яго доля — чорны вачаняты,
З зайздрасці й тых людзі не даюць насіць.

## IV

Каля гары над ярам-долам,
Як старцы, ўзняўшы сваю голаў,
Дубы з гетманшчыны стаяць.
Грабелька ў яры, вербы ў рад,

Ставок пад крыгаю ў няволі,
У ім палонка — ваду браць.
Як круг чырвоны чырванее,—
З-за хмары сонца усплыло;
Надзьмуўся вецер,— як павее!
Няма нічога, скрозь бялее...
Ды толькі ў лесе загуло.

Раве, свішча завіруха.
Па лесе завыла;
Як бы мора, бела поле
Снегам закаціла.
Выйшаў з хаты карбаўнічы
Лесу аглядаці,
Ды куды там! Гэткі розрух!
Свету не відаці.
«Эге, бачу, што за немач!
Ліха ж яго з лесам!
Пайсці ў хату... Але што там?
Ну іх да ста бесаў!
Ліхаццё іх разнасіла,
Як бы й справу мелі.
Глянь, Нічыпар, прыглядзіся!
Як жа пабялелі!»
«Што, маскалі?.. Дзе маскалі?
Што ты? Схамяніся!..»
«Дзе маскалі, галубочкі?»
«Ды вунь, падзівіся!»
Паляцела Кацярына,
Не ўспела адзецца.
«Мабыць, добра Маскоўшчына
Ў знакі ёй даецца!
Бо ўначы толькі і знае,
Што маскаля кліча».
Цераз пні, цераз сувеі
Ляціць, ледзьве дыша.
Босай стала сярод шляху,
Махае рукамі.
А маскалі ёй насустрач,
Як адзін, вярхамі.
«Доля ж мая! бяда-гора!»
Да іх... Калі гляне —
Наперадзе старшы едзе.
«Любы мой Іване!
Каханае маё сэрца!

Дзе ж ты быў падзеўся?»
Ды да яго... за страмёны...
А ён прыглядзеўся
Ды шпорамі каня ў бокі.
«Чаго ж ты ўцякаеш?
Забыў хіба Кацярыну?
Хіба не пазнаеш?
Прыглядзіся, мой галубе,
На мяне глянь, скемі:
Я — Катруся твая люба,
Нашто рвеш ты стрэмя?»
А ён каня паганяе,
Нібы і не бача.
«Пачакай жа, мой галубе!
Зірні — я не плачу.
Не пазнаў мяне, Іване?
Сэрца, прыглядзіся,
Ей жа богу, [redacted] — Катруся!»
«Дура, отвяжися!
Возьмите прочь безумную!»
«Божа мой! Івасю!
І ты мяне пакідаеш?
А ты ж прысягаўся!»
«Возьмите прочь! Что ж вы стали?»
«Каго? Мяне ўзяці?
За што ж, скажы, мой галубе?
Каму хочаш даці
Сваю Касю, да цябе што
Ў садочак хадзіла,
Сваю Касю, для цябе што
Сына спарадзіла?
Мой бацечка, мой браточак!
Хоць ты не цурайся!
Найміткаю табе стану...
З другою кахайся...
З цэлым светам... Я забуду,
Што калісь кахала,
Што ад цябе сына мела,
Пакрыткаю стала...
Пакрыткаю... Які сорам!
І за што я гіну?
Кінь мяне, забудзь мяне ты,
Ды не кідай сына.
Не пакінеш?.. Маё сэрца,
Пастой! Прашу вельмі!..

Я вынесу табе сына».
Выпусціла стрэмя
Ды ў хаціну. Бяжыць з хаты,
Нясе яму сына.
Заплаканы, неспавіты
Бедны сіраціна.
«Во яно дзе, на, прыгледзься!
Дзе ж ты? захаваўся?
Ўцёк!.. няма ўжо!.. Сына, сына
Бацька адцураўся!
Божа ты мой!.. Мая дзетка!
Дзе ж дзецца з табою?
Маскалікі! галубочкі!
Вазьміце з сабою;
Не цурайцеся, браточкі:
Яно сіраціна;
Забярыце і аддайце
Старшаму за сына.
Забярыце!.. Бо пакіну,
Як бацька пакінуў,—
Бадай яго не кідала
Горкая часіна!..
Грэхам цябе на свет божы
Маці спарадзіла;
Вырастай жа на смех людзям!»
На шлях палажыла.
«Заставайся шукаць бацькі,
А я ўжо шукала...»
Ды ў лес з шляху, як вар'ятка!
І следу не стала.
Дзіцё плача... Маскалям што?
Балазе, мінулі.
Яно й добра; ды на ліха
Леснікі пачулі.

Кася бегае па лесе,
Бегае, галосіць,
То кляне свайго Івана,
То плача, то просіць.
Выбягае на узлессе;
Зірнула навокал,
Ды ў яр... бяжыць... сярод ставу
Стала адзінока.
«Прымі, Божа, маю душу,
А ты — маё цела!»

Бух старчма ў ваду!.. Пад лёдам
Глуха забурлела.

Чарнабрыва Кацярына
Знайшла, што шукала.
Дзьмухнуў вецер па-над ставам —
І следу не стала.

То не вецер, то не буйны,
Што дубы ламае;
То не гора, не ліхое,
Што маці ўмірае;
Не сіроткі тыя дзеці,
Што мамка ў зямельцы,
Слава добрая й магіла
Для іх застанецца.
Як дакучаць злыя людзі
Малой сіраціне,—
Вылье слёзы на магілу —
Сэрцайка спачыне.
А таму якая доля,
Доля засталася,
Каго бацька і не бачыў,
Маці адраклася?
Байстрюку што засталося?
Хто з ім загавора?
Ні радні той, ні хаціны;
Шляхі, пяскі, гора...
Панскі тварык, чорны бровы...
Нашто? Каб пазналі!
Выпесціла, не схавала...
Бадай паліняллі!

V

Ішоў кабзар да Кіева,
Сеў спачыць з дарогі.
З ім, абчэплены вузламі,
Павадыр убогі.
Ля яго дзіця малое
Дрэмле, як не дбае,
А стары кабзар тым часам
Ісуса спявае.
Хто йдзе, едзе — не мінае;

Хто — праснак, хто — грошы;
Хто старому, а дзяўчаты —
Шэлег механошы.
Падзівяцца чарнабрыўкі —
І босы, і голы.
«Дала,— кажуць,— вочкі, броўкі,
Ды не дала долі!»

Едзе шляхам да Кіева
Шасцярнёй карэта,
А ў карэце пан і пані,
Шыкарна адзеты.
Апынуліся ля старцаў —
Пыл густы злягае.
Пабег Янка, бо з аконца
Рукою махае.
Дае пані Янку грошы,
Дзівуецца пані,
А пан глянуў... адвярнуўся...
Распазнаў, паганы,
Пазнаў чорныя ён бровы
І карыя вочы...
Пазнаў бацька свайго сына,
Але ўзяць не хоча.
«Як завуць?» — пытае пані.
«Янка». — «Какой милый!»
Коні рушылі, а Янку
Абсыпала пылам...
Палічылі небаракі,
Што дасталі, ўсталі,
Памаліліся на сонца,
Пайшлі шляхам далей.

*1938*

# КАЎКАЗ

*З украінскай — Т. Шаўчэнкі*

*Шчыраму майму Якаву дэ Бальмэну*

Кто даст главе моей воду и очесем моим источник слез, [redacted] плачуся и день и нощ о побиенных...

*Иеремий, глава 9, стих 1*

За гарамі горы хмараю спавіты,
Засеяны горам, крывёю паліты!
Спакон веку Праметэя
Там арол карае,
Штодзень божы яму рэбры
Й сэрца разбівае;
Разбівае, ды не вып'е
Крыві жывой з сэрца,—
Ізноў яно ажывае
Ды ізноў смяецца.
Не ўмірае душа наша,
Не ўмірае воля;
І пражора не выара
На дне мора поле,
Не скуе душы жывое
І слова жывога,
Не паганьбіць славы Бога,
Вялікага Бога.
Не нам у спрэчку з табой стаці!
Не справы нам твае судзіць!
Нам толькі плакаць, плакаць, плакаць
І хлеб штодзённы замясіць
Крывавым потам і слязамі.
І ка́ты бэсцяцца над намі,
А праўда наша п'яна спіць.
Калі яна пратрэ вочы?
Калі адпачыці
Ляжаш, стомлены ты, Божа,
І нам дасі жыці?
А мы верым тваёй сіле
І духу жывому;
Праўда ўстане! Воля ўстане!
І табе аднаму
Памоляцца ўсе языкі
Вавекі і векі.
А пакуль што цякуць рэкі,
Крывавыя рэкі!..



За гарамі горы хмарамі спавіты,
Засеяны горам, крывёю паліты!
Вось тамка міласцівы мы,
Бо тую лань у чыстым полі,
Злавілі залатую волю
Дый цкуямо... Лягло касцьмі
Людзей муштраваных нямала.
А слёз? Крыві? Ўсіх напаіць
Тут імператараў бы стала,
З дзяцьмі і ўнукамі ўтапіць
У ўдовіх слёзах... А дзявочых,
Пралітых скрытна сярод ночы?
А матчыных гарачых слёз,
А бацькавых, старых, крывавых?
Не рэкі — мора... Льецца скрозь
Крывёю мора! Слава! Слава!
Хартам, і гончым, і псарам,
І нашым бацюшкам — царам!
Слава!

І вам слава, скалы, горы,
Снягамі спавітым,
І вам, рыцарам вялікім,
Богам не забытым!
Змагайцеся, а зможаце:
Вам Бог памагае!
За вас праўда, за вас слава
І воля святая!

Чурэк і сакля — ўсё тваё:
Яно не прошана, не дана,
Ніхто й не возьме за сваё,
Не павядзе цябе ў кайданах.
А ў нас!.. На то ж пісьменны мы,
Чытаем божыя глаголы!
І ад глыбокае турмы
Ды да высокага прастола —
Усе мы ў золаце і голы.
Да нас вучыцца! Наўчым мы,
Пачым і хлеб, і соль пачым!..
Мы хрысціяны: цэркваў ўволю,
Усё дабро, сам Бог у нас!
Нам толькі сакля вочы коле:

Чаго яна стаіць у вас,
Не намі дана? Чаму вам
Чурэк жа ваш ды вам не кінем,
Як таму псу! Чаму вы нам
Плаціць за сонца не павінны,—
Ці ж гэта ўсё!.. Мы не пагане,
Сапраўдныя мы хрысціяне —
Крыхой мы сыты! А зато,
Як бы вы з намі падружылі,
Мы шмат чаго б вас навучылі!
У нас жа й свету... Як на то —
Адна Сібір неісхадзіма!
А турм? А люду? Што й лічыць!
Ад малдаваніна да фіна
Ўсё на ўсіх языках маўчыць...
Бо благадзенствуе... У нас
Святую Біблію чытае
Святы чарнец і навучае,
Што цар якісь-та свінні пас
Ды, ўзяўшы сабе жонку ў друга,
Забіў ён друга й валацуга
На небе сеў, так як і ў нас
Сядзяць на небе! Вы йшчэ цёмны,
Святым крыжом не прасвяшчоны.
Навучым мы! У нас дзяры,
    Дзяры ды дай
    І проста ў рай,
Хоць і радню ўсю забяры!
У нас! Чаго толькі не ўмеем?
І зоры лічым, грэчку сеем,
Французаў лаем. Прадаём
Або і ў карты прайграём
Людзей... не неграў... а такіх,
Хрышчоных жа... але прастых,
Мы не гішпаны! Крый нас, божа,
Крадзенае перакупляць,
Як гандляры: мы па закону!..
    Па закону апостала
    Вы любіце брата?
    Суясловы, ліцамеры,
    Госпадам пракляты!
    Вы бо любіце на браце
    Не душу, а скуру,
    Дый лупіце па закону:
    Дочцы на мундурык,

На пасаг байстручаняці,
Жонцы на гарсэцік,
Для сябе ж — аб чым не знаюць
Ні жонка, ні дзеці!
За каго ж ты распінаўся,
Хрысце, сыне Божы?
За нас добрых ці за слова
Ісціны? Ці, можа,
Каб мы цябе асмяялі?
Яно ж так і стала!

Капліцы, храмы і іконы,
І свечкі, і кадзіла дым,
І перад вобразам тваім
Бесперапынныя паклоны —
За крадзеж, за вайну, за кроў,—
Каб братнюю праліць кроў, просяць
І после ў дар табе прыносяць
З пажару ўкрадзены пакроў!!

Прасвяціліся!.. Ды хочам
Для другіх прасветы,
Сонца праўды паказаці
Сляпым, бачыш, дзеткам...
Ўсё пакажам! Толькі дайце
Сябе ў рукі ўзяці.
Як і турмы мураваці,
Кайданы каваці
І насіць як... І як плесці
Кнуты з вузлаваццем,—
Ўсяго наўчым! Толькі дайце
Свае скалы, горы
Астатнія... бо ўжо ўзялі
І поле, і мора!

*

І цябе загналі, мой дружа ядыны,
Якаве мой добры! Не за Украіну,
А за яе ка́та прыйшлося праліць
Светлую сваю кроў,— атрутай запіць —
З маскоўскае чашы атрутны напітак!
О мой дружа добры! дружа незабыты!
Жывою душою на Украйне вітай;

Лётай з казакамі па-над берагамі,
Разрыты магілы ў стэпе назірай,
Заплач з казакамі дробнымі слязамі
І мяне з няволі ў стэпе выглядай!

А пакуль што — мае думы,
Маё злое гора,
Зіяць будуць і растуць хай
Ды з ветрам гавораць...
Вецер ціхі з Украіны
Панясе з расою
Мае думы да цябе аж!
Братняю слязою
Ты іх, дружа, прывітаеш,
Веру, не прагоніш...
І магілы, стэпы, мора,
І мяне ты ўспомніш.

*1938*

# Іншыя рэдакцыі і варыянты



## ПАЭМЫ

### *Зімою*

*Зб. «Паэмы», 1940:*

53 Нямала ў дварэ слуг, шмат хлопцаў усякіх,—
61 Хто з вас не любіўся, хто ўцехаў кахання
67 Любіліся і меліся пабрацца зараз,
181 У губы не лезе яда гаспадарская —
236 Печ падпаліла, ставіць гаршкі
245 да слова *задлякаўся* падаецца зноска:
[1]*задлякаўся — ужыта ў сэнсе забавіўся.*
256 Дум усялякіх — цьма.
283 Да падарожных з ім набліжаецца,

*«Полымя», 1930, № 5—6:*

306 Бачылі мы ўсе прыгожасць вясны.
313 Дайце мне лета, каб зямлёй родную

### *Нікому*

*Аўтограф:*

1 Вот і дзякуй Богу
11 Пры іх святле будзем
17—18 Слухаць толькі ціха
Не перашкаджаць
25 Нясі ў час мінёны
26 Жыў мой бедны люд
27 Лет таму і паўсотні
33—40 Хоць то сказаць праўду
Не лепей цяпер
Замры маё сэрца
Душа плач і вер
Вер што гора наша

Мінецца як сон
Загіне нядоля
Сціхне людскі стон
42 І панскіх лясоў
44 З якіх сто дымоў
48—49 Весь гэты народ
Пан што хоча робя
51 Лье kpoў, пот і слёзы
56—57 Ў салдаты здадуць
Бацька дзела робя
61—65 Вот у гэтай вёсцы
Ува сям'і аднэй
Ёсць як цвет дзяўчына
Усіх харашэй
Аленай завецца
67—68 Любя ж шчыра любя
Йна Тамаша
71 Сказаць аб іх любасць
72 Шмат можна чаго
73 Ой любяцца шчыра
75 Дый не мелі долі
78 Плакаў ні шумеў
79 Алену-красотку
83 Ў двор ідуць да пана
85—86 Прышлі пан к нім выйшаў
Ķ пану йны да ног

| | |
|---|---|
| 87—88а | Мы пажаніцца хочам<br>Пазволь нам панок |
| б | Можа б нам жаніцца<br>Пан пазволіць мог |

90 Пан так кажа зра

| | |
|---|---|
| 93—95а | Як прышлі дамоў<br>Нашы жаніхі<br>Весела талкуюць |

97а Сцеражы Тамашка
[illegible] Эй пільнуй Тамашка
98—100 Раджу [illegible] табе
Прышлай сваей жонкі
Як вока у лбе.
102—104 Пан спраўляе баль
Расхадзілась гойна
Сытая удаль.
111 Іх жонкі і дочкі
113—114 Гэтага вот толькі
Хацеў рой п'яны.

## VII

*Паміж* 120—121 Гэй пане багаты
Што задумаў ты
Бог цябе накажа
За плач сіраты
Ці ты так забыўся
Сягоння Пятра
З Тамашом Алена
Шлюб несці ўзяла
На чужую жонку
Хочаш пасягнуць
Скрыўдзіць свайго брата
Без жалю нічуць
Не мае Тамашка
Нічога свайго
Ні статку ні поля
Шнурка аднаго
Цэлы скарб яго тут
Алена адна
Бог цябе накажа
Калі згіне йна

## VIII

121—124 Па мшы ўжо ў касцёле
Згашана святло
Тамаш і Алена
Муж і жонка ўжо
127—132 Йна маўчыць і толькі
Штораз чырваней
Но штось не ручыцца
Нашым маладым
Смутныя варожбы
Устракаюцца ім
139—140 Дай божа ім бедным
Няшчасця мінуць

## IX

145—146 Уз'язджае дружына
На Аленін двор
148 На белы кавёр
151—152 Йдзеце маладыя

Пад ручку ўдваём
155—166 На нім стаіць водка
Каравай ляжыць
160 Праходзіць ды за стол
163 Пры ніх ўся дружына
166—168 Весялы ўсе
Скрыпачка заводзя
Да гульні заве
170 У вачах маладых
173 Раптам панскай зграі
174а Дзесяць гайдукоў
б З дзесяць лекаёў
176 І кажны зароў
179 К сабе на забаву

## X

181—182 Струхлела дружына
Дрогнуў малады
184—186 Йшчэ такой бяды
Зналі на якую
Забаву зваў пан
188—189 Развратны тыран
Дрогнуў Тамаш страшна
191 Вочы слупам сталі
193—194 На тое ж Алена
Йму жонкай цяпер
197—200 Гэй куды няшчасны
Тамашка папёр
Што робіш няшчасны
Хватаеш тапор
204 І пан подлы ваш
206а Свайму пану там
б *Як у асноўным тэксце*
210 Ці ў пекле на дне
213 Свіснуў тапор востры
214а Чуць хто згледзеў тут
б *Як у асноўным тэксце*
215 І па ручку ўеўся
217—218 Валіцца Алена
На пол без жыцця.
221—224 *Адсутнічаюць*
225—226а {Над магілкай нашай
Алены красы

б Над беднай магілкай
Горка я спраты
227—228 Вырас клёнік з ліпкай
Роўнай высаты
230—232 Пакрывае снег
Мароз па ніх скача
То ўніз то наверх
235—239 Лісткі шумяць сціха
Дрозд між ніх пяе
Людзі і ў гэтым
Нейкі знак нашлі
Людскія названня
*Паміж* 240—241 Завуць іх хто знае
На міль тры кругом
Ліпкаю Алену
Клёнік Тамашом
242—244 Многа лет прайшло
Няпамяці пылам
Шмат што парасло
245а Не высахла толькі
б Не выгасла толькі
246 З памяці людской
247а Крыўда праз якую
б Та крыўда якую
248 Выцерпеў люд мой
253—254 Й гэта паведанне
Сказанае вам
257а Вам хочацца ведаць
б ⟨нрзб⟩
258а Йшчэ аб адном
б Хочацца аб том
в Яшчэ і аб том
259 Што сталося ўрэшце
260а ⟨нрзб⟩
б З панам з Тамашом
262—263 Акулі ў той раз
І ў Сібір пагналі
265—268 Цяжка было з тачкай
Скутым Тамашу
Ускорах аддаў Богу
Грэшную душу.
271 Пражыў яшчэ доў⟨га⟩
272а Вечна сыт і п'ян
б *Як у асноўным тэксце*

273а Казалі што потым
б Казалі што са часам
274—275 Застрэліўся йон
Як настала воля
277а *Як у асноўным тэксце*
б А можэ другі тут
278—279а Страшна нешта ў нім
Мо пра гэта дання
б Быў прычыны цень
Што пана не стала
280а Менш панам адным
б Як памёр ты ў дзень
в У гэты золкі дзень

## XV

*Пасля* 280 Сюды цеслы жвава
Трэба вашых прац
Будуйце Алене
Дамоўку палац
Пагаблюйце доскі
Спусціця ў замкі
Ну ўжо і гатова
Добры спрыт такі
У гроб кладуць як к шлюбу
Алену красу
У вяночак прыбралі
Заплялі касу
Пацеры шаптаці
Над ёй людзі йшлі
Скора й на могілкі
Цела паняслі
Засыпалі грудзі
Зямелькай сырой
Дай жа ў небі мейсца
Ты ей Божа мой

## XVI

а Палац стаіць пусткай
б Палац жэ пустуе
Жыць няма ў нім як
Здання ў нім здаюцца
Быццам мшчэння знак

Нейкась мара ў белі
З ранай у грудзях
Ходзя па пакоях
І наводзя страх
Не раз песні голас
Жалобны чуваць
«Гэй пане багаты» —
Так пачне ўзываць,
За што загубіў ты
Маладосць маю
Праз цябе сышла я
Без пары ў зямлю
Пракляты хай будзе
Тварыць зло хто рад
Хто бяздольных крыўдзе
Хай будзе праклят

## XVII

Я ўсё ўжо кончыў
Што меў гаварыць
Ды вот і лучынка
Зара дагарыць
Гутаркі пастаў жа
На сягоння крыж
Ну што там дзяўчынка
Смутна так глядзіш
Жаль табе Алены
а І жаль і Тамаша
б Жаль і Тамаша
Добрае твае знаць
а І сэрца і душа
б Сэрца і душа
Добрые за тое
Табе и адслужу
Ні адну у час вольны
Повесць раскажу
Я іх шмат умею
На іх сам ⟨нрзб⟩
Бо ніхто ні слухаў
Як ты шчыра так.

*«Чырвоны сейбіт», 1926, № 1, 2:*
79 Аленку красную
84 Алена і Тамаш

90 Пан тэй кажа зра
165 П'юць, ядуць, гамонка.

*Калека*

*«Чырвоны сейбіт», 1926, № 3:*
53 Далі там аграцак хлеба
70 Паспытаць ваеннай хаты

*Адплата кахання*

*Зб. «Жалейка», 1908:*
2 Садзіцеся вот дзе, слухайце прыкладна.
4 Но толькі не казку, а праўду, як сонца!
25 А надта адна з іх, што звалася Зосяй,
42 У каторай то садзік, то дзве-тры бярозкі
52 У адной з найцямнейшых, ў адной з найкрывейшых
78 *Адсутнічае*
86 Аб шчасці кахання міленька шапталі.
92 Каму лёс кахання ў душы не разнеце,
93—94 З каторай бы міласць сплывала святая.
З каторай бы з горам сваім падзяліўся.
109—110 А Зося за шыю прыцісне да сэрца:
«Ой, Янка, ой, лгун ты, нядобры ашчэрца!
112 І Янку праз міласць напэўна не згубіць?
117—118 Цалуе, мілуе, і ночка ім гэтак
Мінуткай праходзе; аж летнія ўсе так
123—124 Ноч шатою цёмнай зямлю абхінула,
Жыццё ўкруг замёрла, прырода заснула.
127—128 І зоркі пагаслі, і ўсё спіць на свеце,
Адзін чалавек жэ ня спіць нешта прэце.
131 Акропнаю зэмстай палае блюзнерца
148 Страшней жа з тым зверам, што ўходзе між намі,
153—154 Штохвіля крываўшую зэмсту знаходзе,
Штохвіля чарнейшыя мыслі наводзе,
159 Яшчэ з сабой вальчэ, яшчэ аглянуўся
161 Схваціў тапор востры рукой подлай, смелай
171 І сцэнаў крывавых менш найдзем у вёсцы.
174—175 А толькі у месце скарэй хто уп'ецца,
Скарэй і сагрэшэ, другога закрыўдзе.
179—180 А ў вёсцы ж прыгледзься на крыўды, на слёзы,
Што выльюць напрасна у спекі, ў марозы,
183 А сколькі на цёмных святлейшых чыгае,
190 Каб мог ён за крыўду сваю уступіцца,
192 Найбардзей такія, што з'еўшы катлетаў,
199—200 Вот Янка шчаслівы, ўжо гора не знае,
За жонку ўжо Зосю харошую мае,

212 А важнае — міласць, што лепш багацтв князя
216—219 Што гэтак шчаслівы, што ўжо ў паняверцы
Не мучыцца горка, як перад бывала:
Но раптам вот гэтага шчасця не стала...
Акропная відма падходзе, здаецца,
230 Сава загукала, гэт, недзе за вёскай,
232 Но вот даляцеў гук да чуткага вуха:
236 Так відна, як сонца на небе ўжо свеце.
238 Крычаць: «Сабірайцесь!» — гасіць дружна, смела.
241 Сабраліся людзі но толькі па часе:
243—244 Гарыць пуня панская, бухае пламем;
Крывавым на небе становіцца знамем.
246 Хто ж збліжыцца к пламю на болі, на мукі?
250—251 Но, Божэ! што гэта! корч нейкі звуглёны...
Хто толькі ні ўзгляне, ўцякае з трывогі;
254 Косць толькі: няма ж ні вачэй, ні павекаў.
266 Пазнала таго ў нім каго ўзгадавала,
277 Твая ж гэта, браце, рука учыніла,
281 Вот Янка забіты, вот Янкава маці
292 Но грызці сумленне ці ж можа тырана;
294 Ахвяру праз зэмсту са свету згубіці,
300 І гэтыя людзі, і поле, і неба;
302 І з хлопцам харошым пайсці пагуляці...
304 Убачыла з пуні адно пажарышча.
311 Напрасна дзяўчына адкрыць праўду хоча;
318 Дзе ж панна? Но панны з пасцелі не стала,
321 Но потым і чорныя мыслі абселі:
326 Заве ад работы, ад косаў, ад плугаў:
328 Шукайце усюдых, за хатай, за сценкай;
332 Но толькі, каб Зосю я відзеў у хатцэ!..
334 А дзіка, а страшна, як звер як шалёны.
336 Напрасна! Дзе Зося, дзе панна, не знаюць.
342 Народ жа над дзвёма маліўся і кленкаў.
351—352 Но у вусных паданнях жыве і жыць будзе
І сведчыць сабою шчаслівых а блудзе.
354 Замнога ўсялякіх шальмоўстваў складана?

*Выбр. тв., 1935, т. 2:*

151 Снуецца Лаўчынскі па хаце, як хмара.

*Зб. «Паэмы», 1940:*

10 Еў смачна, спаў доўга,— пан істы ў палацы!
51 У нізкай хаціне, ў адной з найбяднейшых
79 Ой, трудна пазнаці, ой, трудна згадаці.
84 Янук, сын мужыцкі, а Зося шляхцянка,—
153—154 Штохвілю крываўшую помсту знаходзіць,
Штохвілю чарнейшыя думкі наводзіць,

164 І як бы разбойніку грозна крычалі:
171 І сцэнаў крывавых менш знойдзеш у вёсцы.
212 А важнае — любасць, што лепш скарбаў князя.
224 Начлежнікі ў лузе — пад буркай сярмяжнай,
234 У цэркві бліжэйшай званы загудзелі...
244 І сцягам крывавым на небе здаецца.
274 І слёзы збірае, па свеце разносіць.
312 Сціскаецца сэрца, цякуць слёзы з вочаў...
345 Эй, скончана казка! Ну, як вам здаецца:
352 І сведчыць сабой аб багатых а блудзе

*У Пілітаўку*

*«Наша ніва», 1908, № 26, 18(31) снеж.:*

94 Далей ні шагу — трасецца.
102 А дома сын лекаў чакае...

*«Наша ніва», 1908, № 26, 18(31) снеж.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

35 Радзілась маці ўжо многа бабуль,
40 Вот-вот часіна — загасне
48 Ехаць барджэй да аптэкі!
57 Трудная рада: да раніцы ждаць
76 Дзень хмараваты, вятраны
104 Жаль, дый і ночка ж такая!
115 Сілы слабелі ад хуткай хадзьбы:
149 Меў жы прытулак ты зносны калі,

*Зб. «Паэмы», 1940:*

52 Ды толькі бачылі ў вёсцы...
57 Трудная рада: да раніцы ждаць
64 Як жа тут к свету папасці?..
67 Ну, Сцёпка! Ехаць і час, і пара,
76 Дзень хмараваты, вятраны
83 Выехаў з горада — цёмная саўсім
100 Пужаюць снежныя шумы.

*За што?*

*«Наша ніва», 1909, № 3, 15(28) студз.:*

63—64 Пакуль жыў стары пан
І старая пані.
75 Як наш брат к зямліцы

*«Наша ніва», 1909, № 3, 15(28) студз.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

21 Хай нясецца скарга
61 Сорак лет так Дзягель
68 З хлебам і бяспечна!
87 І прапаў спакой, з ім

*Зб. «Паэмы», 1940:*

51—52 І жыве з надзеяй,
З верай прад ачыма.
60 А лясы — на поле!
63—64 Позненька ён клаўся,
А ўставаў зарання.
148 Што гудзяць працяжна

*Курган*

*Аўтограф:*

6 Камні, зелле ў грудзі ўпілося
10—11 Стая воўчая вые зімою;
Сонцы днём залатыя снуюць
24 З чарадою душ думных, пакорных

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*

47 Прыказаў ён пазваць гусляра-старыну,
[illegible] Кажуць — як толькі выйдзе і ўдарыць, як ён
59 Не скубе лога статак, рака не бурліць,
129 Стол ўставіў ядой, косці шмат пад сталом,—
179 Палыны абышлі, вырас дуб малады
190 Не зазнаў ніколі ўжо гора...

*Сшытак № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы; «Наша ніва», 1912, № 25, 21 чэрв.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»:*

50—51 Песня-дума за сэрца хватала
Увакруг гэтай думы дудара-званара
105 Відзіш, княжа, загоны, лясы, сенажаць —
136—137 Гэта сэрц скамянеўшыхся пламень.
Люба чуці табе скочны музыкі звон:
147 Думаў князь, выдумляў, дрогнуў шабляй наўзбоч,

*Зб. «Паэмы», 1940:*

51 Вокал гэтай думы дудара-званара
126 Гэта цвёрдая сталь ад кайданаў,
137 Люба чуці табе скочны музыкі звон:
151 Ты шалёны, стары! хто цябе дзе хаваў?

*Урывак з паэмы*

(«Дзе хмары чэзлі, то зноў віслі...»)

*«Полымя», 1930, № 5—6:*

34 Гул недавольства плыў і плыў,—
47 Слуга пратайнасці прадзіўнай
122 Не расстаецца на ўвесь век,
169—172 *Адсутнічаюць*

### *На Куццю*

*«Наша ніва», 1911, № 51—52, 22(4) снеж.; рукапісны зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Шляхам жыцця», 1913:*

48 Князь рэч вядзе да ўсіх такую
51 Каб лет іржавы карагод
96, 112, 128 Нашто схавалі-расхваталі?
138 Скаванай мучаніцы-княжне,
144 Наш дух вітаці вечна будзе.
156 Хай зазвініць віно ў крыштале.
159 Другой к цяпершчыне пральём,
173 Рахкочуць гуслі звон у звон,
174—175 На мір — свет розгалас нясецца,
Як мір — свет, коціцца разгон
185 На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў,

### *Гарыслава*

*Аўтограф:*
*Прадмова:*

2—3а {Ветры вольныя, раздольныя
Над зямліцай над крывіцкаю
б *Як у асноўным тэксце*
16а Называную Рагнедаю
б *Як у асноўным тэксце*
18а Сталі зваць яе Гарыславаю
б *Як у асноўным тэксце*
24а Свету люду беларускаму
б *Як у асноўным тэксце*

*Раздзел:*

I

26а Без ліку ночкі дзень змянялі
б *Як у асноўным тэксце*
27—28а {Сышло як сон за летам лета
І патанулі ў вечнай далі
б {Плылі як сон за летам лета
І недзе гіблі ў вечнай далі
в *Як у асноўным тэксце*
30 Шмат сонца выпекла лагчын
33 Бацькоў заснуўшых у магіле
35а Аб тым як елі і пілі
б *Як у асноўным тэксце*
45—46 У батракі пайшлі унукі
І топчаць прадзедавы косці

**II**

54а Звясці нявольнічныя сны
б *Як у асноўным тэксце*
Сваё ўладарства над зямлёй
58—60а Што зіхацела ў праменні
Свабоды ласкай залатой
б *Як у асноўным тэксце*
68а Ўсё спіць магільным цвёрдым сном
б *Як у асноўным тэксце*
70а Старонка родная мая
б *Як у асноўным тэксце*

*Бандароўна*

*Аўтограф:*
91—92а Зруйнаваць палацы вашы,
Вашай кроўю ўпіцца...
б Асвяціць зямлю пажарам,
Свежай кроўю ўпіцца...
в . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . .
108а І моладзь — за імі
б *Як у асноўным тэксце*
270 Вочы паглядалі
281а Ой прыходзіў Бандарэнка,
б *Як у асноўным тэксце*
306а Персцяны ускладалі,
б *Як у асноўным тэксце*
329 Ён спяшыць на пір хаўтурны,
336а Увакруг абчапіці
б *Як у асноўным тэксце*

*Аўтограф, «Наша ніва», 1913, № 29, 13 ліп.:*
6 Із Канёва родам,
88 Панскага заводу
94 Ўвесь гарыць, што ў жару
168 На зямельцы соннай
245 Перад панам із Канёва
252 За табой ліш грошы
269 Толькі з крыўдай аднаковай
313 Збілі з досак гэбляваных
380 Трэбало-б пісаці

*Зб. «Паэмы», 1940:*
96 Ляснула па твары
99 А дужэй яшчэ у пана
226 У грудзёх дзявочых,

243 Тваe грозьбы ёй не страшны,
307 У замшовы чаравікі

*Магіла льва*

*«Беларусь», 1920, № 36, 37; 19, 20 лют.:*
101 Усе мы п'ём яго з ахвотай,
245 Душу і думу атумане,
*Зб. «Паэмы», 1940:*
74 Дзе пасвіў, дзе араў, касіў,
135—136 Грудзямі й шчочкамі, вачымі,
Як мак між макамі цвіла.
372 Ёй пакарыўся без баю.

*Яна і я*

*Аўтограф:*
1а На крыжавых пуцінах з ёй спаткаўся
б *Як у асноўным тэксце*
3а Я абмінуць яе ужо збіраўся
б І я не знаў, як зблуканы у лесе,
в *Як у асноўным тэксце*
8а Як тые сёстры дзве, ці як браты кумы
б І слухам клікалі малейшы шум.
12—13а {Шапталі ёй вазьмі яго вазьмі
І рукі нам злучылі на векі
б *Як у асноўным тэксце*
15—16а {Кветкамі радасці пасыпалі на векі
Ісці супольна праз жыццё
б *Як у асноўным тэксце*
*Паміж 16—17 (закрэслена):*
Земля дала нам памятку па крыжу
Жалезны крыж нам кожнаму дала
26а Галубячы сваймі крыламі нас
б Мядовых асалод,квяцістых крас.
в *Як у асноўным тэксце*
36а І будзем думы думаць аб сяўбе
б *Як у асноўным тэксце*
40а І сам яго саломай накрываў
б І сам яго пад стрых саломай накрываў
43 Турэцкім, што сваёй красой яскравай
48а І пабяліў яе разы са тры
б І вапнай пабяліў разы са тры
51 Пасцель пуховую пасцелем мы з табою
52—53а {Каб мякка цёпла спаць было нам абаім
Сагрэем грудзі вечным мілаваннем

б *Як у асноўным тэксце*
63а Так будзеш век маёй ты гаспадыняй
б *Як у асноўным тэксце*
66а З ралі спаўзае снегавая бель
б *Як у асноўным тэксце*
68 Вада ў лагчынах жаліцца, як шмель
70а Пралеска вочкамі на божы свет
б *Як у асноўным тэксце*
74а *Як у асноўным тэксце*
б Па млечнаму пуці плывуць чаргой
76а Сваіх шукаюць кінутых сяліб.
б Сваіх шукаюць кінутых лугоў
85 Па ложку па пасцелі ласюцца
93 Праталіна лягла на гонейка
96—97 Залатаструнна зайграе ўжо вясна.
а За кросны мілай трэ было сад⟨зіцца⟩
б *Як у асноўным тэксце*
99а Але прылад яшчэ ўсіх не было
б Але прылад на гэта не было
в *Як у асноўным тэксце*
103а А панажы я выстругаў яловыя
б А панажы павыстругаў яловыя
105—106а { Дасталі берда у суседа частые
Сама яна спляла ніты
б { Браў дзічку яблыню крамністую
Стругаў чаўнок слізчэй ад шкла
в *Як у асноўным тэксце*
107а Купіў на рынку берда частае
б *Як у асноўным тэксце*
109а Засела мілая за кроснамі
б Садзіцца мая тчэя ў кросенкі
в Садзіцца маё сонца тчэя ў кросенкі
г Садзіцца маё сэрца тчэя ў кросенкі
111а Каб густа ўтоку йшлі палосанькі
б Гусценька ўтоку йдуць палосанькі
в *Як у асноўным тэксце*
113а Так шчыра ўзяліся дарэчы мы
б *Як у асноўным тэксце*
115а Любуюсь маладзіцы плечамі
б Любуюся яе грудзьмі і плечамі
в *Як у асноўным тэксце*
116а Любуюсь белымі грудзьмі
б *Як у асноўным тэксце*
117 Тчы мая тчэя кроў твая ўзыгралася
122 Кладзе шырокі доўгі сцяг

126 Дзе парастае буйны дзівасіл,
127а Аж у краіну
б Аж у старонку знаную нязнаную
в *Як у асноўным тэксце*
128 Туды аж да магіл
133—134а На поле статак выганяць пара
Кароўку маем мы, авечку, пару свінь
б *Як у асноўным тэксце*
136—138а Вялікі скарб — пацеха гаспадыне
Мая не выгнала за край
Платоў, дзе стада ў...
б *Як у асноўным тэксце*
139 Пакуль таго што вучэ абычай
141 Свянцоным хлебам, солей і вярбой
142а Кругом яе абнесшы тры разочкі
б *Як у асноўным тэксце*
145а Кусочак шкла скупала у ва⟨дзе⟩
б Кусочак у крыніцы шкла
в *Як у асноўным тэксце*
147а *Як у асноўным тэксце*
б Трымаючы і ўкленчыўшы сама
148—149 Укленчыўшы сама закляцці
«Ты ясно сонца, й месяц ясны свет,
151а Што акрапляе расою цвет
б Вы ўсе, што акрапляеце расою цвет
153 Землю угрэйце, вырасцце траву
157а Вартуйце ад благіх вачэй цара
б *Як у асноўным тэксце*
159—160а І ад яго дзетак яго, каб млека зра
І чалавеча вока злога
б І ад дзяцей яго, каб млека зра
Ад чалавеча скрытне вока злога
в *Як у асноўным тэксце*
161а Вялікі абшар! Не згледзець тых абшараў
б *Як у асноўным тэксце*
162 Што прадзеды аставілі і нам
164 Дзе рунь абходзе ўжо на хлеб людзям
165а Хадзі апрыся мілая рукою
б Хадзі апрыся мілая мая рукою
в *Як у асноўным тэксце*
166а Сваей на маё плячо
б Сваею левай на маё плячо
в І ручку на плячо мне палажы
г *Як у асноўным тэксце*

167а Я стан твой абыму сваей рукою
б Я стан твой атулю сваей рукою
168а І пойдзем пойдзем ў поле пад крыжы
б *Як у асноўным тэксце*
170а Свае багацці ў полі будзем аглядаць
б Свой скарб у полі будзем аглядаць
в *Як у асноўным тэксце*
172а Рахунак будучым жнівам складаць
б Удваіх рахунак будучым жнівам складаць
в *Як у асноўным тэксце*
173а Багаты мы з табой, шмат маем гоняў
б *Як у асноўным тэксце*
175а Ды ў пуню палажыць у застаронне
б *Як у асноўным тэксце*
177а Абняўшы стан яе рукой прытульна
б Рукой трымаючы яе стан мілы
в *Як у асноўным тэксце*
179а Дзе сеяць што варожым
б Дзе перш араць, дзе сеяць што варожым
в Аб будучых трудах і снах варо⟨жым⟩
181а Абняўшыся пад крыжам белым селі
б *Як у асноўным тэксце*
187 І ў мыслях кланяліся той часіне
188а *Як у асноўным тэксце*
б Што нас вянчала ў шчасці ў жальбе
в *Як у асноўным тэксце*
192а І тыя вечныя ля нас крыжы.
б *Як у асноўным тэксце*
197а Нябожчыкаў пайшлі адведаць з ёю мы
б *Як у асноўным тэксце*
199а Паміж крыж
б І сноўдалі людзі між крыжоў як цьмы
200—202а Хісталіся, як ветрам гнутае калоссе.
У крыльцы, у пліты і наспы ўеўся мох.
Бяроза з хвойкаю галінаміківалі
б *Як у асноўным тэксце*
203—204а Капліца пасярод чарнела як астрог
На свет вокнамі жутка пaглядала
б Капліца пасярод жутка як астрог
На свет глядзела вокнамі нямымі
в *Як у асноўным тэксце*
209а Як боб буйные слёзы із вачэй
б Як боб буйные слёзы із яе вачэй
210а Пасыпаліся градам на пясок

б *Як у асноўным тэксце*
213а Штось сэрца сціснула мне ў душы зірнула дно
б *Як у асноўным тэксце*
217а Ў магілках спалі бацька мой і два браты
б Ў магілках дрэме бацька мой і два браты.
221а Пусціўшы сумным думам павады
б *Як у асноўным тэксце*
222а Жаль безгранічны у душу паплыў
б Бязмежны жаль ў душу паплыў крыніцай
223 І [illegible] таксама як яны шаптаў тады
225а Саха мая саўсім гатова
б Саха мая саўсім ужо гатова
226а Зрабіў я к ёй новенькую плаху
б *Як у асноўным тэксце*
231а Ў загоне на рагач налегчы
б *Як у асноўным тэксце*
234а Да сыта — трудна пахваліцца
б Што сытна — трудна пахваліцца
в *Як у асноўным тэксце*
237а Пайшоў з сахой на свае ў полі гоні
б *Як у асноўным тэксце*
238а Нагамі конік мой цярэбе
б Нагамі толькі конік цярэбе.
243 Не дагадацца цераз свой век цэлы
245—246а Таго каторы першы раз вясною
Сахой зачэпе яе грудзі
б Таго каторы ў восень ці вясною
Сахой чапае зямлі грудзі
253а Арыце сейце хто што можа
б *Як у асноўным тэксце*
257а Бярозавы зрабіў ей пранік зручны
б *Як у асноўным тэксце*
258а На версе павырэзываў узоры
б З узорамі і ручкай гладкай
263а І падаткнуўшы зграбненька спадніцу,
б *Як у асноўным тэксце*
265а І пярыць пачала намокша палаценца
б *Як у асноўным тэксце*
267а А прыскі ей на ножкі і каленцы
б І пырскала на ножкі і каленцы
в *Як у асноўным тэксце*
268—269а Вадзіца, як расіца градкі.
Распрысківаліся наўкола прыскі
б *Як у асноўным тэксце*

270 Мігцелі ў сонцы мнагацветна
273—274а Купаліся агністыя праменні
У сіняй сажалке па версе
б *Як у асноўным тэксце*
276а Туліліся і цалавалі персі.
б *Як у асноўным тэксце*
280а І несла слаць на сенажатцы
б *Як у асноўным тэксце*
283а Тканне сваё мы распусцілі
б Тканне памыта распускала
286а Як шоўк будзь гладзенька
б Як шоўк будзь гладка і льсніся
287 Як беленькае малако у місе
289а Ралля ўжо просіцца сяўца й сявалкі
б Ралля ўжо просіцца да сева
в Раля падсохла, вецер невялікі
г Ралля падсохла, мягкінька як воўна
д Раля падсохла, а мягка як воўна
290 Пара узяцца за сявалку
291а Ў зямлю зернят сыпаць поўнай
б *Як у асноўным тэксце*
296а У мех, яе рукой пашыты
б *Як у асноўным тэксце*
300а Унізу мкнуў вецер сваей сцежкай
б *Як у асноўным тэксце*
303а На мой загон каціласе ўзараты
б На наш загон сахою узараты
304а На мой палетак ярыны
б *Як у асноўным тэксце*
306а Стаяла на сяўбу глядзела
б *Як у асноўным тэксце*
307а Расла пацеха ў сэрцах нам свята⟨я⟩
б Расла пацеха ў сэрцах прасвята⟨я⟩
в І як та багародзіца святая
г *Як у асноўным тэксце*
д І як та багародзіца святая
309а Кладзіцеся спаці зярняткі к зярняці
б Кладзіцеся спаткі зярнятка з зярняткам
в *Як у асноўным тэксце*
310а А накрывайцеся пасц⟨ілкай⟩ вы скіб⟨кай⟩
б *Як у асноўным тэксце*
319а Каб не пабілі вас грады і грымоты
б *Як у асноўным тэксце*
322а Благое зелле вырывала кідала ў барозны
б *Як у асноўным тэксце*

339—340а У тахт з салавейкам буду
Думкам, сэрцу вясну выклікаці
б *Як у асноўным тэксце*
343—344а Пасей на душы мне долі жытцо
А на сэрцы кахання пшанічку
б *Як у асноўным тэксце*
346а Прыдзі ты вясна ў думкі мае
б *Як у асноўным тэксце*
348 І галубіў ў святліцы ў пярыне.
354а Як пухам высыпаны пухам
б *Як у асноўным тэксце*
361—362а Вецер трос лісткамі, песціў калыхаў
Галінкамі трос як крапілямі
б *Як у асноўным тэксце*
363 Птушак жвавы шчэбет хвілі не сціхаў
366а Адам — я у ім, яна у ім — Эва
б *Як у асноўным тэксце*
367—370 Ў раі гэтым вецер Бог нам быў і сват
Галінкамі вянчала дрэва
Птушкі ў мільён тонаў гралі свадзьбу нам
Сонца блаславіла думкам і грудзям
371а Уціраў цвет яблынавы слёзы
б Цвет яблынавы зводзіў слёзы
в *Як у асноўным тэксце*
374а Сушыў нам слёзы пад павекай
б *Як у асноўным тэксце*
378а Майму няшчаснаму сіроцтву
б *Як у асноўным тэксце*
382а Да сэрца прытуліся шчыра
б *Як у асноўным тэксце*
384 Нябеснага царамі міра!
386а Льснілася, як вясёлкі мнагацветны ўзор
б Мігціцца, як вясёлкі мнагацветны ўзор
388а Дзе кветкамі луг ірдзеў, як неба ўноч ад зор
б *Як у асноўным тэксце*
389 Выйшлі як дзве душы злучаны навек
392а Прыйшлі і дзівіліся святому хараству
б *Як у асноўным тэксце*
393а Кветкамі ўхарошылася сенажаць
б Краскамі ўпрыгожылася сенажаць
в *Як у асноўным тэксце*
398а Сонца па люстранай гладзі льсніць у чарот
б *Як у асноўным тэксце*

400а Як бы ў вадзе хацела ўбачыць сябе
б *Як у асноўным тэксце*
401 Кветкі з ёю рвём, пляце сабе вянок
402а Карону на галоўку з кветачнай красы
б *Як у асноўным тэксце*
404—405а Распушчаны плывуць па плечах валасы
Радасна абняўшысь ў траве плывем
б *Як у асноўным тэксце*
408а *Як у асноўным тэксце*
б Іскрацца вочы цела млее просіцца пад цень.
413а *Як у асноўным тэксце*
б Змяшаліся калені ў нас самі сабой
в Злучыліся калені ў нас самі сабой
г І ногі падкасіліся самі сабой
д *Як у асноўным тэксце*
414—415а Полымем прыпалі грудзі да грудзей
Млявасць упаенне выбіла нас ⟨з⟩ сіл
б *Як у асноўным тэксце*
416а *Як у асноўным тэксце*
б І так змяшаліcь з сонца⟨м⟩, з кветкамі з травой.
в *Як у асноўным тэксце*
420а І грудзі распаліці барацьбой
б І грудзі распаліці агністай барацьбой
422 Раскінула із зелені жывы шацёр
424а Ты чарадзейскі выткала чароўны ўзор
б *Як у асноўным тэксце*
427—428а Зямля і сонца і вецер крылаты
І я красе тваей сваю чэсць аддаю
б *Як у асноўным тэксце*
429 Ох ажыло зямлі старое папялішча
430а *Як у асноўным тэксце*
б Запелі рэчкі плечы выраўнаваў бор
431а Спраўляе птушак шчабятлівы рой ігрышча
б *Як у асноўным тэксце*
438 Як вокам стрэліць можна ў галубую даль
442 Паміж народамі сваей, чужых зямель
446 За крыўду маёй ненагляднай помстай заплаціць
448 Што ланцугамі мусіла не мала лет званіць

### *Бульбу садзім*

1а На поле вынеслі мы з ёю колькі ношак
б На поле вынеслі мы бульбы колькі ношак
2а Парэзанай на палавіну бульбы

б Садзіць з сахой паплёўся я на гоні
в Садзіць пайшоў на гоні я з сахой
3 Яна ўзяўшы плецены з карэння кошык
4а І завязаўшы хусціну пайшла за мной
б І хустку завязаўшы йшла за мной
5 Я правяду сахою роўна баразёнку
6—8а Яна яе засадзіць шчыльна да канца
Тады ізноў змяню я сваю бедну жонку
Ізноў гатова да работы баразна
б Яе засадзіць да канца яна
Тады ізноў змяню я мілую саджонку
Ізноў и сядзьбе гатова баразна
9 Так у магілку шчыра бульбу мы хаваем,
10 Усё прыбываюць саджаны радкі,
11 За скібай скіба шчыльна ложыцца край з краем,
12 З нарога валіцца пясок мяккі.
13 Ўжо пэўна высадзілі з добру палавіну
14 Аж беднай забалела у крыжы
15 Што аддыхнём галубка мілая з часіну
16 І параўнаем плечы на мяжы
17 О, каб и золата чырвонага меў многа
18 Не гнулася б з карзінай на пясках
19 Была бы ты ў мяне, як за плячыма ў Бога
20 Як кветачку, насіў бы на руках.
21а Як тая ў казцы чарадзейская царэўна.
б Як чарадзейская царэўна з таей казкі
У мрамарных палацах бы жыла
Слуг сотні ад тваей залежала бы ласкі
У кароне ў шоўках у брыллянтах бы цвіла.
О каб я золата чырвонага меў многа
Азалаціў бы гэтым золатам цябе
Не білася бы сэрца з беднасці трывогай
І вочы не купалісь бы ў жальбе
Свет цэлы золатам запрэглі бы бразгучым
І сонца залілі б яго агнём
Па свойму кіравалі бы жыццём магучым
І самі узняліся б над жыццём.

*Безназоўнае*

*Аўтограф (л. 1—11):*

2 Надта нясмела
6а Як званочак
б *Як у асноўным тэксце*
7 І ўжо празвінела так далей

16—17 Здольна, адлегла
Па пушчы пайшло бураломам
19а Загрымела бунтарскае слова
б Грымнула бунтарскае слова
20 Аж ад акаваў
30 Пайшлі у забыццё
32 На новае жыццё
34а На новы лад...
б *Як у асноўным тэксце*
40а Жніво і малацьбу.
б Той лад сваю касьбу,
в Сваё жніво-касьбу,
46а У дарозе з сватам кум
б *Як у асноўным тэксце*
49а Трывога чалавечая,
б Надзея чалавечая
52 Паслася ля сяла
53—56 *Адсутнічаюць*
122а Над жудаснай няласкаю
б *Як у асноўным тэксце*
124а І ідзем у свет хоць ляскае
б І ў свет ідзем хоць ляскае
в *Як у асноўным тэксце*
125а У кут⟨ах⟩ звяр'ё няласкаю
б *Як у асноўным тэксце*
127—132 *Адсутнічаюць*

*Радкі 135—137 маюць два варыянты:*

I

135 Якое б'е ад нас на свет
136а Бо думы ўжо саколамі
б *Як у асноўным тэксце*
137 Імкнуцца быць вясёлымі

II

135—136 На гонях бітваў і пабед
Над горамі і доламі
137а Лунае буй⟨ных⟩
б Лунае творчых дум адсвет
в Лунае творчых дум агняцвет
139—140 Палеткі нашы ўзораны
А думкі распакораны

142а Чакаюць толькі жораны
б Ужо чакаюць жораны
в І ўжо чакаюць жораны
144 На спорны умалот
145—148а Ідуць гудуць заручаны
З пакінутай засмучанай
З вясельнікам
Пайшлі ў кут анучыны
б Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом
Аборыны, анучыны
149 Абэрсаны, адкручаны
150а Як лішнія калючыны
б Ляжаць сабе ціхом
152а Лістком пад ногі сцелецца
б *Як у асноўным тэксце*
153—155 Нуды як не было
Аторыца-аселіца
Пад ногі шоўкам сцелецца.
156 *Адсутнічае*
164а Выпівае смела
б *Як у асноўным тэксце*
165—166 Так бубняць і гудзяць
На гэтай бяседзе
167—168а А суседзі глядзяць
Дзівяцца суседзі
б І не скаляць зубоў
Сытыя суседзі
170а Як на тэй дзяўчыне
б З васілечка⟨ў⟩ сініх
в *Як у асноўным тэксце*
171 І чырвоны паясок
172а На стане дзявочым
б *Як у асноўным тэксце*
173—174 І сядзіць і глядзіць
Ці ўсё ў парадку
176—178 То не жарт мой братка
З адмысловых музык
Гучная капэлька
183—184 І не скаляць зубоў
Сытыя суседзі.
185—186а Глянь, яна з мужыкоў
А ужо выйшла у людзі

б *Як у асноўным тэксце*
187а Як то больш пажыве
б Як больш пройдзе гадкоў
в Як больш міне гадкоў
189а *Як у асноўным тэксце*
б Грай жа грай нам
190а Не шкадуй брат струн
б Каб праняў пявун
в *Як у асноўным тэксце*
194а Што цябе мой край
б Хто цябе мой люд
в Што цябе мой люд
196а Злосна абліваў
б *Як у асноўным тэксце*
197а Пан і барын недзе у прочках
б Пан Варшаву дапівае
в Пан Варшаву прапівае
198а Дажывае век.
б За «крэсовы» лес
в Чуе упадак свой
г Герб шляхецкі свой
д Гонар панскі свой
199—200 Барын веку дажывае
Выгнаны Масквой
203 Малатамі і каса⟨мі⟩
*Пасля* 204: Сход склікаем і вітаем
Свой свабодны сход
Хай кіруе вольны⟨м⟩ краем
Хай вядзе народ
Беларусь яшчэ пакажа, што можа яна
Не здабрыцца моцы уражай
205 Нібы пчолы з ношкай мёду
207а Мы збіраемся дадому
б *Як у асноўным тэксце*
212 З роднае зямлі
213а Вы хтось шэпча асцярожна
б *Як у асноўным тэксце*
215а *Як у асноўным тэксце*
б Гэй дарогу, пан вяльможны
225а Бо пільнуе хітры вораг
б *Як у асноўным тэксце*
228 І задрэмяць на папасе
232а Засмяяцца з вашых сілаў
б Засмяяцца з нашых сілаў
236 І задрэмяць на папасе

238а Дзей хвалебных рук жычлівых
б Сіл магутных рук жычлівых
в Рук забавіць, рук жычлівых
240 І спачыць у снах шчаслівых
*Пасля* 244: Трэба дзён нямала тысяч
З беларускім сэрцам думай
Мерацъ светы, каб вышэй узвысіць
Вызваленне наша з глуму
Бо пільнуе хітры вораг
Тых хто спыняцца не ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмяць на папасе
249а Яшчэ там здрадна ласка панская
б *Як у асноўным тэксце*
256а Што з беларускіх здзёр палосак вузкіх
б *Як у асноўным тэксце*
257а Яшчэ дзесь служаць корна мамкамі
б Яшчэ там служаць корна мамкамі
259 Ды стогнуць жудасна пад клямкамі
261а Ох і ўспалаюць жа паднебныя
б *Як у асноўным тэксце*
263 І гінуць будуць там патрэбныя

*Аўтограф (л. 12—15):*
164а Выпівае смела
б *Як у асноўным тэксце*
170а З васілёчкаў сініх
б *Як у асноўным тэксце*
173 І сядзіць і глядзіць
174а Ці усё йдзе як трэба
б *Як у асноўным тэксце*
177а З адмысловых музык
б *Як у асноўным тэксце*
185а Глянь яна з мужыкоў
б *Як у асноўным тэксце*
188 Што тады будзе.
190а *Як у асноўным тэксце*
в Каб праняў пявун.
205 Нібы пчолы з ношкай мёду
212 З роднае зямлі
215 Гэй дарогу пан вяльможны
221а Трэба славу ўжо якую ў тысяч
б Жычу далей славу што ў тысяч
223а *Як у асноўным тэксце*
б Агняцветнымі агнямі вышыць
в *Як у асноўным тэксце*

228 І задрэмяць на папасе
229а Трэба далей ў молатаў біць тысяч
б Жычу біць ў молатаў біць тысяч
230 Покуль сталь шчэ не астыла
234а Каб не ўздумаў ў вашы дні лясны сыч
б *Як у асноўным тэксце*
237—238а Трэба многа яшчэ тысяч
Дзён славутых, рук жычлівых
б Зычу многа многа тысяч
Дзён хвалебных, рук жычлівых
240 І спачыць у снах шчаслівых
249а Яшчэ там ласка панская
б Яшчэ там горда ласка панская
251 І круціць подласцю паганскай
257а Яшчэ там служаць корна мамкамі
б Яшчэ дзесь служаць корна мамкамі
258а Сястрыцы нашыя і родныя
б *Як у асноўным тэксце*
в Сястрыцы родныя і сягоння

*

*З угодкавых настрояў*

*Аўтограф (адз. зах. 258—263):*
2, 24а Гоман ды па хатах
б *Як у асноўным тэксце*
27а Да магнацкіх, да панскіх дзвярэй
б *Як у асноўным тэксце*
31 Бо збудзіўся збунтараны дух
33а Як у вырай плылі
б *Як у асноўным тэксце*
37а Дзе сякуць лятуць шчэпкі ў даль
б *Як у асноўным тэксце*
38 Як кажа гаворка
39а Дзе кароўка, вяроўкі не жаль
б *Як у асноўным тэксце*
41а Ірзуць коні павозкі скрыпяць
б *Як у асноўным тэксце*
43а Не на жарты раскаваны знаць
б Не на жарты раскаваны таць
44 Распусціў папругу
45а Не паставіш ты да сценкі,
б *Як у асноўным тэксце*
46а Дык цябе прыставяць
б Аж да дзвюх паставяць

53–55а Не спалася, не елася
Куды і паднядзеліцца!
Як гэта загулялася
б *Як у асноўным тэксце*
57а *Як у асноўным тэксце*
б Над сілай непакорнаю
в *Як у асноўным тэксце*
58а А следам — пайшлі гутаркі
б А следам — шэпты, гоманы,
в Пайшлі блукацца гоманы
г А следам — шэпты, гоманы
59а Як тыя дымы з комінаў
б *Як у асноўным тэксце*
62а Падсуседзі галодныя
б Падсуседзі сыкалі
в Вужакі падкалодныя
г Падсуседзі прыгодныя
64а Маўляў з бітвы бясплоднае
б З натугі бач бясплоднае
74а Не лезце лепей родныя
б *Як у асноўным тэксце*
85а Шлі, сыходзілі
б *Як у асноўным тэксце*
87а Ажно рэха ляцела
б Ажно водгулле-рэха ляцела
93а Тры-чатыры так восені залеглі
б Тры-чатыры так восені ўмерлі
в Тры-чатыры так восені леглі
95–96а Як змаганне ішло безустанку
Безупынна
б *Як у асноўным тэксце*
111а А ўсё ж такі не даліся
б А такі ўсё ж не даліся
в Ой вяліку дань сплацілі
115а Кожны год на ім вяночак
б Дзесяць год на ім вяночак
в *Як у асноўным тэксце*
123а Кожны год вяночак носіць
б *Як у асноўным тэксце*
131а *Як у асноўным тэксце*
б Суды су⟨дзіць⟩ ўвесь народ
в *Як у асноўным тэксце*
133–134а З таго жніва, з тае ўроды
Што сабралі з таго жніва

б *Як у асноўным тэксце*
135а Ды якія ураджаі
б Ды якія хто карысці
в *Як у асноўным тэксце*
136а Выйшлі у новым ладзе краю
б *Як у асноўным тэксце*
138а Усе парваўшы загародкі
б Распрастаўшы загародкі
в *Як у асноўным тэксце*
139а Большы меншы гаспадар
б *Як у асноўным тэксце*
143а А той песню (чым багат)
б *Як у асноўным тэксце*
в Ды кум куму, свату сват:
144а Каб жыў доўга новы лад
б *Як у асноўным тэксце*
146—147а Вараць піва, мёд салодкі
Успамінаюць ціхі час
б Парай гоняць мёд салодкі
Успамінаюць былы час
в *Як у асноўным тэксце*
148а Каб навекі ўжо пагас
б Пайшлі ў скокі ўсе наўскоч
в Ды ўсе ў скокі крок у крок
150—151а Лятуць іскры ад падноскаў
Скачы ўнук, скачы дзед
б Лятуць іскры з-пад падноскаў
Скачы ўнук і скачы дзед

*Аўтограф (адз. зах. 264):*
2а Гоман ды па хатах
б *Як у асноўным тэксце*
38а Як кажа гаворка,—
б Горка ці не горка,—
в *Як у асноўным тэксце*
55а Як гэта распасталася
б *Як у асноўным тэксце*
62а Падсуседзі прыгодныя
б *Як у асноўным тэксце*
64а З натугі бач бясплоднае.
б *Як у асноўным тэксце*
87а Ажно водгулле-рэха ляцела
б *Як у асноўным тэксце*
150а Лятуць іскры з-пад падноскаў...
б Ажно іскры з-пад падноскаў
в *Як у асноўным тэксце*

*«Чырвоны сейбіт», 1927, № 18—19:*

54 Куды і павяселіцца,
57 Ідзе моц непаказная,

*Над ракой Арэсай*

*I выданне (1933); II выданне (1934); зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Паэмы», 1940*

391—392 Каб іх у Саюзе знал,
Што з іх за камунары

*II выданне (1934); зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Паэмы», 1940:*

533 І памёр ваяка

*II выданне (1934); зб. «Песня будаўніцтву», 1936:*

Паміж 676—677
Наняць інжынера —
Будаваць на стала,
Плаціць трэба многа,
А карысці мала.

*Барысаў*

*«Звязда», 1934, № 151, 11 ліп.:*

29—44 *Адсутнічаюць*

*«Звязда», 1934, № 151, 11 ліп.; «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 8:*

135 На такое дзела,

*«Полымя рэвалюцыі», 1934, № 8; зб. «Песня будаўніцтву», 1936:*

101—104 За домбальскай гуты
Выраб адмысловы
Дае англічанка
Стэрлінг дукатовы.

*«Звязда», 1934, № 151, 11 ліп.; «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 8; зб. «Паэмы», 1940:*

131 У працоўнай масе.

*Зб. «Паэмы», 1940:*

8 Плыты, баржы і параходы.
52 Ды пажарным прыскам.
101 За нашае гуты

*Тарасова доля*

*Аўтограф:*

*Падзагаловак:*

а Памяці Т. Г. Шаўчэнкі
б *Як у асноўным тэксце*
2а Ходзіць з хаты ў хату...
б *Як у асноўным тэксце*

7а Чуюць вушы маладыя,
б Чуюць вушы ў поле, ў хаце
25а Песень радасных, шчаслівых
б *Як у асноўным тэксце*
44а Ці, як здань, хадзілі.
б *Як у асноўным тэксце*
49а І гудзела, і званіла
б Так гудзела і званіла
в *Як у асноўным тэксце*
50а Няволя ў кайданы,
б *Як у асноўным тэксце*
52а Як быдлём паганым.
б *Як у асноўным тэксце*
68а Полымем, пажарам!
б *Як у асноўным тэксце*
80а Буйнай Украіны
б *Як у асноўным тэксце*
82а З Вільні да Варшавы
б *Як у асноўным тэксце*
95а Маладому, удалому
б *Як у асноўным тэксце*
99 Людзей бачыў ў горы, ў слёзах,
119а Таму сведкай засталіся
б *Як у асноўным тэксце*
132а Ды Дняпро шумлівы
б *Як у асноўным тэксце*
136—138а Па страце век цэлы.
Тараса паны пагналі
Бадзяцца па свеце,
б *Як у асноўным тэксце*
145а Ні цары, ні цараняты
б *Як у асноўным тэксце*
161а І не сніцца, і не спіцца
б *Як у асноўным тэксце*
163а Дзе ні гляне слёзы, гора,
б *Як у асноўным тэксце*
167а Сіратою гіне, стогне
б *Як у асноўным тэксце*
169а Вешаць ляхаў, царанятаў,
б *Як у асноўным тэксце*
174а Што было, што будзе,
б Подласці, напасці
в *Як у асноўным тэксце*
176а Сэрца рваў на часці.

б *Як у асноўным тэксце*
182а Пайшло раным-рана,
б *Як у асноўным тэксце*
184а Ў сэрцах мільёнаў.
б Ў людзей закаваных.
в *Як у асноўным тэксце*
186а Думалі
б Сонца аглядалі
в *Як у асноўным тэксце*
188—190а Спявай жа, брат, далей.
А цара, і царанятаў,
А паноў навалу
б *Як у асноўным тэксце*
192а Песні небывалай.
б З'явы небывалай.
в *Як у асноўным тэксце*
200а Навекі забыўся.
б *Як у асноўным тэксце*
201а Ой, далёкі шлях сібірскі,
б Ой, далёкі шлях астрожны
в Ой, шлях катаржны, астрожны
г *Як у асноўным тэксце*
218а Толькі камень бача,
б *Як у асноўным тэксце*
219а Ды сібірскі вецер чуе,
б Ды сцюдзёны вецер чуе.
в *Як у асноўным тэксце*
245а З'ела царская няволя
б *Як у асноўным тэксце*
247а Менш глядзеў ужо на сонца,
б *Як у асноўным тэксце*
249а Але песень, але гулкіх
б *Як у асноўным тэксце*
251а Прабуджаці, выслаўляці,
б *Як у асноўным тэксце*
253а Мо пісаў бы далей песні
б *Як у асноўным тэксце*
255—256а Але высушылі каты
Яму кроў у сэрцы.
б *Як у асноўным тэксце*
260а Ў думках застаецца!
б *Як у асноўным тэксце*
283—284а Ды зірнуў на Украіну,
Дружа ты наш мілы!

6 *Як у асноўным тэксце*
287а І новай песняй прывітаў бы
6 *Як у асноўным тэксце*
299а Гэй, Тарас, каб ты збудзіўся,
6 *Як у асноўным тэксце*

## ПЕРАКЛАДЫ

### *Нядзеля*

*«Полымя», 1930, № 5—6:*
96 Вот і вёска, знаць — наша,—
181 Шынкар торб не надзене,

### *З «Конрада Валенрода»*

(«З Мальборскай вежы званы загудзелі...»)

*«Полымя», 1930, № 5—6:*
53 Хоць для другіх і не значна нічога —

### *З «Конрада Валенрода»*

(«Сто лет мінала крыжацкай навале...»)

*Аўтограф:*
7 Літоўцаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
30 Наджана тофілю прускага красай,
*Сшытак № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы:*
2 Як кроў з паўночных тачыла паганаў.
7 Літоўцаў дзеліць ад ворагаў Нёман:
24—26 Так Нёман, здавен гасціннасці рупны,
Уладання лучачы братніх народаў,
Стаўся граніцай для іх недаступнай,
28 Жыццё і воля каму надаела
*Зб. тв., 1926, т. II:*
15 Гэта літоўскай сям'я маладзежы
25 Сялібы лучачы братніх народаў.
29 Адно галінка літоўскага хмелю,
49 Што быту лепшага выснуюць сплёты
52 Злучацца ў песнях ізноў Вайдэлёты.

### *Песня аб вайне грамадзянскай*

*Аўтограф:*
10а Бяссільны ў мгле, спавіты у дыме,
6 *Як у асноўным тэксце*
17а Каменнай, нерухомай лавай
6 *Як у асноўным тэксце*

20а Як судна мглістае са сталі
б *Як у асноўным тэксце*
23 Раслі даўжэлі гэты словы
24а Штодзень яснейшыя, сталёвы
б *Як у асноўным тэксце*
25а Я іх у вулічным чуў бруку
б Я іх у вулічным чуў стуку
29а І плюск крыві на тратуары
б *Як у асноўным тэксце*
34а Чым вуліца дрыжыць пад стражай
б *Як у асноўным тэксце*
44а Іскрамі звогняцца з жалезам
б Іскрамі змесяцца з жалезам
50 Хай бліснуць сталяй гнеўна-сіняй
51а Хай гоняць проста ў светы
б Хай гоняць смела, проста ў светы
в Хай мкнуць у свет з душой сталёвай
г *Як у асноўным тэксце*
55а *Як у асноўным тэксце*
б Шыпы махавікам, турбінам спіцы
в Рычаг махавіка, турбінам спіцы
г Клыкі манежам і турбінам спіцы
д *Як у асноўным тэксце*
57—58а Вуголь і дым для печных грудзей
А славу і магутнасць — людзям
б *Як у асноўным тэксце*
59—60а У фабрычным будзе жару поўна
б У фабрычным будзе труд бязмоўны
61а Машыны ашалеўшы з гону
б *Як у асноўным тэксце*
65 Дрыжаць і кружацца ў варотні
68а Абы грымела і каб біла
б Каб бы усцяж бы у <нрзб> біла
69а Грукатай молатаў распетых
б *Як у асноўным тэксце*
70—71 Жалезнае так права свету.
Штодня ў змаганні пастаяльцы
79а І дымам поўзаюць жалобай
б *Як у асноўным тэксце*
83а Прыціхла, змоўкла — цісне ціскам
б *Як у асноўным тэксце*
87а Чуваць яе ў такарнях, кузнях...
б *Як у асноўным тэксце*
89а Як воды плыве ціха, глуха
б *Як у асноўным тэксце*

90 Як віхар, круціцца у падмухах
92а Аж раптам у цемры рама уздойме
б *Як у асноўным тэксце*
106—107а Раскветні мне зялёным маем.
Плыве над шляхам польным
б *Як у асноўным тэксце*
109 Збажовым ланам, борам, Віслай
112а Грымотам крыкні — устань хто вольны
б Як громам крыкні — устань хто вольны
116 Як грудзь баліць зжата славамі
118—119а Я вам вясёлу песню кіну
І тое што любіў, сніў з болем
б *Як у асноўным тэксце*
123—124а І во калі кажу, спяваю
То гэтым гневам спавіваю
б І вось калі хажу, спяваю
То сваім гневам спавіваю
125 У веліч сэрца сэрц мільёны
126а Каб кінуць у свет, як гром натхнёны
б Бы у лес піргнуць, як гром натхнёны

*Сон*

*«Полымя рэвалюцыі», 1933, № 6, 7:*

10—11 У яго ж хаце свата,
А той спотайку ў куточку
15 Як та котка, падкрадзецца,
19 І не кліч ты: не ўратуюць
23 Ды айчызну гэтак любіць.
25 Ажно з яго, небаракі,
35 На тым свеце благаеце?
37 Шкада й працы! Схамянецесь:
39 Жабракі і цараняты —
46 Дальбог жа, не чую.
49 Вось так ідучы каля тыну
54 І жонкі не маю,—
59 А ўжо падпіты як засне —
64 Найцверазейшы б і то ўпіўся,
72 Пералескамі, ляскамі.
89 Пакуль твае, маці, дзеці
94 У святога Бога!
98 Сонца сустрачае,
112 Сонца сустрачае...
122 Не чуеш людскога плачу, скрыгату?
131—133 Ўдаву за падаткі, а сына куюць,

Удавы няшчаснай адзінага сына,—
Адзіну надзею,— ў войска аддаюць,
144 Й чужыя ганьбуюць!..
147 З дваццатаю, недалюдак,
158 Ў крызе ляжам спаці,
170 Полымем завые,
172 Трупам зямлю крые,
180 Ў разбуранай хаце,
185—186 Вакол бары, кусты, балоты,
Туман, туман пустынь і слоты.
190 Бывайце! Ў госці не прыйду!
194—195 Ў снягу заначую.
А пакуль вы дазнаеце,
248 Век будзе гарачым!
261 То гарады з стама царквамі;
275—276 Цэрквы ды палацы,
Ды паны пузатыя.
289—291 Вон відзіш — палацы?
Пхнуўся, аж землячок, бач,—
Дзякуй, прызнаўся,—
299 Я ўсе ўходы знаю;
306—307 Каламару! і зрабіўся
Я ізноў нязрымы,
309 Божа мой, ядыны!
335 Каб ды бліжэй стаці
376 Такі добра. Перад світам
379 Па куткох стагналі,
381 Бога ўсё благалі.
392 Гэта дзіва!.. Во крыві тут
423 У магілу з сабою?
443 Іх шляхотнымі касцямі;
467 Шэра неба, а ў тэй хмары —
470 Хмараю спусцілась
477 Ад вачэй тваіх нясытых.
488 Люты смерцедаўца!
493 Бедакі ужо ўставалі,
503 А я стаю, пахіліўшысь,
521 Прадаў, каб дурня навучыці
531 Пайсці хіба, падзівіцца
536 Ды панадзімалась,
540 Няйначай з бярлогі
561 Я гляджу, што далей будзе,
573 Ў сне пабачыў я тым

*Таполя*

*«Полымя рэвалюцыі», 1936, № 3:*

3—4 Край дарогі гне таполю
Да самага долу.
6 Нашто зелянее?
9 Чумак едзе, азірнецца,
31 Не стаяла б да поўначы
68 Нядолечку яно чула,
88—89 Яна сохне, як та кветка —
Ніхто не пытае:
91 Маці не спытала,
94 «Йдзі, дачушка»,— кажа маці:
102 Няхай папы заспяваюць,
113 Без мілога жыці?..
132 Каб дамоў я не вярнулась...
157 Аж там, дзе прашчалась...
178—181 Пайшла, ўмылась, напілася,
Як не свая стала,
Другі, трэці раз... як скрозь сон
Ў стэпу заспявала:
182—185 *Адсутнічаюць*
190 Расці тонкай ды высокай
196—197 Па той бок — мая там доля,
А па гэты — гора.
199 Па полі гуляе,
205 Калі не прыбудзе!
207 У зямлю захаваці...
219 Ўсё ўгору ды ўгору!
222—224 Песню гэткую дзяўчына
Ў стэпу заспявала,
Зелле дзіва нарабіла —
*Паміж* 225—226 Не вярнулася дадому,
Не даждала пары...
Стаіць тонкай да высокай —
Да самае хмары.

*Медны коннік*

*«Звязда», 1937, № 32, 9 лют.:*

22 І горад после соткі год,
30—31 Стары свой невад напрасцяк,
Цяпер на цвёрдых берагах
50 Святлісты змрок, бліск цемнаваты,
54—57 Пустынных вуліц і святла
Адміралцейская ігла,
І, не пускаючы начную

На небе цемру доўга жыць,
61 Марозу пошчак каля хат
63 Красу ружовую дзяўчат.
68 Люблю жывую баявітасць
70—72 Палкоў пяхотных і канёў,
Хаду іх, жывасць, сакавітасць,
У зыбкім, маршавым страі
84 І славіць з ім дні веснавыя.
91 І марнай помстаю не будуць

*«Літаратура і мастацтва», 1937, № 8, 10 лют.:*

102—104 Нява не спала, бы ў начы
У пасцелі хворы неспакойны.
Было ўжо цёмна, ўжо змрок быў,
111—112 Гучыць прыемна, ды даўно
Маё з ім здружана пісанне.
126 Ды доўга ён заснуць не мог
147 І дождж каб у акно хваставў
160 Каб любавацца буранамі
164 Назад ішла, як смерч, бурліва,
176 Ў вадзе па пояс стаўшы ён...
179—181 З разгону шыбы б'юць чаўны.
Латкі ў вадзе, кускі сцяны,
Абломкі хат: куфры, бярвенне,
183 Манаткі беднай нішчаты,
189 Бач! гіне ўсё: харч і хаціна! —
197—198 І ў думках сумнымі вачамі
На гора горкае глядзеў.
206 Яго пабеглі генералы
211—215 Над ганкам ля слупоў ўдваём,
Падняўшы лапу, як жывыя,
Стаяць два львы там вартавыя,—
На зверу мармурным вярхом,
Без шапкі, з зморшчаным чалом
218 Не за сябе. Ён не зважаў
221 Як дождж яму ўсё ў твар хваставў,
223—224 З яго і шапку там сарваў
Яго зрок роспачы з дакорам,
235—236 Ўдава й дачка — яго Параша,
Яго любоў... Ці, можа, сны
241 Да мармуру бы прыкаваны

*«Літаратура і мастацтва», 1937, № 12, 5 сак.:*

250—251 І ад буянства чуць жыва,
Назад пацёпкала Нява,
253 Кідаючы з задавальненнем
272 І цяжка йшчэ Нява дышала,

288 У кут знаёмы той. Глядзіць,
351 Дамоў к сабе ўсё не вяртаўся.
380—381 Яго нячуючых судзей.
Бядняк прачнуўся. Было хмура:
406 У мроку меднай галавой,
419 Вакол куміра нібы з мэтай
427 Зайграла кроў. Стаў хмурным ён
429 Зацiснуў зубы, пальцы зжаў,
432—435 Шапнуў са злосцю ён лютой.
«Набраў сабе!..» І ў міг стралой
Пусціўся бегчы. Й як бы бача
Ён там, што грознага цара
437—438 І павяртаўся, злы няйначай...
І ён па плошчы той пустой
452—456 Па плошчы мусіў тэй ісці,
Баязнь яго твар пакрывала,
Ад сэрца боль каб адвясці,
Ён прыціскаў руку паспешна,
І думаў — гэтым муку меншыў.

*«Полымя рэвалюцыі», 1937, № 6:*

176 У вадзе завяз па пояс ён...
197 І ў думках, сумнымі вачамі
252 Са свайго радая ўзбурэння,
259 І згорблены парабаваным,
351 Дамоў к сабе ўсё не вяртаўся.
427 Зайграла кроў. Стаў хмурным ён

### *Прычынна*

*«Літаратура і мастацтва», 1938, № 54, 30 верас.:*

2 Сярдзіты вецер завывае,
4 Гарамі хвалі падымае;
7—8 Нібыта човен ў сінім моры
То выныраў, то патапаў.
10—11 Не гаманіў ніхто нідзе,
Сычы ў гаю пераклікаліс,
54 Адна, як та птушка ў далёкім краю,
62 Падлыне да Бога — мілага пытаць.
66 Ці ў быстрым Дунаі коніка ён поіць?
70 За сінім бы морам мілага знайшла:
143 Закувала зязюленька,
180 Мая шызакрыла!»
192 Як татарын біўся ўначы.
194 Змардаваны конь чуць стаіць,
197 Цікавыя (праўды не ўтоіш)
213 Над казаком пасадзілі
218 Часта кукаваці;

*Кацярына*

*«Полымя», 1939, № 3;*

4 Жыць не будуць з вамі.
48 Й патужыць люба.
53 Будзе сабе маскаліхай,
81 Знядужала Кацярына,
94 Мабыць, сама ўчыла...»
112 Няўжо і не будзе?
138—139 *Адсутнічаюць*
250 Каб грэшнай на гэтым свеце
292 Той сябе сам губіць...
315 Жупан падзяляюць,
392 З Іванам вандруе.
404 Трымае дзіцятка.
535 Яго б'юць і лаюць, закуюць ў няволю,
604 Нібыта й не бача.
659 Грэхам цябе на свет белы.

# КАМЕНТАРЫІ



Шосты том Поўнага збору твораў Янкі Купалы складаецца з паэм, урыўкаў з паэм і перакладаў. Упершыню ў том уключаны паэмы «На Дзяды», «На Куццю» і «Урывак з паэмы» («Дзе хмары чэзлі...»), якія ў пасмяротныя Зборы твораў паэта не ўваходзілі.

Творы ў томе размешчаны паводле храналагічнага прынцыпу.

За асноўны тэкст для большасці твораў прыняты тэкст першага Збору твораў (1925—1932), які адпавядае аўтарскай волі, а таксама зборнікаў «Беларусі ардэнаноснай» (1937), «Ад сэрца» (1940), у падрыхтоўцы якіх паэт прымаў непасрэдны ўдзел. Выключэнні агавораны.

Крыніцамі для вызначэння дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца:

1. Прыжыццёвыя выданні Збору твораў і зборнікаў Янкі Купалы: *а)* Збор твораў, т. I («Жалейка», «Гусляр»). Мн., 1925; *б)* Збор твораў, т. I. Мн., 1928, 2-е выд.; *в)* Збор твораў, т. II («Шляхам жыцця»). Мн., 1926; *г)* Збор твораў, т. II. Мн., 1929, 2-е выд.; *д)* Збор твораў, т. V («Спадчына»). Мн., 1928; *е)* Збор твораў, т. VI. Мн., 1932; *ж)* Збор твораў, т. IV. Мн., 1940; *з)* Выбр. творы, т. I—II. Мн., 1935; *і)* зборнік «Жалейка», выд. «Загляне сонца і ў наша аконца». Пецярбург, 1908 (у далейшым — «Жалейка», 1908); *к)* зборнік «Шляхам жыцця», выд. «Загляне сонца і ў наша аконца». Пецярбург, 1913 (у далейшым — «Шляхам жыцця», 1913); *л)* зборнік «Шляхам жыцця». Вільня, 1923 (2-е выд.); Вільня, 1935 (3-е выд.) (у далейшым — «Шляхам жыцця», 1923, 1935); *м)* зборнік «Спадчына». Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне». Мн., 1922 (у далейшым — «Спадчына», 1922); *н)* зборнік «Безназоўнае». Мн., 1925 (1-е выд.); Мн., 1928 (2-е выд.) (у далейшым — «Безназоўнае», 1925, 1928); *о)* зборнік «Магіла льва». Мн., 1927 (у далейшым — «Магіла льва»,

1927); *п)* зборнік «За што». Мн., 1930 (у далейшым — «За што», 1930); *р)* зборнікі «Над ракою Арэсай». Мн., 1933, 1934, 1936, 1937, 1940; *с)* зборнік «Песня будаўніцтву». Мн., 1936; *т)* зборнік «Беларусі ардэнаноснай». Мн., 1937; *у)* зборнік «Ад сэрца». Мн., 1940; *ф)* зборнік «Паэмы». Мн., 1940.

2. Перыядычныя выданні: газ. «Наша ніва», 1908, 1909, 1912, 1913; газ. «Беларусь», 1920; «Чырвоны сейбіт» — літ. дадатак да газ. «Беларуская вёска», 1926; газ. «Савецкая Беларусь», 1924; газ. «Звязда», 1927, 1933, 1934, 1937; газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, 1938, 1939; часоп. «Полымя», 1924, 1927, 1930; часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1933, 1936, 1939; часоп. «Чырвоная Беларусь», 1930.

3. Матэрыялы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы: *а)* асобныя аўтографы, шыфры якіх падаюцца ў каментарыях; *б)* рукапісны зборнік «Шляхам жыцця», падрыхтаваны паэтам для выдання ў 1913 г. (ф. А, воп. 1, адз. зах. 118); *в)* карэктурны зборнік «Шляхам жыцця», 1913 (адз. зах. 356); *г)* зборнік «Шляхам жыцця», 1913 г. з праўкамі паэта, зробленымі пры падрыхтоўцы 2-га выдання (1923) (адз. зах. 357); *д)* машынапісныя сшыткі № 1, 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы (адз. зах. 14, 15).

4. Матэрыялы Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва РБ.

Праца ў архівах і зверка друкаваных тэкстаў з рукапіснымі крыніцамі далі магчымасць выправіць памылкі друку і недакладнасці асноўнага тэксту і варыянтаў. Усе змены і папраўкі агавораны ў каментарыях.

Складальнікі папярэдняга Збору твораў (1972—1976) за асноўны тэкст паэм «Зімою», «У Піліпаўку», «За што?», «Бандароўна», «Магіла льва», «Барысаў» прынялі тэксты зборніка «Паэмы», 1940.

Ёсць важкія падставы меркаваць, што паэт у яго ўкладанні ўдзелу не прымаў. Зборнік рыхтаваўся для дзяцей, і, паводле выказвання тэкстолага Р. Гульман, «як сведчыць аналіз тэкстаў гэтага зборніка ...многія праўкі, зробленыя ў ім, не з'яўляюцца аўтарскімі» [1].

---

[1] Гульман Р. Стан і задачы купалаўскай тэксталогіі.— У зб.: «Пытанні тэксталогіі беларускай літаратуры». Мн., 1982. С. 70—71.

## *Зімою* (с. 7)

Друкуецца: радкі 1—300 — па Зб. тв., 1928, т. V; радкі 301—328 — па часоп. «Полымя», 1930, № 5—6, дзе ўпершыню апублікаваны пад загалоўкам «Дапевак» з наступнай заўвагай Я. Купалы: «Да паэмы «Зімою», надрукаванай у V томе «Збору твораў». Я. К.».

Упершыню радкі 1—300 — газ. «Беларусь», 1920, № 5, 10 студз. з датай: 1 лютага 1906 г.

Поўнасцю паэма была апублікавана ў зб. «Паэмы», 1940 без загалоўка да другой часткі.

Без апошніх сямі строф паэма ўваходзіла ў прыжыццёвы зб. «Спадчына», 1922 і Выбр. тв., 1935, т. II.

Па словах Янкі Купалы, сюжэтам для яго паэм у большасці выпадкаў былі сапраўдныя выпадкі з жыцця або фабула вядомых яму паданняў, легенд ці песень. Жыццёвы факт ляжыць і ў аснове паэмы «Зімою» (ліст да Л. М. Клейнбарта ад 11 студзеня 1929 г.— Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 435).

Пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, С. Родаў, на ўкраінскую — І. Муратаў, на туркменскую — А. Ніязаў.

Па матывах паэмы мастакі Я. Раманоўскі і В. Шаранговіч стварылі ілюстрацыі «Гаротнага хлопца пагналі далёка...», «Хто гэткі шалёны ў такую завею...», «Узялі ў рэкруты», «Ночка калядная».

С. 7, р. 21: *у гэту рабінаву ночку...*— маецца на ўвазе навальнічная ноч, якая абавязкова чакаецца ў канцы лета. Называлася таксама арабінавая ноч, вераб'іная ноч. Згодна з народнымі павер'ямі, у гэтую ноч з пекла на свет выходзілі ўсе злыя сілы, якія нібыта спраўлялі сваё галоўнае гадавое свята.

## *Нікому* (с. 17)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI. Дата пад тэкстам: 1906 г.

Упершыню — «Чырвоны сейбіт», 1926, № 1, 2, без даты.

У аснову паэмы пакладзены расповяд жыхара вёскі Яхімоўшчына Восіпа Лук'янавіча Парфена, з якім Янка Купала сустракаўся на бровары. Парфен В. Л. успамінаў: «Аднойчы я расказаў бытаваўшае ў народзе апавяданне з часоў прыгону. У апавяданні расказвалася аб здзеках жорсткага пана з сваіх сялян, аб тым, як загубіў ён жыццё маладога хлапца і дзяўчыны. ...Купала быў вельмі ўсхваляваны» [1].

[1] Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці. Мн., Выд. АН БССР, 1955. С. 292—293.

Паэма ўваходзіла ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выбр. тв., 1935, т. I і зб. «Паэмы», 1940, але менавіта ў гэтым зборніку адсутнічаюць тры апошнія страфы паэмы.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф паэмы з 17 раздзелаў (адз. зах. 129, л. 1—3). Аўтограф напісаны чорным чарнілам на двух здвоеных лістах белай паперы. На адвароце другога ліста зверху запісаны дзве эпіграмы на Б. В. С. («Беларуская выдавецкая суполка») і вершы «Горы абяцацi...», «У зялёным садочку», «I вецер, і сокал, і я». Тэкст рукапісу значна адрозніваецца ад далейшых публікацый не толькі ў стылёва-моўным плане, але і кампазіцыйнай пабудовай твора.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Цярэшчанка, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на літоўскую — I. Грайчунас, на туркменскую — Б. Кербабаеў.

Па матывах паэмы М. Басалыга і В. Шаранговіч зрабілі ілюстрацыі («На паклон да пана», «Нікому — ні пану, ні мне»).

С. 19, р. 91—92: *Калі ж будзе шлюб ваш? // «Панок, на Пятра».*— Маецца на ўвазе старажытнае земляробчае свята ў славянскіх народаў, своеасаблівы працяг Купалля. Адзначалася 29 чэрв. ст. ст.

### *Калека* (с. 26)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з папраўкамі ў 28 і 143 радках паводле першай публікацыі. У асноўным тэксце: *Адно жаль — зноў іх замала; Дык ноч гляне вокам рупным.* Пад тэкстам дата: 1907.

Упершыню — «Чырвоны сейбіт», 1926, № 3.

Тэкст першадруку адрозніваецца ад асноўнага нешматлікімі папраўкамі стылёва-моўнага характару.

Паэма ўваходзіла ў прыжыццёвыя Выбр. тв., 1935, т. II.

### *Адплата кахання* (с. 32)

Друкуецца па Зб. тв., 1925, т. I.

Упершыню — зб. «Жалейка», 1908 з падзагалоўкам «Здарэнне праўдзівае».

Датуецца 1905—1907 гг.— гадамі датавання твораў у зб. «Жалейка».

Па словах Я. Купалы, у аснову сюжэта пакладзена сапраўднае здарэнне з часоў прыгону (гл. камент. да паэмы «Зімою», с. 399).

Паэма ўваходзіла ў пазнейшыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Апавяданні вершам», 1926, кн. II; Зб. тв., 1928, т. I; Выбр. тв., 1935, т. II; зб. «Паэмы», 1940.

Зверка тэкстаў паэмы паказала, што вялікая колькасць правак зроблена паэтам пры падрыхтоўцы першага тома Збору твораў (I выд.). Праўкі былі скіраваны на ўдасканаленне стылю і мовы твора, паколькі паміж выхадам зборніка «Жалейка» і I томам першага Збору твораў прайшло нямала часу.

На рускую мову пераклаў М. Браўн.

Па матывах твора В. Шаранговіч і Б. Цітовіч стварылі ілюстрацыі («У садочку», «На пажарышчы», «Янка і Зося», «Пан Лаўчынскі», «Званы»).

С. 32, р. 5: *Гайна* — вёска былога Барысаўскага павета (зараз у Лагойскім раёне), знаходзіцца недалёка ад Лагойска, на рацэ Гайна.

С. 33, р. 48: *Цаля* — мера даўжыні, роўная аднаму дзюйму.

С. 35, р. 131: *Блюзнерца* — богазневажальнік.

С. 35, р. 132: *Пакровы* — старажытнае земляробчае свята славян, якое адзначалася 1 кастрычніка ст. ст. як свята заканчэння палявых работ. У XII ст. праваслаўная царква прымеркавала да Пакроваў свята цудоўнага выратавання Канстанцінопаля ад сарацынаў, але паводле зместу і характару Пакровы па-ранейшаму заставаліся тыпова земляробчым святам.

С. 35, р. 144: *Жыр* — паляванне за здабычай.

*У Піліпаўку* (с. 41)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1908, № 26, 18(31) снеж. з паметай пад тэкстам: Янук Купала. Вільня.

Датуецца годам апублікавання.

У рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Байкі і аповесці» захоўваецца выразка з газеты (л. 248—251), дзе памета пад тэкстам закрэслена, але алоўкам падпісана: 26-08. Можна меркаваць, што паэт адзначыў такім чынам для сябе нумар і год выдання гэтай газеты.

Паэма ўваходзіла таксама ў асобныя выданні зб. «Шляхам жыцця» (1913, 1923, 1935); Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV; зб. «Паэмы», 1940 і Выбр. тв., 1935, т. II.

Найбольш істотныя праўкі былі зроблены паэтам пры падрыхтоўцы Зб. тв., 1926, т. II.

На рускую мову пераклаў В. Шэфнер.

*Піліпаўка* — адпаведны час земляробчага календара перад Калядамі, 4—6-тыднёвы піліпаўскі пост. Палявыя работы былі ўжо завершаны, і галоўную ролю набывалі малацьба, жаночая хатняя праца. У гэты час царква забараняла гульні, забавы, спраўляць вяселлі і г. д.

С. 41, р. 30: *Шуркі у лесе стаўлялі* — маецца на ўвазе мера дроў, роўная 2 м$^3$.

С. 42, р. 46: *Дай карталюшку на лекі (разм.)* — невялікі лісток паперы, звычайна з якім-небудзь запісам на ім.

*За што?* (с. 46)
(«Ой, мае вы песні...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1909, № 3, 15(28) студз. Пад тэкстам: Янук Купала. Вільня, 31/XII 1908 г.

Выразка з газеты захоўваецца ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 247—248) у раздзеле «Байкі і аповесці». Памета пад тэкстам закрэслена, але замест яе алоўкам пазначана: 3—09 (гл. каментарый да паэмы «У Пілінаўку», с. 401).

У папярэднім Зборы твораў Янкі Купалы за асноўны тэкст быў прыняты тэкст зборніка «Паэмы», 1940. Тут, як адзначана ва ўступе, відавочна ўмяшанне рэдактара ў тэкст твора. Вось, напрыклад, як адрозніваюцца 51—52 радкі ў «Нашай ніве», рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» і асобных выданнях зборніка, у Зб. тв., 1926, т. II і Зб. тв., 1929, т. II ад гэтых жа радкоў у зб. «Паэмы», 1940:

| | |
|---|---|
| *І жыве так, як бы* | *І жыве з надзеяй,* |
| *Ў Бога за плячыма.* | *З верай прад ачыма.* |

Відаць, рэдактар зборніка паправіў радкі з мэтай пазбегнуць слова «Бог», ужыванне якога ў тыя гады было амаль забаронена.

Напэўна, зыходзячы з цэнзурных меркаванняў, былі перапрацаваны і радкі 61—64.

| Было: | Стала: |
|---|---|
| *Сорак год так Дзягель* | *Сорак год так Дзягель* |
| *Жыў не ў кепскім стане,* | *Жыў не ў кепскім стане,* |
| *Пакуль пан стары жыў* | *Позненька ён клаўся,* |
| *І старая пані.* | *А ўставаў зарання.* |

Большая колькасць паправак была ўнесена самім паэтам пры падрыхтоўцы Збору твораў, 1926, т. II.

Паэма ўваходзіла ў наступныя прыжыццёвыя выданні: зб. «Шляхам жыцця» (1913, 1923, 1935); Зб. тв., 1929, т. II; зб. «За што?», 1930; зб. «Паэмы», 1940; Выбр. тв., 1935, т. II.

Пераклаў на рускую мову М. Браўн.

С. 49, р. 103: *Сёмуха мінула* — старажытнае земляробчае свята (Тройца, зялёныя сняткі) у беларусаў і іншых славянскіх народаў. Святкавалася на сёмы тыдзень пасля Вялікадня.

р. 104: *Пётра недалёка* (гл. камент. да паэмы «Нікому», с. 399).

*Уступ да паэмы* (с. 51)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1909 г.

Упершыню пад загалоўкам «Адрывак» — «Полымя», 1929, № 3.

Паводле слушнай ацэнкі літаратуразнаўцы М. Грынчыка, уступ — гэта «своеасаблівая лірычная інтрадукцыя да буйнога ліра-эпічнага твора гісторыка-філасофскай накіраванасці. Лёс абяздоленай радзімы, яе цярністы шлях на гістарычных скрыжаваннях мінулага і сучаснага — асноўныя матывы» твора (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1986. С. 618)[1].

---

[1] У далейшым — ЭД.

*Курган* (с. 53)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 25, 21 чэрв. з прысвячэннем: «Памяці С. Палуяна» і паметай пад тэкстам: Янка Купала. 23/V-1910 г.

Я. Купала прысвяціў паэму свайму сябру Сяргею Палуяну, які заўчасна загінуў 8.04.1910 г. Апрача гэтага, паэт напісаў з прычыны смерці С. Палуяна верш «Памяці С. Палуяна», які ўпершыню быў апублікаваны ў зб. «Гусляр», 1910.

19 кастр. 1910 г. разам з паэмай Я. Купала даслаў у рэдакцыю «Нашай нівы» ліст: «Пасылаю Вам такжа «Курган»,— гэту штучку, па праўдзе гаворачы, я бы хацеў бачыць надрукаванай у календары. Калі б баяліся яе пусціць з прычыны неблаганадзёжнасці, то 32-ю зваротку, дзе гаворыцца аб вісельні, выкіньце саўсім і замяніце точкамі» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 456).

Аўтограф паэмы захоўваецца ў Беларускай бібліятэцы і музеі імя Ф. Скарыны ў Лондане. Ксеракопія рукапісу з праўкамі паэта ўпершыню падаецца ў ЭД «Янка Купала».

Машынапіс паэмы з прысвячэннем змешчаны ў сшытку № 1 Б. І. Эпімах-Шыпілы. Пад тэкстам: Пецярбург 23/5 1910 г.

Выразка з газеты захоўваецца ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (л. 259—261) у раздзеле «Байкі і аповесці». Пры падрыхтоўцы 2-га выдання зборніка паэт зняў прысвячэнне.

Пасля публікацыі твора Я. Купала неаднаразова звяртаўся да тэксту паэмы, уносячы тыя ці іншыя праўкі і змены. Шмат паправак было зроблена пры падрыхтоўцы зб. «Шляхам жыцця» (1913, 1923) і пазней Зб. тв., 1926, т. II.

Пры жыцці паэта твор друкаваўся ва ўсіх асобных выданнях зб. «Шляхам жыцця»; зб. «Наша ніва», 1912, № 2; у «Беларускім календары на 1916 год»; Зб. тв., 1929, т. II; зб. «Апавяданні вершам», 1926, кн. II; зб. «За што», 1930; Выбр. тв., 1935, т. II; зб. «Паэмы», 1940; фотакопія першых сямі строф чарнавога аўтографа — у часоп. «Чырвоная Беларусь», 1932, № 18.

Творчасць Я. Купалы прыцягвала ўвагу тагачасных крытыкаў і літаратуразнаўцаў. У шматлікіх рэцэнзіях і артыкулах разглядаліся як асобныя жанры, так і ідэйныя і мастацкія вартасці твораў. М. Гарэцкі, характарызуючы паэмы Я. Купалы, адзначаў: «Тое, што Купала пачаў шукаць тэмы для сваіх твораў у багатай народнай творчасці, у беларускіх забабонах, легендах, старых гутарках, мела для яго дужа памыснае значэнне, бо развівала ў яго паэтычным слове нацыянальны элемент. Паэт пачаў карыстаць з народных сімвалаў, усё болей захопліваўся чыста народнымі вобразамі, ад сённяшніх дзён звярнуўся да мінуўшчыны і закахаўся ў ёй; у яе паснулых капцах здабыў ён новы імпэт у ідэалізацыі адраджэння. Пераймаючы народную легенду, Купала даваў яе вобразам

зусім новае значэнне ... хоць часам укладаў і сацыяльны матыў, ды не абы-як, а вельмі хораша і гарманічна звязаўшы яго з хвальбой песняй неўмірушчай праўдзе і творчаму слову («Курган»)» (М. Гарэцкі. Гісторыя беларускай літаратуры. Мн., 1992. С. 325).

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, М. Галодны, С. Гарадзецкі, Н. Кіслік, С. Рагавіцкі з Э. Падарэўскім, на ўкраінскую — Т. Масэнка, П. Тычына, Я. Фамін, М. Цярэшчанка, на азербайджанскую — Г. Беюкага, на армянскую — Г. Баран, на асецінскую — А. Пухаеў, на латышскую — С. Еранім, на літоўскую — Э. Матузявічус, на малдаўскую — П. Дарые, на ўзбекскую — Міртэмір, М. Шэйхзадэ, на англійскую — В. Рыч, на балгарскую — Н. Вылчаў, на кітайскую — Чжу Цзі, на румынскую — С. Дэлчу.

Па матывах паэмы М. Басалыга, М. Бельскі, Я. Бусел, Л. Замах, А. Кашкурэвіч, М. Пушкар, М. Савіцкі, П. Сергіевіч, І. Сталяроў, В. Ціхановіч, В. Шаранговіч, Я. Чарняцін стварылі шмат мастацкіх твораў.

Кампазітары К. Галкоўскі, Я. Глебаў, І. Лучанок, І. Любан, А. Туранкоў, У. Чараднічэнка напісалі музыку на сюжэты з паэмы і асобных яе частак.

Некаторыя з вобразаў паэмы ўвайшлі ў кінафільм «Магіла льва» (рэжысёр В. Рубінчык, 1972) і тэлеспектакль У. Траццякова «Папараць-кветка» (1981).

*Палуян Сяргей Епіфанавіч* (псеўд. С. Ясяновіч; П.Ян. С.П; 1890—1910) — беларускі празаік, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратурнай крытыкі. Удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Кіеве і Мітаве (цяпер г. Елгава Рэспублікі Латвія). Супрацоўнічаў у беларускім («Наша ніва») і ўкраінскім перыядычным друку. Напісаў першы ў беларускай крытыцы аглядны артыкул («Беларуская літаратура ў 1909 годзе»), першы гістарычны нарыс новай беларускай літаратуры («Беларуская паэзія ў яе тыповых прадстаўніках»). Не вытрымаўшы ўціску рэакцыі пасля ўздыму 1-й рускай рэвалюцыі, скончыў жыццё самагубствам.

С. 56, р. 117: *Лёхі* — норы.

*Урывак з паэмы* (с. 59)
(«Дзе хмары чэзлі, то зноў віслі...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 з датай пад тэкстам: 1910 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф урыўка з паэмы, канчатковы тэкст якога адрозніваецца ад першай публікацыі і асноўнага тэксту нешматлікімі моўнымі варыянтамі. Апрача таго, у першадруку адсутнічае 43 страфа (*На небе змены загасцілі... ∞ Лучыўся з песняй шум глухі*), якая ўзноўлена ў Зб. тв., 1932, т. VI. Менавіта гэтай страфой заканчваецца аўтограф. На гэтай жа

старонцы змешчаны пачатак чарнавога рукапісу верша «Песня сонцу».

Аўтограф урыўка разам з некаторымі іншымі творамі паэта доўгі час захоўваўся ў архіве прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы. Я. Купала атрымаў рукапісы ў 1929 г., пасля чаго яны ў хуткім часе былі апублікаваны ў часопісе «Полымя» (1929, № 3; 1930, № 5—6).

У пасмяротных выданнях Я. Купалы ўрывак не друкаваўся.

*На Куццю* (с. 66)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1911, № 51—52, 22(4) снеж. Пад тэкстам: Янка Купала. Пецярбург, 14/XII 1911 г.

Твор Купалы быў напісаны і змешчаны ў «Нашай ніве» падчас Раства Хрыстова. Апрача паэмы, у № 51—52 газеты было змешчана шмат матэрыялаў, прысвечаных святу. У прыватнасці, рэдакцыйны артыкул «Хрыстос нарадзіўся!», у якім праводзяцца паралелі паміж гісторыяй нараджэння Хрыста і гісторыяй і лёсам беларускага краю, народа:

«І для цябе, мой родны краю, засвяціла зорка адраджэння, як калісь над убогай будкай у Галілеі... І святло гэтай зоркі ўбачылі вочы прастацкія. Палілася песня па краю, і на голас гэтай песні ажывіліся светлай надзеяй сэрцы простага, гаротнага народа...

Няхай ворагі твае збіраюцца і радзяць, няхай пасылаюць слуг сваіх забіваць новародкаў: твая простая мова будзе несці вясёлую навіну пад убогія саламяныя стрэхі, класці надзею ў сэрцы людзей простых, але «добрай волі».

А калі б распялі і замучылі тваё простае слова, то яно не ўмрэ вечнай смерцю, але ізноў уваскрэсне; гэта памятай, Беларускі Народ!

Тваё простае слова — гэта твая праўда!

А праўды не ўміраюць. Праўды ж народаў жывуць, пакуль жыве хоць адзін чалавек з гэтага народу.

І ты, мой родны народ, мая родная мова, не замрэш, як гэтага хочуць твае ворагі».

У ДзЛМЯнК захоўваецца выразка з газеты, змешчаная ў рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» ў раздзеле «Байкі і аповесці» (на адвароце л. 242, 245 і на адвароце л. 246). Памета пад тэкстам закрэслена Я. Купалам пры падрыхтоўцы зборніка да асобнага выдання. Тут жа збоку рукой паэта напісана сінім алоўкам: «Набирать стихотв[орение] с 21 а стр. «На Дзяды», а за ним — это — «На Куццю».

Я. Купала шмат правіў тэкст паэмы, што выявілася менавіта пры падрыхтоўцы другога асобнага выдання зборніка «Шляхам жыцця» (1923).

Паэма ўваходзіла ў прыжыццёвыя асобныя выданні названага зборніка (1913, 1923, 1935) і Зб. тв., 1929, т. II. У пасмяротных выданнях Я. Купалы не друкавалася.

На рускую мову пераклаў В. Тарас.

Ілюстрацыі да твора зрабіў Я. Кулік. У 1982 г. на тэлебачанні па матывах паэмы быў створаны і паказаны аднайменны спектакль.

С. 66, загаловак: *На Куццю* — тут у сэнсе: абрадавая вячэра напярэдадні Каляд, Новага года і перад Вадохрышчам.

Уласна куцця — ячная каша — традыцыйная абрадавая страва на Каляды ў славян і іншых народаў.

*Гарыслава* (с. 72)

Друкуецца па апошнім варыянце чарнавога аўтографа, які захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 348, л. 137—143). Перад загалоўкам справа дата: 17/V. Паэма не закончана.

Упершыню — час. «Беларусь», 1946, № 5—6.

Датуецца 1912 г.

Аўтограф змешчаны ў т. зв. «канторскай кнізе». У гэтай жа кнізе запісана п'еса «Паўлінка». Паколькі вядома, што Я. Купала напісаў п'есу ў 1912 г., то можна сцвярджаць, што і паэма датуецца гэтым жа годам.

Апрача таго, у лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 5.VI.1912 г. паэт паведамляў: «Я, як перапішу (апрацую) начыстую «Паўлінку», думаю напісаць паэмку «Рагнеда», гістарычную рэч з жыцця Полацкага княства» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 444).

Аўтограф складаецца з «Прамовы» і раздзела І. На лісце 140 — белавы аўтограф шасці строф І раздзела, на адвароце — чарнавы аўтограф яшчэ шасці строф, якія з'яўляюцца працягам раздзела. На л. 143 запісаны першыя чатыры з палавінай страфы І раздзела, прычым чатыры радкі з іх падаюцца ў двух варыянтах.

На адвароце ліста 140 Я. Купала запісаў:

«Не ў Полацку, а Бельчыцах жыла Рагнеда. Праз Полацк Палота і Дзвіна».

На лісце 141, паміж «прамовай» і раздзелам, занатаваны незакончаны план паэмы:

1) У Полацку. Рыгвалод. Рагнеда. Украпленне. Войска. Сватаўство. Весці ад Яраполка і ад Уладзіміра. Адказ Рагнеды.

2) У абозе Уладзіміра. Паход. Бітва пад Полацкам. Гібель Рыгвалода і Рыгвалодзічаў. Палон Рагнеды.

3) Жыццё Рагнеды ў цераме над рэчка(й) Лыбедай. Яе сыны. Няўдачная месць Уладзіміру за яго нявернасць. Суд Уладзіміраў. Заступства Ізяслава.

4) Заслаўе. Жыццё ў ім Рагнеды. Вялікае цярпенне яе. Войны ў той час і доля зямель полацкіх. Манашаства Рагнеды.

5)

У ДАМЛіМ РБ захоўваецца аўтограф даклада Антона Луцкевіча «З нязнаных рукапісаў Янкі Купалы. Няскончаная паэма «Гарыслава» (ф. 3, воп. 1, адз. зах. 273). Даклад быў прачытаны 4.IV.1937 г. на пасяджэнні літаратурна-мастацкай секцыі беларускага навуковага таварыства. У ім прыводзіцца апісанне згаданага рукапісу і тэкст паэмы, а таксама адзначаны варыянты I раздзела.

Далей А. Луцкевіч паведаміў: «На канцавых лістах рукапісу «Паўлінка» змешчаны пачатак ненапісанае Купалам паэмы «Гарыслава» з датай на пачатку 17.V».

Рукапіс паэмы, які захоўваецца ў музеі Я. Купалы, таксама змешчаны разам з «Паўлінкай», але не «на канцавых лістах», а ў сярэдзіне камедыі, перарываючы яе дзеянне. Такім чынам, можна меркаваць, што існавалі два розныя рукапісы «Гарыславы» і менавіта згаданы А. Луцкевічам не захаваўся.

А. Марачкін зрабіў некалькі ілюстрацый паводле матываў паэмы.

*Гарыслава* — імя полацкай князёўны Рагнеды, дачкі полацкага князя Рагвалода, якое яна атрымала пасля замужжа (? — 1000). У 980 г. (паводле іншых звестак 970, 975, 976 гг.) наўгародскі князь Уладзімір Святаславіч захапіў Полацк, забіў князя Рагвалода і яго сыноў, а князёўну ўзяў сабе за жонку.

*На Дзяды* (с. 74)

Друкуецца па Зб. тв., 1926, т. II.

Упершыню — «Наша ніва», 1912, № 48, 29 лістап. Пад тэкстам: Янка Купала. 20 акцябра 1912 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца выразка з газеты, змешчаная ў рукапісным зб. «Шляхам жыцця» (л. 243—244) у раздзеле «Байкі і аповесці». Пры падрыхтоўцы зборніка да асобнага выдання паэт закрэсліў памету, а таксама ўнёс праўкі ў тэкст.

Пры жыцці паэта паэма ўваходзіла ў асобныя выданні зб. «Шляхам жыцця» (1913, 1923, 1935); Зб. тв., 1929, т. II; Зб. тв., 1940, т. IV.

У пасмяротных выданнях Я. Купалы паэма не друкавалася.

С. 74, загаловак: *Дзяды* — народны памінальны абрад, рытуальная вячэра ў памяць памерлых родзічаў. Дзядамі называлі таксама дзень, калі адбываўся абрад. Дзяды спраўлялі ў пэўныя дні 3—4 і больш разоў на год вясною і ўвосень. Галоўнымі былі Дзяды змітраўскія — у суботу перад Змітравым днём (26 кастр. ст.ст.), на Радаўніцу, а таксама перад Масленіцай, Сёмухай.

*Бандароўна* (с. 79)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V з папраўкамі ў 91 і 92 радках паводле першапачатковага варыянта аўтографа. У асноўным тэксце: *Асвяціць зямлю пажарам / Свежай кроўю ўпіцца!*

Упершыню — «Наша ніва», 1913, № 29, 13 ліп. Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 24/VI-13 г. У газетнай публікацыі радкі 91—92, відаць, па цэнзурных меркаваннях заменены кропкамі.

Белавы аўтограф паэмы з закрэсленым прысвячэннем: «Паўліне Мядзёлцы» захоўваецца ў ДзЛМЯнК (адз. зах. 350, л. 1—12). У левым верхнім кутку памета: 29 № Н. нівы 1913 г. Радкі 91—92 закрэслены і заменены кропкамі.

Пры жыцці паэта твор уваходзіў у зб. «Спадчына», 1922; «Апавяданні вершам», 1926, кн. II; зб. «За што», 1930; Выбр. тв., 1935, т. II; зб. «Паэмы», 1940.

У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 2 чэрв. 1913 г. Я. Купала зазначаў, што сюжэт паэмы запазычаны «з этнаграфіі» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 446). У «Матэрыялах для вывучэння побыту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» П. Шэйна прыводзяцца некалькі песень пра Бандароўну, запісаных на тэрыторыях Украіны і Беларусі.

Пераклалі: на рускую мову А. Пракоф'еў, С. Родаў, на ўкраінскую — А. Малышка, Т. Масэнка.

На сюжэты з паэмы Ф. Бараноўскі, У. Басалыга, М. Бельскі, Ю. Герасіменка, А. Кашкурэвіч, Я. Раманоўскі, В. Шаранговіч зрабілі шмат ілюстрацый.

Па матывах твора Г. Гарэлава напісала сімфанічную паэму.

С. 86, р. 236: *І насі саеты* — маецца на ўвазе тонкае сукно.

С. 88, р. 302: *Ў белю і вэлёны (польск.)* — жаночы шлюбны галаўны ўбор.

р. 304: *Ў каснікі чырвоны* — гаворка ідзе пра каляровыя стужкі, тасёмкі, якімі запляталі косы і ўпрыгожвалі дзявочую прычоску.

*Магіла льва* (с. 91)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 36, 37 19 і 20 лют. Пад тэкстам: Янка Купала. Акопы. 2.VII.13 г.

Паэма ўваходзіла ў зб. «Спадчына», 1922; Выбр. тв., 1935, т. II; зб. «Паэмы», 1940. У 1927 г. выйшла асобным выданнем.

Як у папярэдняй паэме, сюжэт гэтага твора таксама запазычаны «з этнаграфіі». Але, паводле меркавання А. Лойкі, «ад фальклорнага прататыпа Я. Купала ўзяў толькі канву сюжэта і народныя ўяўленні пра Машэку... Гэта знешняе паэт паспрабаваў звязаць з актуальнай на той час праблемай гістарычнай крыўды народа» (ЭД, с. 369).

М. Няхай сцвярджае, што Купала быў знаёмы з гісторыяй Магілёўшчыны, з яе фалькларна-этнаграфічнымі матэрыяламі,

з легендай пра ўзнікненне Магілёва, таму невыпадкова паданне пра Машэку, нібыта пахаванага на гары, якая называлася Магіла льва, з'яўляецца асновай сюжэта паэмы (ЭД, с. 370).

Разважаючы пра сюжэт і стыль паэм Я. Купалы «За што», «На Куццю», «Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», А. Вазнясенскі адзначыў: «Канчатковы вынік, які выцякае з аналізу кампазіцыйнага пабудавання і стылю разгледжаных паэм, зводзіцца да таго, што гэтымі творамі Я. Купала ўвёў беларускую літаратуру ў галіне гэтага жанру ў агульнае рэчышча літаратуры еўрапейскай» (А. М. Вазнясенскі. Паэмы Янкі Купалы. Сюжэтная пабудова і стыль.— «Узвышша», 1927, № 1, с. 116).

Пераклалі: на рускую мову М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Нагнібеда, на малдаўскую — П. Дарые.

Ілюстравалі паэму М. Басалыга, М. Бельскі, Я. Раманоўскі, А. Кашкурэвіч, В. Шаранговіч, М. Купава.

Паводле твора створаны кінафільм «Магіла льва» (1971, рэжысёр В. Рубінчык).

С. 96, р. 181: *Узвіжанне*—хрысціянскае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа, на якім быў распяты Ісус Хрыстос. Адзначалася 14 верас. ст.ст. У хрысціянскім святе перапляліся і язычніцкія восеньскія вераванні. Напрыклад, пашырана перакананне, што менавіта ў гэты дзень змеі хаваюцца па норах.

С. 99, р. 284: *Кнаваць* — задумваць, рабіць што-небудзь зламыснае.

*Яна і я* (с. 106)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 76, 77 9, 10 крас. з падзагалоўкам: «У цянётах жыцця». Пад тэкстам: Я. Купала. 24.VII.13 г.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф паэмы (адз. зах. 349, л 1—15). На тытульным лісце аўтографа запісана:

*24/VII-13*

ЯНА і Я

*(Песня)*

66 і яшчэ 6 песень
Ад песні да песні

На першай старонцы:
*24/VII-13 г.*

ЯНА і Я

*(Песня)*

Песня зямлі і жыцця — закрэслена
*(Т. С.)*
Preludium

З аўтографа відаць, што першы раздзел павінен быў мець загаловак «Песня зямлі і жыцця», які закрэслены і заменены на «Preludium». Але і гэта назва не захавалася, і ў асноўным тэксце раздзел мае загаловак «Стрэчы». Размяшчэнне раздзелаў у аўтографе не заўсёды супадае з іх парадкам у асноўным тэксце, апрача таго, у аўтографе паэма складаецца з 15 раздзелаў, у асноўным тэксце — з 14.

У рукапісе раздзелы пазначаны Я. Купалам наступным чынам:

| | |
|---|---|
| Вясна | 2, 3, 4 |
| (У хаце) | |
| Агляд поля | 5,6 (6 Радаўніца) |
| Сяўба | 7 |
| Радаўніца | 8 |
| Краса свету | 9 |
| За кроснамі | 10 |
| Беліць палатно | 11 |
| Яблыні цвіць | 12 |
| Бульбу садзім | 13 |
| На сенажаці | 14 |
| Поле агародніну | 15 |

Раздзел «Бульбу садзім» з аўтографа не ўвайшоў у друкаваны тэкст, а раздзелы асноўнага тэксту «Праталіны» і «Выган у поле жывёлы» ў рукапісе як асобныя не выдзелены.

Раздзел «На сенажаці» ў асноўным тэксце адрозніваецца ад аўтографа парадкам размяшчэння строф.

Я. Купала ўнёс праўкі ў тэкст і змяніў кампазіцыю твора пры падрыхтоўцы яго да першай публікацыі.

Паводле меркавання аднаго з сучаснікаў паэта, «шырыня тэм, захвачаных Купалам, і арыгінальнасць іх вырашэння, багацце паэтычных сродкаў, шырокае выкарыстанне народнай творчасці — робіць паэму «Яна і я» надзвычай цікавым і прыкметным з'явішчам ва ўсёй творчасці Купалы» (Б. Іофэ. Лірычная паэма Купалы «Яна і я».— «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 12, с. 61).

Паэма ўваходзіла ў прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына»). 1922 і Выбр. тв., 1935, т. II.

Пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на латышскую — А. Веян, на літоўскую — В. Бложа, на таджыкскую — М. Фархат, на балгарскую — Х. Папоў, на кітайскую — Чжу Цзі, на нямецкую — З. Эстэррайхер (урывак), на польскую — А. Баршчэўскі, Я. Гушча (урывак), Т. Хрусцялеўскі, К. Яворскі (урывак), на румынскую — С. Дэлчу.

Л. Шлег напісала харавую паэму на песню «Вяснянка» з раздзела «Поліць агародніну», А. Мдывані — хор.

М. Савіцкі напісаў жывапіснае палатно «На пакосе», М. Басалыга, А. Кашкурэвіч, Г. Паплаўскі, В. Шаранговіч стварылі шмат графічных твораў па матывах паэмы.

С. 106, р. 21: *А каб вас злыя не змаглі заломы!* — маюцца на ўвазе пукі зблытаных, заламаных ці завязаных вузлом жытніх сцяблоў на ніве, травы на сенажаці, якія прымхлівыя людзі лічылі закляццем чараўніка, злога чалавека.

С. 108, р. 88: *Гуляючы ў пякучы летні сквар.*— Тут у сэнсе: гарачыня.

С. 109, р. 101—104, 107, 108: *...ставы, набіліцы, панажы, навоі, бёрда, ніты* — часткі і прыстасаванні кроснаў;

р. 111: *Уток* — папярочныя ніці тканіны.

р. 112: *Цэўка* — драўляная палачка даўжынёй 14—16 см з патаўшчэннямі на канцах, на якую накручвалі ўточную пражу.

С. 112. р. 227, 231: *Нарогі, рагач* — часткі сахі.

р. 257: *Чачоткавы зрабіў ёй пранік ёмкі* — маецца на ўвазе пляскаты драўляны брусок з ручкай, якім пралі бялізну пры мыцці, палотны пры адбельванні.

*Безназоўнае* (с. 120)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікавана поўнасцю.

8 раздзел пад загалоўкам «Трэба» з прысвячэннем «Газеце «Савецкая Беларусь» з прывітаннем выхаду яе 1000 нумару» ўпершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 3, 5 студз. Пад тэкстам: 2.1.1924 г.

6 і 7 раздзелы пад загалоўкам «Як бы хто набаяў...» з прысвячэннем «На прывітанне шостага Усебеларускага з'езда Радаў» упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1924, № 59, 12 сак. Пад тэкстам: 11.III.24 г.

У часопісе «Полымя», 1924, № 2 (10) пад загалоўкам у дужках пазначана: Вершы. Тут паэма складаецца з сямі раздзелаў замест дзесяці, якія ўваходзяць у асноўны тэкст. Адсутнічаюць раздзелы, якія адпавядаюць 6, 7 і 8 асноўнага тэксту.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца чарнавыя аўтографы асобных раздзелаў паэмы, напісаныя алоўкам (агульная адз. зах. 354, л. 1—15). Адсутнічаюць аўтографы 3, 4 і 10 раздзелаў.

У аўтографе 2 раздзела адсутнічае апошняя страфа:

Калі ж ты забабонамі
Пятлю крутую віць?!

У аўтографе 5 раздзела, напісанага на пяці асобных картках, таксама адсутнічае другая страфа асноўнага тэксту:

Але, але не выламе
Мінуламу на зло.

Тэкст рукапісу значна адрозніваецца ад асноўнага.

Захоўваюцца два аўтографы 6 і 7 раздзелаў са шматлікімі праўкамі тэксту.

Аўтограф 8 раздзела з нешматлікімі праўкамі мае загаловак «Трэба» і прысвячэнне «Газеце «Савецкая Беларусь» са шчырым прывітаннем выхаду яе тысячнага нумару. Пад тэкстам: *Менск, 2/I—24. Янка Купала.* Відавочна, што гэты тэкст паэт рыхтаваў для асобнай публікацыі.

Два аўтографы 9 раздзела адрозніваюцца колькасцю правак, строф і іх размяшчэннем. Адзін з аўтографаў датаваны 21/III-24 г.

У архіве Беларускага Інстытута навукі і мастацтва (Нью-Йорк) захоўваецца чарнавы рукапіс першых трох раздзелаў паэмы. Пад першым дата: 22/III, пад трэцім — 22/III-24 г. Тэкст гэтага рукапісу ў асобных выпадках адрозніваецца ад аўтографаў гэтых раздзелаў, якія былі разгледжаны раней.

Паэма ўваходзіла ў прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925 (1-е выд.), 1928 (2-е выд.); «Творы 1918—1928», 1930.

Паводле выказвання тагачаснага літаратуразнаўцы Ул. Дзяржынскага, «Безназоўнае» — гэта гісторыя ў вобразах на крылях музыкі аб нашым недалёкім мінулым...» («Полымя», 1925, № 1. С. 150).

Пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Н. Кіслік; на ўкраінскую — І. Муратаў, А. Паніў (урывак), на польскую — Ч. Сэнюх (раздзел 6).

Паэму ілюстраваў В. Шаранговіч.

### *З угодкавых настрояў* (с. 120)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — газ. «Звязда», «Савецкая Беларусь», 1927, 7 лістап. без падзагалоўка. Пад тэкстам: Мінск, 29.X.27 г.

Пры жыцці паэта ўваходзіла ў часоп. «Чырвоны сейбіт», 1927, № 18—19; «Творы 1918—1928», 1930; Зб. тв., 1932, т. VI; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Паэмы», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца аўтографы асобных раздзелаў (адз. зах. 258, 259, 261—263) і ўсёй паэмы (адз. зах. 264).

Аўтограф I раздзела (адз. зах. 258) без правак, напісаны фіялетавым чарнілам, заканчваецца страфой:

І ўздрыгнуў сатрапа,
Задрыжэў багаты,
Як пабег тады той
Гоман ды па хатах.

Аўтограф III раздзела (адз. зах. 258) пачынаецца з трэцяй страфы. Чарнавы рукапіс напісаны алоўкам, у тэксце зроблена некалькі правак.

Чарнавы аўтограф II раздзела (адз. зах. 259) напісаны алоўкам. Парадак строф у рукапісе не адпавядае іх размяшчэнню ў асноўным тэксце. Гэтай жа адзінкай захавання пазначаны яшчэ адзін варыянт II раздзела. Гэты чарнавы аўтограф напісаны алоўкам і пачынаецца з чацвёртай страфы. Тэкст значна адрозніваецца ад асноўнага.

IV, V і VI раздзелы паэмы (адпаведна адз. зах. 261, 262, 263) — чарнавыя аўтографы, напісаныя чарнілам і алоўкам. У апошнім зроблена шмат правак.

Белавы аўтограф паэмы пазначаны адз. зах. 264.

Пераклалі на рускую мову М. Ісакоўскі, У. Раждзественскі.

*Над ракой Арэсай* (с. 134)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, з папраўкай у 391 радку паводле III асобнага выдання (1936 г.).

Упершыню — газ. «Звязда», 1933, № 141, 29 чэрв.; № 142, 30 чэрв. з паметай пад тэкстам: Камуна БВА — Мінск, май 1933 г. У гэтым жа нумары газеты да радка 273 даецца заўвага: Прозвішчы іх: 1) Крываротаў; 2) Прыз; 3) Ромаш; 4) Скарабагатаў; 5) Харламаў.

Белавы аўтограф урыўка з паэмы «Замест уступу» з подпісам: Янка Купала — захоўваецца ў БДАМЛІМ (ф. 8, воп. 1, адз. зах. 1).

У папярэднім Зборы твораў за асноўны быў прыняты тэкст апошняга асобнага прыжыццёвага выдання 1940 г. Рэдкалегія дадзенага Збору твораў лічыць такое тэксталагічнае рашэнне неправамерным, паколькі названае выданне выйшла ў серыі «Масавая бібліятэка». Гэта серыя, як і школьная, не з'яўляецца навуковай і аўтарытэтнай. Такім чынам, тэксты твораў, выдадзеныя ў адзначаных серыях, не могуць выступаць у якасці асноўных. Зыходзячы з гэтага, за асноўны ў дадзеным выпадку прыняты тэкст апошняга аўтарытэтнага выдання — зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Пры жыцці паэта твор друкаваўся: газ. «Чырвоная змена», 1934, № 151, 10 ліп.— раздзел «Камуна»; 1934, № 172, 15 жн.— раздзел «Замест уступу»; 1935, № 117, 28 мая — раздзелы «Аб мінулым», «Камуна», «Замест заключэння»; газ. «Літаратура і мастацтва», 1936, № 65, 20 лістап.— раздзел «Аб мінулым». Паэма выходзіла асобнымі кнігамі: 1-е выданне — 1933; 2-е — 1934, 3-е — 1936, школьная серыя — 1937, масавая бібліятэка — 1940; уваходзіла ў склад зборнікаў і выбраных твораў: «Песня будаўніцтву», 1936; «Паэмы», 1940 і Выбр. тв., 1937, т. III.

Паэма напісана пад уражаннем паездкі Я. Купалы ў маі 1933 г. у саўгас імя БВА, які арганізаваўся на асушаных Мар'інскіх балотах Любанскага раёна. У аснову твора пакладзены ўражанні, якія, па словах прататыпа старшыні саўгаса Э. Модзіна, «паэт чэрпаў не з «афіцыйных крыніц», а непасрэдна з самога жыцця» (Э. Модзін. Мае ўспаміны. У кн.: Я. Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта. // Мн., 1955. С. 295).

10 лют. 1939 г. «Литературная газета» змясціла інтэрв'ю з Я. Купалам, у якім ён дзяліўся сваімі творчымі планамі, у прыватнасці, размова ішла аб працы над сцэнарыем фільма па матывах паэмы «Над ракою Арэсай». Звесткі пра завяршэнне гэтай працы адсутнічаюць.

Пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, М. Святлоў, на ўкраінскую — А. Малышка, Т. Масэнка, М. Цярэшчанка, на башкірскую — М. Сюндзюкле, на латышскую — А. Баладыс (раздзел «Камуна»), Ю. Ванаг, на літоўскую — В. Бложа (раздзел «Аб мінулым»), А. Жукаўскас, Ф. Садайніс (Ф. Вайшнорас), на яўрэйскую — З. Аксельрод, на кітайскую — Ду Чэннань,

на польскую — Я. Машынская, К. Яворскі, на румынскую — С. Дэлчу, на французскую — Л. Арагон (урывак).

М. Аладаў паклаў на музыку, напісаўшы аднайменную кантату, а М. Чуркін напісаў дзіцячую песню «Паравозік» на аснове часткі раздзела «Камуна: «Свіснуў раз, свіснуў два».

Паэму ілюстравалі: М. Бельскі, І. Давідовіч, А. Кашкурэвіч, Л. Лейтман, Б. Малкін, С. Раманаў, М. Рыжыкаў, І. Стасевіч, А. Тычына, В. Шаранговіч, Я. Чарняцін.

*Барысаў* (с. 166)

Друкуецца па зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Упершыню — газ. «Звязда», 1934, № 151, 11 ліп. пад загалоўкам «Да адкрыцця помніка Леніну ў Барысаве». Памета пад тэкстам: Скупліно, калгас «Чырвоны баец». 6/VII-34 г. У тэксце першай публікацыі адсутнічалі 29—44 радкі.

Твор напісаны пад уражаннем паездкі ў Барысаўскі раён, дзе паэт разам з І. Гурскім і В. Кавалём знаходзіліся ў творчай камандзіроўцы з 1 па 27 ліп. 1934 г.

Паэма друкавалася: часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1934, № 8, дзе ўпершыню з'явіўся загаловак «Барысаў»; зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Паэмы», 1940 і Выбр. тв., 1937, т. III.

Урывак з паэмы пад назвай «І памёр стары Барысаў» друкаваўся ў газ. «Літаратура і мастацтва», 1934, № 37, 12 ліп.

Пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, С. Гарадзецкі, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на армянскую — Н. Зар'ян, на літоўскую — Э Матузявічус.

Ілюстрацыі да паэмы зрабіў А. Волкаў.

С. 166, р. 8: *Лайба* — баржа.

р. 27—28: *Шведа, Банапарта // сляды засталіся* — маюцца на ўвазе Паўночная вайна 1700—1721 гг. і Айчынная вайна 1812 г.

р. 29—32: *У Бярэзінскіх водах // Немец паіў коні,— / Вільгельмава зграя / ў памяці й сягоння* — відаць, гаворка ідзе пра Вільгельма II (1859—1918), германскага імператара і прускага караля, і першую сусветную вайну, калі германскія войскі акупіравалі тэрыторыю сучаснай Беларусі.

С. 167, р. 49: *Генерал Шапшыцкі...*— маецца на ўвазе адзін з генералаў белапольскай акупацыйнай арміі часоў грамадзянскай вайны.

*Тарасова доля* (с. 171)

Друкуецца па зб. «Ад сэрца», 1940 з папраўкамі ў 96, 171 і 296 радках паводле аўтографа. У асноўным тэксце: *Было чым здзівіцца, Зашумела на Украіне, Нібы цуд на цудзе!*

Упершыню — газ. «Літаратура і мастацтва», 1939, № 12, 3 сак. з паметай пад тэкстам: Менск, 27—II—39 г. Матэрыялы папярэдняга і названага нумароў газеты прысвечаны юбілею — 125-годдзю з дня нараджэння Т. Шаўчэнкі.

Пры жыцці паэта друкавалася ў газ. «Звязда», 1939, № 55, 9 сак. (урывак); часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 3; зб. «У вянок Т. Г. Шаўчэнку», 1939; зб. «Паэмы», 1940.

У ДзЛМЯнК захоўваецца напісаны алоўкам чарнавы аўтограф паэмы са шматлікімі праўкамі (адз. зах. 355, л. 1—15). Пад тэкстам: *Янка Купала. Менск. 27.II.39 г.*

Пераклалі: на рускую мову — У. Раждзественскі, Б. Турганаў, на ўкраінскую — А. Малышка, М. Цярэшчанка, на грузінскую — М. Патарыдзе, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, на ўзбекскую — Тулкун, на літоўскую — В. Бложа.

Па матывах паэмы М. Бельскі і Я. Раманоўскі стварылі ілюстрацыі.

## ПЕРАКЛАДЫ

### *Нядзеля* (с. 183)

Пераклад з польскай мовы аднайменнай паэмы «Niedziela» У. Сыракомлі. У арыгінале мае падзагаловак «Ідылія з нядаўняга мінулага».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6. Пад тэкстам: 1906. Пры падрыхтоўцы перакладу да выдання ў названым Зборы твораў паэт унёс у тэкст нешматлікія праўкі. Напрыклад, радок 181: *Шынкар торб не надзене* папраўлены на: *Іцка торбы не надзене.*

*Сыракомля Уладзіслаў* (сапр. *Кандратовіч Людвіг Францішак Уладзіслаў;* 1823—1862) — польскі і беларускі паэт. Творчасць Сыракомлі цесна звязана з гісторыяй Беларусі, з вераваннямі, звычаямі, вуснай паэзіяй беларускага народа. Янка Купала захапляўся творчасцю У. Сыракомлі і з задавальненнем перакладаў яго творы. Ён таксама прысвяціў У. Сыракомлю верш «Лірнік вясковы».

### *З «Конрада Валенрода»* (с. 190)

*(«З Мальборскай вежы званы загудзелі...»)*

Пераклад з польскай мовы ўрыўка з першай часткі аднайменнай паэмы А. Міцкевіча.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 пад назвай «Выбар» і падзагалоўкамі «Урывак». Пад тэкстам: 1908 г.

*Міцкевіч Адам* (1798—1855) — вялікі славянскі паэт беларуска-польскага паходжання. Тэмы і вобразы, падказаныя жыццём і гісторыяй беларускага народа, гучалі ўжо ў ранніх творах. Высока ацэньваў фальклор беларускага народа, пісаў пра цяжкі лёс беларусаў. Беларускую мову называў «самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зmененай» (Энцыклапедыя літ. і мастацтва Беларусі. Мн., 1986. Т. 3. С. 650). Аказаў вялікі ўплыў на творчасць Я. Купалы. Пацвярджэннем гэтага, апрача іншага, з'яўляецца адзін з дарэвалюцыйных псеўданімаў паэта — Вайдэлота. У Міцкевіча гэта вобраз літоўскага лірніка з паэмы «Конрад Валенрод».

С. 190, р. 1: *Мальборскай вежы...*— маецца на ўвазе гатычны замак крыжаносцаў; пабудаваны ў XIII—XIV стст. у дэльце Віслы.

р. 4: *Зусюль камтуры ў сталіцу спяшаюцца...*— гаворка ідзе пра ваеннага і адміністрацыйнага начальніка акругі ў крыжаносцаў.

р. 7—8: *...каму крыж вялікі... і меч вялікі...*— маюцца на ўвазе знакі вялікіх магістраў Тэўтонскага ордэна.

*З «Конрада Валенрода»* (с. 192)
(«Сто лет мінала крыжацкай навале...»)

Пераклад уступу да аднайменнай паэмы А. Міцкевіча.

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1940, № 11. Пад тэкстам: З польскай мовы пераклаў Янка Купала.

Публікацыя гэтага і іншых перакладаў з А. Міцкевіча ў часопісе была прымеркавана да 85-годдзя з дня смерці польскага паэта.

Упершыню — зб. «Шляхам жыцця» (1913).

Белавы аўтограф перакладу захоўваецца ў ДзЛМЯнК у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118, л. 301—302), а машынапіс змешчаны ў сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы (адз. зах. 4, л. 109—111). Пад тэкстам: Перакл. Янка Купала. Пецярбург. 29/6 1910 г.

Пераклад уваходзіў у іншыя асобныя выданні зб. «Шляхам жыцця» (1923, 1933) і ў Зб. тв., 1926, т. II; 1929, т. II.

У параўнанні з архіўнымі матэрыяламі тэкст перакладу быў значна перапрацаваны паэтам для рукапіснага зборніка «Шляхам жыцця», але асобныя словы і радкі правіліся ад публікацыі да публікацыі. Так, радок 2 у сшытку Б. І. Эпімах-Шыпілы гучаў: *Як кроў з паўночных тачыла паганаў*, а ў рукапісным зборніку — інакш: *Як кроў з паўночных смактала паганых*. Радок 7 у сшытку Б. І. Эпімах-Шыпілы і рукапісным зборніку гучаў як *Літоўцаў дзеліць ад ворагаў Нёман*, а ў друкаваным зборніку «Шляхам жыцця» і пазнейшых публікацыях — *Літвінаў дзеліць ад ворагаў Нёман*.

Над тэкстам перакладу Янка Купала працаваў да апошняй публікацыі ў часопісе «Полымя рэвалюцыі», у выніку чаго радкі 25, 29, 49 і 52 адрозніваюцца ад гэтых жа радкоў у Зб. тв., 1926, т. II, тэкст якога ў папярэднім выданні быў прыняты за асноўны. Улічваючы гэта, рэдкалегія дадзенага выдання мае падставы прыняць за асноўны менавіта тэкст часопіса «Полымя рэвалюцыі».

*Ленін* (с. 194)

Пераклад аднайменнай паэмы ўкраінскага паэта В. Палішчука. Эпіграф арыгінала не перакладаўся.

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930 з папраўкамі ў 25, 43, 99, 471, 788, 828, 895 і 925 радках паводле першадруку. У асноўным тэксце: *Тады іх не спыняюць ні стрэлы гарматаў, Што павукамі былі зачаліся, Да новых светлых пажараў, Але адразу цёплая імлявасць, Такой лютай напасці, Іржання і кашалю картавых танкаў, На задуманых тварах, Мая і кроў, і нервы, жыццё, А дзе загараюць струнамі антэны.*

У выданні на авантытульным лісце змешчана прысвячэнне Я. Купалы: «Гэту кнігу пасвячаю памяці тых, што памерлі ў змаганні за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне маёй Бацькаўшчыны».

На адвароце: «Творы ў гэтым зборніку, датаваныя 1918-м годам, напісаны ў часе нямецкай акупацыі, 1919, 1920-м — у часе польскай

акупацыі, датаваны пазнейшымі гадамі — пры савецкай уладзе на Беларусі».

Упершыню — «Полымя», 1924, № 1. Пад тэкстам: Пералажыў з украінскае мовы Я. Купала.

Датуецца 1923 г. На мове арыгінала з'явілася ў 1922 г. Паводле сцверджання даследчыка Хромчанкі К. Р., «у ліпені 1923 года Я. Купала ўпершыню наведаў Украіну. Ён выязджаў у Канеў, дзе прысутнічаў на адкрыцці помніка Т. Р. Шаўчэнку»[1]. Вынікам паездкі з'явіўся пераклад паэмы. Як адзначана вышэй, ён быў змешчаны ўжо ў 1-м нумары часопіса «Полымя» за 1924 г. Матэрыялы, якія публікаваліся ў часопісе, былі прысвечаны Леніну ў сувязі з яго смерцю. Відавочна, што хуткае з'яўленне ў друку перакладу паэмы «Ленін» звязана менавіта з гэтай падзеяй.

*Палішчук Валяр'ян Львовіч* (1897—1942) — украінскі паэт. Цікавіўся беларускай літаратурай, быў асабіста знаёмы з Я. Купалам. Пераклаў на ўкраінскую мову 1-ю частку верша «Арлянятам».

С. 196, р. 93: *Бібуля (укр.)* — абгортачная папера.

р. 108: *трыбы (польск.)* — тут — шасцярня.

С. 198, р. 181: *шпарага (заходнеўкр.)* — спаржа.

С. 201, р. 286: *калюмна (польск.)* — калона.

С. 210, р. 639: *брыла (укр.)* — глыба.

С. 212, р. 727: *пажэжы (укр.)* — пажары.

С. 214, р. 812—823: *У шосты год рэвалюцыйных бур* (у 1921)... ∞ *То на 9-м з'ездзе Рад / У электрычную зірнулі будучыну,*— Фактычная недакладнасць арыгінала. Ленінскі план ГОЭЛРО абмяркоўваўся на VIII з'ездзе Саветаў, які адбыўся ў снежні 1920 г.

С. 215, р. 833: *Руін, як Геркуланума й Пампеі.* — Маюцца на ўвазе старажытныя гарады Італіі, разбураныя і засыпаныя попелам у час вывяржэння Везувія ў 79 г.

С. 217, р. 904: *Кржыжаноўскі Г. М.* (1871—1959) — вучоны-энергетык, старшыня Дзяржаўнай камісіі па электрыфікацыі Расіі (ГОЭЛРО). Выступаў з дакладам аб планах электрыфікацыі на VIII з'ездзе Саветаў у 1920 г.

р. 907: *Саваоф* — адно з імёнаў Бога ва іудаістычнай і хрысціянскай традыцыях.

С. 218, р. 966: *Акант* — дэкаратыўныя аздабленні ў выглядзе буйных лісцяў.

*Песня аб вайне грамадзянскай* (с. 220)

Пераклад уступу да аднайменнай паэмы У. Бранеўскага.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з папраўкамі ў 4 і 100 радках паводле аўтографа. У асноўным тэксце: *Надыходзіць дзень з развеўным світам, Уздымай сваіх крылляў шалестам.*

Упершыню — «Полымя», 1927, № 4. Пад тэкстам: 1927. Перакл. з польск. Я. Купала.

---

[1] Хромчанка К. Янка Купала ва ўкраінскіх перакладах і крытыцы. У кн.: Песні беларускай валадар. Мн., 1981. С. 68.

У ДзЛМЯнК захоўваецца чарнавы аўтограф перакладу пад загалоўкам: Песня аб міжусобіцы. Уступ да паэмы (адз. зах. 323, л. 1—3).

Пераклад уваходзіў таксама ў «Творы 1918—1928», 1930.

*Бранеўскі Уладзіслаў* (1897—1962) — польскі паэт і перакладчык.

*Парыжская камуна* (с. 224)

Пераклад з польскай мовы паэмы У. Бранеўскага.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню змешчаны цалкам. Пад тэкстам: 1930 г. Эпіграф арыгінала не перакладаўся.

Першыя чатыры часткі паэмы ўпершыню — часоп. «Чырвоная Беларусь», 1930, № 5 з паметай перад тэкстам: Урывак з паэмы Уладыслава Бранеўскага. Пад тэкстам: Вольны пераклад з польскай мовы Я. Купалы.

Датуецца 1930 г.

С. 224, р. 27: *Манмартр* — прыгарад, з 1860 г.— раён Парыжа. Паўстанне на Манмартры 18 сак. 1871 г. было пачаткам Парыжскай камуны.

р. 28: *Версаль* — у час Парыжскай камуны ў гэтым горадзе войскі люта расправіліся з камунарамі.

С. 225, р. 29—30: *І там, дзе у марцы казнілі // Генералаў Томаса з Лякомтам.*— Генералы Том і Ляконт (недакладнае напісанне іх прозвішчаў у перакладзе звязана, відаць, з уплывам арыгінала) 18 сак. 1871 г. былі расстраляны салдатамі, якія перайшлі на бок народа. Пазней на месцы гэтага расстрэлу версальцы жорстка расправіліся з камунарамі.

р. 41: *На магілках Пэр-Ляшэз...*— могілкі ў Парыжы, месца апошніх баёў у маі 1871 г. камунараў з версальцамі, 27 мая каля паўночна-ўсходняй сцяны Пэр-Ляшэз былі расстраляны палонныя камунары. У 1899 г. быў узведзены помнік «Сцяна камунараў».

р. 45: *Генерал Галіфэ* — генерал версальскіх войск, палач французскіх камунараў.

С. 226, р. 65: *Дамброўскі Яраслаў* (1836—1871) — польскі рэвалюцыйны дзеяч 60-х гадоў, адзін з военачальнікаў войск Парыжскай камуны.

р. 66: *Рыго Рауль* — камунар, прымаў актыўны ўдзел у абароне Парыжа. Быў расстраляны версальцамі.

р. 81: *Дэлеклюз / Луі Шарль* (1809—1871) — адзін з удзельнікаў Парыжскай камуны. Загінуў на барыкадах.

р. 85: *Пляц Шато-До (зараз плошча Рэспублікі).* На гэтай плошчы адбыліся самыя жорсткія баі ў апошні тыдзень Камуны. Барыкады Шато-До былі пакінуты камунарамі позняй ноччу, з 25 на 26 мая.

С. 227, р. 94: *Рына* — вадасцёк.

р. 103: *Мільер Жан-Бацíст* — журналіст, удзельнік Парыжскай камуны. Быў расстраляны версальцамі.

р. 111: *Багнет (польск.)* — штых.

*Сон* (с. 230)

Пераклад аднайменнай паэмы Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939[1] з папраўкамі ў 101 і 182 радках паводле першадруку. У асноўным тэксце: *Між ярамі над стэпамі; Яе зазіраці.*

Пад тэкстам перакладу: 8 ліпеня 1844. С.-Пецярбург.

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 6, 7. Пад тэкстам: 1844. 8/VII. С. Пецярбург. З укр. мовы пераклаў Янка Купала. Тут да перакладу падаецца таксама заўвага: «Сон» Шаўчэнка напісаў пад уражаннем пецярбургскага параду, што адбыўся ў маі 1844 года».

Датуецца 1933 г.

Як адзначана ў ЭД (с. 568), гэта паэма — першы твор Т. Шаўчэнкі, перакладзены Я. Купалам у савецкі час.

Пераклад друкаваўся ў часопісе і ў зборніку, і шматлікая колькасць варыянтаў пацвярджае, што Я. Купала перагледзеў прынцыпы перакладу твора, рыхтуючы яго да публікацыі ў зборніку. Напрыклад:

| | «Полымя рэвалюцыі» | зб. «Кабзар» |
|---|---|---|
| р. 54: | *І жонкі не маю —* | *І жонка не лае —* |
| р. 89: | *Пакуль твае, маці, дзеці* | *Пакуль твае краскі — дзеці* |
| р. 185: | *Вакол бары, кусты, балоты,* | *Бары, балоты, дзе ні глянь* |
| 186: | *Туман, туман пустынь і слот.* | *І ўсюды пустата, туман* |

С. 230, р. 9: *Той тузамі абірае* — маецца на ўвазе гульня ў карты.

р. 18: *Пазуры ў пячонку* — маюцца на ўвазе кіпцюры.

С. 231, р. 72: *Байрак* — лясок, гай.

С. 233, р. 141: *Гэта ля тыноў пакрытка...* — дзяўчына, якая нарадзіла пазашлюбнае дзіця.

р. 158: *Ў лёдзе ляжам спаці* — у ссылцы, на Поўначы.

С. 235, р. 235: *Вунь дзе злодзей штампаваны* — гэта значыць з кляймом на целе.

р. 243—244: *Цар волі, цар, / Штампам увянчаны* — тут у сэнсе: рэвалюцыянер.

С. 236, р. 292: *З бляшанымі гузікамі* — маюцца на ўвазе чыноўнікі.

С. 237, р. 305—306: *«Цур табе, нікчэмны / Каламару!* — так насмешліва называе Шаўчэнка чыноўніка — канцылярыста. Каламар — чарніліца.

С. 239, р. 395: *Цвярдыня й званіца* — Петрапаўлаўская крэпасць з царквою Пятра і Паўла, на званіцы якой быў гадзіннік. Крэпасць адначасова з'яўлялася і турмою.

С. 239, р. 416—417: *Во той первый, распінаў што / Нашу Украіну.*— Пётр І знішчыў аўтаномію Украіны, прымусіў казакаў працаваць у цяжкіх умовах над пабудоваю Пецярбурга.

[1] Перакладны зборнік твораў Т. Р. Шаўчэнкі «Кабзар» падрыхтавалі беларускія пісьменнікі да 125-годдзя з дня нараджэння украінскага паэта. У зборнік уключана 19 перакладаў Янкі Купалы.

р. 418—419: *А вторая даканала / Ўдаву-сіраціну.*— Кацярына II канчаткова скасавала аўтаномію Украіны, знішчыла Запарожскую Сеч і завяла на Украіне прыгонніцтва.

С. 240, р. 431: *«А з горада, а з Глухава...»* — Пасля таго як Пётр I зруйнаваў сталіцу Мазепы, горад Батурын, гетманскай сталіцай стаў Глухаў.

р. 436: *Наказным гетманам!* — Гаворка ідзе пра чарнігаўскага палкоўніка Паўла Палуботка, які быў прызначаны часовым гетманам. Разам з ім казакаў выслалі, каб расчышчаць месца для Пецярбурга. За выступленні супраць Пятра I быў арыштаваны і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, дзе памёр у 1723 г.

р. 471: *Масянжовы* — бронзавы.

С. 241, р. 482—483: *Сабе баграніцу / Пашыў...* — маецца на ўвазе царская вопратка пурпуровага ці барвовага колеру.

С. 242, р. 541—542: *Мядзведзь вылез. Ледзьве-ледзьве / Пераносіць ногі* — гаворка ідзе пра Мікалая I.

*Таполя* (с. 244)

Пераклад аднайменнай балады Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939, дзе пад тэкстам памета: С.-Пецярбург (1839).

Упершыню — «Полымя рэвалюцыі», 1936, № 3. У гэтай публікацыі перакладчык захаваў прысвячэнне арыгінала I. С. Пятроўскаму. Пад тэкстам: 1839. С.-Пецярбург. Перакладаў з украінскай мовы Янка Купала.

Датуецца 1936 г.

Тэкст твора, як і папярэдняга, значна перапрацаваны пры падрыхтоўцы яго да выдання ў зборніку: перадапошняя страфа часопіснай публікацыі наогул адсутнічае:

Не вярнулася дадому,
Не даждала пары...
Стаіць тонкай да высокай —
Да самае хмары...

С. 246, р. 121: *Палынуць (укр.)* — паляцець.

*Медны коннік* (с. 250)

Пераклад аднайменнай паэмы А. С. Пушкіна. Зроблены да 100-годдзя з дня смерці паэта.

Друкуецца па кн.: «Медны коннік», 1937 (на вокл. 1938).

Публікаваўся: газ. «Звязда», 1937, 9 лют.— уступ; газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, 10 лют.— I частка; газ. «Літаратура і мастацтва», 1937, 5 сак.— II частка.

Упершыню цалкам — «Полымя рэвалюцыі», 1937, № 6. Пад тэкстам: Пераклаў Янка Купала.

Датуецца 1937 г.

Пераклад увайшоў у прыжыццёвыя Выбр. тв., 1937, т. III.

Звесткі аб працы над перакладам былі змешчаны ў «Полымі рэвалюцыі» за 1936 г., № 8: «Зараз Янка Купала працуе над

шэрагам лірычных вершаў пра Чырвоную армію і перакладае «Медный всадник» Пушкіна». 1 лютага 1937 года паэт прымаў удзел у вечары, арганізаваным Саюзам пісьменнікаў БССР, прысвечаным 100-годдзю з дня смерці А. С. Пушкіна. На вечары «з выключным поспехам артыст Рахленка чытаў на беларускай мове ўрыўкі з паэмы А. С. Пушкіна «Медны коннік», якую пераклаў народны паэт БССР Янка Купала» («Полымя рэвалюцыі», 1937, № 2. С. 153).

Тэксты перакладу ў часопісе і асобнай кнізе амаль ідэнтычныя, таму можна меркаваць, што паэт працаваў над імі прыкладна ў адзін і той жа час.

Гэта пацвярджаецца і датамі здачы і падпісання да друку часопіса і кнігі:

| «Полымя рэвалюцыі» | Асобнае выданне |
|---|---|
| здадзена ў друк | здадзена ў друк |
| 31/V-37 г. | 13/IV-37 г. |
| падпісана да друку | падпісана да друку |
| 17/VII-37 г. | 10/VIII-37 г. |

Значная перапрацоўка тэксту адбылася раней, пры падрыхтоўцы перакладу для друкавання ў часопісе. У параўнанні з газетнымі публікацыямі тэкст значна перапрацаваны.

С. 250, прадмова: *Берх Васіль Мікалаевіч* (1781—1834) — рускі вучоны, вядомы сваімі гісторыка-геаграфічнымі працамі.

*Альгароцці* (1712—1764) — італьянскі літаратар. Прыязджаў у Расію ў 1739 г. Выдаў лісты аб Расіі, дзе і знаходзіцца фраза, якую працытаваў А. С. Пушкін.

*Верш кн. Вяземскага да графіні З** — маецца на ўвазе верш П. А. Вяземскага «Разговор 7 апреля 1832 г.», прысвечаны Е. М. Завадоўскай.

«Oleszkiewicz» — паэма А. Міцкевіча аб польскім мастаку, які жыў у Пецярбурзе.

*Рубан Васіль Рыгоравіч* (1742—1796) — рускі паэт. Напісаў верш пра Пятра I, які карыстаўся вялікай папулярнасцю.

*Прычынна* (с. 262)

Пераклад аднайменнай балады Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939 з папраўкай у 201 радку паводле першай публікацыі. У асноўным тэксце: *Збіраліся тавары-шы.* Пад тэкстам: С.-Пецярбург (1838).

Упершыню — «Літаратура і мастацтва», 1938, 54, 30 верас. у рубрыцы: Да юбілею Т. Г. Шаўчэнкі.

«У сённяшнім нумары мы друкуем паэму вялікага ўкраінскага кабзара Тараса Грыгор'евіча Шаўчэнкі «Заварожаная». Пераклаў з украінскай мовы народны паэт БССР Янка Купала.

Т. Г. Шаўчэнка

ЗАВАРОЖАНАЯ

(«Прычынна»)».

Пад тэкстам тая ж памета, што і ў зборніку.

Датуецца годам першай публікацыі.

Тэкст першадруку значна адрозніваецца ад тэксту зборніка. Асабліва перапрацаваны радкі 4, 11, 192 і 197.

| «Літаратура і мастацтва»: | Зборнік «Кабзар»: |
| --- | --- |
| *Гарамі хвалі падымае* | *Угору хвалі узносіць, рве* |
| *Сычы ў гаю пераклікалісь* | *Адно сычы ў гаю гукалі* |
| *Як татарын біўся ўначы* | *Як бой татарын вёў ўначы.* |
| *Цікавыя (праўды не ўтоіш!)* | *Цікавыя (ўсур'ёз нібыта)* |

*Тарасова ноч* (с. 268)

Пераклад аднайменнай паэмы Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны. Пад тэкстам: С.-Пецярбург (1839).

Датуецца 1938 годам — годам здачы зборніка ў друк.

У аснову паэмы пакладзены падзеі амаль 200-гадовай даўніны, калі пад Пераяслаўлем у 1630 г. войскі паўстаўшых казакаў пад кіраўніцтвам Тараса Федаровіча разбілі польскае войска гетмана С. Канецпольскага.

*Тарасова ноч* — ноч на 22 мая 1630 г., калі адбыўся разгром казакамі польскага войска. У заўвагах да паэмы «Гайдамакі» Т. Шаўчэнка пісаў: «Тарасова і Варфаламеева ноч — адна другой варты на сорам Рымскай тыяры».

С. 268, р. 12: *Байрак* (гл. камент. да паэмы «Сон», с. 230).

р. 28: *Бунчуг (бунчук)* — адзнака, сімвал гетманскай улады. Уяўляў сабой дрэўка з медным наканечнікам, з-пад якога звісаў конскі хвост.

С. 269, р. 41: *Ліман* — заліў з пакручастымі невысокімі берагамі, які атрымаўся падчас затаплення морам далін раўнінных рэк.

р. 61: *Налівайка* — маецца на ўвазе правадыр казацкіх паўстанняў супроць польскіх паноў у канцы XVI ст., атрады яго дзейнічалі і на Беларусі. У 1597 г. быў пакараны смерцю ў Варшаве.

р. 62: *Не стала Краўчыны* — так называлася войска Налівайкі.

р. 63: *Паўлюга (Паўлюк)* — казак з войска Т. Трасілы.

р. 65: *Тарас Трасіла (Федаровіч)* — гаворка ідзе пра запарожскага гетмана з 1628 г., які ў 1630 г. разбіў польскае войска Канецпольскага.

р. 79: *Трубайла* — прыток Дняпра.

С. 270, р. 83: *А паганы Канецпольскі* — гаворка ідзе пра польскага магната, аднаго з трох начальнікаў польскага войска, накіраванага супроць Багдана Хмяльніцкага.

р. 114: *Нясе Альта весці* — прыток Трубайлы.

*Гайдамакі* (с. 272)

Пераклад аднайменнай паэмы Т. Р. Шаўчэнкі, прысвечанай В. І. Грыгаровічу. Празаічная прадмова арыгінала і зварот да падпісчыкаў Я. Купалам не перакладаліся.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны. Датуецца 1938 годам (гл. камент. да перакладу паэмы «Тарасова ноч», с. 268).

Твор Т. Шаўчэнкі — водгук на антыпрыгонніцкі рух на Украіне ў першай палове XIX ст.

Паэма ў перакладзе складаецца з уступу пад назвай «Гайдамакі», пад тэкстам якога пазначана: С.-Пецярбург, 1841 красавіка 7. 11 асноўных раздзелаў маюць загалоўкі, але падаюцца без дат. Заканчваецца паэма эпілогам. Пад тэкстам: С.-Пецярбург, 1841.

С. 272: *Грыгаровіч Васіль Іванавіч* (1786—1865) — сакратар Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу. Разам з В. А. Жукоўскім дапамагаў Т. Шаўчэнку вызваліцца з прыгону.

С. 272, р. 13: *Як над Вавілонам, над яго садамі.*— Маецца на ўвазе сталіца дзяржавы Вавілонія і адно з сямі цудаў свету — вісячыя сады, якія ўяўлялі сабой піраміду з чатырох платформаў. На іх была пакладзена пладародная глеба, куды высаджваліся розныя травы, кветкі, дрэвы, кусты. Піраміда, такім чынам, выглядала вечназялёным пагоркам.

С. 275, р. 138: *Як Сеч будавалі* — маецца на ўвазе Запарожская Сеч, якая была заснавана ў першай палове XVI ст. беглымі прыгоннымі, у тым ліку і з Беларусі, і гарадской беднатой за Дняпроўскімі парогамі.

р. 142: *Грэліся ў Скутары* — гаворка ідзе пра горад у Турцыі, прадмесце Стамбула.

р. 152: *Аж Хорціца гнецца* — востраў на Дняпры, дзе была заснавана самая першая Запарожская Сеч.

С. 276, р. 179: *...«Грыца» дзяўчына спявае* — маецца на ўвазе песня «Ой не хадзі, Грыцу».

р. 225: *«Тма, мна знаю, а оксію»* — «тма», «мна» — склады з царкоўнаславянскага буквара; «оксія» — знак націску над літарай у царкоўнаславянскіх кнігах.

р. 229: *Шчыры бацька* — маецца на ўвазе В. І. Грыгаровіч.

С. 277, р. 278: *Сцяпан — Стэфан Баторый* (1533—1586) — кароль Рэчы Паспалітай з 1576 г.

С. 278, р. 279: *Сабескі Ян* (1629—1699) — палкаводзец, кароль Рэчы Паспалітай пад імем Ян III з 1674 г.

р. 289: *«Nie pozwalam!»* — «Не дазваляю!» Словы, якім кожны дэпутат польскага сейма мог сарваць любую пастанову сейма, таму што, паводле тагачаснага польскага закону, пастанова магла быць прынята толькі аднагалосна.

р. 296: *Панятоўскі Станіслаў Аўгуст* (1732—1798) — апошні польскі кароль (1764—1795). Арыентаваўся на Расію.

С. 279, р. 307: *Пулаўскі* і *Пац* — польскія шляхціцы, якія ўзначалілі апазіцыю супраць С. Панятоўскага.

р. 310: *Канфедэраты* — члены ўзброеных саюзаў польскай шляхты, якая была супраць палітыкі С. Панятоўскага.

р. 321: *Нажы асвяцілі* — гэта значыць крапілі святою вадой.

р. 322: *Герш-ту* — ці чуеш ты?

р. 330: *«Вільшана, або Ольшана* — мястэчка Кіеўскай губерні, Звенігародскага павета; між Звенігародкаю і Вільшанаю, па старому шляху Баравікоў хутар, дзе як быццам Ярэма Байструк, а потым Ярэма Галайда быў у жыда наймітам (Ад старых людзей)» *(заўвага Т. Шаўчэнкі).*

С. 283, р. 476: *Літанне* — кароткая ўрачыстая каталіцкая малітва.

С. 284, р. 537: *Ні шэлега...* — гаворка ідзе пра старажытную дробную манету.

С. 285, р. 558: *Ў вільшанскіх схізматаў...* — гаворка ідзе пра тых, хто, па сцверджанні рымска-каталіцкага духавенства, не прызнаваў адзінства царкоўнай улады (г. зн. Папы) і не прымаў уніі.

р. 567: *Ктытар* — царкоўны стараста. У «Гайдамаках» гутарка ідзе пра ктытара Данілу Кушнера, якога закатавалі канфедэраты не ў Вільшане, як адзначыў Т. Шаўчэнка, а ў Млееве. Другую недакладнасць Т. Шаўчэнка выпраўляе наступнай заўвагай: «Анахранізм — ктытара ляхі замучылі не зімою, а летам». У сапраўднасці гэты факт меў месца да Каліівўшчыны ў 1766 г.

р. 584—585: «My żyjemy, my żyjemy, Polska nie zgińęła» — «Мы жывём, мы жывём, Польшча не загінула» — словы з польскага дзяржаўнага гімна. Песня напісана ў канцы XVIII ст. Іосіпам Вярбіцкім для легіянераў генерала Дамброўскага. Шаўчэнка дапускае недакладнасць, бо канфедэраты не маглі спяваць гэтай песні.

С. 288, р. 686: *Чыгірын, або Чыгрын* — сталіца ўкраінскіх гетманаў ад Багдана Хмяльніцкага (1648—1657) да Пятра Дарашэнкі (1665—1676).

р. 686—687: *Заўтра ўночы ў Чыгірыне // Свянцоны дастану* — паўстанне 1868 г. на чале з Максімам Залязняком пачалося каля Чыгірына ў Матроненскім манастыры. Перад выступленнем атрадаў паўстанцаў быў адпраўлены малебен, у час якога (па паданнях) свянцілі нажы на палякаў. Т. Шаўчэнка ў «Гайдамаках» адносіць гэту падзею да дня Макавея (1 жн. ст. ст.).

С. 292, р. 866: *Цясмін* — прыток Дняпра.

р. 884: *Вазы жалезнае тарані* — Т. Шаўчэнка дае наступнае тлумачэнне: «Гэта значыць вазы з нажамі. Гайдамакі верылі, што гэта быў гасцінец шчодрай пані царыцы Кацярыны II».

С. 293, р. 891: *Сміляншчына* — мясцовасць на Чарнігаўшчыне.

р. 895: Кірэя — доўгі футровы мужчынскі плашч.

р. 900: *Галаваты* — відаць, Павел Галаваты (1715—1795) — апошні суддзя запарожскага войска.

р. 902: *Залязняк Максім* — адзін з кіраўнікоў паўстання 1768 г. Загінуў на катарзе ў Сібіры.

р. 905: *Гонта Іван* — сотнік дваровых казакаў ва Умані, які перайшоў на бок гайдамакаў. Пасля паражэння паўстання быў чацвертаваны.

С. 294, р. 921: *Волах* — «за гайдамакамі хадзіў кабзар; яго называлі сляпым Волахам (дзед расказваў)» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

р. 939: *Багдан* — гетман Украіны Багдан Хмяльніцкі (1595—1657).

С. 296, р. 999: *«Чорны шлях»* — «ішоў ад Дняпра паміж вусцямі рэчак Сакораўкі і Насачоўкі і бег цераз стэпы запарожскія, цераз ваяводствы Кіеўскае, Падольскае і Валынскае на Чырвоную Русь да Львова. Чорным названы таму, што па ім татары хадзілі ў Польшчу і сваімі табунамі выбівалі траву» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

С. 299, р. 1116: *Канашэвіч-Сагайдачны Пятро* — гетман запарожскага войска (1614—1622).

С. 300, р. 1135: *Астраніца, або Астранін Яцко (Якаў)* — адзін з кіраўнікоў казацкага паўстання ў 1637—1638 гг. У 1638 г. быў абраны гетманам запарожскага войска.

р. 1139: *Багун Іван* — палкоўнік, саратнік Багдана Хмяльніцкага, загінуў у 1644 г.

р. 1144, 1145: *Жоўтыя Воды, Корсунь* — мясціны, дзе войска Багдана Хмяльніцкага ў 1648 г. разграміла польска-шляхецкае войска.

р. 1144, 1147: *Рось і Альта* — рэчкі, на якіх адбываліся бітвы паўстанцаў з польскімі войскамі.

С. 303, р. 1283: *Трэція пеўні* — сігнал да паўстання ў час Калііўшчыны.

С. 304, р. 1327: *Медзвядзёўка* — «расказваюць, што есаул Залязняка, не дачакаўшы трэціх пеўняў, запаліў Медзвядзёўку, мястэчка паміж Чыгірынам і Звенігародкаю» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

С. 306, р. 1396: *«Лісянка* — мястэчка Звенігародскага павета, над рэчкаю Гнілы Цікіч, тут сышліся Гонта з Залезняком і зруйнавалі старасвецкі будынак, Багданам нібыта збудаваны» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

С. 311, р. 1612: *«Кэрыліўка, або Кірылаўка* — сяло Звенігародскага павета. Чырвонец, які даў Залязняк хлопцу, і да гэтага часу захаваўся ў сына таго хлопца, якому быў дадзены,— я сам яго бачыў» *(заўвага Т. Шаўчэнкі.)*.

р. 1613: *Будзішча* — «сяло Будзішча, недалёка ад Кірылаўкі; у яры возера і над возерам лес невялікі, завецца Гупалаўшчынай, таму што там Залязняк збіваў ляхаў з дрэва. Лёхі, дзе быў захаваны шляхецкі скарб, і дагэтуль відаць, ды толькі ўжо зруйнаваны» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

С. 316, р. 1838: *Млееў* — сяло на Кіеўшчыне.

р. 1863: *«Лебядзін* — дзявочы манастыр паміж Чыгірынам і Звенігародкаю» *(заўвага Т. Шаўчэнкі)*.

С. 321, р. 2054: «Майданаўка — сяло недалёка ад Лісянкі» *(заўвага Т. Шаўчэнкі).*

С. 324, р. 2190: «Jazda narodowa — Kawalerja narodowa» — так зваліся польскія драгуны; іх тады было ў Умані 3000 і ўсе былі пабіты гайдамакамі» *(заўвага Т. Шаўчэнкі).*

*Кацярына* (с. 334)

Пераклад аднайменнай паэмы Т. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939. Пад тэкстам: С.-Пецярбург (1838).

Друкаваўся таксама ў часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1939, № 3 з паметай пад тэкстам: Пераклаў Янка Купала.

Датуецца 1938 годам (гл. камент. да паэмы «Тарасова ноч», с. 268). Паэт пры падрыхтоўцы зборніка шмат працаваў над перакладам, што пацвярджаецца значнай колькасцю варыянтаў.

*Жукоўскі Васіль Андрэевіч* (1783—1852) — рускі паэт і перакладчык, які прымаў актыўны ўдзел у вызваленні Т. Шаўчэнкі з прыгону. Пасля выкупу (22 сак. 1838 г.) Шаўчэнка напісаў паэму «Кацярына» і прысвяціў яе Жукоўскаму В. А.

С. 335, р. 68: *Заспявае Грыца...* (гл. камент. да паэмы «Гайдамакі», с. 423).

С. 343, р. 396: *Пугача спяваюць...* — тут гаворка ідзе пра старую песню «Ой сеў пугач на магіле».

р. 398: *Прошча* — багамолле.

С. 348, р. 630: *Пакрыткаю стала...* (гл. камент. да паэмы «Сон», с. 419).

С. 351, р. 722: *Шэлег* (гл. камент. да паэмы «Гайдамакі», с. 424).

*Каўказ* (с. 352)

Пераклад аднайменнай паэмы Т. Р. Шаўчэнкі.

Друкуецца па зб. «Кабзар», 1939, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца 1938 годам (гл. камент. да перакладу паэмы «Тарасова ноч», с. 268).

Паэма прысвечана сябру Шаўчэнкі мастаку Якаву дэ Бальмэну (1813—1845), які ілюстраваў творы паэта, у прыватнасці, разам з мастаком М. Башылавым зрабіў ілюстрацыі да рукапіснага зборніка «Wierszy T. Szewczenki» (Аддзел рукапісаў Інстытута літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН Украіны, ф. 1, адз. зах. 79).

С. 354, р. 123: *Дочцы на мундурык* — маецца на ўвазе форменны сурдут.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ЗМЕСТ*



### ПАЭМЫ



### ПЕРАКЛАДЫ



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

**Купала Я.**

К 92 **Поўны збор твораў: У 9 т. Т. 6. Паэмы, пераклады.— Мн.: Маст. літ., 1999.—430 с. [4] л. іл.**

ISBN 985-02-0422-2 (т. 6).

У шосты том Збору твораў увайшлі паэмы і пераклады. Упершыню ў Збор твораў уключаны паэмы «На Куццю» і «На Дзяды».

УДК 882.6-1
ББК 84(4Беи)6




Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 6**

*Паэмы. Пераклады*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *М. Я. Шкурпіт*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктары *Н. І. Міранчык, Я. А. Бебель*

Здадзена ў набор 11.03.99. Падп. да друку 11.06.99. Фармат $84 \times 108^1/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура Літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 22,68+0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 23,52. Ул.-выд. арк. 23,11. Тыраж 5800 экз. Зак. 2526.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 19.11.97. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат ВПП імя Я. Коласа. Мінск, Чырвоная, 23.

ISBN 985-02-0422-2


